АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАУСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1978

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ПЕСНІ ПРА КАХАННЕ



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1978

Рэдакцыйная калегія:
**В. К. Бандарчык, М. Я. Грынблат,
К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік,
В. І. Ялатаў**

Складанне, сістэматызацыя тэкстаў,
уступны артыкул і каментарыі
**І. К. Цішчанкі**

Музычная частка
і ўступны артыкул да яе
**С. Г. Нісневіч**

Рэдактары тома
**А. С. Фядосік, Г. І. Цітовіч**

П28 **Песні пра каханне** /[Склад., сістэматызацыя тэкстаў, уступ. артыкул і камент. І. К. Цішчанкі; Муз. частка і ўступ. артыкул да яе С. Г. Нісневіч; Рэд. тома А. С. Фядосік, Г. І. Цітовіч]. — Мн.: Навука і тэхніка, 1978. — 616 с., іл., нот. іл. — (Беларус. нар. творчасць/АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

У том уключаны лепшыя ўзоры беларускіх песень пра каханне, якія ўзяты з друкаваных крыніц і розных архіўных фондаў.

Разлічан на фалькларыстаў, этнографаў, выкладчыкаў, студэнтаў. Песні могуць быць выкарыстаны калектывамі мастацкай самадзейнасці, прафесійнымі хорамі, салістамі, музычнымі і культурна-асветнымі ўстановамі.— Бібліягр. у падрадковых заўвагах.

**70700—089**
**П————41—78** **БелФ**
**М316—78**

# ПЕСНІ КАХАННЯ

Сярод пазаабрадавай лірычнай паэзіі выключным багаццем і разнастайнасцю зместу вылучаюцца песні пра каханне. У беларускай народнай лірыцы ім належыць важнейшае месца. «У няпісанай і нікім да канца не прачытанай кнізе народнай паэзіі,— як заўважыў Н. С. Гілевіч,— лірыка кахання — адна з самых светлых і самых пяшчотных старонак» [1].

Два галоўныя героі ў гэтых песнях — дзяўчына і хлопец. Іх вобразы, створаныя паэтычным геніем народа, уражваюць шырынёй мастацкага абагульнення і глыбінёй рэалістычнага выяўлення.

Чароўнасць вобразаў дзяўчыны і хлопца, апетых у песні, у тым, што яны ўвабралі лепшыя рысы народнага характару. Гэтыя вобразы намаляваны самымі яркімі фарбамі. Асабліва прывабным паўстае ў вуснапаэтычнай лірыцы вобраз дзяўчыны, якую народ надзяляе самымі высокімі якасцямі — мудрасцю, працавітасцю, праўдзівасцю, адданасцю і хараством. У гэтым вобразе столькі прыстойнасці, высакародства і пяшчотнасці!

Шчырасць пачуцця дзяўчыны, вернасць у каханні ўзняты ў беларускай народнай песні на самую высокую ступень агульначалавечай маралі, якая ў разуменні дабра і справядлівасці на зямлі, узаемаадносін паміж людзьмі незалежна ад часу і грамадскага ладу, будзе заставацца для ўсіх пакаленняў узорам, як застаюцца вечнымі на зямлі ўяўленні чалавека аб сумленнасці, справядлівасці і працавітасці.

Песні пра каханне ў мастацкіх адносінах сярод іншых песенных жанраў і груп вылучаюцца выключным рэалізмам у адлюстраванні рэчаіснасці. У іх моцна выяўляецца індывідуальны пачатак, што і выклікала выбар паэтычных сродкаў выразнасці. Лірычны герой тут — гэта канкрэтная асоба, і яе ўнутраны свет, перажыванні, учынкі перадаюцца канкрэтнаю мовою ў тым сэнсе, што розныя паэтычныя ўмоўнасці, алегорыі, сімволіка не з'яўляюцца дамінуючымі сродкамі пры стварэнні мастацкага вобраза, а становяцца як бы другараднымі.

Галоўныя героі песень пра каханне — Яна і Ён, ад імя іх і вядзецца расказ. Гэта ўсхваляваная споведзь, даверлівая і праўдзівая, якой не ведае

---

[1] Лірычныя песні. Укладанне і рэдакцыя Н. С. Гілевіча. Мн., 1976, с. 91.

ніводзін фальклорны жанр, ніводзін песенны цыкл. Перажыванні герояў, іх радасці і засмучэнні і абумовілі характар гэтых песень — ад вясёлых, зухаватых, гумарыстычных да элегічных, журботных і жаласлівых.

Песні праўдзіва адлюстравалі бяспраўнае становішча сялянскай дзяўчыны ў сям'і, залежнасць яе лёсу ад волі бацькоў ва ўмовах патрыярхальна-сямейнага ўкладу і феадальна-прыгонніцкага ладу. У той жа час народам складзена нямала песень, у якіх лірычны герой узнімаецца над суровай рэчаіснасцю, змагаецца за свае права, за свой ідэал і погляды.

Моваю паэзіі і чароўнай мелодыі песня ўславіла самае высокае, самае чыстае і гуманнае чалавечае пачуццё — каханне, а разам з ім дзяўчыну. Вобраз дзяўчыны падкупляе абаяльнасцю і прыгажосцю. Гэта абаяльнасць ідзе не столькі ад чароўнай знешнасці, колькі ад унутранага зместу аблічча гераіні, якое праяўляецца ва ўсім і ўсюды і перш за ўсё ў каханні, ва ўменні кахаць.

Для дзяўчыны ж прыгажосць — гэта сама яе маладосць, бесклапотныя гады. Гэта — яе найдаражэйшы скарб, з якім, аднак, рана ці позна давядзецца развітацца. І сэрца дзяўчыны поўніцца трывогаю і хваляваннем за сваю будучыню, за свой лёс. Каму ж дастанецца прыгажосць? «А ці старому, а ці малому, а ці роўнаму, разудаламу?»

Адметнай якасцю песень пра каханне з'яўляецца тое, што па зместу яны вылучаюцца вышынёю і чысцінёю пачуцця. І што важна, страсці кахання ніколі не пераходзяць мяжы, за якою губляецца годнасць чалавека. У лірыцы кахання не знойдзецца ніводнага твора фрывольнага ці эратычнага зместу.

Песні пра каханне сярод іншых тэматычных груп вылучаюцца моцным рэалістычным пачаткам. Лірычны герой малюецца без усялякіх мастацкіх умоўнасцей, канкрэтна, як і канкрэтна-рэалістычныя абставіны, у якіх ён дзейнічае — гэта рэальны свет акаляючага сялянскага жыцця: вясковая вулачка, прызба бацькоўскай хаты, крынічанька, калодзеж, мост, машчоныя кладачкі, рабіна пад акном, вярба над вадой, калінавы ці ракітавы куст, прыдарожны камень і інш. І вось сама карціна: «А на возеры ды на сіненькім рыбак рыбку ловіць, яго чаўночак белакрыленькі па вадзіцы бродзіць. Усхапіліся ветры буйныя, воду ўскалыхнулі, майго мілага малявaненькі чаўнок абярнулі». Або: «Ой, у полі за гарою, расце жыта з лебядою. Там Таццяна жыта жала, ў правай ручцы серп дзяржала, а леваю пабірала, на дарожку паглядала».

Рэалістычна малюецца і карціна прыроды: «А ты, зімачка-зіма, зіма лютая была, завеяла, замяла ўсе дарогі, ўсе пуці. Завеяла, замяла ўсе дарогі, ўсе пуці. Усе дарогі, ўсе пуці, нельга к міламу прайсці».

Вясковы пейзаж, прырода, намаляваныя рэалістычнымі фарбамі, надаюць твору большую праўдзівасць. На фоне вось гэтых рэальных абставін і разгортваюцца падзеі, адбываюцца спатканні маладых людзей. Сарамлівая і нясмелая, дзяўчына асцярожна ідзе насустрач сваёй будучыні,

баючыся нават затрымацца лішнюю мінуту каля крыніцы з незнаёмым казаком, які гарэзліва просіць у яе вядзерца сцюдзёнай вады напаіць каня. Падкупляе далікатнасць гераіні ў размове, тактоўнасць адвесці назойлівыя намаганні казака, які, адзін раз убачыўшы дзяўчыну, тут жа гатовы на ёй жаніцца: «Мае босенькія ножкі: сцюдзёна стаяць».

Дзяўчына надзелена ў песні цвярозай разважлівасцю, светлым розумам. Колькі кемлівасці і досціпу праяўляе яна, калі хлопец, жартуючы, звяртаецца да яе з мудрагелістымі просьбамі-загадкамі: напаіць каня сярод мора і не намачыць яго падкоў, напрасці нітак з кропляў дажджу. Дзяўчына ў адказ хлопцу прапануе свае ўмовы: сшыць шляхорчык з макавага цвету, вытачыць верацёнца з камарынае сэрца.

Матыў сустрэчы — асабліва эмацыянальныя старонкі ў лірыцы кахання. З гарачым жаданнем і нецярплівасцю чакае дзяўчына запаветнай мінуты спаткання са сваім каханым, калі вечарам яны сядуцца разам дзе-небудзь «пад калінай ля ручаёчка» і будуць гаварыць самыя дарагія словы — словы кахання і клятвы ў вернасці адзін другому. Словы будуць сказаны даверліва і патаемна, каб нават не пачула родная маці.

У песнях пра каханне, як і ва ўсёй песеннай лірыцы, часта выкарыстоўваецца вобраз голуба і галубкі, якія сімвалізуюць хлопца і дзяўчыну. Адносіны паміж закаханымі людзьмі параўноўваюцца з паводзінамі гэтых самых ціхамірных птушак: голуб буркуе і лятае, шукаючы сваю галубку, галубка — голуба. А знайшоўшы адзін другога, неразлучна, назаўсёды застаюцца ў пары. Такім глыбокім сэнсам напоўнены ў песні гэтыя сімвалічныя вобразы.

Усемагутная сіла кахання для творцаў народнай лірыкі падчас станавілася неразгаданай таямніцай, і можа таму так багата складзена твораў пра дзявочыя чары. У многіх песнях расказваецца, як дзяўчына, жадаючы прывабіць хлопца або баючыся яго страціць, спрабуе выкарыстаць з гэтай мэтай магічныя сродкі — зёлкі («Чые гэта шэры валы»). Магічныя спосабы сапраўды ў мінулым выкарыстоўваліся рознымі чараўніцамі («Выкапала корань з-пад белага каменя, вымыла ў рацэ, высушыла ў руцэ ды спарыла ў малацэ»), аднак дзявочыя чароўныя песні ў большасці не ўспрымаюцца як магія: за вонкава магічнымі дзеяннямі дзяўчыны-чараўніцы б'ецца вялікае і добрае сэрца.

Дзявочыя чары — гэта, на самай справе, болей людская няслава, пушчаная злымі языкамі, каб зганьбіць дзяўчыну: «Бадай тыя людзі ды хлеба не елі, як я, маладая, чараваць умею. Чараваць не ўмею і зелля не знаю». Адзінае, чым можа зачараваць хлопца дзяўчына,— гэта яе прывабная знешнасць: «А мае чары напагатове, белае лічка, чорныя бровы».

Але не так лёгка адмахнуцца ад людскіх нагавораў, бо чорная зайздрасць — «варожая забава» злых людзей. Гордая і стойкая, яна многае сцерпіць і многае перанясе, але цяжэй сцярпець і перанесці расстанне з каханым, які паверыўшы намовам, аднойчы не прыйдзе на спатканне ў

назначаны час. А дурная слава далёка ідзе — аж «з Віслы да Варшавы». Злосная зайздросніца братавая абняслаўлівае ні ў чым непавінную залвіцу. І дзяўчына як можа абараняе свой гонар. Словам-праклёнам кляйміць сваю варожку: «Ой, бадай ты, братавая, з лаўкі не ўстала», «А бадай ты, братавая, з хаціны не выйшла».

Вясковыя плёткі не выбіваюць дзяўчыну з каляіны. У песні «Пайду ў лясок, пайду ў лясок» яна насуперак усім заяўляе, што ўсё роўна будзе сустракацца з каханым, а ён, як бы пачуўшы яе роспачны голас, ушчувае: «Няхай сабе кажуць усялякае ліха, а мы з табой, дзяўчыначка, любімося ціха». У другой песні «Ой, у полі каліна» хлопец раіць дзяўчыне не звяртаць увагі на абгаворы: «Няхай кажуць, гавораць хоць па цэламу свету, а я цябе любіць буду, мой ружовы цвету».

Час ставіць перад маладымі людзьмі, якія ўступаюць у жыццё, свае задачы, і вырашыць іх нявопытнаму хлопцу ці дзяўчыне не так проста. Вопыт старшых тут многа дапамагае. Дзяўчына звяртаецца за парадай да самага блізкага і дарагога чалавека — маці. Ёй давярае яна свае самыя вялікія, сардэчныя тайны, з ёю раіцца, пытаецца дазволу пайсці «на вулку» «гуселак паслухаць, песенак наўчыціся». Маці — лепшая парадніца, яе слову дачка давярае болей за ўсё. У многіх песнях пра каханне гучыць глыбокая даччыная любоў да «мамухны» ці «матулечкі». Перад намі паўстае абаяльны вобраз маці-жанчыны, чалавека вялікай душы і чулага сэрца.

Ды не заўсёды і яна чулая і спагадлівая, падчас суровая. Тут выяўляецца і матчына дабрадзейнасць, і асцярога за гонар дачкі, яе будучыню, і псіхалогія вясковай жанчыны, выхаванай на патрыярхальнай маралі, закаснелага сямейнага кодэксу. А ў маці былі падставы для трывог, бо вячэрняе «пагуляннейка» нярэдка канчалася для дзяўчыны горкай расплатай за лёгкі давер. Маладое, нявопытнае дзіця маці перасцерагае ад паспешлівых, неабдуманых крокаў, каб пасля не заплаціць дорага, не ашукацца ў пачуццях. І дачка разумее матчыну суровасць, прадыктаваную яе клопатам за шчасце свайго дзіцяці:

Хоць і біла ці не біла,
То на ліха не вучыла,
Каб з казаком не стаяла,
Белых ручак не давала,
Пярсцёначкаў не мяняла.

Нельга не адзначыць, што гераіня песні валодала тонкім гумарам: «Мяне маці беражэ, з чапялою сцеражэ».

Праз усе песні кахання чырвонай ніткаю праходзіць матыў дзявочай долі. І доля яе такая ж, як і доля маці, горкая, нешчаслівая. Прыгажосць не прыносіць дзяўчыне шчасця-долі. У старадаўняй песні «Кругла-мала балоцечка», запісанай ад выдатнай спявачкі Рубацкай, доля малюецца ў вобразе расліны, пасеянай маладымі дзявочымі рукамі. Дзяўчына марыць

аб шчодрым плёне, і калі надзеі не спраўдзяцца, лёс акажацца нелітасцівым да яе здатнасці і просьбы, яна гатова вынішчыць дурную траву-надзею:

Ды я цябе з каранём вырву
Ды цераз плот перакіну.
Няхай цябе валы з'ядуць,
Няхай цябе коні стопчуць.
Валы з'ядуць палавыя,
Коні стопчуць вараныя,
Валы з'ядуць бушуючы,
Коні стопчуць гарцуючы.

Мара аб шчаслівай долі ў дзяўчыны звязваецца з выбарам сваёй пары, свайго чалавека, які прынёс бы ёй сапраўднае шчасце. Спадзяванні на бога застаюцца марнымі, неба не чуе яе голасу. Спакутаваная безнадзейным чаканнем свайго шчасця, яна кідае выклік багам і таму грамадству, што абяздольваюць чалавека.

Вобраз дзявочай долі пададзены ва ўмоўна-сімвалічным плане і ў той жа час ён аматэрыялізаваны, прадметна-рэчыўны, адухоўлены.

Павязу я горку долю на торг прадаваці,
Людзі знаюць горку долю, не хочуць купляці.
— Пайдзі, пайдзі, горка доля, на луг адпасіся,
Ад мяне, ад маладой, на год адвяжыся.
— Пайду, пайду, горка доля, на луг адпасуся,
А ад цябе, маладой, нідзе не адвяжуся.

Доля дзяўчыны — гэта доля народа, суровая і беспрасветная. Ды ці была яна, доля, калі-небудзь шчаснаю? «А дзе я радзілася — там доля ўтапілася; а дзе я купалася — там доля засталася»,— такі вывад робіць юная гераіня ў песні «А ў садзе каліначка».

Ад самога нараджэння з дзяўчынай ідзе нядоля, і дзяўчына задае пытанне людзям і богу, дзе ж яе доля падзелася. Не без пачуцця гумару, дакараючы «сваю старэнькую, сівенькую мамухну», рытарычна адказвае:

Што ж ты, мамка, нарабіла,
Чаму рана не ўзбудзіла?
Усе дзевачкі рана ўсталі,
Шчасце й долю разабралі.
Я, молада, спазнілася,
Шчасця й долі ўмылілася.

Дзявочая доля ў пазаабрадавай лірыцы не абстрактнае паняцце, яна выступае ў выглядзе нейкай жывой істоты. Нешчаслівая доля неадступная ад чалавека, дзяўчына ніяк не можа ад яе пазбавіцца. Нядоля-бяда ўсюды: «А пад вішняю, пад чарэшняю бяда спаці кладзецца».

Уяўленні дзяўчыны аб шчаслівай долі звязаны з уяўленнямі аб ідэальным мужы і яго блізкіх. Беручы шлюб, дзяўчына, як правіла, развіт-

валася з бацькоўскім домам і пераходзіла жыць у чужую сям'ю. Ідэалам сям'і для яе з'яўляецца родная сям'я, у якой яна нарадзілася і ўзгадавалася. Яна жадае

Свякровачку, як мамачку,
А свёкарку, як татачку,
А дзеверку, як братачку,
А свёкарку, як татачку,
А мілога, як сама.

Але марам дзяўчыны часта не суджана было здзейсніцца. Пазбаўленая ўсялякіх правоў, яна трапляла пад поўную ўладу дэспатычнай свякрыві і ліхога мужа, які «косачку абарве, слёзанькі пральє».

Сярод многіх перашкод, што ляжалі на шляху закаханых, было сацыяльнае становішча, якое вызначала адносіны паміж людзьмі наогул.

У класавым грамадстве, заснаваным на эксплуатацыі чалавека чалавекам, маёмасны цэнз клаў глыбокую мяжу паміж людзьмі, падзяляючы іх на бедных і багатых. Таму ў свядомасці працоўнага чалавека жыло цвёрдае перакананне аб немагчымасці яднання бедных і багатых нават у сферы духоўна-інтымных адносін. У выдатнай песні «Кацілася чорна галка» дзяўчына рашуча адвяргае шчырыя прызнанні хлопца ў каханні ўжо толькі таму, што ён з заможнай сям'і. У песні «Зелянеюць лугі, сенажаці» непрыхільна ставіцца і хлопец да дзяўчыны, бацькі ў якой багацеі. Дзе багацце, паводле ўяўленняў народа, там няпраўда і несправядлівасць. Багатая дзяўчына, як правіла, у песні ахарактарызавана няўдаліцаю, лянівую, якая любіць «у садочку гуляці». Ёй супрацьпастаўляецца бедная сялянка як ідэал працавітасці і высакародства. Выбар у хлопца падае на «бедную сіраціначку, што ўсё добра робіць». Маральная перавага, такім чынам, застаецца на баку простага чалавека, чыімі рукамі ствараюцца на зямлі ўсе матэрыяльныя каштоўнасці.

Каханне, якім бы яно ні было цяжкім, заснаванае на бескарыслівасці, на шчырым і ўзаемным пачуцці, прыносіць чалавеку заўсёды радасць і шчасце, чаго не ведае, сцвярджае народная мараль, свет багацеяў: «Не там шчасце, не там доля, дзе багаты людзі, а хто бярэ па мілосці, той шчаслівы будзе».

Тэме няроўнай пары прысвечана багата песень у беларускай народнай лірыцы, аднак само паняцце гэта ўключае не толькі катэгорыі, абумоўленыя класавымі момантамі ўзаемаадносін паміж рознымі сацыяльнымі групамі, але ўвесь комплекс чалавечых узаемаадносін, што праяўляецца ўнутры асобных класаў ці груп. Пачуццё кахання аднаго чалавека па тых ці іншых прычынах не заўсёды знаходзіць водгук у сэрцы другога чалавека, адсюль і душэўны неспакой, перажыванні, пакуты. Мукі кахання, уласна, галоўны лейтматыў усёй пазаабрадавай лірыкі. І ў гэтым лейтматыве асабліва трывожнай нотай гучыць дзявочая скарга на свой нешчаслівы лёс, на тое, што ёй, маладзюсенькай, суджана жыць з нялю-

бым, пастылым чалавекам. Гераіня, азадачаная, звяртаецца з пытаннем да сваёй косанькі: каму ты дастанешся? Просіць родных бацьку і маці аддаць замуж за роўнага, выбранага ёю, а не за «малога ці за старога», бо за «роўным жыць — красата мая, а за старым жыць — сухата мая». Намер бацькоў аддаць дачку замуж супраць яе волі сустракае ў дзяўчыны рашучы пратэст. Яна абараняе сваё права на пачуццё ўсімі сродкамі, гатовая на крайні ўчынак: «Вялю табе, маці, магілу прыбраці, чым з нялюбым другам пад вянком стаяці». Духоўнае нявечанне, закабаленне інтымных пачуццяў паказана ў песнях як найвялікшае зло. Ужо самі параўнанні, шчодра рассыпаныя ў песеннай паэтыцы, выяўляюць усю глыбіню перажыванняў гераіні і маштабы яе гора: лепей горы капаць, чым з нялюбым жыці. «Горы пакапаўшы, сядзеш і спачынеш, а з нялюбым жыўшы, навекі загінеш».

Глыбокае і шчырае, бязмежнае ў сваёй дабраце, чалавечнасці і каханне хлопца да дзяўчыны. За знешне грубаватаю мужчынскаю сілаю тоіцца сэрца, здольнае любіць верна і самаадцана. Песні высока апаэтызавалі прыгажосць і пяшчоту пачуццяў хлопца:

— Ах ты, дзяўчына, чырвоная вішня,
Чаму да мяне з вячора не выйшла?
— Я не выйшла, баюся марозу,
Бо я свае ножкі вельмі памарожу.
— Ах ты, дзяўчына, не бойся марозу,
Я тваe ножкі ў шапаньку ўлажу.
Мая шапанька вельмі дарагая,
За чатыры валы яна купавана.

Вобраз хлопца ва ўсёй прывабнасці паўстае ў сцэнах, у якіх паказаны яго заляцанні, настойлівае імкненне пабачыцца, сысціся са сваёй каханай. Ідылічную карціну знаходзім у песні «А высока, высока»: як салавейка спагняздзечка звіў, чакаючы сваю салоўку, так Іванка домік збудаваў, спадзеючыся на сустрэчу з Кацечкай. Ён і коніка прышпорвае, спяшаючыся да сваёй дзяўчыны, каб сказаць ёй самыя дарагія і запаветныя словы: «Будзем гаварыці, як на свеце жыці».

Аднак самае радаснае і высокае пачуццё — каханне прыносіць маладым людзям нямала пакут, перажыванняў і трывог. Сярод многіх прычын, што азмрочваюць радасць чалавечага быцця, рэўнасць застаецца самым небяспечным пачуццём, нястрымна-бескантрольным у сваім парыванні. Гора таму, у кім жыве гэта сляпое пачуццё, але варты спачування і той, хто яго ніколі не зведаў. Нялёгка дастаецца каханне, і адтаго яно, прайшоўшы першыя выпрабаванні, становіцца мацнейшым і глыбейшым. Нягоды не расслабляюць маладыя сэрцы, наадварот, загартоўваюць іх перад новымі жыццёвымі выпрабаваннямі.

Каханне не мае мяжы і ўваходзіць у духоўны свет лірычнага героя ўладарна і моцна, запаўняючы сабою ўсю яго істоту. Цяпер для закаханага

хлопца нічога не існуе на свеце, апрача яе, любай. Калі ж яна, баючыся бацькоў, не выйдзе на жаданае спатканне, для хлопца шчасцем здаецца яе з'яўленне ў акне, каля якога ён доўга і цярпліва чакае, «памарозіўшы белы ножачкі». Яму і «мяцель вочкі замятае, буйны вецер кудры раздзімае, белыя ножкі ліпнуць да дарожкі».

Дзяўчына, выхаваная ва ўмовах сямейна-патрыярхальнага ўкладу, у вечным страху за сваю будучыню, палохаецца настойлівага запрашэння малойца на вячоркі, з горыччу просіць: «Не хадзі, Антосю, у новых ботах, не рабі слядочкаў у маіх варотах, бо гэтыя сляды наробяць бяды».

Хлопец, як і дзяўчына, шукае сваю пару, сваю долю, і доля яго, як і дзяўчыны, такая ж нешчаслівая. Ён таксама нарадзіўся без долі, шукае яе ў чыстым полі, на моры і просіць «рыбалоўцаў, удалых малойцаў» закінуць сеці ў быструю рэчку, ці не там яго доля. Але ўсё дарэмна.

Уяўленні хлопца аб шчаслівай долі, як і ў дзяўчыны, звязваюцца з выбарам сваёй пары, з выбарам, які адпавядаў бы яго ідэалу жанчыны, а іменна, каб яна была працавітаю, гаспадарліваю і, галоўнае, вернаю шлюбнаму абавязку: «Каб была добра гаспадыня і харошая дружка і каб хаты пільнавала і другога не кахала».

Маладыя людзі, як правіла, не знаходзілі свайго асабістага шчасця, бо грамадскі ўклад не даваў магчымасці чалавеку наладзіць свой лёс. Аднак не заўсёды ў гэтым віною была тагачасная рэчаіснасць. У песні «Чаму, салавейка, рана не спяваеш?», запісанай М. Федароўскім у пачатку XX ст. на Случчыне, у няўдачах асабістага жыцця хлопец вінаваціць сябе: «Пацыраў я долю праз сваю сваволю». А сваволя вяла маладога чалавека дарожкаю, якую народная мараль заўсёды асуджала сурова і бескампрамісна: «У карчме, у стадоле і ў новай каморы, мёд, віно п'ючы, дзевачкам даючы».

У песні «У полі бяроза» ў вусны хлопца, які скардзіцца на «нядоліцу», на тое, што пары не мае, народ укладвае глыбокую філасофскую думку аб сэнсе жыцця чалавека на зямлі, аб тым, якою вялікаю трагедыяй для яго з'яўляецца адзінота. Адзінота асабліва апустошвае душы маладых людзей.

Многімі матывамі песні хлопца пераклікаюцца з песнямі дзяўчыны. Яго таксама палохае шлюб без кахання, бо з нялюбай жонкай «вячэрачка нясмачна, размовачка не ціха». Ён таксама звяртаецца за парадаю, як жыць, да маці. Маці дае мудрыя парады, раіць быць сур'ёзным і разважлівым, не рабіць лёгкадумных учынкаў. Яна хоча бачыць роднае дзіця шчаслівым.

У песні «Ой, знаці, знаці, хто не жанаты» адстойваецца прынцыповая норма народнай маралі, згодна з якой сапраўднае месца чалавека ў грамадстве павінна быць падмацавана яшчэ сямейнымі абавязкамі. У такім святле паўстаюць перад намі погляды маці-парадніцы, занепакоенай паводзінамі сына.

Сярод песень, прысвечаных каханню хлопца, знаходзім нямала твораў элегічнага характару. Вялікаю эмацыянальнаю сілаю прасякнута тэма няспраўджанага кахання:

А дзе ж тая крынічанька,
Што голуб купаўся,
А дзе ж тая дзяўчыначка,
Што з ёю кахаўся.
А ўжо тая крынічанька
Травою зарасла,
А ўжо мая дзяўчыначка
Даўно замуж пайшла.

Гэта радкі з шырока вядомай песні, якая мае шматлікія варыянты. У адным з іх («Забалела галованька»), запісаным народным артыстам СССР Р. Р. Шырмам у 1932 г. у в. Шакуны на Пружаншчыне ад бацькі Рамана Шырмы, лірычны герой разлуку з каханай, што выйшла замуж за другога, успрымае як вялікую жыццёвую драму, як страту самага дарагога, што ў яго было, бо расставанне з любай дзяўчынай — гэта не толькі страта кахання, гэта страта нечага значна большага, страта чалавека, з якім звязваліся планы на будучае, намеры будаваць сумеснае жыццё.

Са стратай кахання для хлопца траціць свой сэнс і каштоўнасць усё, што мела дачыненне да гэтага самага найвысокага пачуццёвага праяўлення чалавечай душы. Яму цяпер нікольві не шкада ні каня, на якім ездзіў да дзяўчыны, «ні воза, што, ездзячы, паламаў, ні боцікаў, што, ходзячы, патаптаў, ні пярсцёначкаў, што, любячы, дарыў».

Каханне і разлука, як жыццё і смерць, ходзяць поруч. Тэме разлукі, нявернасці і здрады прысвечана багата песень.

Ніводзін з песенных матываў пазаабрадавай лірыкі не ўвабраў у сябе столькі чалавечага болю, суму і жалю, як матыў нявернага кахання. Чорным ценем услед за каханнем крочыць здрада, як бы цікуючы зручнага моманту, каб азмрочыць чалавечую радасць, разбурыць людское шчасце. Ахвярамі здрады становяцца часцей за ўсё натуры даверлівыя і нявопытныя. Маладая дзяўчына не можа не паверыць у шчырасць слоў хлопца, што клянецца ў каханні, гатовы пасці на калені нават перад яе маці. Трапяткое дзявочае сэрца даверліва расхінаецца перад запэўніваннямі-клятвамі закаханага малойца. І ўсё ж сумленне яе трывожыць непакой:

Скажы, мілы, праўду,
Ці ты мяне любіш,
Ці ты мяне любіш,
Ці з мяне смяешся,

Нявернасць хлопца глыбока раніць сэрца дзяўчыны, выклікаючы ў яе душы горкую крыўду, пачуццё прыніжэння і абразы. У той жа час яна пратэстуе і нават спрабуе помсціць за нанесены боль і знявагу ў лепшых пачуццях. Праўда, яе помста — не расправа з крыўдзіцелем, а своеасаблі-

вая форма пакарання, выбраная душою чыстаю і высакароднаю. Яна збіраецца абярнуцца шэраю зязюлею і прытаіцца ў кустах каля дарогі, па якой будзе ехаць вянчацца з другой яе любы:

Я ў кусціку таргануся —
Кусцік зашатаецца,
Конічак спужаецца,
Мой міленькі зваліцца.
Мой міленькі зваліцца,
Аб зямлю ударыцца.

Яе крыўда ўзрастае ад усведамлення таго, што так шчыра верыла хлопцу, аддана кахала, дзеля яго нічога не шкадавала, старалася ўлагодзіць, чым магла, нават яму «кашулечку беленька мыла, у сінім моры паласкала». Але на шляху да яе асабістага шчасця стала іншая — і ўсё, што так старанна берaглося, засцерагалася, раптам рухнула, а з ім усе надзеі і планы. Дзяўчыне не верыцца, што яе марам не суджана здзейсніцца. Ей здаецца, што адбылося нешта неверагоднае, невераемнае, і яна недаўменна задае сама сабе пытанне:

Ці ж я не такая,
Як і тая другая,—
Я й харошая,
Я й прыгожая,
Толькі доля ліхая.

Няўдалае каханне глыбока траўміруе дзяўчыну душэўна. Перадаючы агульную карціну псіхічнага стану чалавека, песня як бы ў фокусе трымае малейшыя зрухі яго душы. Якімі выразнымі штрыхамі накіданы вобраз спакутаванай перажываннямі дзяўчыны, у якой «галованька склапацілася», «вочкі светлыя змітусіліся», «ручкі беленькія апусціліся», «ножкі бягучыя падламаліся». Ацэначны момант чалавека ў сферы маральных паводзін выяўляецца праз прызму этычнага кодэксу народа, асабліва акцэнтуецца ўвага на гуманістычным пачатку. Песня пра каханне як бы заклікае маладых людзей быць асцярожнымі, добрымі сэрцам, чулымі і спагадлівымі ў адносінах да тых, каго ўжо аднойчы доля абышла: «Сіроцкія слёзы дарам не мінаюць: на бел камень пападаюць — камень разбіваюць».

Кволая і безабаронная істота, дзяўчына — самае большае, на што можа пайсці, зводзячы рахункі са сваім няверным каханым,— гэта пасдаць праклён у яго адрас. І тут яна знаходзіць словы злосныя і балючыя: «Каб здурэў мой мілы, паляцеў па полі, баяліся б людзі, пужаліся б коні». Або:

Зламі, конік, нагу вараную,
Скруці, мілы, галаву змянную,
Скруці, мілы, галаву змянную,
Як ты змяніў мяне, маладую.

Разлука з каханым малюецца як самае вялікае гора, як трагедыя. Трагедыйнасць гераіні падкрэсліваецца шырока разгорнутымі і вобразнымі параўнаннямі:

Разлучылі нас з табою,
Як рыбачку з вадою.
Цяжка рыбцы без вадзіцы,
Так мне, беднай маладзіцы,
Цяжка рыбцы на пясочку,
Так мне, беднай, без дружочка.

Наогул у песнях пра каханне карціна разлукі надзвычай насычана параўнаннямі, дакладнымі і высокапаэтычнымі:

Як мы кахаліся, як голубы ў пары,
Цяпер разыйшліся, як цёмная хмара.
Як мы кахаліся, як голубы ў стрэсе,
Цяпер разыйшліся, як ягады ў лесе.

З дапамогай параўнання, часта нечаканага ў сваім супастаўленні, падкрэсліваецца вялікая, усёпераадольная сіла кахання, якая можа ўваскрашаць мёртвае; развітанне ж забівае самае моцнае і здаровае, што ёсць на зямлі.

Калізіі кахання ў пазаабрадавай лірычнай песні падаюцца ў цеснай сувязі з акаляючай прыродай, якая выступае не проста фонам ці староннім сведкаю складаных узаемаадносін, а блізка, «асабіста» суперажывае радасць і бяду закаханых:

Як мы, сэрца, любіліся,
Сухі дубы развіліся.
Любіціся перасталі —
Зялёныя сохнуць сталі.

Аднак страшная не сама па сабе разлука, выкліканая няверным каханнем, а болей за ўсё здрада, калі жорстка ашукваецца чалавечы давер. Маладая дзяўчына марыла аб сваім шчасці-каханні, і калі яно абзывалася, спяшалася яму насустрач, ішла, часцей, асцярожна і нясмела, бо палохалася нязведанага. Аднак асцярожнасць і баязлівасць не збераглі яе і таму, што нельга было не даверыцца, не паверыць у шчырасць хлапечых слоў і запэўніванняў. І вось за даверлівыя сустрэчы даводзіцца дорага заплаціць — знявагай чыстага і святога пачуцця. Між іншым, гэта тэма раскрываецца праз сімвалічны вобраз «страты вянка».

Зняслаўленая і асмяяная казаком ці ўланам перад бацькамі, родам і вёскай, яна застаецца засмучанаю, гаротніцаю, застаецца «ні дзеўкаю, ні ўдавою».

Я й пасцельку ручанькамі абняла:
Да чаго ж гэта любоў давяла!
Левай ручкаю калысачку калышу,
Правай ручкай я лісточкі напішу.

Горкімі слязамі піша дзяўчына пісьмо таму, хто ёй «завязаў свет і звязаў рукі», звяртаючыся да яго свядомасці, да яго сумлення, спадзеючыся «разжалобіць сэрца каменнае свайго нявернага». Ды ўсё — дарэмна: каханы аказаўся на справе бяздушным і бесчалавечным. Гордая і ўсё ж нязломная каварным каханнем, гераіня лірычнай песні знаходзіць у сабе дастаткова духоўных і фізічных сіл, каб мужна перанесці цяжкую бяду сваю і не страціць веры ў дабро людзей, у радасць жыцця.

Аднак трэба адзначыць, што элегічная нота, шырока разлітая ў песнях, зусім не заглушае светлага і аптымістычнага матыву, вельмі моцнага ў лірыцы кахання. Жыццясцвярджальны пачатак яму надае страснае парыванне гераіні, нягледзячы на ўсе жыццёвыя нягоды, знайсці сваё шчасце на зямлі. І дзяўчына настойліва і ўпарта шукае яго. Гэта палкая вера ў каханне, як агеньчык падарожніка ноччу, вядзе гераіню лірычнай песні да запаветнага берагу. І што яшчэ важна адзначыць, твораў, якія б расказвалі пра здраду дзяўчыны, у беларускай песеннай лірыцы амаль не знойдзем. Пакахаўшы адноўчы, дзяўчына застаецца вернаю на ўсё жыццё: «Бо каму дам белу ручку, з тым і жыці буду». Або: «А я цябе верна люблю, за табой праз свет пайду».

Бадай, ні адна з тэм у лірычнай песнятворчасці так не раскрывае ўсю глыбіню душэўнай велічы і хараства дзяўчыны, шчырасці, праўдзівасці і самаахвярнасці ў імя кахання, як тэма вернасці. Вернасць у песнях пра каханне набывае больш шырокае і ёмістае паняцце, яна як бы акумулюе ў сабе ўсе лепшыя чалавечыя якасці, якімі прырода адарыла жанчыну.

У песнях народ уславіў вернасць самымі ўзвышанымі словамі, стварыў высокапаэтычныя вобразы, якія ўзнімаюцца да ўзроўню прафесійнай класічнай паэзіі.

У песні «Паехаў мой мілы», якая мае шматлікія варыянты («Ой, дубе мой, дубе», «Ой, ляцелі гусі з далёкага краю», «Паехаў, паехаў, нідзе не відаць», «Ой, паехаў мілы трыма дарогамі»), запісаныя ў розных раёнах Беларусі, праз унутраны маналог гераіні даецца карціна, у якой самаадданасць дзяўчыны раскрыта з вялікай мастацкай сілай. Развітанні нікольki не прыглушаюць пачуцці ў яе, наадварот, яшчэ болей разгараюцца, фізічна абвастраецца ўспрыняцце навакольнага, усяго, што звязана з дарагім ёй іменем:

Выйду за вароты —
Два слядочкі знаці:
Ой, адзін слядочак —
Каня варанога,
А другі слядочак —
То майго мілога.

Звычайны след, пакінуты любімым чалавекам, для гераіні набывае нейкі магічны сэнс і значэнне, становіцца нечым бясконца дарагім, нейкім скарбам, які трэба берагчы і засцерагаць, як і само каханне, ад чужога, нядобрага вока:

Ой, пайду ў садочак
Ды сарву лісточак,
Буду прыкрываці
Мілога слядочак,
Каб раса не ўпала,
Птушка не хадзіла,
Каб майго мілога
Іншa не любіла.

(У іншых варыянтах: «Каб па тым слядочку людзі не хадзілі, каб майго мілога іншы не любілі»).

Якім вялікім паэтычным дарам трэба валодаць, каб будзённае, звычайнае, тое, што тысячы разоў сустракаецца ў жыцці, зрабіць фактам паэзіі, напоўніць высокім мастацкім асэнсаваннем.

Сярод фальклорна-песенных шэдэўраў, прысвечаных самаахвярнаму каханню дзяўчыны, хочацца спыніць увагу на папулярнай песні «Адлятае сакалічак, адлятае» — творы, надзвычай цікавым з пункту погляду паэтычна-вобразнага выяўлення. Ужо сам пачатак песні ў форме разгорнутага паралелізму — дарэчы, не такая частая з'ява ў беларускай народнай песні — набывае самастойнае значэнне:

Адлятае сакалічак, адлятае,
Пакідае сакаліну, пакідае.
Ой, вярніся, сакалічак, ой, вярніся,
Не вернешся, сакалічак, азірніся.
Я на твае пэра пер'е нагляджуся
І табою, сакалічак, нацяшуся.

Шматразовыя паўторы дзеясловаў «адлятае», «пакідае», «вярніся», якія стаяць у пачатку і канцы радкоў, ствараюць асобую, інтанацыйна-дынамічную настраёвасць, узмацняюць дзеянне, завастраюць увагу на падзеі, падкрэсліваючы яе выключную значнасць. Верш своеасабліва ўспрымаецца і зрокава. Ён як бы славесна арнаментаваны: паўтор назоўніка «саколік» у сярэдзіне кожнага радка, абрамаванага дзеясловамі-паўторамі, утварае нешта накшталт прошвы-манішкі, вышытай словамі-вобразамі. Уступ-паралелізм, што расказвае пра сімвалічных птушак, эмацыянальна моцна зараджаны, і, галоўнае, вельмі адухоўлены, ачалавечаны гэтыя птушкі. Ужо само слова «сакаліна» стварае «чыста» чалавечы настрой і робіць зусім празрыстай паэтычную ўмоўнасць, дэшыфруе сэнс традыцыйнага сімвала. Вобразная і эмацыянальная ўступная частка песні — гэта мініяцюрная уверцюра, у якой праслухоўваецца пазначаны пункцірна асноўны матыў твора і даецца адпаведная настройка для ўспрыняцця яго зместу. Аднак аналаг, якім з'яўляецца другая частка песні, не капіруе сляпа схему-паралелізм, а ідзе далей, адкрывае новыя вобразы, паглыбляе змест і ідэю твора:

Ой, вярніся, мой міленькі, ой, вярніся,
Не вернешся, хоць разочак азірніся.

Я табою, мой міленькі, нацяшуся
І на тваё бела ліца нагляджуся
А я спішу тваё ліца на паперы,
Пакладу яго з сабою на пасцелі.
Сярод ночкі, як прачнуся, прыхінуся,
А назаўтра чуць святочак наплачуся.

І заключным мінорным акордам гучаць зноў першыя радкі:

Адлятае саколічак, адлятае,
Пакідае сакаліну, пакідае.

Як бы мы ні паглыбляліся ў аналіз песенных тэкстаў, як бы падрабязна, скрупулёзна ва ўсіх дэталях ні разглядалі асноўныя вобразы і матывы твораў, элементы паэтыкі, нашы ўяўленні аб песні заўсёды будуць далёка няпоўнымі, а падчас аднабаковымі ці скажонымі. Песня таму называецца песняй, што яна спяваецца. Іншымі словамі, галоўнаю жанраваю адзнакай песні, яе асаблівасцю, адметнай якасцю з'яўляецца мелодыя. Мелодыя — гэта крылы песні. І ад таго, якая мелодыя, залежыць яе лёс.

Музыка — важны выяўленчы сродак, яна нясе вялікую мастацка-ідэйную нагрузку — раскрывае не толькі змест верша, яго вобразаў, але ўзмацняе, паглыбляе гэты змест і гэтыя вобразы, выяўляючы паэтычную падаснову вершаванага радка. Возьмем, напрыклад, тэкст шырокавядомай песні «Туман ярам, ярам-даліною». Як і ў большасці іншых лірычных песень, сюжэт даволі просты, без якой-небудзь займальнай ці драматычнай (як, напрыклад, у баладах) калізіі, якая магла б заінтрыгаваць. Апавядаецца пра звычайную ў сялянскім побыце гісторыю: у даліне-яры стаіць туман, з-за якога нічога не відаць, апрача зялёнага дуба, пад якім знаходзіцца крыніца. Дзяўчына чэрпае ваду і незнарок упускае вядро. У роспачы просіць ёй дапамагчы. На трывожны голас дзяўчыны адгукаецца малады хлопец, які абяцае дастаць вядзерца і гатовы жаніцца з дзяўчынай. Зразумела, пераказваючы прозай сюжэт песні, мы разбурылі яе верш. Аднак у тым і ўвесь сакрэт народнай песнятворчасці, што безыменны кампазітар у просценькім вершы ўбачыў, адчуў тое, што дало магчымасць стварыць музыку, якая, сінтэзаваўшыся з тэкстам, зрабіла мастацкі песенны шэдэўр. Мовою мелодыі песня «Туман ярам, ярам-даліною» перадала невыказанае да канца словам перажыванне і хваляванне закаханых сэрцаў. Шырокая і павольная элегічная нота выносіць на паверхню паслядоўна, радок за радком падзейнасць, здабываючы з глыбінь іх новыя нюансы пачуцця, надаючы карціне цэлую гаму фарбаў, што перадаюць найтанчэйшыя зрухі душэўнага памкнення маладых закаханых. Прыём паўтору кожнага радка замаруджвае разгортванне сюжэта, тым самым яшчэ болей акцэнтуючы ўвагу на прадмеце расказа.

Нам шмат разоў даводзілася чуць народную песню ў выкананні прафесійных майстроў вакалу, капэл і ансамбляў і заўсёды здавалася, што песня нейкая не тая, ёй нечага не хапае. Яна іначай, нясмела, не на ўсю сілу і

моц, не ва ўсёй сваёй першароднасці, непрыхарошанасці, непаўторнай прывабнасці гучала нават у выкананні народных фальклорна-этнаграфічных хораў на эстрадных гарадскіх сцэнах у час розных аглядаў мастацкай самадзейнасці і на тэлевізійных павячорках. Песні, як мы заўважылі, не хапае шырыні і вышыні палёту — роднай стыхіі, натуральнасці быцця. Справа ў тым, што народная песня, як правіла, (а каляндарная асабліва) выконвалася пад адкрытым небам. Акаляючая прырода — буйная квецень садоў і стракаты дыван лугавых кветак, зялёны пошум сасновага бору і глухі бег жытнёвых хваль, тонкая нітачка напеву самотнага жаўрука ў небе і срэбразвонная трэль салаўя ў росных кустах ажыны, барвовыя сполахі неба пасля заходу і выбеленая касмічным холадам поўня з вясёлым карагодам зорак, зіма і лета, восень і вясна — усё неспарэдна, самым актыўным чынам уплывала на ўсю вобразна-мастацкую фактуру песні, на стварэнне яе слоў і музыкі. Таму калі песня абуджае свой голас, ёй суладна рэзаніруе прырода, ствараючы дзівосны акустычны эфект...

«Любоўныя песні,— як слушна піша Н. С. Гілевіч,— складаюць адну з прыгажэйшых жамчуговых нанізак у беларускай народнай лірыцы»[2]. Гэтыя песні — вянок, сплецены з найпрыгажэйшых і найдухмянейшых кветак пазаабрадавай лірыкі.

Праходзяць эпохі, мяняюцца пакаленні, чалавечыя фармацыі, але вечным застаецца на зямлі каханне, бо без кахання грамадства перастала б існаваць. Гэтыя песні ўспрымаюцца як велічны гімн самаму прыгожаму і высокаму чалавечаму пачуццю, якое ачышчае душы людзей, робіць іх узвышанымі і натхнёнымі. Натхненне — бадай самае дакладнае слова, якое вызначае сутнасць песень пра каханне.

* * *

Пры падрыхтоўцы тома мы сустрэліся з пэўнымі цяжкасцямі. Адна з іх — кампаноўка матэрыялу. Класіфікацыя і сістэматызацыя песень пра каханне, як і ўсёй пазаабрадавай лірыкі, складаная і нераспрацаваная праблема ў нашай фалькларыстыцы. Калі ў каляндарнай і сямейна-абрадавай паэзіі сістэматызацыя падказваецца абрадавай канвой, то лірыку кахання можна класіфікаваць толькі па тэматычнаму прынцыпу. У ёй асабліва выразна выступаюць дзве тэмы — каханне дзяўчыны і каханне хлопца.

У межах кожнай гэтай тэмы можна вылучыць у сваю чаргу падтэмы. Але цяжкасць упарадкавання заключаецца яшчэ ў паслядоўнасці размяшчэння тэматычных груп і ў размеркаванні тэкстаў па гэтых групах, бо нярэдка выявіць тэму твора або яго дамінуючую тэматычную лінію немагчыма. Нарэшце, шэраг тэкстаў з'яўляецца шматзначным па зместу, і іх можна ў аднолькавай меры аднесці і да песень дзяўчыны, і да песень хлопца. Усё гэта не засцерагае ад магчымых суб'ектыўных момантаў. Аднак у

---

[2] Н. С. Гілевіч. Наша родная песня. Мн., 1968, с. 125.

класіфікацыі і сістэматызацыі пазаабрадавай лірыкі, пададзенай у гэтым томе, нам, здаецца, удалося знайсці аптымальны варыянт упарадкавання матэрыялу.

Дзеля таго, каб у шырокага чытача захавалася цэльнасць уражання ад песень, каб само каханне ў яго свядомасці заставалася як радасць чалавечага быцця, раздзел пра вернасць мы выносім у канец кнігі. Нам уяўляецца, што гэта невялікае адступленне ад прынятага прынцыпу, лагічна і псіхалагічна апраўдаецца.

Матэрыялы падаюцца ў сучасным правапісе і ў адпаведнасці з патрабаваннямі інструкцыі, распрацаванай у ІМЭФ АН БССР. Там, дзе магчыма, упарадкавана строфіка песень.

Навукова-тэхнічную работу выконвалі В. І. Скідан, С. Т. Бахмет, У. А. Васілевіч.

Зорачкай (*) адзначаюцца тэксты, да якіх пададзены ноты.

*І. К. Цішчанка*

# АБ НАПЕВАХ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ ПЕСНІ ПРА КАХАННЕ

Беларускія народныя песні пра каханне, якія раскрываюць багаты свет душэўных перажыванняў і пачуццяў чалавека, у музыцы строгага стылістычнага дзялення на жаночыя і мужчынскія не маюць, бо пераважна іх выконваюць дзяўчаты. Не існуе і межаў іх распаўсюджання, не абмежаваны яны і календаром. Лірычныя песні, што ўвабралі ў сябе значную колькасць стылістычных рыс, уласцівых каляндарным і сямейна-бытавым песням сялянскага фальклору і гарадскога раманса, нельга вызначыць аднасэнсава. Напевы гэтых песень патрабуюць вельмі ёмістай характарыстыкі іх дыяпазону, ладавай і рытмічнай пабудовы, асаблівасцей фактуры шматгалосся.

Перш за ўсё, трэба адзначыць, што з усіх разнавіднасцей беларускай народнай песні больш цесная сувязь паміж напевам і тэкстам назіраецца менавіта ў лірычных песнях. Асабліва часта гэта датычыцца першага куплета тэксту. Адсюль — групавое замацаванне тэкстаў да аднаго напеву амаль не выяўляецца, наадварот, некалькі варыянтаў напеваў да аднаго тэксту — з'ява нярэдкая і сведчыць аб меладычным багацці народнай фантазіі. Так, групавое замацаванне варыянтаў напеваў да аднаго тэксту песні сустракаем сярод запісаў з фондаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (1098, 1113) — № 183, 184. Тое ж самае знаходзім у папулярнай песні «Ой, рэчанька, рэчанька», якая ў Анталогіі [1] (№ 138, 138а) і ў зборы М. Чуркіна [2] (№ 96) гучыць па-рознаму — № 8, 8″, 8а. Розныя напевы існуюць і для не менш папулярнай песні «Ой, развілася зялёна дубрава», змешчаных у зборы М. Чуркіна [3] (№ 83) і ў Анталогіі (№ 162) — № 31, 31а; для песні «Забалела галованька» са збораў Р. Шырмы [4] (№ 28) і Анталогіі (№ 135) — № 85 і 85а; для песні «Туман, туман пры даліне» — у Анталогіі (№ 350а), у зб. М. Чуркіна (1949, № 49) і А. Грыневіча [5] (№ 4) — № 108, 108″, 108а;

---

[1] Анталогія беларускай народнай песні. Укладанне, прадмова і каментарыі Г. Цітовіча. Мн., 1975.
[2] Беларускія народныя песні. Запіс М. Чуркіна. Мн., 1959.
[3] Н. Чуркін. Беларускія народныя песні і танцы. Мн., 1949.
[4] Беларускія народныя песні. Запіс Р. Шырмы, т. 1. Мн., 1959.
[5] Biełaruskije pieśni z notami. Sabrau i wydau A. Hryniewic. Pieciarburh, 1910.

у двух варыянтах прыводзіцца ў фондавых запісах ІМЭФ АН БССР песня «Ой, на гары жыта» — № 216, 216″; песня «Ты дубочак зелянелькі» мае тры варыянты — № 96, 96″, 96‴; шэраг варыянтаў напеваў да песні «Чарнаморац» прыводзіць В. Ялатаў[6] і г. д. Ва ўсіх выпадках напевы адрозніваюцца адзін ад другога мелодыяй, ладавай асновай, а некаторыя з іх розныя па сваёй рытміцы і нават пабудове.

Нягледзячы на тое што песні пра каханне займаюць значнае месца ў фальклоры беларускага народа, запісваць іх напевы пачалі даволі позна і яшчэ пазней сталі выдзяляць самастойныя раздзелы збораў. У сучасны момант большая колькасць песень пра каханне змешчана ў першым томе збора Р. Шырмы «Беларускія народныя песні» — 165 напеваў. У «Анталогіі» Г. І. Цітовіча надрукавана 70 напеваў, у зборы М. Чуркіна 1949 г.— 18, 1959 — 23. Э. Ледаховіч[7] дае 13 узораў.

У сучасных запісах народных песень пра каханне побач з аднагалосымі песнямі значнае месца займаюць і двухгалосыя. Уяўленне аб іх пашырылі магнітафонныя запісы.

Вядома, што аднагалосыя песні пра каханне — узоры пазнейшага часу, чым каляндарна-земляробчыя і сямейна-абрадавыя. Ад песень старажытных яны адрозніваюцца больш шырокім аб'ёмам мелодыі. Да ліку выключэнняў у нашым зборы можна аднесці песню аб разлуцы з каханым, якая ўзята з фонду ІМЭФ АН БССР (№ 1097)—№ 186, з дыяпазонам чыстай кварты. Наогул, самы малы дыяпазон напеваў песень пра каханне—гэта чыстая квінта: напрыклад, № 56, 138 і г. д. Сустракаецца прыклад, дзе дыяпазон напеву ў межах паменшанай квінты (№ 105), але пяты гук тут не самастойны, а з'яўляецца верхнім маласекундавым спалучэннем да чыстай кварты.

Для заходняй часткі Беларусі асабліва характэрныя песні квінтавага дыяпазону з субсекундай. Гэта прыводзіць да гукарада сексты (№ 156). Рамка меладычнага дыяпазону пашыраецца да сексты і ў песнях з распевамі, дзе ўтвараецца верхняе секундавае спалучэнне (№ 178). Напевы з гукарадам сексты — з'ява частая, яны сустракаюцца амаль ва ўсіх зборах фальклору, з якіх узяты песні ў гэтым томе (№ 2, 9е, 43, 109, 187). Іншы раз, як у № 19, у гукарадзе адсутнічае II ступень, а ў № 188 — дыяпазон пашыраецца за кошт храматызму на VI ступені (храматызм «у разбіўку»).

Да напеваў у аб'ёме септымы таксама адносіцца значная колькасць песень. Некаторыя з іх узніклі шляхам пашырэння дыяпазону сексты пры далучэнні на распеве верхняй спалучанай секунды (№ 180″). Сёмы гук гукарада можа быць VII ступенню натуральнага мінору (№ 109а), мік-

---

[6] В. И. Елатов. Ладовые основы белорусской народной музыки. Мн., 1964, с. 104—105.

[7] Беларускія народныя песні Гродзеншчыны. Запіс Э. Ледаховіча. Мн., 1962.

салідыйскага ладу (№ 15а, 34). Некаторыя напевы дыяпазону септымы характарызуюцца адсутнасцю VI ступені гукарада або ствараюцца з незапоўненай кварты са шчэпленым, запоўненым тэтрахордам (№ 91 і г. д.).

Напевы, меладычны дыяпазон якіх разгорнуты да актавы, таксама бываюць запоўненага і незапоўненага гукарада. Да ліку першай групы адносяцца № 28, 49, 71в, 93а, 101, 108а і іншыя, другой групы — напевы, у якіх адсутнічае VII гук — № 13, 125, 127, 179. Можна прывесці прыклады, дзе адсутнічае II гук (№ 83а, 174). Некаторыя напевы пабудаваны з незапоўненай кварты і шчэпленай з ёй запоўненай квінты (№ 26, 88).

Прыклады напеваў з гукарадам запоўненай ноны знаходзім у зборах Р. Шырмы, Э. Ледаховіча, О. Кольберга[8], М. Федароўскага[9] (№ 32, 79, 169, 175 і інш.). Такія прыклады сустракаем і ў зборах фонду ІМЭФ АН БССР і ў Анталогіі. Эпізадычна апяваючая нона ў № 110, але гукарад тут не поўны — адсутнічае III ступень. Незапоўнены гукарад ноны часцей за ўсё прадстаўлены як дыяпазон сексты са шчэпленым з ім незапоўненым уводным тэтрахордам (№ 114, 119, 121 і інш.). Цікава адзначыць, што II гук гукарада, які адсутнічае ва ўводным тэтрахордзе (прыклады № 119, 121), узнікае потым у якасці ноны ў верхнім рэгістры напеву. Гэта дазваляе лічыць, што запіс выконваўся ад саліста, які скамбінаваў двухгалосы напеў у аднагалосую мелодыю.

Прыклады гукарада дэцымы і ундэцымы сярод напеваў беларускіх народных песень пра каханне вельмі рэдкія. Прывядзем некаторыя — № 77, 168 з дыяпазонам запоўненай дэцымы. Але паколькі напеў № 77 запазычаны з гарманізацыі (верхні голас) У. Тэраўскага[10], магчыма, ён некалькі змяніў мелодыю ў параўнанні з народным узорам.

Прыкладам напеву з дыяпазонам незапоўненай дэцымы з'яўляецца № 111. У зборы Ледаховіча змешчан напеў з дыяпазонам незапоўненай ундэцымы (№ 50).

Характэрны рэгістр, у якім выконваюцца песні пра каханне,— сярэдні: сі малой актавы — соль другой. Гэта знаходзіць адлюстраванне ў шэрагу музычных фальклорных збораў. Выключэнне сустракаем у зборы Кольберга, дзе верхняя мяжа дыяпазону сі і ля другой актавы — № 150, 169. Тое ж самае і ў Федароўскага — № 179. У зборы Ледаховіча ў некаторых прыкладах ніжняя граніца дыяпазону — соль і нават ля малой актавы. Трэба падкрэсліць, што тэнар гучыць на актаву ніжэй, чым напісана.

У шэрагу песень невялікага дыяпазону адразу акрэсліваюцца межы

---

[8] O. Kolberg. Białoruś—Polesie, t. 52. Wrocław—Poznań, 1968.

[9] Michał Federowski. Lud Białoruski. Warszawa, t. V, 1958; t. VI, 1960.

[10] У. Тэраўскі. Беларускі спеўнік з нотамі на тры галасы, паводле народных мэлёдый. Мн., 1921.

напеву: тут гучаць і самыя нізкія і самыя высокія гукі. Гэта першыя такты песень (№ 52, 81, 103, 112, 182, 190 і інш.). У песні № 130 дыяпазон ноны акрэслены ў двух першых тактах.

Іншы раз напеў песні, які пачынаецца з «вяршыні вытоку», носіць характар вокліча: «Ой ты, хмель» (№ 77б), «Ой, з-пад гары» (№ 12), ніжні голас песні «Ой ты, сосенка» (№ 165). Звычайна гук, які прыпадае на вокліч, зацягваецца на фермата, за кошт працягласці паслядоўнага гуку: ♩. ♪, або распяваецца, што таксама падаўжае яго гучанне. Зыходзячы гамападобны рух у пачатку напеву, які не заключае непасрэдна вокліча «ой», таксама носіць часта патэтычны характар, як № 60 — «Сэрца млее, грудзь баліць».

Можна прывесці вялікую колькасць напеваў, якія пачынаюцца плаўным гамападобным рухам голасу ўверх і ўніз. Колькасць ахопленых гукаў ад трох да шасці. Пры руху ўверх (частая з'ява) адбываецца поўны ахоп усяго дыяпазону напеву (№ 59, 180). Прыкладаў на большы ахоп колькасці гукаў не назіраецца.

Шмат якія песні пачынаюцца рэпетыцыяй гуку абы-якой ступені гукарада. Гэта быццам своеасаблівае «разгойдванне» перад паслядоўным рухам напеву, які развіваецца то плаўным паступовым рухам, то скачкамі на вялікія інтэрвалы. Прыклады на паступовы рух знаходзім ва ўсіх фальклорных выданнях (№ 26, 38, 97, 105, 116, 184, 185, 195 і інш.).

Прыкладамі напеваў на скачкі як уверх, так і ўніз могуць паслужыць № 32, 34, 71, 85а, 93. Іншы раз пасля паўтору першага гуку ўступу песні пачынаецца рэпетыцыя наступнага гуку (№ 29, 46, 96, 108″ і інш.), што стварае напеў рэчытатыўнага характару.

Шэраг беларускіх народных песень пра каханне пачынаецца напевамі са скачкамі ўверх, але з абавязковым запаўненнем у наступным руху (№ 6, 33, 64, 65, 186 і інш.). Некаторыя напевы проста пачынаюцца скачкамі ўверх (без наступнага папаўнення) — на тэрцыю, кварту, квінту, сексту. На большыя інтэрвалы скачкі не наглядаюцца.

У напевах, якія пачынаюцца меладычнымі ходамі па гуках узыходзячага раскладзенага танічнага трохгучча, з самага пачатку ствараецца ладавая настройка ўсяго напеву — мажорная ці мінорная. Гэта наступныя напевы песень — № 19, 27, 41, 94, 111, 158, 198. У прыкладзе № 199 уступам з'яўляецца раскладзены септакорд першай ступені натуральнага мінору. Можна прывесці прыклады, калі раскладзеныя трохгуччы ва ўступах напеваў заснаваны на пабочных ступенях. Іншы раз напеў пачынаецца дамінант-септакордам з выхадам далей у тоніку ладу (№ 48). Гэта, безумоўна, сведчыць аб уплыве гарадской прафесійнай культуры, бо вядома, што класічная функцыянальнасць не ўласціва славянскаму народнаму меласу. У некаторых песнях зачыны пабудаваны на раскладзеным трохгуччы, якое выкладаецца зверху ўніз (№ 115, 132).

У зачыне напеваў некаторых песень пра каханне нярэдка сустракаецца

і тыповая для каляндарна-абрадавых напеваў «квартсекстакордная пабудова»: незапоўненая кварта і шчэпленая з ёй тэрцыя (№ 51, 52, 151, 159, 166). У шэрагу выпадкаў тэрцыя запоўнена (№ 69а, 81, 108, 114). Тыповыя формулы каляндарных напеваў мы знаходзім і ў песнях № 24, 133. Так, пасля паўтору першага гуку напеву з'яўляюцца дзве шчэпленыя кварты. Часам ва ўступах напеваў сустракаем скачкі на кварту — да субкварты (№ 157, 200) і скачкі на кварту ўніз — да тонікі (№ 163, 177 і інш.).

Квінтавыя скачкі ўніз у пачатку напеву ў нашым зборы прыводзяцца толькі ў адным прыкладзе і нават толькі пасля паўтору першага гуку (№ 1). Ва ўзыходзячым руху, наадварот, яны вельмі распаўсюджаны (№ 119, 120, 146″, 187 і інш.).

Шырокія інтанацыйныя скачкі ў аб'ёме сексты, зразумела, не маглі ўзнікнуць у старажытных напевах, якія былі абмежаваны дыяпазонам. Зараз — наадварот, гэтыя інтанацыі даволі часта знаходзім у напевах песень пра каханне. І тут не цяжка ўбачыць уплыў гарадскога рамансa, для якога гэты інтанацыйны абарот адыгрывае выразную ролю ў раскрыцці паэтычных вобразаў песень. Часта сустракаецца ўзыходзячая інтанацыя вялікай і малой сексты, напрыклад № 43, 161, 171. Напевы № 103, 201 пачынаюцца паўторам першага гуку, пасля чаго адбываецца скачок на сексту. Іншы раз, як у № 39, 112 і іншых, пасля паўтору першага гуку напеву даецца ўзыходзячы ход на квінту, а пасля — секундавае спалучэнне на распеве стварае інтэрвал сексты «з пад'ездам».

Ходы на септыму ў меладычных зачынах не назіраюцца, а на актаву сустракаюцца рэдка.

Шмат якія рысы, адзначаныя ва ўступах напеваў, тыповыя і для сярэдніх падзелаў песні. Так, побач з рэчытацыяй, як № 29, 46, для шэрагу песень характэрна плаўнае голасавядзенне, пры тым часта сустракаюцца ўнізідучыя меладычныя лініі, якія ахопліваюць увесь дыяпазон сексты (№ 48, 92, 96″, 115, 178 і інш.). У актаўнага дыяпазону песні № 24″ знаходзіцца нават поўная ўнізідучая гама (мі мінор) з тэрцавай уторай другога голасу. Трэба адзначыць, што падобныя ўзыходзячыя меладычныя лініі, якія адлюстроўваюць дыяпазон напеву, не сустракаюцца. Адрэзак узыходзячай гамы ў межах нават сексты сустракаем вельмі рэдка. У № 118 такі прыклад ёсць, але дыяпазон песні — актава.

У сярэдзіне напеваў можна сустрэць раскладзеныя трохгуччы ва ўзыходзячым руху як танічныя, так і іншых ступеней (№ 32, 56, 120 і інш.). Сустракаюцца таксама і раскладзеныя септакорды — № 71а, секстакорды — № 93а, 203. Прыклады раскладзеных квартсекстакордаў ёсць у № 55, 132, 171, 177 і інш. Пры гэтым часта характэрна і запаўненне тэрцыі, што прыводзіць да аналогіі з формульным напевам жніўных песень. У зборы Э. Ледаховіча напеў «Ой, у полі тры крынічанькі» (№ 4а) змяшчае «перакулены» квартсекстакорд з апяваннем устою, што ўтварае

незвычайную для беларускіх народных напеваў інтанацыю зменшанай кварты — № 50.

Трэба падкрэсліць, што такія прыклады напеваў, якія складаюцца як з інтанацый, характэрных для гарадскога фальклору — раманса, так і для каляндарных песень сялянскай народнай творчасці, г. зн. інтанацыйныя кантрасты, сведчаць аб шматсастаўнай прыродзе беларускіх народных песень пра каханне.

Такую ж значную ролю, як ва ўступах напеваў, скачкі на сексту (вялікую і малую) адыгрываюць і ў сярэдзіне шмат якіх песень, запісаных у розных раёнах Беларусі. Так, у зборы Р. Шырмы (т. 1) ва ўзыходзячым руху яны прыпадаюць на словы, якія знаёмяць з «героем» песні: тут і Кася (№ 117), і «бярозанька» (№ 159), і «Украіна» (№ 7). Аднак у такіх напевах, як № 39, скачок узнікае паміж словамі. У песні № 156 інтэрвал унізідучай сексты ўзнік у выніку распеву аднаго са складоў слова, пры распеве танічнага ўстою. Такі рух ад квінтавага тону да ўводнага з далейшым выхадам у асноўны тон — тоніку — тыповы для гарадскога раманса ў мінорьі, але тут напеў выкладаецца ў мажорным ладзе.

У Анталогіі Г. Цітовіча таксама ў шэрагу песень інтэрвальны скачок на сексту мае сэнсавае значэнне. Так, у песні «Учора не быў» (№ 99) секста прыпадае на слова, якое падкрэслівае, менавіта каго забыў хлопец. У песні № 96 — што ў хлопца «няма праўданькі», у № 115 — што зорачка «ўпала» да долу і г. д. Некаторыя скачкі на сексту з'яўляюцца і на мяжы слоў або падзелаў напеву. У тэксце тады даецца тлумачэнне да апавядання або прыводзяцца паэтычныя паралелізмы (№ 114, 126 і інш.).

Такую ж самую ролю адыгрывае інтэрвал сексты ў напевах са збору М. Чуркіна (1959). Так, у № 144 падкрэсліваецца, што дзяўчына выпусціла «малойчыка», у № 88, што малады хлопец закахаўся ў прыгожую дзяўчыну і г. д.

Скачкі на септыму і актаву ўнутры меладычных пабудоў сустракаюцца даволі рэдка. Яны падкрэсліваюць падзел формы, як у № 8", або сэнс асобных слоў (№ 69а) — «з далёкага краю». Прыкладамі скачкоў на ўзыходзячую актаву на мяжы слоў могуць служыць № 24а, 49, 111 і інш. № 122 — прыклад скачка ўніз на інтэрвал актавы.

Беларускія народныя песні пра каханне характарызуюцца варыянтнасцю напевак. Тут і меладычныя і рытмічныя варыянты — № 13, 34, 120 і інш. У некаторых напевах, на якіх адбіўся ўплыў гарадской песеннай мелодыкі, сустракаюцца секвентныя пабудовы. Такія, напрыклад, № 114, дзе паўтор падкрэслівае выказванне «Ой, спанаравілася»; № 33 — «не бачыла міленькага». У некаторых выпадках секвенцыя вытрымана не поўнасцю — № 74, 129 («сушы не баюся, луга...») і г. д.

Нягледзячы на тое што большасць аднагалосых песень пра каханне характарызуецца аднназначнай адпаведнасцю складоў і гукаў напеву, можна прывесці шэраг прыкладаў, дзе, як ужо раней адзначалася, мы знахо-

дзім унутрыскладовыя распевы па два, па тры і болей гукаў. У большасці выпадкаў гэта звязана з пэўным выразным сэнсам і са зместам песні. Перш за ўсё такія распевы сустракаюцца ў напевах жалобных песень, дзе аплакваецца нераздзеленае каханне дзяўчыны або расказваецца аб заканых, якіх разлучылі. Тут значную ролю адыгрываюць нізыходзячыя секундавыя інтанацыі галашэння, напрыклад, № 51, 58, 93, 109а, 204, 205 і інш. Можна прывесці адзіны ў нашым зборы прыклад журботнага характару распеваў — № 92 з узыходзячым рухам. Тут вядзецца гаворка аб дзяўчыне, якая знаходзіцца на чужыне.

Распевы падаюць на акцэнтныя і неакцэнтныя склады тэксту, сустракаюцца ў розных частках напеваў з пераважна паступова нізыходзячым рухам. У старых зборах музычнага фальклору распяванне асобных складоў сустракаем рэдка. У наш час іх шмат. Гэта знаходзім у фондах ІМЭФ АН БССР, у запісах З. Мажэйкі і інш. У яе манаграфіі[11] асабліва падкрэсліваецца багатая меладычная арнаментыка падводкі і двухгалосся (некаторыя напевы з гэтай працы змешчаны ў нашым зборы — № 204, 206, 207, 208). Прыкладамі своеасаблівага заканчэння напеваў глісандыруючым слізганнем могуць служыць № 197, 204, 208, 209, таксама ўзяты са збору З. Мажэйкі. Яны паказваюць неабгрунтаванасць сцвярджэння Т. Паповай, што «доўгія меладычныя разводы на адзін склад тэксту... ў беларускай песеннай музыцы амаль не сустракаюцца»[12].

Значная колькасць песень пра каханне характарызуецца ямбічнай пабудовай верша, таму напеў іх пачынаецца з-за такту. Асабліва шмат такіх прыкладаў у зборах Р. Шырмы, Г. Цітовіча (Анталогія), у запісах фонду ІМЭФ АН БССР (№ 34, 37, 51, 71, 96, 101, 119, 122, 132, 136, 187, 201, 210, 211, 212, 213, 214, 215 і інш.).

Канцоўкі напеваў завяршаюцца як на складах верша з націскам, так і на складах без націску. У апошнім выпадку часта тут ёсць ферматы — № 57, 81, 93а, 102,. 170, 216 і іншыя прыклады. Завяршэнне напеву з націскам — № 85, 213, 215 і інш.

У канцы напеваў часта сустракаецца рытмічны малюнак тыпу: ♩.. 𝅘𝅥𝅯 , г. зн. з зацягваннем першага гуку за кошт наступнага (№ 39, 69а, 77б, 115, 129 і інш.). Аднак такія рытмічныя малюнкі не сустракаюцца ў фондавых запісах 70-х гадоў, якія знаходзяцца ў ІМЭФ АН БССР. Завяршэнне напеву на паўторы тонікі — з гукамі роўнай даўжыні — з'ява частая, напрыклад, № 29, 52, 169, 175, 183 і інш.

Пераважная колькасць беларускіх народных песень пра каханне завяршаецца нізыходзячым рухам мелодыі — плаўным ходам або скачком на розныя інтэрвалы. Тут і нізыходзячыя секунды, напрыклад, № 130, 201 і іншыя, і рух тэрцавага гуку ладу да тонікі № 94, 172, 178 і інш. Шмат

[11] З. Можейко. Песенная культура Белорусского Полесья. Мн., 1971.
[12] Русское народное музыкальное творчество, вып. II. М., 1956, с. 158.

калі канцоўка напеву стварае ўнізідучае раскладзенае трохгучча: № 118, 133, 174.

Скачком на кварту ўніз — IV—I ступені — завяршаюцца напевы № 19, 43, 119, 184, 188, скачком ад V ступені ладу да першай уніз — напевы № 33, 120. Плаўнае, паступовае завяршэнне напеву можа быць рознай працяглласці дыяпазону: гукарад запоўненай тэрцыі (№ 26, 59, 176), кварты (№ 93а, 187), квінты (№ 32, 34, 83а), сексты (№ 108а, 109а, 132, 212 — з апяваннем). Вельмі рэдка сустракаецца завяршэнне напеву запоўненай септымай, як № 202, але і ён утрымлівае ў сабе апяванне.

У песнях пра каханне напеў строга звязаны з тэкстам. Гэта выяўляецца не толькі ў мелодыі — яе інтанацыях, але і ў метра-рытмічнай арганізацыі твора. Так, у ідэйна значных эпізодах паэтычнага тэксту песні змяняецца размер напеву. Напрыклад, № 218″ — «Ой, да давяла любоў да гора», вылучаецца размерам 3/4 замест 4/4, у якім выкладаецца ўвесь напеў. Змяненне размеру ўнутры напеву іншы раз звязана з дыялогам, напрыклад у № 89а — пытанне «што цябе зламіла?» гучыць у напеве на 3/4, а адказ — «буйныя ветры» — на 2/4.

Значнай частцы песень пра каханне ўласцівы нязменны размер і выразная тактавая рытміка. Аднолькавымі працягласцямі звычайна рытмізуюцца толькі песні жартоўнага характару. Большасць з іх выкладаецца ў двухдольным размеры, са жвавым тэмпам, як № 46, 52. У двухдольным размеры сустракаем некаторыя песні са збора М. Федароўскага (V том), якія абазначаюцца тэмпам думкі (№ 172), кракавяка (№ 176), паланеза (№ 175). У зборы Р. Шырмы (т. 1), наадварот, шмат якія напевы двухдольнага размеру распеўныя, павольнага тэмпу (№ 95, 109а). Такія ж прыклады і ў зборах іншых фалькларыстаў — Э. Ледаховіча, М. Федароўскага, а таксама ў запісах фондаў ІМЭФ АН БССР (№ 155, 179, 188 і інш.).

Чатырохдольны размер таксама характэрны для песень, напрыклад № 24а, 85, 88, 97, 108а і інш. Гэтым творам уласціва распеўнасць. Некаторыя песні чатырохдольнага размеру азначаны тэмпам марша, як № 173.

У трохдольным размеры гучаць песні № 33, 93а, 108″, 121, 122 і інш. Частка з гэтых напеваў больш рухавая, некаторыя характарызуюцца сваімі распевамі. Сустракаюцца і такія напевы, рытміка якіх вызначаецца жанрава-структурна-рытмічнай формулай танца. Так, на аснове рытму вальса, мазуркі, паланеза выкладаюцца напевы песень № 17, 157, 180, 181.

Існуе значная колькасць прыкладаў песень з напевамі складаных размераў — шасці-, васьмі-, дзесяці-, дванаццацідольных. Шасцідольныя размеры назіраюцца як у быстрых, так і павольных напевах; як у вясёлых, так і сумных песнях. Такія — № 23, 36, 55, 76, 93, 96″, 180″, 198, 219 і інш. У № 178 напеў у тэмпе баркаролы, а ў № 171 — тэмп хуткі. Іншы раз у песню шасцідольнага размеру ўкліньваецца адзін такт другога раз-

меру, г. зн. адбываюцца пераборы рытмікі, напрыклад № 18 — з тактам на 3/8, № 186 — з тактам на 8/8 і г. д.

Прыкладам песні васьмідольнага размеру ў так званым «чыстым выглядзе» з'яўляецца № 189, які знаходзіцца ў запісах фонду ІМЭФ АН БССР. Васьмідольныя размеры ўзнікаюць у шэрагу выпадкаў — ад сумiравання тактаў, што перыядычна паўтараюцца, як гэта мае месца ў № 40: 2+6. Дзесяцідольныя напевы можна ўявіць сабе як 4+3+3 долі такту, што мы сустракаем у № 8а, або як суміраванне 4+6, што знаходзім у № 220. У нашым зборы ёсць адзінкавыя прыклады дзесяцідольных размераў у «чыстым» выглядзе — № 191, а таксама і ў дванаццацідольным размеры — № 217. Ёсць і прыклад напеву, дзе перыядычна паўтараюцца такты на 12/8 і 9/8 — № 221. Прыведзеныя прыклады № 191, 217, 220, 221 запазычаны з навейшых запісаў фонду ІМЭФ АН БССР.

Побач з напевамі чоткай тактавай рытмікі і цотных сіметрычных размераў, якія створаны пад уплывам гарадской песні, значная колькасць песень таксама, як гэта мае месца і сярод напеваў традыцыйнага сялянскага фальклору, выкладаецца ў несіметрычных размерах (хоць, трэба адзначыць, што ў «чыстым выглядзе» яны сустракаюцца не так ужо часта). Прыкладамі напеваў гэтых песень пяцідольнага размеру з'яўляюцца № 74, 215 і пачатак другога варыянта № 184. № 74 і 184 характарызуюцца зацягваннем канцоў напеваў, а № 184 цікавы тым, што з'яўляецца рэдка сустракаемым прыкладам рытмічнага паскорання сярод напеваў песень пра каханне. Тут 5/4 змяняецца на размер 5/8. Трэба адзначыць, што пяцідольны размер у шэрагу выпадкаў змяняецца на размер чатырохдольны, напрыклад № 7, або ўкліньваецца ў шасцідольны напеў — № 194. Сямідольны размер у песнях № 38, 211.

Як відаць з прыведзеных прыкладаў, большасці песенных напеваў пра каханне характэрна пераменнасць размераў, што выклікана строгай адпаведнасцю напеваў тэкстам песень. У большасці выпадкаў перабоі рытмікі можна адзначыць у наступным плане: 2/4 і 3/4 або наадварот (№ 77б, 92, 96, 116, 130). У Анталогіі можна знайсці прыклады, дзе спалучаюцца размеры 4/4, 5/4, 3/4 (№ 8, 101). У сучасных запісах на магнітафоне з прафесійнай расшыфроўкай рытміка больш складаная. Так, у запісах фонду ІМЭФ АН БССР ёсць прыклады, дзе спалучаюцца размеры 5/4, 4/4, 2/4, 5/8, 3/4, 5/4, 4/4, 2/4, 5/8, 3/4 — № 210. Або знаходзім прыклады напеваў, дзе чаргуюцца размеры 8/8, 7/8, 9/8 — № 167.

Своеасабліва спалучаюцца размеры ў песнях беларускага Палесся. Так, у № 205 (нашага збору) знаходзім размеры на 6/4 — 4+4/4 — 5+ +4/4 — і інш. Складаныя размеры знаходзім і ў рукапісных архівах Л. Мухарынскай[13] — № 196, 202. Такое багацце рытмічных малюнкаў не толькі сведчыць аб узрослым майстэрстве запісу і расшыфроўкі напеваў,

[13] АФК, ф. 10, воп. 5.

але і аб узбагачэнні саміх напеваў, аб новым этапе ў развіцці выканаўчага майстэрства народных умельцаў рэспублікі.

Безумоўна, можна прывесці шэраг прыкладаў, калі перабоі рытмікі не выкліканы сюжэтнай канвой песні, як у № 5, 163 і іншых, але вельмі часта менавіта перабоі падкрэсліваюць асобныя словы і паняцці першага куплета песні. Так, у № 32 змена трохдольнага размеру на двухдольны прыпадае на словы «за марозамі», з-за якіх не ўзыходзіць рутачка; у № 7 — змена пяцідольнага такту напеву на чатырохдольны падкрэслівае нечаканае жаданне гераіні атрымаць крылы; у № 37 — чатырохдольны такт змяняецца на трохдольны, што звязана з адносінамі дзяўчыны да свайго «міленькага» і г. д.

У шэрагу напеваў як быстрага, так і павольнага руху сустракаецца сінкапіраваны рытм. У № 34, 119 сінкопа з'яўляецца перыядычна, у № 24, 121, 125, 160 яна з'яўляецца не перыядычна. У № 176, які ўзят са збору М. Федароўскага (№ 407) і адзначаны аўтарам як кракавяк, сінкопа адпавядае рытмічным асаблівасцям танца. Сінкопа нараджае і цікавыя завяршэнні напеваў з характэрным ламбардскім рытмам ♩ ♩ 𝅗𝅥 , як у № 93а, ♪ ♩ , як у № 119.

У сувязі з тым, што шмат якія беларускія народныя песні пра каханне меншага дыяпазону, чым секста, септыма, або актава, гаварыць аб іх ладавай аснове нельга. Размова можа толькі ісці аб іх характэрных ладавых трываннях. Напрыклад, напевы на пентахордзе № 138, 183 маюць мажорную афарбоўку; напевы № 184, 195, 211 — мінорную. Больш выразнае вызначэнне ладавага трывання дае гексахордавы гукарад (№ 2, 6, 55, 59, 103, 109, 187 і інш.).

Напевы песень пра каханне, гукарад якіх складаецца з сямі, васьмі, дзевяці, дзесяці гукаў, даюць магчымасць адзначыць лад напеву і сведчаць аб значнай ролі, якую адыгрываюць тут натуральны мажор, міксалідыйскі лад, натуральны і гарманічны мінор. Прыкладам сямігучных гукарадаў напеваў міксалідыйскага ладу ў нашым зборы будуць № 15а, 70, 93 і іншыя, васьмі — № 93а, дзевяці — № 96, 110, 130.

Напевы, якія выкладаюцца ў натуральным мінорным ладзе, вядома, утрымліваюць у гукарадзе натуральную септыму. Ход ад V ступені ладу да VII натуральнай — з'ява частая сярод беларускіх народных песень пра каханне. Такія прыклады мы знаходзім у напевах № 28, 37. Тут VII натуральная ступень пераходзіць у VI. У № 109а — септыма бярэцца скачком уверх і таксама пераходзіць у VI ступень гукарада. Між іншым, у гэтым прыкладзе мы маем справу з так званай «паветранай септымай» — натуральная VII ступень з'яўляецца вяршыняй септакорда.

Прыкладам, калі септыма бярэцца скачком уніз і адыгрывае ролю ніжняга дапаможнага гуку да тонікі, з'яўляецца № 120, дзе падкрэсліваецца ўстаўное прыпеўнае слова «Гэй!» (выкрык). У № 94 VII натуральная

паяўляецца плаўным нізыходзячым рухам напеву, пасля чаго адбываецца скачок на кварту ўверх. Тое ж самае мае месца і ў № 118. У гэтым напеве септыма адыгрывае ролю дапаможнага гуку — апявае тоніку.

У напевах беларускіх народных песень пра каханне можна сустрэць і гарманічны мінор, што сведчыць аб уплыве гарадскога фальклору. Гэта характэрна для напеваў пазнейшага паходжання і звычайна гарманічны, уводны тон, паяўляецца ў рэгістры ніжэй тонікі (№ 111), аднак, у гэтым напеве прыкметны ўплыў дамінантавага ладу. Як гэта часта бывае ў рускай народнай песні, верхняя частка напеву выкладаецца ў натуральным міноры.

Нельга не адзначыць і прыклады, дзе ўводны тон паяўляецца і ў верхнім рэгістры, г. зн. вышэй тонікі ладу (№ 108а). Тут трэба падкрэсліць, што рух у напеве ад уводнага тону да VI ступені прыводзіць да малахарактэрнай для беларускага меласу інтанацыі павялічанай секунды. Разам з тым трэба звярнуць увагу на тое, што нават існаванне ў адным напеве VII уводнай і натуральнай ступеней не прыводзіць да храматычнага руху. Храматызм тут прадстаўлен «у разбіўку». Тое ж самае і ў напевах № 71в, 127, 172 і інш. Такі ж пазбег храматызму назіраецца і пры супастаўленні VII ступеней іанійскага і міксалідыйскага ладоў (№ 77б, 175).

Можна сустрэць і асобныя прыклады, калі напеў у натуральным міноры спалучаецца з паралельным мажорам (№ 21а — рэ-фа-рэ). Іншы раз у напеве мажор супастаўляецца з натуральным мінорам (№ 8″) або з паралельным гарманічным мінорам (№ 50). Такі прыклад ладавай пераменнасці пры розных танальнасцях прыводзіць да зрухаў асноўнага ўстою на тэрцыю ўніз. Прыкладам супастаўлення міксалідыйскага ладу з гарманічным мінорам з'яўляецца № 64.

Супастаўленне танальных апор у межах аднаго і таго ж ладу таксама сустракаем сярод песень пра каханне. Напрыклад, у № 46 супастаўляюцца танальныя апоры, якія знаходзяцца адзін ад другога на адлегласці інтэрвалу квінты. Можна прывесці прыклады такіх напеваў, у якіх супастаўляюцца дамінантавы лад з аднайменным натуральным мінорам (№ 108), мажор і аднайменны міксалідыйскі лады (№ 63).

З іншых ладавых утварэнняў, якія мы знаходзім у гэтым зборы напеваў, адзначым фрыгійскі лад, а больш дакладней — фрыгійскія формулы некаторых напеваў. Так, гэта датычыцца № 105, аднак паяўленне ля-бемоля надае яму лакрыйскі каларыт. У № 144 адчуваецца ўплыў дамінантавага ладу. Дарыйскі абарот асабліва адцяняе напевы № 95, 178. Характэрна, што калі першая песня бадзёрага зместу, то другая змрочная. Гэта сведчыць аб тым, што лад і змест песні не заўсёды залежаць адзін ад аднаго.

У шэрагу напеваў беларускіх народных песень пра каханне наглядаюцца беспаўтонавыя формулы, г. зн. яны пабудаваны на ангемітонным гукарадзе (№ 85, 120). Нягледзячы на тое што напеў № 182 заснаваны на

гукарадзе запоўненай квінты, у ім таксама адсутнічаюць паўтонавыя супражэнні. Такія напевы прадстаўляюць сабой прыклады «4-х ступеннай ангемітонікі» (К. Квітка). У песнях № 29, 125 толькі ў першай частцы напеваў беспаўтонавыя формулы.

Напевы беларускіх народных песень пра каханне цесна звязаны з паэтычнымі тэкстамі і іх пабудовай. Асноўная форма напеваў — двухчасткавая, што вынікае са страфічнай пабудовы тэкстаў песень: A+B — перыяд унутрыкантрастнай пабудовы з двух нясходных сказаў. Пры гэтым могуць быць парныя меладычныя паўторы кожнага верша страфы: AA+BB, або з паўтарэннем вар'іруецца кожная частка: AB+A″B″. Часта A адыгрывае ролю сольнага запеву, B — сольны прыпеў ці харавы падхват (№ 8а).

Пабудова A+B можа быць выклікана дыялогам унутры куплета. Напрыклад, № 28, дзе прыводзіцца дыялог маткі з сынам. У напеве гэта раскрываецца кантрастам напрамку меладычных ліній (у сына гэта ўзыходзячы рух, у маткі — ідучы ўніз), розным завяршэннем кожнага сказу: першы на дамінанце, другі на тоніцы. Прыкладам песні з дыялогам унутры куплета з формулай пабудавання AA+B можа быць № 89а. Тут першы сказ заключае пытанне, другі — адказ. Яны выразна адрозніваюцца адзін ад другога дыяпазонам (дэцыма і секста), інтанацыямі (у «адказе» адсутнічаюць хады на квінту ўверх), памерам, рытмічным малюнкам, ладам. № 77б таксама мае структуру «пытанне» і «адказ», формула яго пабудовы A+BB. Тут другі сказ мянее танальнасць, выкладаецца двухгалоса. Паўтор напеву другога сказа быў выкліканы паўторам тэксту песні і прывёў да пашырэння формы напеву. У № 30 «пытанне» і «адказ» выклікалі другі тып пабудовы — AB+CB.

У некаторых двухчасткавых песнях тыпу AA′+BA″ змест часта характарызуецца паэтычным паралелізмам. Так, у № 34 другі сказ дапаўняе «пытанне», праводзячы паралель паміж рачной плынню і слязамі дзяўчыны. Адпаведна індывідуалізавана і меладычная пабудова гэтай песні. У першым сказе дыяпазон запоўненай квінты, сінкапіраваны рытм; у другім — запоўненая септыма, больш высокі рэгістр выкладання, уведзена VII ступень міксалідыйскага ладу.

Частай з'явай у песнях пра каханне з'яўляецца паўтор напеваў пры паўторы тэксту песні (№ 108″, 157 і інш.). Аднак бывае і наадварот, калі паўтор музыкі не выкліканы паўторам тэксту — № 55, 56. У некаторых выпадках (№ 29, 91 і інш.) паўтор тэксту не выклікае паўтору напеву. Цікава прывесці прыклад люстэркавай рэпрызы ў пабудове напеву. Такім з'яўляецца № 71, пабудову якога можна схематычна акрэсліць як AB+B″A.

Некаторыя напевы песень пра каханне характарызуюцца не простым паўторам асобных формул мелодыі, а секвентным выкладаннем (№ 38, 33, 122). Часцей за ўсё яна сустракаецца ў другой частцы напеву, але ёсць

прыклад і ў першай частцы (№ 129). Побач з сіметрычнай і квадратнай пабудовай песеннай формы гэтых твораў знаходзім нямала прыкладаў з неквадратнай і не цотнай колькасцю тактаў. Тут і пяцітакты, як у № 11, і пятнаццацідольнік, вытворны ад украінскай каламійкі,— № 162, і сямітакты, якія складаюцца з 4-х і 3-х тактаў (№ 161): дзевяцітакты, пабудова якіх можа быць азначана як 3+3+3 такты (№ 60): чатырнаццацітакты з пабудовай 4+3+4+3 такты (№ 85а). Сустракаюцца нават пятнаццацітактавыя пабудовы (№ 98″) з пабудовай 2+3+2+3+2+3.

Як ужо адзначалася, у некаторых песнях напевы складаюцца не з двух, а з трох самастойных элементаў — A+B+C+B (№ 22). Своеасаблівая пабудова напеву № 6 (ab)+(cd)+(eb)+(c′b′). Шырокае развіццё атрымала пабудова напеву № 46, якая вылучаецца выразнымі кадансамі. Яна можа быць прадстаўлена як 2A+B+C, дзе «C» змяшчае некаторыя інтанацыі «B». У песні даецца выказванне ад аўтара і дыялог сокала з галкай. У другой частцы песні пашыраецца дыяпазон напеву, адбываецца пераход у танальнасць на квінту вышэй (на словах галкі «не твая, не твая»).

Важную ролю ў фарміраванні напеваў беларускіх песень пра каханне адыгрывае трэцяя чвэрць напеву — «пункт залатога сячэння». Перш за ўсё тут часта знаходзяцца кульмінацыйныя пункты напеву — то глыбінная, то вышынная кульмінацыі. Таксама пашыраецца дыяпазон, змяняецца фактура выкладання, рытмічны малюнак, інтанацыйны склад, ладавая арганізацыя і інш.

Так, у № 22 на трэцяй чвэрці не толькі ўпершыню з'яўляецца самы нізкі гук напеву (до-дзіез), але і характэрныя прызнакі ладу (рэ-бекар — міксалідыйскага «мі»). Усё гэта падкрэслівае зварот героя да «муравушкі». Тое самае і ў № 94 — тут самы нізкі гук — мі-бемоль, вызначаецца натуральны мінорны лад, падкрэсліваецца слова «жалю». У № 65 — у III чвэрці вызначаецца лад гарманічнага мінору, падкрэсліваюцца словы «а што я думаю, красну дзеўку кахаю». У № 53 — III чвэрць прыпадае на словы юнака, які аплаквае свае «маладыя гады». Тут таксама выяўляецца лад напеву (натуральны мінор) і г. д.

Аднак часцей за ўсё III чвэрць звязана з вышыннай, а не з глыбіннай кульмінацыяй, зноў-такі выкліканай зместам песні: № 89а («зламілі мяне»), № 50 (гаворыцца аб тым, што юнак выбраў «бялявую» дзяўчыну, што падкрэслена яшчэ інтанацыяй паменшанай кварты). У № 179 падкрэсліваюцца словы «пасеяць гора па чыстаму полю» і г. д.

Часта ў прыпевах беларускіх народных песень пра каханне з'яўляюцца так званыя «ўкаранёныя» — устаўныя прыпеўныя — словы. Яны, як правіла, з'яўляюцца ў другой частцы песеннай страфы і таксама сваім пачаткам прыпадаюць на III чвэрць або на мяжу з ёй. У напевы «ўкаранёныя» словы заўсёды падкрэсліваюцца новымі для яго сродкамі выразна-

цці. У № 22 гук, які падае на вокліч «Гэй!», бярэцца скачком на кварту ўверх, вытрымліваецца фермата, пасля чаго адбываецца адваротны рух на той самы інтэрвал. Між тым, для ўсяго напеву характэрна плаўнасць меладычнай лініі.

У № 6 «укаранёныя» словы «войля, войля», якія гучаць на III чвэрці напеву, вылучаюцца паўзамі ♪ ♪ 𝄾 ♪ ♪ 𝄾. У № 162 (шасцітакт) словы «да, гэй» з'яўляюцца на мяжы IV і V тактаў, падкрэслены новай для гэтага напеву рытмічнай фігурай ♪ | ♩. ♪. У № 120 (сямітакт) словы «да, гэй» знаходзяцца на мяжы III і IV тактаў і адзначаюцца хадамі ў напеве на кварту ўверх з наступным скачком на квінту ўніз. У № 60 на III чвэрці прыпеўныя словы «Ой, люлі» падаюць на вышынную кульмінацыю. Распевы і паўзы на вокліч «гэй» знаходзяцца і ў № 85а.

Аднак было б памылкова лічыць, што кульмінацыя ў беларускіх народных песнях пра каханне заўсёды прыпадае на III чвэрць напеву. Для шэрагу выпадкаў гэта не характэрна. Так, у № 6 яна знаходзіцца на другой чвэрці, там таксама з'яўляюцца распевы, новая рытмічная фігура. І асабліва ж вышынная кульмінацыя характэрна для цэлага шэрагу напеваў у адпаведнасці з моўным тэкстам песні: «Ой, белая бярозанька» (№ 52); «Ой ты, цёмная вечарынанька» (№ 81); «Ой, заржы, заржы, сівы коніку» (№ 112); «Ой, вяду бяду» (№ 44, аднак у гэтым напеве некалькі кульмінацый і спадаў). Можа быць, што кульмінацыя не заўсёды звязана з воклічам ці са зваротам да героя песні, часам яна з'яўляецца простым сцвярджэннем або канстатацыяй, як у песні «Устану, устану я раненька» (№ 15а).

Ужо адзначалася, што шмат напеваў пачынаецца ўнізідучым гамападобным рухам. Тут «вяршыня-крыніца» і з'яўляецца верхнім кульмінацыйным гукам напеву. Гэта ж мы сустракаем і ва ўступах песень з унізідучым рухам раскладзенага трохгучча ці 6/4. Шмат песень у дадзеным зборы пачынаюцца воклічам «ой!» — на кульмінацыі ці без яе.

Запісы беларускіх народных двухгалосых песень пра каханне амаль не сустракаюцца ў фальклорных зборах дакастрычніцкага часу. Іх няма, напрыклад, у зборах М. Федароўскага, І. Сербава[14], А. Грыневіча і А. Зязюлі[15], І. Здановіча[16]. Нават у сучасных зборах яны складаюць нязначную частку. Напрыклад, у першым томе велізарнага збору Р. Шырмы іх усяго шэсць. Між тым, двухгалосыя песні пра каханне ў быце займаюць значнае месца. Пры тым трэба адзначыць, што трохгалоссе з самастойным правядзеннем напеву трэцяга голасу амаль не сустракаецца.

---

[14] И. А. Сербов. Белорусы-сакуны. Пг., 1915.

[15] Biełaruskije pieśni z notami. Sabrali A. Hryniewič i A. Ziaziula, t. II. Pieciarburh, 1912.

[16] И. К. Зданович. Народные песни Западной Белоруссии. М., 1931.

У дадзеным зборы прыводзіцца толькі некалькі прыкладаў, калі ў двухгалосай мелодыі месцамі ўтвараецца тры або чатыры галасы. Гэтыя прыклады ўзяты са збораў Г. Цітовіча, Э. Ледаховіча, Л. Мухарынскай (асабісты архіў), фонду ІМЭФ АН БССР — № 109б, 109в, 163, 193, 199.

Можна прывесці некалькі тыпаў двухгалосся: найбольш часты выпадак, калі песню пачынае запявала-саліст, а потым хор (больш рэдка — другі голас). Ёсць прыклады, калі другі голас гучыць адначасова з першым і можа гучаць вышэй яго і ўтвараць «падводку». Ёсць шмат прыкладаў такога двухгалосся, калі абодва галасы гучаць сінхронна, па прынцыпу «нота супроць ноты». І рэдка калі ў адным з гэтых галасоў сустракаюцца «распевы», якія надаюць характар «кампліментарнай» рытмікі (№ 5, 21а, 126, 129). Напевы гэтыя запазычаны з Анталогіі, а № 155 — са збору Э. Ледаховіча.

Яскравыя прыклады напеваў з «падводкай» прыводзяцца ў кнізе З. Мажэйкі, дзе дадзены ўзоры фальклору Палесся (№ 207, 208, 209). Тут сустракаем і прыклады поліфытміі (№ 197, 204, 205, 207, 208). Прыклады, якія ілюструюць супастаўленне «саліст» і «хор», знаходзім у Анталогіі — № 76, 140, у запісах Мухарынскай (№ 196, 218‴), у фондзе ІМЭФ АН БССР (№ 193) і інш.

Трэба адзначыць, што двухгалоссе беларускіх народных песень пра каханне, як правіла, не выклікана асаблівасцямі тэксту (напрыклад, № 5а, 21а, 58 і інш.), але ў песнях у першым куплеце сувязь з тэкстам назіраецца (другі голас быццам падкрэслівае тое, аб чым гаворыцца), аднак у наступных куплетах гэта сувязь прападае. У песнях № 21а, 37, 218 і іншых з'яўленне другога голасу або хору звязана з імкненнем падкрэсліць у тэксце песні паэтычны паралелізм, які ў ім закладзены. Напрыклад: «Што за месяц, што за ясны — уночы свеціць, а ў дзень не» (выкладаецца аднагалосна), «Што за міленькі дружочак — калі прыйдзе, калі не» (гучыць двухгалосна).

У некаторых песнях уступ другога голасу звязаны з дыялагічнай пабудовай паэтычнага тэксту. Напрыклад, № 776 — гэта дыялог з хмелем, № 217 — дыялог з казачэнькам. Ёсць прыклады, калі другі голас з'яўляецца сродкам выдзялення простай мовы, такі № 35, дзе гучыць простая мова каліны: «павей, павей ціхі ветрык, каб я тут не тужыла»; у № 216″ — размова дзяўчыны з маці — «растацца з табою» і інш.

Іншы раз уступ хору перадае нешта трагічнае. Так, у № 99 — «знаць мой міленькі мяне пазабыў»; у № 126 — «калыхала дзяўчыненька сына, дочку», у № 218″ — «давяла любоў да гора».

У двухгалосых песнях больш частае разыходжанне паміж галасамі — вялікая або малая тэрцыя. Такі «ланцужок» тэрцый мы знаходзім у прыкладах № 12, 99, 115, 135а і інш. Але ў такіх песнях тыповая змена тэрцавага гучання ўнісонам ці разыходжаннем у актаву. У «чыстым» выглядзе

разыходжанне галасоў толькі ў тэрцыю — з'ява рэдкая. Звычайна, хоць аднойчы, але назіраецца разыходжанне галасоў у кварту, квінту ці сексту (№ 21а, 108″). Іншы раз рух галасоў у тэрцыю роўнымі працягласцямі з паўторамі гукаў мае выяўленчае значэнне. Так, у № 12 паўтараюцца словы «едуць, едуць мазурочкі, вязуць, вязуць барвіночкі». Есць прыклады, калі з тэрцавай уторай выкладаюцца прыпеўныя словы, якія вылучаюцца паўзамі, у № 85а—шырокі распеў тэрцыямі на словах «гэй, гэй»; № 135а—песня рускага паходжання з распевам у тэрцыю на склад «эй» і г. д.

Цікавасць маюць песні, дзе разыходжанне галасоў у секунду. Звычайна такія секунды прыпадаюць на словы, якія маюць асаблівы сэнс у тэксце: «не чуць... відаць» — каханага дзяўчыны (№ 155); «белая» — менавіта белая бяроза (№ 58) і інш.

Іншы раз паміж галасамі ўзнікае інтэрвал септымы. Так, у № 5 ёсць дзве паралельныя септымы, якія стварыліся пaступовым рухам галасоў, пры гэтым абодва галасы скачкамі ўверх ці ўніз пераходзяць у тоніку ладу — зыходзяцца ва ўнісон. У № 109б септыма пераходзіць у квінту.

Безумоўна, можна знайсці прыклады, дзе двухгалосыя напевы завяршаюцца тэрцавым сугуччам (№ 18) або квінтавым (№ 136, 168), але гэта рэдкае выключэнне. Звычайна завяршэнне двухгалосых песень пра каханне ўстойлівае — гэта ўнісон ці актава. Такіх прыкладаў можна прывесці мноства. У фондах ІМЭФ АН БССР знаходзіцца шэраг запісаў народных песень пра каханне, якія завяршаюцца ланцугом паралельных актаў (№ 193 — напеў трохгалосага складу; № 203, 214, 215, 216).

Пры разыходжанні галасоў у актаву ў канцы напеваў назіраецца некаторая агульнасць прыёмаў. Так, у запісах у зборы В. Захаравай[17] верхні голас рухаецца на кварту ўверх, а ніжні больш плаўна — на секунду ці тэрцыю (№ 123, 124). У Цітовіча шмат такіх прыкладаў (№ 1, 61, 77б, 90, 104, 113, 140, 165 і інш.). У шэрагу прыкладаў, якія прыводзяцца з Анталогіі Цітовіча, верхні голас утварае скачок на квінту, а ніжні плаўна апускаецца на секунду ўніз — № 8, 85а і г. д. Тое самае і ў зборы М. Чуркіна — № 98. З запісу Г. Цітовіча ў наш збор узят напеў, які вельмі цікавы новым утварэннем актаўнага разыходжання галасоў — № 135а. Тут ад унісону двух галасоў — верхні голас робіць скачок на септыму ўверх. Такім чынам, можна адзначыць, што ва ўсіх выпадках верхні голас больш рухавы, чым ніжні.

Разыходжанне галасоў у актаву сустракаем не толькі ў канцоўках напеваў, але і ў сярэдзіне, таксама як і звядзенне галасоў ва ўнісон. Прыклады разыходжання галасоў у актаву ўнутры напеву наступныя: № 126, 193, 218″. У № 218″ нават утвараюцца паралельныя актавы.

---

[17] Беларускі фальклор у сучасных запісах. Складальнік В. А. Захарава. Мн., 1973.

* * *

Цеплыня, сардэчнасць, задушэўны лірызм беларускіх народных песень пра каханне з даўніх часоў звярнулі на сябе ўвагу прафесіянальных музыкантаў. Першыя звесткі аб канцэртным выкананні гэтых песень звязаны з сусветна вядомай сваімі гастролямі па гарадах Еўропы і Злучаных Штатаў Амерыкі харавой капэлай Д. А. Агрэнева-Славянскага, якая была створана ў 1868 г. У рэпертуарным зборы гэтай капэлы, які быў выдадзены ў 1896 г.[18], знаходзіцца песня «Проці жаркага сонца», якая зараз больш вядома ў варыянце пад назвай «Устану, устану я раненька» (скарочана яе называюць «Чарнаморац»). У 1888 г. чэшскі вучоны-фальклярыст і мастак Л. Куба ў IV выпуску сваіх апрацовак песень славянскіх народаў дае два варыянты песні «Туман, туман па сіняму мору»[19]: для вакальнага квартэта мужчынскіх галасоў (два тэнары і два басы) без суправаджэння і ў выглядзе клавіра.

У пачатку нашага стагоддзя трэба адзначыць харавую апрацоўку песні без суправаджэння «За гарамі, за лясамі», якая змешчана ў адным з першых збораў апрацовак беларускага фальклору таго часу — у «Беларускім песенніку з нотамі» Л. Рагоўскага (1911). Гэты песеннік прысвечаны I. Буйніцкаму. Апрацоўка песні належала будучаму літоўскаму кампазітару-класіку, а ў той час яшчэ студэнту Пецярбургскай кансерваторыі — Ст. Шымкусу. Праз два гады Ст. Шымкус выкарыстаў беларускія народныя песні пра каханне для музычнага афармлення «Паўлінкі» Янкі Купалы. Гэта былі песні «Зялёны дубочак», «Ой, ляцелі гусі», «Рабіна, рабіначка».

У паслякастрычніцкі перыяд беларуская народная песня пра каханне атрымала другое жыццё ў шматвобразнай творчасці нацыянальных кампазітараў і іх сяброў з іншых савецкіх рэспублік. Песні сталі шырока выкарыстоўвацца ў творах самых разнастайных жанраў: апрацоўка для голасу ў суправаджэнні фартэпіяна, для хораў а капэла і з суправаджэннем; напевы песень гучаць у сімфанічнай, балетнай і камерна-інструментальнай музыцы. Пры гэтым некаторыя з песень пра каханне сталі асабліва часта выкарыстоўвацца самымі разнастайнымі кампазітарамі як Беларусі, так і Масквы, Украіны, Літвы, Польшчы.

Першая спроба ў апрацоўцы народных песень пра каханне ў паслякастрычніцкі перыяд была зроблена ў 1922 г. Гэта былі апрацоўкі Тэраўскага, якія ён выдаў у «Беларускім лірніку» — спеўніку на чатыры галасы:

---

[18] Д. А. Агренев-Славянский. Сборник песен, исполняемых в народных концертах Дмитрия Александровича Агренева-Славянского, собранных в России и славянских землях Ольгою Христофоровной Агреневой-Славянской. М., 1896.

[19] Цікава адзначыць, што гэта ж песня была змешчана і ў другім выданні першага выпуску збору «Народні українські пісні з голосом». Зібрані, споряжені і видани Олексієм Гулак-Артемовским. Київ, 1883, № 55.

«А ў садзе рэчанька», «Што за месяц», «Дзе ты, хмелю, зімаваў», «За гарамі, за лясамі», «Зялёны дубочак», «Ой, вяду бяду», «Ты, дубочак», «Ці ўсе лугі пакошаны». Аднак гэтыя апрацоўкі былі слабымі і мала ўдалымі. М. Анцаў зрабіў апрацоўку песні «Вецер вее, сонца грэе».

Першае яркае выкарыстанне беларускіх народных любоўных песень у 20-я гады звязана з напевам песні «Устану, устану я ранеңька». Ён прагучаў у першым беларускім сімфанічным творы — у сімфаньеце «Беларускія малюнкі» М. Чуркіна (1924). Энергічны, быстры, ярка мажорны напеў гэтай песні, якую кампазітар паклаў у аснову галоўнай партыі першай часткі твора, надае музыцы жыццесцвярджальны, прыўзняты характар. Трэба адзначыць, што апрацоўку гэтай жа народнай песні для хору а капэла ў канцы 20-х гадоў стварыў М. Аладаў. Яна пад назвай «Проці жаркага сонца» з'явілася адным з першых выданняў у рэспубліцы (1930).

Дарэчы, другі народны напеў песні «Пайшоў Ясь наш на лужок» гучыць у фінале сімфаньеты М. Чуркіна. Гэты ж напеў у іншым варыянце выкарыстаў М. Аладаў у фінале Другой сімфоніі (1931).

Большая частка апрацовак песень пра каханне напісана для харавой музыкі а капэла. Гэта звязана, відаць, з тым, што беларуская харавая традыцыя — спевы без акампанементу. Сярод вядомых апрацовак беларускіх аўтараў можна назваць: «А ў полі ніўка», «А ў садзе рэчанька» М. Аладава; «А ў полі вярба», «А за лікімі за марозамі», «Ой ты, цёмная вечарыначка», «Ой, ляцелі гусі», «Ты, дубочак зеляненькі» Я. Цікоцкага; «Каліна-маліна дзесятага году», «Каліна-маліна», «Ты дубочак зеляненькі», «Ляцела зязюля» А. Багатырова; «Ой, у полі дуб» В. Залатарова; «А калі ж той вечар», «А ў полі крынічанька» І. Кузняцова; «Цацілася ды ясная зорачка», «Ой, ды зарадзілі», «Ты, чырвоная каліна» І. Любана; «Каціласе чорна галка», «Ой, ляцелі гусі з броду» П. Падкавырава; «А ў лесе на дубочку», «Ляціць сарока», «Рабіна, рабіначка», «Ляцела зязюля» Г. Пукста; «А ў полі вярба» В. Яфімава і інш. У некаторыя хоры а капэла ўключаны партыі саліруючых галасоў. Апрацоўка Я. Цікоцкага «Ці ўсе лугі пакошаны» для двух салістаў і хору нават нагадвае сцэну з оперы:

| | |
|---|---|
| Ці ўсе лугі пакошаны,<br>Ці ўсе сенажаці?<br>Пытаецца сын у мацеры,<br>Каторую ўзяці. | Ад аўтара пяе хор. |
| А ці тую багатую,<br>Што прыгожа ходзіць,<br>А ці тую сіротаньку,<br>Што возьме — усё зробіць? | Выконваюць саліруючы альт і барытон стрэтным уступленнем галасоў. Другі радок падхоплівае мужчынская група хору. Апошні радок куплета падхоплівае жаночая група. |
| Багатая няўдалая<br>Ў садочку гуляла,<br>А бедная сіротанька<br>Тры капы нажала. | Выконвае саліруючы барытон. Другі радок паўтарае мужчынская група хору. Апошні радок падхоплівае жаночая група хору. |

| | |
|---|---|
| А ў багатай ды няўдалай<br>Валы ды каровы,<br>А ў беднай ды прыгожай<br>Толькі чорны бровы. | Выконвае саліруючы альт. Другі радок паўтарае мужчынская група хору, апошні радок — увесь хор. |
| А ў багатай багатыркі<br>Валы паздыхаюццъ,<br>А ў беднай сіротанькі<br>Броўкі не зліняюць. | Выконвае саліруючы барытон. Другі радок паўтарае мужчынская група хору, а апошні — увесь хор. |
| Багатая багатырка<br>Па воліках плача,<br>А бедная сіротанька<br>Ў карагодзе скача. | Выконвае ўвесь хор. |

Для хору а капэла стваралі апрацоўкі і рускія кампазітары. Так, вядома пяцічасткавая «Сюіта на тэмы беларускіх народных песень» А. Копасава — твор, прысвечаны Дзяржаўнаму хору БССР (1940). Некаторыя песні былі напеты кампазітару Л. П. Александроўскай. Сярод песень Сюіты ёсць і песні пра каханне: «І туды гара, і сюды гара», «А ў полі вярба», «Ці не быстрая рэчка». Г. Лабачоў выкарыстаў песню «А за ліхімі за марозамі», А. Сапожнікаў — «Ляціць сарока», А. Свешнікаў — «Ой, рэчанька-рэчанька», «А ў полі вярба». Украінскія кампазітары таксама стварылі шэраг апрацовак, напрыклад, А. Кошыц — «Закувала зязюлька», «А ў полі вярба», А. Пашчанка — «Ты, дубочак зялянелькі», Т. Стэльмашчук — «А ў полі вярба». Літоўскі кампазітар К. Галкаўскас — аўтар апрацовак «Вылецела галка», «Ці свет, ці світае», «Ой, плылі гусёлкі», «Вецер вее, сонца грэе» і інш.

Амаль для ўсіх з названых твораў — для хора а капэла — уласціва маляўнічае супастаўленне асобных харавых груп, цесная сувязь з тэкстам песні. Адсюль і падкрэсліванне дыялогаў, утварэнне некаторых апрацовак песень па прыкладу батлеечных прадстаўленняў, музычныя сцэнкі. У шмат якіх выпадках у фактуры выкладання харавых партый прыкметны прыёмы гуртавых песень. Гарманічная мова апрацовак простая, хаця і не носіць рысы стылізацыі. Тут маем прыклады ўвядзення ў харавыя партыі храматызмаў, сугуччаў павялічаных і паменшаных трохгуччаў.

Больш непасрэдныя харавыя апрацоўкі, якія набліжаюцца да народных узораў. Яны створаны нацыянальнымі кампазітарамі спецыяльна для харавых народных калектываў галоўным чынам у 30-я гады — у перыяд іх масавага фарміравання. Большасць з гэтых апрацовак таксама выконваюцца а капэла. Такія, напрыклад, І. Любана «Ой, рэчанька, рэчанька», «Зацвілі садочкі»; Н. Сакалоўскага «Што за месяц», а ў пасляваенны час К. Паплаўскага «Закаці, яснае сонейка», «Зялёны дубочак, шырокі лісточак», «Ляціць сарока», «У полі бяроза»; Г. Цітовіча «Рабіначка», «За гарамі, за лясамі», «Зацвілі садочкі», «Каб я тое знала», «Малады дубочак», «Ой, рэчанька, рэчанька», «Вяне рута», «Ой, да белая бяроза», «А ў

лесе на дубочку»; Г. Пуксты «А у лесе на дубочку»; І. Сушко «Праз цёмны лясок»; С. Палонскага «Што за месяц», «Вецер вее, сонца грае».

У такім жа нескладаным выглядзе створаны апрацоўкі для хору і фартэпіяна. Іх першыя спробы адносяцца таксама да 30-х гадоў. Такія апрацоўкі знаходзім сярод твораў А. Клумава «А ў полі вярба», «Ці не быстрая рэчка»; А. Туранкова «Забалела ды мая галованька»; М. Чуркіна «І туды гара, і сюды гара».

У іншым плане выкладаюцца апрацоўкі беларускіх народных песень пра каханне, якія створаны для голасу ў суправаджэнні фартэпіяна (ёсць прыклады з суправаджэннем баяна). У рэспубліцы іх стварэнне пачалося ў 30-я гады. Першыя прыклады знаходзім у А. Багатырова — «Чырвоная каліна», «Ой, ды зарадзілі», «Што за месяц». Гэта апошняя народная песня была апрацавана і іншымі кампазітарамі 30-х гадоў — В. Яфімавым, А. Клумавым, С. Палонскім. Ужо ў пасляваенны час Я. Цікоцкі выкарыстаў сваю апрацоўку песні «Што за месяц» у музычным афармленні спектакля «Паўлінка» ў тэатры імя Я. Купалы. Тут гэта песня выкладаецца голасам у суправаджэнні тэатральнага аркестра.

Рускі кампазітар В. Тарнапольскі, які атрымаў ад спявачкі Ірмы Яунзем гэту песню, апрацаваў яе для канцэртнага рэпертуару ў выглядзе яркіх варыяцый, цікавых сваімі маляўнічымі гармоніямі. У 30-я гады некалькі беларускіх народных песень пра каханне ўключыў у сваю беларускую сюіту рускі кампазітар М. Красеў. Ён выкарыстаў уласныя фальклорныя запісы: «Зялёны дубочак», «Ой, зарадзіла красна, буйна», «Прыляцелі гусі», «Ты, чырвоная каліна». Апрацоўкі зроблены і кампазітарам А. Грачанінавым. Сярод іх — «Зялёны дубочак». К. Галкаўскас для голасу і фартэпіяна напісаў апрацоўку песні «А за ліхімі за марозамі», польскі кампазітар С. Каруза — «Малады дубочак».

Вялікую цікавасць мае апрацоўка для голасу і фартэпіяна песні «Кацілася чорна галка», якую стварыў у 1954 г. А. Багатыроў. Значную ролю тут адыгрывае акампанемент самастойнага значэння. У вакальную партыю ўводзіцца віртуёзная кадэнцыя. Прынцып выкладання апрацоўкі мае шмат агульнага з харавымі апрацоўкамі гэтага часу. Так, асацыіруючы прыпеў песні з вобразам сокала-пана, кампазітар уводзіць мелодыю прыпеву ў расказ сокала. Вакальная ж кадэнцыя без слоў выражае іронію, якая ў тэксце падкрэсліваецца словамі «Не твая, не твая» (бедная сіротка-галка адвяргае пана-сокала). Мелодыя кадэнцыі носіць насмешлівы характар, хоць яна і блізкая напеву песні.

Пачынаючы з сімфаньеты М. Чуркіна і Другой сімфоніі М. Аладава, да нашага часу з вялікім поспехам выкарыстоўваюцца беларускія народныя песні пра каханне для стварэння твораў буйных форм. У Другой сімфаньеце (1949) М. Чуркін звярнуўся да жалобнай лірычнай тэмы і выкарыстаў напеў песні «Ой, рэчанька, рэчанька». Ён гучыць таксама і ў лірычным цэнтры — «Карагодная» — сімфанічнай «Беларускай танцавальнай

сюіты» (1937) В. Залатарова. Кампазітар захоўвае характэрны размер напеву — 4/4+3/4+3/4. Асаблівае хараство музыцы надае тут сола габоя на фоне астынатнага суправаджэння струнных інструментаў аркестра. Таксама ў плане карагоднай і ў лірычным аспекце выкарыстан напеў песні «Ой, рэчанька, рэчанька» ў балеце Г. Вагнера «Святло і цені» (1962). Між іншым, і ў балеце, і ў сюіце народнаму напеву дадзена яскравая гарманічная афарбоўка. «Ой, рэчанька, рэчанька» гучыць і ў Дзевятай сімфоніі (1967) М. Аладава.

Беларускія кампазітары неаднаразова звярталіся і да напеву песні «Зялёны дубочак, шырокі лісточак». У шэрагу выпадкаў гэты напеў выступае ў якасці вальсавай тэмы. Вальсам проста так і называецца частка з сімфанічнай «Танцавальнай сюіты» М. Чуркіна (1950). Яна часта выкарыстоўваецца як самастойны канцэртны нумар. У вальсавым руху, інтанацыйна і гарманічна ўзбагачаным, А. Багатыроў выкарыстаў гэты напеў народнай песні ў другой частцы Другой сімфоніі (1946, 1956), пры тым інтанацыі напеву пранізваюць увесь твор і служаць для стварэння новых тэматычных утварэнняў. На працягу сімфоніі гэты напеў гучыць то трагічна, то носіць урачыста-велічны характар.

У кантаце А. Багатырова «Беларусь» (1949) інтанацыі напеву «Зялёны дубочак» гучаць у першай і апошняй частках твора і развіваюцца. Да гэтага напеву звярнуліся Д. Камінскі ў Другім фартэпіянным канцэрце (1953) і ў канцэрце для двух цымбалаў (пабочная партыя), Л. Абеліёвіч— у фінале Першай сімфоніі (другая тэма, 1962), Я. Глебаў — у Другой сімфоніі (1963), М. Аладаў — у Варыяцыях і Скерцо для секстэта медных духавых інструментаў.

Вялікую папулярнасць у беларускіх кампазітараў атрымаў таксама напеў песні «Ты, чырвоная каліна». Ён гучыць у сімфанічнай «Беларускай сюіце» А. Туранкова (1933), у Першай сюіце Г. Пукста, у другой частцы Першай сімфоніі Я. Цікоцкага (1929), у канцэрце для голасу Я. Глебава, у вальсе М. Чуркіна з «Танцавальнай сюіты». Інтанацыі песні «Ты, чырвоная каліна» гучаць і ў оперы Я. Цікоцкага «Міхась Падгорны» (1937). Яны характарызуюць галоўнага героя, сімвалізуючы яго абяздоленасць: гучаць то ў міноры, то ў мажоры — лірычна, патэтычна і нават гераічна. У гэтай жа оперы выкарыстаны напевы такіх песень пра каханне, якія па сваёй ідэйна-эмацыянальнай накіраванасці блізкія оперным эпізодам. Такі напеў песні «Сягоння я тута» з развітальнага дуэта Міхася і Марысі (I дз.) і з арыі Марысі (II дз.), звязаны з успамінамі аб разлуцы.

З ліку напеваў, якія выкарыстаны ў творах беларускіх кампазітараў, трэба адзначыць «Ой, зарадзіла красна, буйна», што гучыць у другой сімфоніі Г. Пукста (I частка, 1940), і Уверцюры-фантазіі В. Залатарова (1942). У абодвух творах ім характарызуецца беларускі пейзаж. Я. Глебаў выкарыстаў яшчэ напеў песні «Ці свет, ці світае» ў абмалёўцы Баміра з балета «Выбранніца» (1969), «А ў полі вярба» — у Канцэрце для голасу:

П. Падкавыраў — напеў песні «Ці свет, ці світае» ў фінале Другой сімфоніі (1947), «А ў полі крынічанька, відна дно» — у Квінтэце (1946). У першай частцы твора гучаць толькі асобныя інтанацыі напеву, поўнасцю — у канцы.

А. Багатыроў у сімфанічнай сюіце на тэмы беларускіх народных песень (1948) выкарыстаў напеў «Вецер вее, сонца грэе»; Я. Цікоцкі ў другой частцы Трэцяй сімфоніі (1948) — «А ў полі вярба нахілёная»; М. Аладаў — у санаціне для фартэпіяна — «Што за месяц». Гэты напеў даецца як тэма з варыяцыямі (пабочная партыя санатнай формы). Яны гучаць то ў плане спакойнага народнага харавога выкладання, то ўсхвалявана і напружана з ускладненнем фартэпіяннай фактуры. Напеў песні «Што за месяц» гучыць і ў Дзевятым струнным квартэце (1962) М. Чуркіна

Беларуская народная песня пра каханне зойме ганаровае месца і ў творчасці маладых кампазітараў, якія пад уплывам так званай «новай фальклорнай хвалі» вельмі зацікавіліся фальклорным меласам.

Заўвагі: 1. Справа пры нотных прыкладах абазначаны нумары тэкстаў. Нумары напеваў са штрыхамі (напрыклад, № 8″, № 96″) — варыянты песень, поўны тэкст якіх у томе не прыводзіцца, а нумары з літарамі а, б, в — варыянты з поўным тэкстам. Да нотных прыкладаў (№ 156—222) поўныя тэксты песень таксама не падаюцца.

2. Прыведзеныя тут беларускія народныя песні пра каханне ўзяты з розных публікацый, з архіўных фондаў ІМЭФ АН БССР, а таксама з асабістых архіваў асобных фалькларыстаў. Першая лічба — нумар напеву дадзенага тома, а лічба ў дужках — нумар таго выдання, адкуль узяты прыклады.

Анталогія — № 1 (118), 4 (120), 5 (117), 8 (138), 8″ (138а), 9а (185), 10 (134), 14 (140), 19 (126), 21а (161), 24а (184), 25 (137), 30 (174), 31а (162), 34 (150), 37 (123), 40 (1), 42 (113), 45 (194), 47 (182), 51 (144), 54 (145 — выд. 1968), 61 (122), 62 (132), 63 (119), 69а (142), 72а (179), 73 (178), 76 (136), 77б (181), 80 (165), 84 (157), 85а (135), 86 (125), 87 (172), 90 (131), 96 (159), 99 (156), 100 (155), 101 (158), 104 (143), 107 (173), 108 (350а), 109б (153), 114 (149), 115 (170), 116 (168), 126 (166), 129 (251), 130 (167), 140 (147), 141 (164), 142 (176), 143 (186), 146 (121), 147 (146), 148 (163), 154 (151), 163 (201).

Бычко-Машко — № 11 (13), 16 (15), 78 (24), 89б (3).

Гарэцкі і Ягораў — № 2 (239), 3 (217), 71в (251), 89а (252), 102 (250), 103 (278), 149 (191).

Грыневіч — № 71а (5), 83а (2), 108а (4).

Грыневіч і Зязюля — № 109 (4), 112 (5).

Захарава — № 18 (с. 203), 27 (с. 204), 123 (с. 201), 124 (с. 208).

Здановіч — № 82 (26).

Кольберг — № 150 (506), 169 (499).

Куба — № 75 (108), 182 (105).

Ледаховіч — № 9е (51), 12 (9), 21 (2), 35 (38), 50 (4а), 58 (27), 79 (29), 109в (7), 134а (6), 151 (49), 155 (1), 168 (39).

Мажэйка — № 197 (14), 204 (18), 205 (23), 206 (28), 207 (92), 208 (94), 209 (78).

Мухарынская — рукапісны архіў АФК, ф. 10, воп. 5 — № 196, 199, 202, 218″, 218‴.

Сербаў — № 43 (с. 155), 105 (с. 164).

Тэраўскі — № 77 (23).

Федароўскі — том V — № 131″ (398), № 137 (167), 138 (185), 145 (558), 152″ (509), 170 (96), 171 (114), 172 (180), 173 (85/279), 174 (355), 175 (384), 176 (407), 177 (411), 178 (414), 179 (489), 180 (507); том VI — 181 (1400).

Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, расшыфроўка В. Каламійцавай — Ф. 20, воп. 71 — № 167 (ст. 4, № 417).

Ф. 20, воп. 73—44″ (ст. 95, № 1163), 96″ (ст. 49, № 1116), 96‴ (ст. 87, № 1156), 146″ (ст. 21, № 1062), 167 (ст. 71, № 417), 180″ (ст. 16а, № 1061), 183 (ст. 84, № 1098), 184 (ст. 184, № 1113), 185 (ст. 99, № 1164), 186 (ст. 48, № 1097), 187 (ст. 60, № 1109), 188 (ст. 97, № 1151), 189 (ст. 33, № 1055), 190 (ст. 8, № 1057), 191 (ст. 86, № 1162а), 192 (ст. 49, № 1118), 193 (ст. 84, № 1101), 194 (ст. 84, № 1110), 195 (ст. 99, № 1165), 198 (ст. 21, № 1058), 200 (ст. 82. № 1103), 201 (ст. 90, № 1157), 203 (ст. 81, № 1105), 210 (ст. 81, № 1106), 211 (ст. 46, № 1114), 212 (ст. 91, № 1152) 213 (ст. 91, № 1154), 214 (ст. 76, № 1158), 215 (ст. 87, № 1160), 216 (ст. 86, № 1153), 216″ (ст. 49, № 1111), 217 (ст. 8, № 1060), 218 (ст. 47, № 1096), 219 (ст. 82, № 1107), 220 (ст. 49, № 1117), 221 (ст. 84, № 1099), 222 (ст. 87, № 1159).

Цітовіч — рукапісны архіў АФК, ф. 10, воп. 3 — № 17, 113, 135а, 153, 164.

Цітовіч — Беларускія народныя песні для двух галасоў — № 165 (с. 15).

Чуркін, 1949 — № 8а (96), 15а (86 — рэдакцыя Г. Цітовіча), 31 (83), 64 (94), 65 (95), 66 (97), 67 (90), 68 (91), 69 (92), 106 (84), 139 (82).

Чуркін, 1959 — № 5а (35), 9в (30), 13 (32), 24″ (33), 44 (52), 49 (31), 53 (40), 56 (51), 70 (50), 74 (48), 88 (39), 98 (38), 108″ (49), 125 (43), 127 (45), 129в (42), 134 (41), 144 (37), 166 (47).

Шырма — № 6 (102), 7 (62), 9б (17), 20 (154), 22 (101), 23 (21), 24 (71), 26 (88), 28 (127), 29 (22), 32 (8), 33 (47), 36 (143), 38 (50), 39 (138), 41 (123), 46 (33), 48 (137), 52 (27), 55 (2), 57 (147), 59

(134), 60 (87), 71 (18), 79в (121), 81 (29), 85 (28), 91 (94), 92 (6), 93 (13а), 93а (14), 94 (145), 95 (63), 97 (65), 98″ (124), 109а (3а), 110 (148), 111 (146), 117 (51), 118 (76), 119 (20), 120 (59), 121 (82), 122 (46), 132 (92), 133 (163), 136 (114), 156 (9), 157 (10), 158 (32), 159 (52), 160 (91), 161 (99), 162 (153).

Янчук — № 128а (106).

3. У сувязі з тым, што ў кожным з названых збораў па-рознаму даюцца натацыі, паказальнікі тэмпаў (метраном), тэрміналогія, намі прыведзены да адзінства абрысы нот, перакладзены назвы тэмпаў з польскай мовы на беларускую (італьянскія назвы пакінуты без змен). Напевы збораў О. Кольберга, А. Грыневіча не маюць тэмпавых паказальнікаў, а ў М. Федароўскага асобныя тэксты песень не супадаюць з запісамі напеваў.

*С. Г. Нісневіч*

# ЗНАЁМСТВА. ЖАДАННЕ СУСТРЭЧЫ

## 1. ОЙ, РАБІНАЧКА *

— Ой, рабіначка,
Ты зялёная,
Ой, калі ж ты ўзышла,
Калі вырасла?

— Я вясною ўзышла,
Летам вырасла,
На высокі цярэм
Пахілілася.

— Ой, дзяўчыначка,
Ты прыгожая,
Дзе ты, красна, расла,
Гадавалася?

— Я у мамкі расла,
Гадавалася,
Як вішэнька ў саду
Красавалася.

— Ты, дзяўчына, скажы,
Не утоівай,
Скажы праўданьку ўсю,
Дзе ўзяла красу?

— Я спаткала красу
У зялёным лясу,
У зялёным лясу
Пад рабіначкай.

— А дзявочу красу
Не знайсці ў лясу,
Не знайсці, не купіць,
Ды прыгожай быць!

## 2. ЯК З-ПАД КАМЕНЯ, І З-ПАД БЕЛАГА *

Як з-пад каменя, і з-пад белага
Там цячэ рэчка, рэчка быстрая,
Рэчка быстрая, вада чыстая.
Як на той рэчцы мост калінавы,
Мост калінавы, куст ракітавы.
Як пад тым кустом дзеўка мылася,
Дзеўка мылася, румянілася.
На гару ўзышла — станавілася,
Красатой сваёй йна дзівілася:
— Красата мая — жысць дзявоцкая,
Замуж я пайду — красату згублю,
Красату згублю — мужа нажыву.

## 3. ТЫ СЯЛО МАЁ, СЯЛО НОВАЕ *

Ты сяло маё, сяло новае, [1]
Сяло новае, ўсё кляновае!
Ой ты чым, сяло, прыукрашана,
Ці калінаю, ці малінаю,
А ці чорнаю смародзінаю?
Прыукрашана сяло рэчкаю,
Сяло рэчкаю ды ўсё быстраю.
У гэтай рэчаньцы дзеўка мылася,
На красу сваю любавалася:
— Ты каму, краса, ты дастанешся,
А ці стараму, а ці маламу,
А ці роўнаму, разудаламу?
Калі стараму — ў чабатах насіць,
Калі маламу — у лапцях насіць,
Калі роўнаму — у вянцэ насіць.

## 4. А У ЧЫСЦЕНЬКІМ ПОЛІ СТАЯЛА БЯРОЗА

А ў чысценькім полі стаяла бяроза,
А пад той бярозай вісіць калыбеля,

---

[1] Першы радок паўтараецца.

А ў той калыбелі калышуцца дзеўкі,
Калышуцца дзеўкі, красныя паненкі.

А я, маладая, туды паглядзела,
Туды паглядзела, гуляць захацела.

Пайшоў мяне татка адтуль праганяці,
Набіў мяне татка ды шаўковай пужкай.

А я з таго бою ні піла, ні ела,
Ні піла, ні ела, нядзелю хварэла.

А ў чысценькім полі стаяла бяроза,
А пад той бярозай вісіць калыбеля,

А ў той калыбелі калышуцца дзеўкі,
Калышуцца дзеўкі — красныя паненкі,

А я, маладая, туды паглядзела,
Туды паглядзела, гуляць захацела.

## 5. ДАЛІНА, ДАЛІНА

Даліна, даліна,
На даліне сосна.
Не для цябе, хлопец,
Такая выросла.

Даліна, даліна,
На даліне яма.
Не для цябе, хлопец,
Гадавала мама.

Гадавала мама
Для сваёй карысці,
А ты такі, хлопец,
Вельмі ганарысты.

Даліна, даліна,
На даліне студня.
Закахацца проста,
Расставацца трудна.

Свеціць месяц, свеціць,
Звёзды памагаюць.
Яшчэ мае вочкі
Любосці не знаюць.

## 6. КАЛІНА-МАЛІНА

Каліна-маліна,
Галлё паламана.
Ой, кажуць мне людзі,
Што я малявана.

Я не малявана,
Такая ўжо з роду,
Што ў майго татанькі
Добрая выгода:

Калодзезь на двары,
Вядзёрка на ключы.
Добра, весяленька,
Па вадзіцу йдучы.

Мілы за вядзерка,
А я за другое.
Пойдзем прынясема
Вадзічкі абое.

## 7. У НЯДЗЕЛЬКУ РАНЕНЬКА НА ЗАРЫ

У нядзельку раненька на зары
Шчабятала ластаўка на моры.

Я на белым камушку сядзела,
Я ў крутыя беражкі глядзела.

[Я ў крутыя беражкі глядзела,]
Ці наедзе мамачка вечарком.

— А мамачка, мамачка, нябога,
Знімі мяне з камушка з бялога.

А ў мамачкі жаласці нямнога,
Не зняла мяне з камушка бялога.

У нядзельку раненька на зары
Шчабятала ластаўка на моры.

Я на белым камушку сядзела,
Я ў крутыя беражкі глядзела.

[Я ў крутыя беражкі глядзела,]
Ці наедзе татачка вечарком.

— А татачка, татачка, нябога,
Знімі мяне з камушка з бялога,

А ў татачкі жаласці нямнога,
Не зняў мяне з камушка бялога.

У нядзельку раненька на зары
Шчабятала ластаўка на моры.

Я на белым камушку сядзела,
Я ў крутыя беражкі глядзела.

[Я ў крутыя беражкі глядзела,]
Ці наедзе міленькі вечарком.

— А міленькі, міленькі, нябога,
Знімі мяне з камушка з бялога.

У мілага жаласці ўсё многа,
Ён зняў мяне з камушка з бялога.

## 8. ОЙ, ТАМ НА ГРУДОЧКУ

Ой, там на грудочку
Расла груша-дзічка,
Кахайце мяне, хлопцы,
Хоць я невялічка.

Хоць я невялічка,
Але я багата.
У мяне кавалераў
Паўнюсенька хата.

Паўнюсенька хата,
Паўнюсенькі сені,
Казаў мне Ясенька
Чакаць да васені.

## 9. ТЫ, РЭЧАНЬКА, ТЫ, БЫСТРАЯ

Ты, рэчанька, ты, быстрая,
Чаго замучона?
А ці цябе вална збіла,
Ці рыбка змуціла?

А ні мяне вална збіла,
Ні рыбка змуціла:
Збілі мяне буйны ветры
З дробнымі дажджамі.

Ты, дзяўчына, ты, красная,
Чаго засмучона?
А ці цябе маці біла,
Ці сёстры журылі?

А ні мяне маці біла,
Ні сёстры журылі:
А журылі мяне хлопцы —
Удалыя малойцы.

Адзін вядзець за адну руку,
Другі — за другую,
А трэці йдзець — сэрца баліць:
Любіў, ды не тую.

## 10. А НА ВОЗЕРЫ ДЫ НА СІНЕНЬКІМ *

А на возеры ды на сіненькім
Рыбак рыбку ловіць,
Яго чаўночак белакрыленькі
Па вадзіцы бродзіць.

Усхапіліся ветры буйныя,
Воду ўскалыхнулі,
Майго мілага маляваненькі
Чаўнок абярнулі.

Ой, не жалка мне таго чаўночка,
Не жаль малявання:
Толькі выплыві к майму беражку
Ты, маё каханне.

## 11. МАК ЗЯЛЁНЫ, МАК ЧЫРВОНЫ З ПОЎНАЧЫ ЦВІЦЕ

Мак зялёны, мак чырвоны з поўначы цвіце,
Там за гарой, там за другой мяне татка кліча,
Мяне родны кліча.
Я не пайду, да душы, не пайду,
Далі бог, не пайду.
Ночка цёмна, рэчка быстра, кладка не мошчана.

Мак зялёны, мак чырвоны з поўначы цвіце,
Там за гарой, там за другой мяне мамка кліча.
Мяне родная кліча.
Я не пайду, да душы, не пайду,
Далі бог, не пайду.
Ночка цёмна, рэчка быстра, кладка не мошчана.

Мак зялёны, мак чырвоны з поўначы цвіце,
Там за гарой, там за другой мяне мілы кліча.
Мяне мілы кліча.
Я пайду, да душы, пайду, далі бог, пайду.
Ночка відна, рэчка ціха, кладка мошчана.

## 12. ЗА ГАРАМІ, ЗА ЛЯСАМІ *

За гарамі, за лясамі
Пайшла дзеўка за грыбамі
Край-далінаю.
Гэй! Гэй! Край-далінаю.

Дзеўка к бору падыходзіць,
Краснага грыба знаходзіць,
У кошычак кладзе.
Гэй! Гэй! У цёмен бор ідзе.

Гай зялёны завівае,
Дзеўка мілага чакае,
Хлопца-малайца.
Гэй! Гэй! Хлопца-малайца.

Да ўжо сонейка заходзіць,
Дзеўка з бору не выходзіць,
Не нясе грыбоў.
Гэй! Гэй! Не ідзе дамоў.

## 12а. ЗА ГАРАМІ, ЗА ДАЛАМІ *

За гарамі, за даламі
Пайшла дзеўка за грыбамі
Край-далінаю, эх!
Край-далінаю.

Дзеўка з бору не выходзіць,
Мухамор яна знаходзіць:
— Ці то баравік, эх!
Ці то баравік?

Яна яго падхапіла
Ды у кошык улажыла.
Сама ж пайшла ў гай, эх!
Сама ж пайшла ў гай.

Гай зялёны завывае,
Дзеўка хлопчыка чакае,
Хлопца-малайца, эх!
Хлопца-малайца.

## 13. СІВЕНЬКІ ГАЛУБЧЫК

Сівенькі галубчык
Сядзеў на дубочку,
Кліча галубочку.

Вочы яго ясны,
Бровы яго чорны,
Лічыка яго беленька.
Прыляцела пава,
Сярод двара пала.
Яна праўду знала,
Усю праўду казала,
Дзе мой мілы ходзіць,
Што мой мілы робіць.
Каня варанога,
Коніка сядлае,
Сядло залатое
На яго ўскладае.

## 14. З-ПАД БЕЛАГА КАМУШЫКА *

З-пад белага камушыка
Вадзіца бяжала,
Вой-ля, вой-ля, вой-лялюшкі,
Вадзіца бяжала.

Там мілая бель бяліла,
Туга выжымала,
Вой-ля, вой-ля, вой-лялюшкі,
Туга выжымала.

Туга, туга выжымала,
Ды й мілага ждала,
Вой-ля, вой-ля, вой-лялюшкі,
Ды й мілага ждала.

Едзе, едзе мой міленькі
Ды й на сівым коню,
Вой-ля, вой-ля, вой-лялюшкі,
Ды й на сівым коню.

На ім шапачка ражкамі,
Галоўка з кудрамі,
Вой-ля, вой-ля, вой-лялюшкі,
Галоўка з кудрамі.

## 15. ОЙ, У ПОЛІ ЗА ГАРОЮ

Ой, у полі за гарою[1]
Расце жыта з лебядою.
Там Таццяна жыта жала,
Ў правай ручцы серп дзяржала.
Ў правай ручцы серп дзяржала,
А леваю пабірала.
А леваю пабірала,
На дарожку паглядала.
На дарожку паглядала:
— Ці не едзе мой Іванка?
Ці не едзе мой Іванка
На коніку вараненькім?
На коніку вараненькім,
На сядзельцы залаценькім?
На коніку сядло ззяе,
А ў Таццяны сэрца вяне.

## 16. СОХНЕ-ВЯНЕ З РУЖЫ КВЕТКА

Сохне-вяне з ружы кветка
У зялёным садочку.
Занядужыла дзяўчына,
Не спіць шосту ночку.

Занядужыла дзяўчына,
Не ходзіць гуляці.
— Чым ты хворая, дачушка? —
Запытала маці.

— Закружылася галоўка,
Сэрцайка баліці.
Ой, не знаю, не ведаю,
Як мне перажыці.

— Чым цябе лячыць, дачушка,
І дзе цябе дзеці?
— Ой, не нойдзеш мне лякарства,
Мамачка, на свеце.

---
[1] Кожны радок паўтараецца.

— Навару табе, дачушка,
Ліповага цвету.
— Дай мне, мама, лепш сляпіцы,
Каб не бачыць свету.

Навару табе румянцу
Ад сярдзечнай болі.
— Дай мне, мама, лепш атруты,
Каб не ўстаць ніколі.

— Паглядзі, мая дачушка,
Навіна якая.
Ходзіць хлопец каля хаты,
Ў акно заглядае.

— Дай мне, мама, тую хустку,
Што я вышывала,
Адлягла боль ад галоўкі,
Сэрцу лепей стала.

## 17. КАБ Я БЫЛА ЗЯЗЮЛЬКАЮ *

Каб я была зязюлькаю,
Каб я крыллі мела,
То я тую б Украіну
Кругом абляцела.

Абляцела ўсю Украіну
І цёмны лясочак
І пачула міленькага
Ціхі галасочак.

Шапка сіня, шапка сіня,
А верх зеляненькі,
Сам бялявы, вус чарнявы —
Гэта мой міленькі.

Сені мяла, хату мяла,
На парозе стала,
То я свайго міленькага
Па шапцы пазнала.

## 18. ГОЙ-ГОЙ

Гой, гой,
Едзе міленькі мой
На шэрым канёчку,
На шэрым канёчку,
Ручкі ў кішанёчку.

Пайду ў лес, пайду ў лес,
Наламаю маю,
Дзе мой мілы запяе —
Па голасу ўзнаю.

## 19. АХ, БОЖА, БОЖА, КАЛІ ТОЙ ВЕЧАР БУДЗЕ?

Ах, божа, божа, калі той вечар будзе?
Прынясі, божа, каго я люблю верна.
А хоць не яго, хоць таварыша яго,
Распытаюся пра здаровейка яго:
— А ці жыў-здароў, што да мяне не прышоў?
Ён дома не быў, на лугу траву касіў,
Ён траву касіў, я за ім грамадзіла.
Ён мяне любіў, я яго прынадзіла,
Я яго прынадзіла русаю касою,
Русаю касою, дзявочай красою.

## 20. ОЙ, ПАЙДУ, ПАЙДУ ПА ТЫХ СЦЕЖАЧКАХ

Ой, пайду, пайду па тых сцежачках,
Дзе я даўна хадзіла,
Ці не ўбачу я, ці не ўчую я,
Каго верна любіла.

Ды хоць не таго, ды хоць не яго,
Хоць таварыша яго.
Распытаюся, разгукаюся,
Аб жыцці-быцці яго.

Ды як ён жыве, ды як ён жыве,
А я, млода, гарую:
Без дроў, без дроў, без лучыначкі
Не адну ночку начую.

## 21. ОЙ, РЭЧАНЬКА, РЭЧАНЬКА *

Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты не поўная?
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты не поўная?

Чаму ж ты не поўная,
З беражком не роўная?
Люлі, люлі, люлі,
З беражком не роўная?

А як жа мне поўнай быць,
З беражкамі роўнай плыць?
Люлі, люлі, люлі,
З беражкамі роўнай плыць?

Янка коніка паіў,
Маня воду чэрпала,
Люлі, люлі, люлі,
Маня воду чэрпала.

## 21а. ОЙ, РЭЧАНЬКА, РЭЧАНЬКА *

— Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты не поўная?
Ай, люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты не поўная?

Чаму ж ты не поўная,
З беражком не роўная.
Ай, люлі, люлі, люлі,
З беражком не роўная?

— А як жа мне поўнай быць,
Ясь млады каня паіць,
Ай, люлі, люлі, люлі,
Ясь млады каня паіць.

Ясь млады, каня паіць,
Кася воду чэрпаіць,
Ай, люлі, люлі, люлі,
Кася воду чэрпаіць.

— Ах, Ясенька, Ясенька,
Чаму ты не жэнішся?
Ай, люлі, люлі, люлі,
Чаму ты не жэнішся?

Чаму ты не жэнішся,
На каго надзеішся?
Ай, люлі, люлі, люлі,
На каго надзеішся?

## 22. НА ГАРОДЗЕ ВЯРБА

На гародзе вярба,
Пад вярбою вада.
Там дзяўчынанька воду брала,
Дзяўчынанька малада.

Дзяўчо воду бярэ,
Казак каня вядзе,
Пытаецца ў дзяўчынкі:
— Дзе дарожка ідзе.

— Там дарожка ідзе,
Дзе крыніца стаіць,
На той жа крынічаньцы
Усё войска ляжыць.

## 22a. А У ПОЛІ ВЯРБА *

А ў полі вярба,
Пад вярбой вада.
Там хадзіла, там гуляла
Дзеўка малада.[1]

Дзеўка ад вады,
Хлопец да вады:
— Пастой, пастой, дзяўчыначка,
Дай каню вады.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

— Рада б пастаяць,
Каню вады даць,
Мае босенькія ножкі,—
Сцюдзёна стаяць.

— Я зніму парчу,
Ножкі абвярчу,
А назад як павярнуся,
Боцікі куплю.

— Не купляй ты мне,
А купі сабе:
Ёсць у мяне татка, мамка,
Яны купяць мне.

### 226. А У ПОЛІ ВЯРБА *

А ў полі вярба
Нахілёная.
Маладая дзяўчынанька
Заручоная.[1]

Заручоная
І запітая,—
Тады яе запівалі,
Як сад зацвітаў.

Як сад зацвітаў,
Як зара ўзышла,—
Маладая дзяўчынанька
Па воду ішла.

Кася — ад вады,
Ясся — да вады:
— Пастой, пастой, мая Кася,
Дай каню вады!

— Як буду твая,
Напаю каня
З зімненькае крынічанькі,
З поўнага вядра.

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Конік ваду п'е,
Капытцамі грабе,
— Сцеражыся, мая Кася,
Ён цябе заб'е!

— Заб'е, не заб'е,—
Я не баюся,
Ёсць у мяне злоты персцень —
Абаранюся!

## 22в. У ПОЛІ ВЯРБА *

У полі вярба,
Пад вярбой вада:
Там хадзіла красна дзяўчына
Па вадзіцу адна.[1]

Дзеўка — ад вады,
Казак — да вады:
— Пастой, дзеўка, пастой, красна,
Дай каню вады!

— Не магу стаяць,
Каню вады даць:
Зімна роса, а я боса,—
Сцюдзёна стаяць.

— Дзяўчына вумна,
Ці будзеш мая?
— Я не хочу тваёй быці,
Не ўмею рабіць.

— Ёсць у мяне біч,—
Навуча рабіць,
І бярозава мяцёлка —
Раненька будзіць.

— Бадай не даждаў,
Каб мяне узяў,—
Ёсць у мяне татка з мамкай,
Навучаць рабіць.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

### 22г. У ПОЛІ ВЯРБА

У полі вярба,
Пад вярбой вада.
Там дзяўчына чарнабрыва
Вадзіцу брала.

Дзеўка ад вады,
Казак да вады.
— Пастой, пастой, дзяўчыначка,
Дай каню вады.

— Не буду стаяць,
Не буду даваць:
Зімна роса, а я боса —
Мне ножкі баляць.

— Дзяўчына мая,
Чарнабрывая,
Куплю табе чаравічкі,
Як будзеш мая.

— Як жа тваёй быць —
Не ўмею рабіць:
Шыці, мыці, кросны ткаці,
Раненька ўставаці.

— А ў мяне ёсць біч —
Навуча рабіць.
А белая бярозачка
Раненька ўзбудзіць.

— Яшчэ і не ўзяў —
Збіраешся біць.
А бадай ты не даждаўся
Маім мужам быць!

### 22д. ПАД ВЯРБОЮ ВАДА

Пад вярбою вада,
Там дзяўчына малада.
Оха-охо-хо,
Там дзяўчына малада,

Дзеўка воду бярэ,
Казак каня вядзе,
Оха-охо-хо,
Казак каня вядзе.

— Ой ты, дзеўка малада,
Ты напой майго каня,
Оха-охо-хо,
Ты напой майго каня.

— Не вялікі казак пан,
Ды напоіць каня сам.
Оха-охо-хо,
Ды напоіць каня сам.

## 22е. ТАМ У ПОЛІ ВЯРБА *

Там у полі вярба,
Пад вярбою вада,
Там дзяўчына воду брала,
Харошая, малада.

Дзеўка воду бярэ,
Казак коні вядзе,—
Пытаецца казак у дзеўкі,
Скуль дарожанька ідзе.

— Ой, дарожанька ідзе
Па край рэчкі-ракі,
Дзе стаялі размаўлялі
Маскоўскія казакі.

Ой вы, хлопцы мае,
Нававранцы мае,
Заспявайце тую песню,
Што харошая мне.

Хлопцы песню пяюць
І паходам ідуць,
Нашы дзеўкі маладыя
Паміраюць з жалю.

## 23. ВЯЧЭРНЯ ЗАРА *

Вячэрня зара
Рана узышла.
Прыгожая, маладая дзеўка
Па ваду ішла.[1]

Дзеўка гарою,
Хлопец другою,
На вараным коню, па чыстаму полю,
За дзяўчынаю.

— Дзеванька мая,
Напой мне каня,
Напой з чыстай, зімняй крынічэнькі,
З поўнага вядра.

— Як буду твая,
Напаю каня.
Коніка з вядзерца, міленькага з сэрца,
Як буду твая.

— Дзеванька мая,
Садзісь на каня,
На коніка сядзем, сядзем ды паедзем
Да майго двара.

Ехалі у двор
Цераз цёмен бор,
Ехалі удвое краем-даліною
У бляску ясных зор.

## 24. ОЙ, ЗАРА, ЗАРА *

Ой, зара, зара,
Рана вызыйшла.
Маладая дзяўчынанька
Па вадзіцу йшла.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

5. Зак. 15

Казак за ёю
Так, як за сваёю.
Полем, полем сівым конем
Па-пад горачку.

— Дзяўчына мая,
Напой мне каня,
Ой, завядзі да крыніцы,
Дзе зімна вада.

Конь вады не п'е,
А капытом б'е.
— Сцеражыся, дзяўчынанька,
Ён цябе заб'е.

— Ой, няхай жа б'е,
Не баюся я.
Ёсць у мяне друг любезны,
Захілюся я.

— Я цябе любіў,
Я цябе кахаў,
Цераз цябе, маладую,
Многа ноч не спаў.

Ой, а ты мяне
Ужо пакінула,
Бадай твая красонька
Марна згінула.

## 25. ОЙ, З-ПАД ГОР-ГАРЫ *

Ой, з-пад гор-гары
Едуць мазуры.
Едуць, едуць мазурочкі,
Вязуць, вязуць барвіночкі — [1]
Вянкі залаты, вянкі залаты.

---

[1] Трэці і чацвёрты радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Пад'ехаў мазур
Пад матулін двор —
Стук, бразь ў акеначка:
— Выйдзі, дзеўка, на ганачак,
Дай каню вады, дай каню вады!

— Я не магу ўстаць,
Каню вады даць —
Мне матуля прыказала,
Каб я з хлопцам не стаяла,—
Матулі баюсь, матулі баюсь!

— Матулі не бойсь,
Сядай на мой воз!
Сядай, Маша, на калёса,
Мы паедзем ў зямлю нашу,
Там мы зажывём, там мы зажывём!

Сялом ехалі,
Людзі глядзелі:
— Што, што за дзяўчына,
Харошая, чарнабрыва,
З хлопцам стаяла, з хлопцам стаяла!

## 25а. ОЙ, З-ПАД ГОР-ГАРЫ ЕДУЦЬ МАЗУРЫ

Ой, з-пад гор-гары едуць мазуры,
Ой, з-пад гор-гары едуць мазуры.
Едуць, едуць мазурочкі,
Вязуць, вязуць два вяночкі,
Адзін залаты,
Адзін залаты.

Ехалі ўначы па лясной глушы,
Ехалі ўначы па лясной глушы.
Стук-бразь ў акеначка:
— Выйдзі, сэрца, на ганачак,
Дай каню вады,
Дай каню вады.

— Не магу я ўстаць, каню вады даць,
Не магу я ўстаць, каню вады даць,
Бо мне мама прыказала,
Каб з панамі не гуляла.
Мамы баюся,
Мамы баюся.

— Маці ты не бойсь, садзісь на мой воз,
Маці ты не бойсь, садзісь на мой воз,
Мы паедзем ў чужы край,
Дзе харошы абычай,
Павянчаемся,
Павянчаемся.

Борам ехалі — птушкі спявалі,
Сялом ехалі — людзі пыталі:
— Што, што за дзяўчына
Харошая, чарнабрыва,
З панам ехала,
З панам ехала?

## 26. І ТУДЫ ГАРА, І СЮДЫ ГАРА *

І туды гара, і сюды гара,
Прамеж тымі крутымі гарамі
Ўсходзіла зара.[1]

Гэта не зара,— дзеўка малада.
Яе бровы, як вуголлі, чорны,
Па ваду ішла.

— Дзяўчына мая, сядай на каня,
Ой, мы сядзем, сядзем ды паедзем
Да майго двара.

— Ні ў цябе двара, ні ў цябе кала,
Толькі ўсяго ў цябе — каліна,
Да й та не цвіла.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

## 26а. І ТУДЫ ГАРА

І туды гара,
І сюды гара,
А паміж тымі крутымі гарамі
Ўсходзіла зара.

Гэта не зара —
Дзяўчына мая.
Чорныя вочы, на ліцо бялява
Па воду ішла.

— Дзяўчына мая,
Напой мне каня
З тое да з тое, з тое крынічэнькі,
Да з поўнага вядра!

— Як буду твая,
Напаю каня.
Сядзем да сядзем, сядзем да паедзем
Да белага двара.

А ў белым двярэ
Нічога няма,
Толькі да толькі, толькі куст каліны,
Што зроду не цвіла.

— Каліна мая,
Чаму ж не цвіла?
— Былі да былі сільныя марозы,
Змарозілі мяне.

## 26б. І ТУДЫ ГАРА, І СЮДЫ ГАРА

І туды гара, і сюды гара,
Паміж тымі горанькамі —
Ясная зара.

Ясная зара звечара ўзышла,—
Маладая дзяўчынанька
Па ваду ішла.

Не ўмывалася, не часалася,
А яна ж мне, маладому,
Спадабалася.

Спадабалася над крынічанькай —
Руса каса, сіні вочы,
Бела лічанька.

Ой, не піў бы я і не еў бы я,
З харошаю дзяўчыначкай
Пасядзеў бы я!

І саха ў ралле, і валы ў ярме,
А такі ж мне, маладому,
Дзяўчына наўме.

— Дзяўчына мая, напой мне каня,
З зімненькае крынічанькі,
З поўнага вядра.

Ваду чарпала, пакланілася,
Дала ж яму белу ручку
Й зажурылася.

І туды гара, і сюды гара,
Паміж тымі горанькамі —
Ясная зара.

### 26в. І АДСЮЛЬ ГАРА

І адсюль гара,
І адтуль друга,
Паміж тымі горанькамі
Ясная зара.

Праміж гарою
Казак за ёю
Сівым, сівым konічанькам
Едзе за ёю

— Я сабе мыслю,
Што зара зышла,
Аж там мая дзяўчынонька
Па ваду ішла.

— Дзяўчына мая,
Напой мне каня!
— Не напаю, казачэньку,
Яшчэ я не твая.

Як буду твая,
То напаю два,
З віднога калодзічыка
Яшчэ без вядра.

— Дзяўчына мая,
Заручоная,
Для чаго ты на лічаньку
Вымучоная?

— Для таго то я
Вымучоная,
Што з табою, казачэньку,
Заручоная.

— Гуляй, дзяўчына,
Так, як гуляла,
Наймай сабе музычэнькаў
Так, як наймала.

— І гуляла б я,
І наймала б я,
Не вяліць мне, маладзенькай,
Маці родная.

### 26г. А У ПОЛІ ВЯРБА

А ў полі вярба
Нахілёная,
Маладая дзяўчынонька
Заручоная.[1]

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Заручоная
І запітая,
Тады яе запівалі,
Як сад зацвітаў.

Як сад зацвітаў,
Як зара ўзышла,
Маладая дзяўчыначка
Па ваду ішла.

Кася ад вады,
Яся да вады:
— Пастой, пастой, мая Кася,
Дай каню вады.

— Як буду твая,
Напаю каня,
З зімненькае крынічэнькі,
З поўнага вядра.

## 27. КАБ НА РЭЧЦЫ, РЭЧЦЫ

Каб на рэчцы, рэчцы
Ды на гібкай дошцы,
А там дзяўчына
Бела плацце мыла.
Прыехаў дзяцінка:
— Бог помач, дзяўчынка,
Бог помач, дзяўчынка,
Бела плацце мыці!
Дзяўчына спяшыла,
Не кажа: спасіба.
— Красная дзяўчонка,
Напой майго каня.
Напой майго каня
Сярод сіня мора,
Каб конік напіўся,
Капыт не ўмачыўся.
— Беленькі малойчык,
Сашы мне шляхрочык
З макавага цвету.

— Красная дзяўчонка,
Напрадзі мне нітак
З дажджовыя каплі.
— Беленькі малойчык,
Вытач верацёнца,
Вытач верацёнца
З камарова сэрца.

## 28. А НА ДВАРЭ СНЕГ НАПАЎ

А на дварэ снег напаў,
А малойчык з каня спаў.
Як з каня спаў, так ляжыць,
Ажно мілая бяжыць.

Скора міла прыбяжала,
За ручэньку падзяржала,
За праваю ўзяла
І пад ручку павяла.

Ў двары яго мілавала,
Шчырым сэрцам цалавала,
То Мар'яначка была,
То дзяўчыначка міла.

## 29. ПРАПАЛОЛА ДЗЕЎКА ВАСІЛЁЧКІ

Прапалола дзеўка васілёчкі
Да й ажыдала казачэнька з поля.

— Вярнісь, вярнісь, казачэнька, з поля,
Вазьмі мяне з сабою на поле.

Ой, ты будзеш сеяць, араці,
А я буду валы паганяці.

А ты будзеш грэчку малаціці,
А я буду па лесе хадзіці.

Прахадзіла ўсю цёмну ночку,
Прыблудзіла к зялёнаму дубочку.

Я думала, што дуб зеляненькі,
Ажно гэта казак маладзенькі.

## 30. А НА ДВАРЭ ДЗЕНЬ БЯЛЕНЬКІ *

— А на дварэ дзень бяленькі,[1]
Ці не прыйдзе мой міленькі?

Ой, на дварэ дзень світае,
А ў мілога міла пытае:

— Дзе ж ты, мілы, валачыўся,
Што па пояс замачыўся?

— Я ішоў к табе расою,
Па пожаньцы над ракою.

## 31. ОЙ, ТАЦЦЯНА, ТАЦЦЯНА

Ой, Таццяна, Таццяна,
Чарнаброва, румяна,
Чарнаброва, румяна
На ганачку стаяла.

На ганачку стаяла,
Бровачкамі маргала:
— Ой, ка мне, хлопцы, ка мне,
Чорны бровы ў мяне.

— Ой, чорт іх бяры з брыўмі,
Даўно ж ты маніш імі.
— Ой, каб я не маніла,
Босенькая хадзіла.

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

А то я шаўца люблю,
У чаравічках хаджу.
А то я шаўца люблю,
У чаравічках хаджу.

Адна пара чорная,
Другая чырвоная,
Трэцяя шаўровая,
Сама чарнабровая.

### 32. УЖО Я УСТАНУ РАНЕНЬКА

Ўжо я ўстану раненька,
Умыюся бялюсен(і)ка,
Эх, умыюся бялюсен(і)ка,
Прыбяруся харашэн(і)ка.

Умыюся бялюсен(і)ка,
Прыбяруся харашэн(і)ка,
Эх, сяду, сяду у акен(ы)ца,
Процi жаркага слон(ы)ца.

Сяду я ў акенца,
Процi жар(ы)кага слон(ы)ца,
Эх, процi жар(ы)кага слон(ы)ца,
Паджыдаю чарнаморца.

Чарнаморац едзе, едзе,
Семярых коней ведзе,
Эх, да васьмога варанога,
Ды, як ворана, чар(ы)нога.

### 32а. УСТАНУ, УСТАНУ Я РАНЕН(І)КА *

Ўстану, ўстану я ранен(і)ка,
Я памыюся бялен(і)ка. Эх!
Я памыюся бялен(і)ка,
Прыбяруся харашэн(і)ка.

Ды я сяду пад ваконца
Процi яснага сонца. Эх!
Процi яснага сонца,—
Цi не ўбачу чарнаморца?

Чарнаморац полем едзіць,
Семярых конікаў гоніць. Эх!
Семярых конікаў гоніць,
А восьмага — варанога.

Станавіўся проці мора,
Станавіўся проці мора. Эх!
Сталі коні воду піці,
Капытамі землю біці.

Сталі коні націскаці,
Стала вада прыбываці. Эх!
Стала вада прыбываці,
Чарнаморца заліваці.

Чарнаморца залівае,
Чарнаморац патапае. Эх!
Чарнаморац патапае
Ды да мілае гукае.

Ды да мілае гукае:
— Ратуй, ратуй, мая міла. Эх!
Ратуй, ратуй, мая міла,
Калі верна ты любіла.

— Я бы рада ратаваці —
Нет ні лодкі, ні вясельца. Эх!
Нет ні лодкі, ні вясельца,
Не ўратую, маё сэрца.

Пабягу я ў добры людцы,
Пабягу я ў добры людцы. Эх!
Пакуль людзі сабраліся,—
Чарнаморац патапіўся.

## 326. У НЯДЗЕЛЮ РАНЮСЕНЬКА

У нядзелю ранюсенька,
Эй! У нядзелю ранюсенька
Умыюся бялюсенька.

Ой, я выйду на край сонца,
Эй! Я выйду на край сонца,
Ці не ўгледжу чарнаморца?

Чарнаморац з вайны едзе,
Эй! Чарнаморац з вайны едзе
І з сабой сем коней вядзе.

Сам на восьмым вараному,
Эй! Сам на восьмым вараному,
Я думала, што дадому.

Не дадому, а к Дунаю,
Эй! Не дадому, а к Дунаю,
А я стану, падумаю.

Стаў мой мілы патапаці,
Эй! Стаў мой мілы патапаці,
Сталі яго ратаваці.

Каб той човен і папружка,
Эй! Каб той човен і папружка,
Улавіла б свайго дружка.

## 32в. УСТАНУ Я РАНЕНЬКА

Устану я percenта раненька
Да ўмыюся бяленька.

Зірну, гляну ў ваконца
Проціў яснага сонца:

Ці не ўвіджу, ці не ўбачу
Я свайго чарнаброўца?

Чарнабровец полем едзе,
Ён чацвёра коней вядзе.

А пятага воранага,
А шостага буланога.

Я ж думала — ён да гаю,
Ажно ж мілы да Дунаю.

Як стаў коней напаяці,
Стала вада прыбываці.

Стала вада прыбываці,
Чарнабровец патанаці.

Чарнабровец патанае,
Сваю мілую гукае:

— Ратуй, ратуй, мая міла,
Калі верна любіла.

— Як жа мне ратаваці —
Я ж не ўмею плаваці.

Каб мне човен да вясельца,
Ратавала б цябе, сэрца.

## 33. ОЙ, НЕ ВІДНА ТАГО СЯЛА *

Ой, не відна таго сяла,
Адно відна пакрыванне,
Бог жа знае, бог ведае,
Ой, дзе ж маё каханне?

Ой, не відна таго сяла,
Адно відна грушу,
Каго люблю, не забуду
І заплакаці мушу.

Адзін піша на Валыне,
А другі на Украіне,
Разрываюць маё сэрца
Да й на дзве палавіны.

Адзін піша на паперы,
А другі на кітайцы,
Усе прыслалі з чужых краёў
Белы лістанькі каханцы.

## 34. ОЙ, КОЦЯЦЦА ДВА ЯБЛЫЧКІ *

Ой, коцяцца два яблычкі,
Абодва садавыя.
Любяць мяне два хлопчыкі,
Абодва маладыя.

Адзін хлопец з Валожына,
А другі з Украіны.
Харошыя, прыгожыя,
К аднэй ходзяць дзяўчыне.

Адзін любіць хусткі дарыць,
А другі сукеначку,
Адзін любіць, мёд-віно носіць,
А другі гарэлачку.

Адзін любіць, за ручку вядзець,
А другі — за другую.
Адзін ў адну шчочку цалуе,
А другі — ў другую.

А я, млода, не ведаю,
Што рабіць мне, дзяўчыне?
Разарвіце маё сэрданька
Ды на дзве палавіне.

## 35. У ЛУЗЕ КАЛІНА БЕЛЫМ ЦВЕТАМ ЦВІЛА *

У лузе каліна белым цветам цвіла,
Цераз цябе, казача, мяне маці біла.[1]

Біла мяне маці беразовым прутам,
Каб я не стаяла з маладым рэкрутам.

Я сабе стаяла — трэці пеўні пелі,
На дзверы воду ліла — кабы не рыпелі.

На дзверы воду ліла, на пальцах хадзіла,
Каб маці не пачула, каб не пасварыла.

А маці не спала, ды ўсё чыста чула,
Дый мяне не сварыла, сама такая была.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

## 36. НА ГАРЫ ЛЁН БЕЛЫ, ЧЫСТЫ

На гары лён белы, чысты,
Белы, чысты, кужалісты.

Не з кім стаці лён ірваці,
Лён ірваці, лён ірваці.

Матка кажа: «Я з табою,
Я з табою, маладою».

— Мне з табою не ірванне,
Адно толькі гараванне.

Татка кажа: «Я з табою,
Я з табою, маладою».

— Мне з табою не ірванне,
Адно толькі гараванне.

На гары лён белы, чысты,
Белы, чысты, кужалісты.

Не з кім стаці лён ірваці,
Лён ірваці, лён ірваці.

Мілы кажа: «Я з табою,
Я з табою, маладою».

— Ёсць з кім стаці, лён ірваці,
Лён ірваці, лён ірваці.

## 37. ТУМАН ЯРАМ, ЯРАМ-ДАЛІНОЮ *

Туман ярам, ярам-даліною,
Туман ярам, ярам-даліною.

За туманам нічога не відна,
Толькі відна дуба зеляногa.

Пад тым дубам крыніца стаяла,
Там дзяўчына воду набірала.

Ды ўтапіла залато вядзерца,
Засмуціла казакова сэрца.

А хто ж тое вядзерца дастане,
Той са мною на ручніку стане.

Хлопец тое вядзерца дастане,
Ён з табою на ручніку стане.

## 38. ОЙ, ЗА ГАЕМ, ГАЕМ

Ой, за гаем, гаем,
Гаем зеляненькім
Там арала дзяўчыначка
Волікам чарненькім.

Арала, арала,
Не ўмела араці,
Да й наняла музычаньку
На скрыпачцы йграці.

Музычэнька йграе,
Вочкамі маргае;
— Чорт яго бацька знае,
На каго маргае.

Ці на мае валы сівы,
Да ці на каровы,
Ці на маё бела лічка,
Ці на чорны бровы?

Не на мае валы сівы
І не на каровы,
Да й на маё бела лічка
Да й на чорны бровы.

## 39. ТРАВАЧКА-МУРАВАЧКА

Травачка-муравачка,
Зялёненькі лужок,
Я па табе скучыла,
Мой міленькі дружок.

Я па табе, травачка,
Не нахаджуся.
На цябе, мой міленькі,
Не нагляджуся.

Сама сабе кралечка
Дзівавалася,
Дзе ж мая красотачка
Падзявалася.

Ці на той на рэчачцы,
Што ўмывалася.
Ці на том на зеркальцы,
Што ўглядалася.

Не на тым на зеркальцы,
Што ўглядалася,
А на тым на моладцу,
Што ўлюблялася.

## 40. АХ ТЫ, ЗІМАЧКА-ЗІМА *

Ах ты, зімачка-зіма,
Зіма лютая была,
Завеяла, замяла
Ўсе дарожкі, ўсе пуці.

Завеяла, замяла
Ўсе дарожкі, ўсе пуці,
Ўсе дарожкі, ўсе пуці,—
Негдзе к міламу прайці.

Я дарожку размяту,
Сама к міламу пайду,
Сцялю, сцялю, пасцялю
Пасцель пухавую.

Сцялю, сцялю, пасцялю
Пасцель пухавую,
Каго верна я люблю,
Таго пацалую.

## 41. ВОЙ, ГЫЛЯ, ВОЙ, ГЫЛЯ

Вой, гыля, вой, гыля,
Гусанькі на стаў,
Добры вечар, дзеўчына,
Бо яшчэ не спаў.[1]

Ой, не спаў, не спаў
І не буду спаці.
Ой, дай мне, дзеўчына,
Павечараці.

— Я не паліла,
Я не варыла,
Ўсё для цябе, сэрданька,
Прыгатавіла.

Рыбка варана,
Рыбка жарана,
Усё для цябе, сэрданька,
Прыгатоўлена.

Я й гатавала,
Усміхалася,
Усё на цябе, сэрданька,
Спадзявалася.

## 42. СКАЦІЛАСЯ ДЫ ЯСНАЯ ЗОРАЧКА

Скацілася ды ясная зорачка
Ды ўпала да долу.
О-о-о-о, ды ўпала да долу,
О-о-о-о, ды ўпала да долу.

Журылася ды красная дзевачка,
Хто давядзе дадому.
О-о-о-о, хто давядзе дадому,
О-о-о-о, хто давядзе дадому.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Адазваўся малады казачэнька
На вараным кані.
О-о-о-о, на вараным кані,
О-о-о-о, на вараным кані.

— Не журыся, малада дзяўчыначка,
Я давяду дадому.
О-о-о-о, я давяду дадому,
О-о-о-о, я давяду дадому.

— Вядзі, вядзі, малады казачэнька,
Вядзі, не барыся.
О-о-о-о, вядзі, не барыся,
О-о-о-о, вядзі, не барыся.

За тры часы цёмнае ночкі
Назад вараціся.
О-о-о-о, назад вараціся,
О-о-о-о, назад вараціся.

## 43. ЗАЙШЛО СОНЦА ЗА АКОНЦА

Зайшло сонца за аконца,
За зялёны сад.
Цалуюцца, мілуюцца,
А хто каму рад.

Там дзевачка Ганулечка
Вымывалася.
Вымыўшыся, прыбраўшыся,
Пайшла жыта жаць.

Жыта жала, жыта жала —
Замарылася.
А на свайго міленькага
Зажурылася.

— Не журыся, мая міла,
Ты будзеш мая.
Ёсць у мяне бочка піва,
Другая — віна.

Ёсць у мяне калясачка
І вараны конь —
А мы сядзем і паедзем
Дый у цешчын двор.

— Добры вечар, стара маці,
А я вось — твой зяць.
Ці не пусціш Ганулечку
У сад пагуляць?

— Мая дочка Ганулечка —
Як розавы цвет.
Калі хочаш яе ўзяці —
То на цэлы век.

## 44. А КАЛІ ТОЙ ВЕЧАР *

А калі той вечар
Ды павечарэе,
Калі маё сэрца
Ды й павесялее? [1]

Калі мой міленькі,
Каго я чакаю,
Да мяне дахаты
Ціха завітае.

Ціха завітае,
Каб не чула маці,
Каб нам, закаханым,
Не магла мяшаці.

Пойдзе ён гарою,
Я пайду далінай,
Сойдземся ў полі,
З ім мы пад калінай.

У полі пад калінай,
Што ля ручаёчка,
Прасядзім мы доўга,
Да рання ўсю ночку.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

## 44а. А КАЛІ Ж ТОЙ ВЕЧАР*

А калі ж той вечар
Дый павечарэе?
Калі ж маё сэрца
Дый павесялее? [1]

— Прыйдзі, прыйдзі, мілы,
Да мяне дахаты,
Адчыню я дзверы,
Каб не чула маці.

Каб не чула маці,
Дый не гаварыла,
Каб нас, маладзенькіх,
Дый не разлучыла.

А як адчыняла,
Цяжка я ўздыхала,
А як выпускала,
Мілага пытала.

— Скажы, скажы, мілы,
Скажы, мой міленькі,
Ці напраўду любіш,
Ці з мяне смяешся?

Ці напраўду любіш,
Ці з мяне смяешся,
Да другое ходзіш —
Мне не прызнаешся?

— Я цябе, дзяўчына,
Любіў, любіць буду,
Сазнаюсь па праўдзе —
Сватаці не буду.

Рад бы цябе ўзяці —
Не вяліць мне маці.
Як цябе вазьму я,
То не ўседжу ў хаце.

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

## 45. ПЛЫЛІ, ПЛЫЛІ ГУСІ ЦІХАЮ ВАДОЮ

Плылі, плылі гусі ціхаю вадою,
— Выйдзі, дзяўчынка, пастаім з табою.

— А не раз, не два я з табою стаяла,
Нігды табе праўды не казала.

Буду табе праўду я тады казаці,
Як маю ручэньку ды з тваёю звяжуць.

Сталі маю ручку э тваёю вязаці,
Стала маё сэрца праўданьку казаці.

А дай бог вечар, дай павечарэе,
Можа, маё сэрца дай павесялее.

А дай божа вечар, да сонейка зыйдзе,
Можа, мой міленькі дай да мяне прыйдзе.

А хоць не да мене, дык да маёй хаты,
Пад тое акенца, дзе я буду спаці.

А як упускала ды я рада была,
А як выпускала, плакала, рыдала.

## 46. ТРАВУШКА-МУРАВУШКА — ЗЯЛЁНЫ ЛУЖОК. ГЭЙ! *

Травушка-муравушка — зялёны лужок. Гэй! [1]
Я па табе, травушка, не нахаджуся,
Каго верна люблю — не налюблюся,
Каго ненавіджу — зараз убачу.
Ой, бачу я, бачу надзею сваю:
Ходзіць жа, гуляе па маім саду,
Крышыць жа, ламае вішаньку маю,
Кідае, кідае пад ялушачку,
Не так пад ялушачку, як пад новы двор,
Не так пад новы двор, як пад бел шацёр.
Пад белым шатрочкам дзеўка стаяла,

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

Русую касіцу сваю часала,
Пад шаўкову нітачку перабірала,
Да свайго міленькага лісты пісала:
— Не едзь, не едзь, міленькі, ка мне удзянёк
І не смяшы, міленькі, бога і людзей,
Прыедзь, прыедзь, міленькі, ка мне з поўначы
І застанеш, міленькі, мяне не сплючы,
Застанеш кашулечку табе шыючы.

## 47. ЛЯЦІЦЬ САРОКА *

Ляціць сарока
Ды скрай аблока,
Ўсё крача.
Ходзіць Ясенька
Ды скрай ваконца,
Ўсё плача:

— Выйдзі, дзяўчына,
Сэрца адзіна,
Да мяне.
Сінія вочы
Спаці не хочуць
Без цябе!

— Свечанька гарыць,
Матуля не спіць,
Ах, баюсь!
Свечанька згасне,
Матуля засне,
То прыду.

Параўнуй, божа,
Горы, даліны
Роўненька.
Прынясі, божа,
Майго мілога
Раненька!

А хоць раненька,
А хоць позненька —

Не баюсь.
Свайго мілога
Па ціхай мове
Пазнаю.

## 48. ЧАМУ НЕ ПРЫШОЎ, ЯК МЕСЯЦ УЗЫШОЎ

— Чаму не прышоў, як месяц узышоў,
Як я цябе ждала?
Ці каня не меў, ці сцежкі не знаў,
Ці маць не пускала?

— І каня я меў, і сцежку я знаў,
І маці пускала.
Меншая сястра, дай бог, не ўзрасла,
Сядзельца схавала.

Большая сястра сядзельца знайшла,
Коніка сядлала:
«Пайзджай, браток, да тае дзеўкі,
Каторая ждала».

Цячэ рэчанька невялічкая,
Скочу-пераскочу.
Аддай, мамачка, аддай, родная,
За каго я хочу.

## 48а. ЧАМУ НЕ ПРЫЙШОЎ ЦІ НЕ ПРЫЕХАЎ

Чаму не прыйшоў ці не прыехаў,
Як я цябе прасіла?

Ці каня не меў, ці сам не пасмеў,
Ці матка не пусціла?

— Я й коніка меў і ехаць хацеў,
Мамачка выпраўляла,

Меншая сястра, лет не дарасла,
Яна мяне не пускала.

— Не едзь, брацетка, не едзь, родненькі,
Бо туды не даедзеш.

Дзеўкі не зап'еш, коніка заб'еш,
Дадому не вернешся.

З'ездзіш коніка вараненькага,
Па полі гарцуючы,

Стопчаш боцікі казловенькія,
З дзеўкамі танцуючы.

Сатрэш шапачку бабровенькую,
З галоўкі знімаючы.

А хусцінaчку шаўковенькую,
Слёзкі ўціраючы.

### 49. ТАМ, У ЗЯЛЁНЕНЬКІМ САДОЧКУ

Там, у зялёненькім садочку,
Там салавейка шчабятаў.
Віць-віць-віць, цёх-цёх-цёх,
Ай-яй-яй, ох-ох-ох,
Там салавейка шчабятаў.

Там, у зялёненькім садочку,
Казак дзяўчыне гаварыў.
Віць-віць-віць, цёх-цёх-цёх,
Ай-яй-яй, ох-ох-ох,
Казак дзяўчыне гаварыў.

— Ой ты, дзяўчына чарнабрыва,
Ой, ці ты пойдзеш за мяне?
Віць-віць-віць, цёх-цёх-цёх,
Ай-яй-яй, ох-ох-ох,
Ой, ці ты пойдзеш за мяне?

Ой, не пайду я за цябе,
У цябе хаты немáе.
Віць-віць-віць, цёх-цёх-цёх,
Ай-яй-яй, ох-ох-ох,
У цябе хаты немáе.

Мая матуля цябе знае,
Ты той казача, што гуляе.
Віць-віць-віць, цёх-цёх-цёх,
Ай-яй-яй, ох-ох-ох,
Ты той казача, што гуляе.

— А я маці не баюся,
А я з табою ажанюся.
Віць-віць-віць, цёх-цёх-цёх,
Ай-яй-яй, ох-ох-ох,
А я з табою ажанюся.

## 50. САКОЛ, МАЦІ, САКОЛ, МАЦІ

— Сакол, маці, сакол, маці,
Сакол прылятае.

— Давай, доньку, прынаданьку,
Няхай прывыкае.

— Якую жа яму, матка,
Прынаданьку даці?

— Сцялі, доньку, пасцель тонку,
Кладзі яго спаці.

— А я сцялю пасцель тонку,
А ён не лажыцца,

Да за мае бела цела
Аберуч дзяржыцца.

## 51. ЖАНУЦЬ ВАЛЫ ІЗ-ЗА ГАРЫ *

Жануць валы із-за гары
Ды ўсё палавыя,
Любяць мяне, мая маці,
Хлопцы маладыя.

Жануць валы із-за гары
Ды ўсё крутарогі,
Любяць мяне, мая маці,
Хлопцы чарнабровы.

Жануць валы із-за гары,
Падкоўкамі крэшуць,—
Аддай, маці, дачку замуж,
Як людзі не брэшуць.

— Няхай брэшуць, няхай брэшуць,
Набрэшуцца ліха,
Няхай мае родна дзіця
Пагуляе сціха.

Ячмень жала, ячмень жала,
Снапоў не вязала,—
Не год, не два любіліся —
Праўды не казала.

Тады ж бо я снапы звяжу,
Як сонейка зайдзе,
Тады ж бо я праўду скажу,
Як на мае выйдзе.

## 52. ОЙ, ЗАРАДЗІЛІ СІЛЬНА, БУЙНА *

Ой, зарадзілі сільна, буйна
Ягады ў бары (ды).
Ой, там хадзіла красна дзеўка,
Ягады брала.

Ой, заблудзіла красна дзеўка
У сырым бары (ды).
Ой, прыблудзіла красна дзеўка
К круту берагу.

Ой, гукала, выклікала
Перавозлічка (ды):
— Ой, перавознік, бел-малойчык,
Хлопец малады.

Перавязі ты красну дзеўку
На той бок ракі (ды),
Ой, што захочаш, што запросіш,—
Усё я заплачу.

— Ой, не хачу я, красна дзеўка,
Нічога з цябе (ды),
Ой, ці ты пойдзеш, красна дзеўка,
Замуж за мяне?

## 53. ОЙ, ПАЙДУ Я КРУГОМ ЛУГА

Ой, пайду я кругом луга,
Шукаючы свайго друга.

Няма ў лузе нікагенька,
Толькі адзін салавейка.

Салавейка на купіне,
Мой міленькі на Украіне.

— Зляці, салавейка,
З дрэва высокага,

Прыедзь, прыбудзь, мой міленькі,
З краю далёкага.

Калі ты прыбудзеш,
То я рада буду,

Калі не прыбудзеш —
Сільна плакаць буду.

## 54. ОЙ, ТОНКА, ТОНКА САСОНКА

Ой, тонка, тонка сасонка,
Ці за тым тонка, што ў бары,
Служыў малойчык пры цары.
Ой, служыў, служыў тры гады,

Ой, служыў, служыў тры гады,
Выслужыў сабе коніка,
А пры коніку сядзельца,
А пры сядзельцы тры свячы.

Ехаў да цешчы з паўначы.
Заспеў паненку не сплючы,
У новым ганку седзячы,
Шоўкам кашульку шыючы.

Ой, з тонкай толькі рукаўкі,
З белай паперкі — каўнеркі,
Ой, шыю, шыю, штампую,
Свайму міламу мяркую.

## 55. ОЙ, ВЫПІЛА ЧАРАЧКУ ДЛЯ ПРЫМЕТУ

Ой, выпіла чарачку для прымету,
А майго мілага дома нету.

Ой, паехаў міленькі ў гарадочак
Зусім не надоўга, на гадочак.

Лягла пад ракітаю і заснула,
Як прыехаў мілы, не пачула.

— А ўстань, устань, мілая, ды прачніся,
На свайго мілога падзівіся.

Мілая устала, як бы не спала,
Абняла мілога ды й цалавала.

## 55а. ГНУЛА, ГНУЛА ВІШАНЬКУ

Гнула, гнула вішаньку не нагнула,
Да ўпала пад вішаньку дай заснула.

Да ўпала пад вішаньку дай заснула,
Як прыехаў міленькі дай не чула:

— А ўстань, устань, мілая, дай прачніся,
На маю калясачку падзівіся,

Да мая калясачка не прастая,
Да мая калясачка залатая.

Да мая калясачка залатая,
Дай мая падушачка пухавая.

## 56. ЦЕМНА НОЧКА, ПАРА СПАЦЬ

Цёмна ночка, пара спаць,
Нет з кім ночкі начаваць.

Пайшоў мілы у лясочак,
Падай, мілы, галасочак!

— Рады быў бы голас даць,
Чужыя людзі стаяць.

Не чужыя, ўсе свае,
Ўсе таварышы мае.

## 57. ПА САДУ ХАДЖУ *

Па саду хаджу
І руту саджу,
Ой, рута мая
Засушоная.

Ой, рута мая
Засушоная,
Дзяўчына мая
Засмучоная.

Чаго ты ходзіш,
Чаго ты нудзіш?
Сама не знаеш,
Каго ты любіш.

Ой, знаю, знаю,
Каго кахаю,
Сама не знаю,
З кім жыці маю.

Ці з тым бяленькім,
Ці з тым чарненькім,
Ці з тым прыгожым
Ды маладзенькім.

## 57а. ДЗЯЎЧЫНА МАЯ ЗАРУЧОНАЯ

— Дзяўчына мая заручоная,
Чаго ты ходзіш засмучоная?

Чаго ты ходзіш, чаго ты нудзіш?
Скажы мне праўду, каго ты любіш?

— Як жа не хадзіць, як жа не нудзіць,
Каго любіла — не магу забыць.

Кладу я ручкі пад галавою,
Кладуся спаці сама з сабою.

Ой, божа, божа, за што нас мучыш?
Чаму нас, божа, ў пару не злучыш?

Ой, знаю, знаю, каго кахаю,
Толькі не знаю, з кім жыць я маю.

Ой, знаю, знаю, з кім я люблюся,
Толькі не знаю, з кім ажанюся.

## 58. КУКАВАЛА ЗЯЗЮЛЕНЬКА

Кукавала зязюленька
У садзе на памосце.
Эй, кукавала зязюленька
У садзе на памосце.

Прыехалі да дзяўчыны
Тры казакі ў госці.
Эй, прыехалі да дзяўчыны
Тры казакі ў госці.

Адзін казак каня вядзе,
Другі сядло вяжа.
Эй, адзін казак каня вядзе,
Другі сядло вяжа.

Трэці стаіць пад аконцам,
«Добры вечар» кажа.
Эй, трэці стаіць пад аконцам,
«Добры вечар» кажа.

— Добры вечар, стара маці,
Дай вады напіцца.
Эй, добры вечар, стара маці,
Дай вады напіцца.

Людзі кажуць, дачку маеш,
Дай нам падзівіцца.
Эй, людзі кажуць, дачку маеш,
Дай нам падзівіцца.

— Кружка ў хаце, вада ў сенях,
Ідзі ды напіся.
Эй, кружка ў хаце, вада ў сенях,
Ідзі ды напіся.

Дачка мая на гулянні,
Ідзі падзівіся,
Эй, дачка мая на гулянні,
Ідзі падзівіся.

— Вада твая не халодна,
Пайду да крыніцы.
Эй, вада твая не халодна,
Пайду да крыніцы.

Дачка твая не лагодна,
Пайду да ўдавіцы.
Эй, дачка твая не лагодна,
Пайду да ўдавіцы.

7. Зак. 15

## 59. ПАКАЦІЎСЯ ТУМАН *

Пакаціўся туман, туман па даліне,
Туман па даліне.
А ў тым тумане, а ў тым жа цёмным
Сівы голуб лятаў.

А ён і лятае, а ён і буркуе,
Галубкі шукае:
— А ці вы відзелі, а ці вы слышалі
Галубку маю?

— А мы відзелі, а мы слышалі
Галубку тваю.
Яна прыляцела, крыллі распусціла,
Села над вадой.

Яна прыляцела, крыллі распусціла,
Села над вадой,
Яна умывала бела сваё ліца
Крынічнай вадой.

Яна выцірала бела сваё ліца
Шаўковым платком,
Яна расчасала сваю русу косу
Частым грэбянём:

— Расці, расці, каса, расці, расці, каса,
Аж да пояса,
Каб я, маладая, доўга не гуляла,
Скора замуж пайшла.

## 60. РАСКУШУ ГАРЭШКА

Раскушу гарэшка,
Раскушу сухога,
Выму з яго зерца.
Выйдзі, выйдзі,
Прекрасная дзяўчына,
Пацеш маё сэрца.

Ой, мая галубка,
Сівая-сівенька
Сядзіць над ракою.
Яна умывае
Сваё бела ліца
Морскаю вадою.

Яна умывае
Сваё бела ліца
Морскаю вадою.
Яна выцірае
Сваё бела ліца
Русаю касою.

Расці, мая каса,
Расці, мая руса,
Як у садзе вішня,
Каб я малада,
Маладзюсенька
Скора замуж вышла.

# ДЗЯВОЧЫЯ ЧАРЫ

## 61. МУЗЫКА ІГРАЕ

Музыка іграе,
Дзяўчына гуляе.
Няхай майго маладога
Ніхто не займае.

А хто яго зойме,
Сабе ліха знойдзе:
Ой, я яго ачарую,
Дадому не зойдзе.

## 62. ЧЫЕ ГЭТА ШЭРЫ ВАЛЫ

Чые гэта шэры валы
Па гарах хадзілі?
Ці не таго казачэнькі,
Што мы ўтрох любілі?

Адна была любіць стала —
Пасцель белу слала.
А другая любіць стала —
Усё цалавала.

[А другая любіць стала —]
[Усё цалавала.]
А трэцяя любіць стала —
Усё чаравала:

— Ой, чарую ручкі, ножкі,
Аленькія шчочкі,
Штоб не бегаў да другея
Цёмненькаю ночкай.

Штоб не бегаў да яе,
Штоб не прызнаваўся,
А на мяне, маладую,
Штоб не забываўся.

## 62a. ОЙ, ЧЫЕ ТО СІВЫ ВАЛЫ

Ой, чые то сівы валы
Па гарэ хадзілі,
Ці не таго казачэнькі,
Што мы ўтрох любілі.

Ой, першая палюбіла,
Рэчы гаварыла,
А другая палюбіла,
Пасцель белу слала.

А другая палюбіла,
Пасцель белу слала,
А трэцяя палюбіла
І прычаравала.

Чаравала рукі-ногі
І карыя вочы,
Штоб не хадзіў казачэнька
Да дзевачак у ночы.

## 63. ОЙ, ПАЙДУ У САДОЧАК

Ой, пайду ў садочак
Да сарву лісточак
Да й накрыю свайму
Міламу слядочак.

Штоб раса не пала,
Пташкі не хадзілі,
Штоб майго мілога
Другія не любілі.

Адна палюбіла
Шчэ й прычаравала,
Не салёну рыбку
Вячэраць давала.

— Вячэрай, казача,
Да ідзі дадому,
Калі не жанаты,
То начуй са мною.

— Рад бы я, дзяўчына,
З табой начаваці,
Ёсць у мяне жонка
Да старая маці.

Ёсць у мяне жонка
Да старая маці,
І дзетачак двое,
Чарнявы абое.

— Дурны ты, казача,
Дурным ты астаўся;
На чужой старонцы
Жанатым прызнаўся.

## 64. ОЙ ТЫ, МІЛЫ, МІЛЫ

Ой ты, мілы, мілы,
Мой слаўны казача,
Па табе, мой мілы,
Уся старонка плача.

Не гэтак старонка,
Малада дзяўчына,
Малада дзяўчына
Хлопца палюбіла.

Не так палюбіла,
Як зачаравала,
Дала яму чару,
Што сама й не знала.

У зялёным садзе
Каня прывязала,
Узяла расчоску,
Грыўку расчасала.

— Ой ты, коне, коне,
Бяжы ў чыста поле,
Там мая дзяўчынанька
Ды й пшанічку поле.

Яна поле, поле,
Асот выкідае,
Каню вараному
На грыву кідае.

## 65. ОЙ, МАТАНЬКА, ШТО РАБІЦЬ?

Ой, матанька, што рабіць?
Не хоча міленькі любіць.

— Пайдзі, доня, да гаю,
Нарві зелля размаю.

— Я размаю не знаю,
Але ў людзей спытаю.

Шчэ й да гаю не дайшла,
Розных зёлачак найшла.

Выкапала кораня
З-пад белага каменя,

Вымыла яго ў рацэ,
Высушыла на руцэ.

[Высушыла на руцэ]
Ды спарыла ў малацэ.

Шчэ й карэньчык не ўскіпеў,
А ўжэ мілы прыляцеў.

— А што ж цябе прынясло,
Ці чаўночак, ці вясло?

— Прынёс мяне сівы конь
К дзеўчыне на супакой,

Да дзяўчыны, да душкі
У пухавыя падушкі.

## 66. ОЙ, НА СТАВУ, НА СТАВОЧКУ

— Ой, на ставу, на ставочку
Качачка начуе.
Нам не жыць з табою ў пары —
Душа мая чуе.

— Як не хочаш, дзяўчыначка,
Дружынаю быці,
То дай мне такое зелле,
Каб цябе забыці.

— Е ў мяне такое зелле,
Шчэ й за пералазам.
Як дам табе напіціся,
Забудзеш адразу.

— Не забуду, дзяўчынанька,
Я ні ўдзень, ні ўночы,
Толькі тады я забуду,
Як заплюшчу вочы.

## 67. СЯДЗІЦЬ ГОЛУБ НА ДУБОЧКУ

Сядзіць голуб на дубочку,
Галубка на вішні.
— Скажы, скажы, дзяўчыніца,
Што ў цябе за мыслі?

Сядзіць голуб на дубочку,
Галубка на водзе.
— Скажу табе, мой міленькі,
Любіціся годзе.

— А што ж табе, мая міла,
За прычына стала?
Што ты мяне, маладога,
Любіць перастала?

Не хочаш ты, дзяўчыніца,
Каханаю быці,
Дай жа ты мне таго зелля,
Штоб мог празабыці.

— Ёсць у мяне тое зелле
Ніжай пералазу,
Як дам табе напіціся,
Забудзеш адразу.

— Буду піці цераз сілу,
Каплі не выпушчу,
Тады на цябе забуду,
Як вочы заплюшчу.

З-пад каменя вада бяжыць,
На камені суха.
— Не еж хлеба, не пі вады,
Мая шчабятуха.

— А я ж буду і хлеб есці,
Буду й воду піці,
Няхай табе, мой міленькі,
Тошна будзе жыці.

Не ўсе тыя сады цвітуць,
Што раскідаюцца,
Не ўсе тыя дзевак бяруць,
Што заляцаюцца.

## 68. КАЗАЧЭНЬКА-БАРВІНАЧКУ *

— Казачэнька-барвіначку,[1]
Вазьмі мяне, дзяўчыначку.
— Як я магу цябе браці,
Калі ў цябе брат багаты?

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Зчаруй, дзеўка, брата свайго,
Будзеш меці міленькага.

— Як я магу шчараваці,
Калі чар не магу знаці?

— Вазьмі, дзеўка, ты вады гаршчок
Ды й пастаў жа пад ялоўчык.

Будзе сонца прыграваці,
Будуць чары прыбываці.

Ой, шчэ братка ў дарозе,
А ўжо чары на парозе.

— Здароў, братка, здаражыўся,
Вазьмі піва ды напійся.

— Ой ты, сястра, што за піва,
Што ўжо з коніка схіліла?

Прадай, сястра, каня майго,
Пахавай жа брата свайго.

Сястра брата пахавала,
Да казака ліст паслала.

— Казачэнька-барвіначку,
Бяры мяне, дзяўчыначку.

— Як я магу цябе браці,
Ты ўмееш чараваці.

Шчаравала брата свайго
Ды й шчаруеш міленькага.

## 69. ОЙ, ХМЕЛЬ, МАМКА, ОЙ, ХМЕЛЬ, МАМКА *

Ой, хмель, мамка, ой, хмель, мамка,
Хмель галаваньку клоніць!
— Гэта табе, мой сыночку,
Ўсё сваволенька робіць.

Што позненька кладавішся
Ды раненька не ўстаеш,
Што ў дзяўчыны у каморы
Чабаткоў забываеш.

Ехаў казак, ехаў казак
І з коніка схітнецца,—
Сядзіць дзеўка ля ваконца
Ды з казака смяецца.

— Ой, не смейся, дзяўчынонька,
Ой, не смейся, не смейся,
Бо я ў цябе, маладое,
Атрутанькі наеўся.

У адным рагу у пірагу
Той зялёная рута,
У другім рагу у пірагу
Справядлівая атрута.

## 70. А Ў МАРУСІ ХАТА НА ПАМОСЦЕ *

А ў Марусі хата на памосце,
А ў Марусі, а ў Марусі хата на памосце.

Прыехалі тры казакі ў госці,
Прыехалі, прыехалі тры казакі ў госці.

— Ой, хто ж бо мне зеллейка дастане,
Ой, хто ж бо мне, ой, хто ж бо мне зеллейка дастане,

Той са мною на ручнічку стане,
Той са мною, той са мною на ручнічку стане!

Першы кажа: Я Марусю люблю!
Другі кажа, другі кажа: Я Марусю вазьму!

Трэці кажа: Зеллейка дастану,
Я з Марусяй, я з Марусяй на ручнічку стану!

Ёсць у мяне тры кані на стайні,
Ёсць у мяне, ёсць у мяне тры кані на стайні.

Адзін конік як лебедзь бяленькі,
Другі конік, другі конік як голуб сівенькі.

Трэці конік як воран чарненькі,
Трэці конік, трэці конік як воран чарненькі.

Белым канём поле пераеду,
Сівым канём, сівым канём за мора даеду,

Чорным канём зеллейка дастану,
А з Марусяй, а з Марусяй на ручнічку стану!

Ой, стаў Яся зеллейка капаці,
Стала над ім, стала над ім зязюлька куваці.

— Годзе, Яся, зеллейка капаці,
Бо ў Марусі, бо ў Марусі вяселлейка ў хаці!

## 71. БЫВАЙЦЕ ЗДАРОВЫ

Бывайце здаровы,
Чужыя парогі,
Дзе мае хадзілі
Беленькія ногі.

Дзе яны хадзілі,
Хадзіці не будуць.
[Мае варажэнькі]
[Мяне прызабудуць.]

Ах, божа мой, божа!
Да што мне рабіці,
Ці ў белым, ці ў чорным
На вуліцу выйсці?

Пашоўшы у белым,
Скажуць: разлучніца,
Пашоўшы у чорным,
Скажуць: чараўніца.

## 72. А НА НЕБЕ, НЕБЕ

А на небе, небе
Цёмна хмара ўстала,
На цябе, Ганнулька,

Ды няслава ўспала.
— Бадай тыя людзі
Ды хлеба не елі,
Як я, маладая,
Чараваць не ўмею.
Як я, маладая,
Чараваць не ўмею.
[Чараваць не ўмею]
[І зелля не знаю.]
Адно толькі знаю —
Хмель да пятрушку,
Хмель да пятрушку,
Мілога душку.

## 73. ЦЕРАЗ РЭЧАНЬКУ, ЦЕРАЗ БАЛОТА *

— Цераз рэчаньку, цераз балота
Падай ручэньку, маё залота.
— Ручкі не падам, бо душу згублю,
Не скажу праўды, каго я люблю.[1]

— Цераз рэчаньку, цераз быструю
Падай ручэньку, падай другую.
— Ой, знаю, знаю, каго кахаю.
Толькі не знаю, з кім жыці маю.

Ой, там у саду, саду-садочку,
Там расцвітаюць розны цвяточкі.
Ой, я хадзіла і гаварыла,
Судзі мне, божа, каго любіла.

— Ой ты, дзяўчына, чараўнічэнька,
Ачаравала маё лічэнька,
Ачаравала цела і душу,
Цяпер да цябе хадзіці мушу.

— Каб так дайшоў з сяней да хаты,
Колькі я знаю, як чараваці.
А мае чары напагатове —
Белае лічка, чорныя бровы.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

# НАГАВОРЫ НА ДЗЯЎЧЫНУ. МАЦІ-ПАРАДНІЦА

## 74. ЯК ПАЙДУ Я КАЛЯ ЛУГУ

Як пайду я каля лугу,
Ой, міламу на паругу.

Як пайду я каля саду,
Ой, міламу на дасаду.

Як пайду я каля лугу
На людскую пераругу.

## 75. ДРАМЛІВА ПОЛЕ, ДРАМЛІВА

Драмліва поле, драмліва,
А на ягадкі ўрадліва.

Пашла Яначка ў ягадкі — заснула,
Ехаў Яначак — не чула.

Махнуў платочкам — не дастаў,
Кінуў яблычкам — не ўлучыў.

Кінуў яблычкам — не ўлучыў,
А злез з коніка — разбудзіў.

— Не спі, Яначка, на полі,
А спі, Яначка, у каморы.

У каморы мамка пабудзіць,
І ніхто ведаць не будзіць.

І ніхто ведаць не будзіць,
На полі людзі асудзяць.

## 76. ОЙ, РАЗВІЛАСЯ ЗЯЛЁНА ДУБРОВА *

Ой, развілася зялёна дуброва
На той круценькай гарэ;
Ой, разышлася варожа забава
Аб маёй дзявочай красе.

Вецер павее, сонейка прыгрэе,
Рана раса ападзе,
Так мая доля, краса маладая,
На век марна, эх, прападзе.

А ў тэй дуброве птушачка спявае,
Сэрцу жалю надае,
Дзевачка плача, долю праклінае:
А хто любіць, не прыдзе.

## 76а. ОЙ, РАЗВІЛАСЯ ЗЯЛЁНА ДУБРАВА *

Ой, развілася зялёна дубрава
На той круценькай гарэ,
Ой, разышлася варожа забава
Аб маёй дзявочай красе.

Вецер павее, сонейка прыгрэе,
Ранняя раса ападзе,
Так мая доля, краса маладая,
На век вечны прападзе.

А ў дубраве пташачка спявае,
Тонкі голас падае,—
Дзеўка гукае, долю выклікае,
Толькі доля к ёй не ідзе.

## 77. А ЗА ЛІХІМІ ЗА МАРОЗАМІ *

А за ліхімі за марозамі
Рутачка не ўсходзіць.[1]

[1] Апошні радок кожнай страфы паўтараецца тройчы.

А за людскімі за языкамі
Міленькі не ходзіць.

Ой, узыйдзі, узыйдзі, узыйдзі, рутачка,
Хаця завяжыся!

Ой, прыдзі, прыдзі, прыдзі, міленькі,
Хаця пакажыся!

## 78. А Я Ў БАРУ ВАДУ БЯРУ

— А я ў бару ваду бяру,
Ставу не дастану.
Сватай мяне, казачаньку,
Не ўводзь мяне ў славу.

— Сама бо ты, дзевачка,
Славачку даходзіш,
Што позненька да не раненька
З вуліцы не сходзіш.

— Ох і рада б, казачанька,
Раненька схадзіці.
Як паймае за ручэньку,
Не можа пусціці.

Як паймае за другую,
Гаворыць, гаворыць,
Як па майму па сэрданьку,
Як ножыкам кроіць.

— Не патурай, дзяўчыначка,
Сваёй гаворанькі.
Дзяржы розум да і добры,
А і ум жа да доўгі.

— Як дзяржала розум добры,
Да пусціла ў воду.
Паўпавала на казака,
На яго чорны бровы.

## 79. А ПАД ГАЕМ, ГАЕМ

А пад гаем, гаем,
Гаем зеляненькім,
Там арала дзяўчыніца
Канём вараненькім.

Арала, арала
У тры баразёнкі,
Засеяла, запахала
Траякія зёлкі.

Раслі тыя зёлкі,
Сталі паспяваці,
Пара, пара, дзяўчыніца,
Зёлкі зажынаці.

Пайшла дзяўчыніца
Зёлкі зажынаці,
Дзе узяўся казачок —
Снапочкі вязаці.

Жала яна, жала,
Захацела есці:
Мусіў казак для дзяўчыны
Абедаць прынесці.

Ела яна, ела —
Захацела піці:
Мусіў казак для дзяўчыны
Жбан піва купіці.

Піла яна, піла —
Захацела гуляці:
Мусіў казак для дзяўчыны
Цымбалы наняці.

Гуляла, гуляла —
Захацела спаці:
Мусіў казак для дзяўчыны
Белу ложу слаці.

Спала яна, спала —
Захацела ўкрыцца:
Мусіў казак да дзяўчыны
І сам прытуліцца.

Пайшла тая слава
Далей за Варшаву:
Маладая дзяўчыніца
Ды й з казакам спала.

### 79a. А ПАД ГАЕМ, ГАЕМ

А пад гаем, гаем,
Гаем зеляненькім,
Там арала дзяўчыначка
Волікам чарненькім.[1]

Арала, арала
У тры баразёнкі,
Паследчыла, запахала
Свае чарназёмкі.

Раслі, раслі ёлкі,
Сталі пасыхаці,
Ехаў казак з Украіны,
Мусіў каня ўняці.

Мусіў каня ўняці,
Сярпочак скаваці,
Пара, пара, дзяўчыначка,
Чарназёмку жаці.

Яна жала, жала,
Захацела есці,
Мусіў казак для дзяўчыны
Абедаць прынесці.

Яна ела, ела,
Захацела піці,
Мусіў казак для дзяўчыны
Жбан віна купіці.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Яна піла, піла,
Захацела гуляць,
Мусіў казак для дзяўчыны
Цымбалачкі наняць.

Гуляла, гуляла,
Захацела спаці,
Мусіў казак для дзяўчыны
Каптанік паслаці.

Яна спала, спала,
Захацела ўкрыцца,
Мусіў казак да дзяўчыны
Бліжай прыкаціцца.

А як пашла слава,
Слава да Аршава,
А што дзеўка з казаком
Ночку начавала.

А я ж тыя славы,
Славы не баюся,
Як пайду я ў чыста поле,
У полі расхаджуся.

Ай у чыстым полі
Траякія зёлкі,
Паб'юць цябе, казачэнька,
Сіроцкія слёзкі.

Сіроцкія слёзкі
Дарма не мінаюць,
На камені падуць,
Камень разбіваюць.

## 80. ТАМ У ЛУЗЕ, ЛУЗЕ

Там у лузе, лузе
Зацвіла каліна,
Захацела ў садзе спаці
Малада дзяўчына.

Захацела ў садзе спаці
Там пад яблынькамі:
— Пусці, маці, пагуляці
Ночку з малайцамі.

Сядзіць братава на лаўцы,
Ў вокны паглядае:
— Ужо твая дочка, маці,
З хлопцамі гуляе.

— Ой, бадай ты, братава,
З лаўкі ды не ўстала,
Як на мяне, маладую,
Няпраўду сказала.

Бадай жа ты, братава,
З хаціны не выйшла,
Як на мяне, маладую,
Няславанька выйшла.

## 81. ОЙ, НА ГАРЭ СУХІ ДУБ

— Ой, на гарэ сухі дуб,
А ў даліне арашок,

А ў даліне арашок,
Падай, дзеўка, галасок.

— Ой, я рада б голас даць,
Завуць мяне ў сад гуляць.

У саду вішанькі шумяць,
Праз нас людзі гавараць,

Пра цябе ды пра мяне,
Што ты ходзіш да мяне.

Ой, як ходзіш, то й хадзі,
Нагавору не рабі,

Нагавору не рабі,
Мяне верна век любі.

Бо як зробіш нагавор,
Не заходзь і на мой двор.

Не заходзь і на мой двор,
Я чужая, ты — не мой.

## 82. НА ГАРЭ ДУБОЧАК *

На гарэ дубочак,
Зялёны лісточак.
Не бачыла міленькага
Ўжо другі дзянёчак.[1]

Учора панядзелак,
Сягоння аўторак.
Я думала, маладзенька,
Што нядзелек сорак.

Па садочку хаджу,
Руту-мяту саджу.
— Выйдзі, выйдзі, мой міленькі,
Штось. я табе скажу.

— А я табе скажу,
Што людзі гавораць,—
Што да цябе, мая міла,
Кавалеры ходзяць.

Чатыры хадзілі,
Няверна любілі,
Стаў пяты хадзіці,
Стаў верна любіці.

— Перастань, міленькі,
Да мяне хадзіці,
Як дазнае мая маці,
Будзе мяне біці.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

— Ой, я не пакіну,
Я не перастану,
Пакуль жа ты, мая міла,
На шлюбаньку станеш.

— Ёсць у мяне зелле
Ніжай пералазу,
Як дам табе напіціся,—
Пакінеш адразу.

## 82а. НА ГАРЫ ДУБОЧАК

На гары дубочак,
Зялёны лісточак,
Няма майго міленькага
Ўжо трэці дзянёчак.

Адзін панядзелак,
А другі аўторак,
Я думала, маладзенька,
Што нядзелек сорак.

Біла мяне маці,
Будзе яшчэ біці,
Пакінь, пакінь, мой міленькі,
Да мяне хадзіці.

— Ой, не перастану,
Як на шлюбу стану,
Ліца твайго румянага,
Сардэчнага стану.

— Ест у мяне зелле —
Вышэй пералазу,
Як дам зелле напіціся,
Пакінеш адразу.

## 83. ОЙ, ЗЫДЗІ, ЗЫДЗІ, ЯСНЫ МЕСЯЦУ

— Ой, зыдзі, зыдзі, ясны месяцу
Як млыновае кола,
Ой, выйдзі, дзеўча, сэрца і душа,
Да прамоў жа ж мне слова.

— А хоць я зыйду, хоць я не зыйду,
То свяціці не буду,
А хоць я выйду, хоць я не выйду,
Гаварыці не буду.

Людзі гавораць, людзі сачуюць,
Штоб цябе не любіці.
Няхай гавораць, няхай сачуюць
Хоць па цаламу свету.

Няхай гавораць, няхай сачуюць
Хоць па цаламу свету.
Я цябе любіў, любіці буду,
Мой ружовенькі цвету!

Мала пташачка, невялічкая
Да па ельнічку скача,
Дурная дзеўча, неразумная
Па кавалеру плача.

— Ой, я не плачу, ой, я не тужу,
Самі слёзанькі льюцца,
Што ад мілага лістоў не чую,
Ад нялюбага шлюцца.

Хоць яны шлюцца, хоць яны не шлюцца,
Я на тое не дбаю,
Ой, расці, каса, ніжэй пояса,
Яшчэ з рок пагуляю.

## 84. ПАЙДУ У ЛЯСОК, ПАЙДУ У ЛЯСОК

Пайду ў лясок, пайду ў лясок,
Дзе ліпаньку чэшуць.
Як выйду я на вулічку,
То ўсе людзі брэшуць.

Няхай брэшуць, няхай брэшуць —
Набрэшуцца ліха.
А я з сваім мілюсенькім
Пагавару з ціха.

Два галубкі воду пілі,
А два калацілі.
Бадай тыя паўміралі,
Што нас разлучылі.

Два галубкі воду пілі,
А два купаліся.
Бадай тыя паўміралі,
Што з нас смяяліся.

## 85. ЦІ НЕ БЫСТРАЯ РЭЧКА *

— Ці не быстрая рэчка
Ваду замуціла?
Чаго плачаш, дзяўчынанька,
Ці не матуля біла? [1]

— Ой, біці не біла,
Толькі засмуціла.
Не даў мне бог, не судзіў мне бог,
Каго верна любіла.

Пайду я гарою,
А ты даліною,
Сама знаю, людзі гавораць,
Што не быць мне з табою.

— Няхай сабе кажуць
Усякае ліха,
А мы з табой, дзяўчынанька,
Любімося ціха.

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

## 86. ОЙ, У ПОЛІ КАЛІНА *

Ой, у полі каліна
Ды з вятром гаварыла:
«Павей, павей, ціхі ветрык,
Каб я тут не тужыла!» [1]

Ой, ні вецер не вее,
Ні сонца не грэе,
Толькі гарох пры дарозе,
Як трава зелянее.

Ой, у полі азерца,
Там плавала вядзерца,
Выйдзі, выйдзі, пагаворым,
Маё мілае сэрца.

— Ой, не раз выхадзіла
Ды з табой гаварыла,
Людзі кажуць і гавораць,
Што цябе не любіла.

— Няхай кажуць, гавораць
Хоць па цэламу свету,
А я цябе любіць буду,
Мой ружовенькі цвету.

## 87. ПАСЕЮ Я КАНАПЕЛЬКІ *

Пасею я канапелькі,
З густа зеляненькі.[2]

Нагневаўся мой міленькі
Цераз варажэнькі.

Ой, вазьму я гостру косу,
Канопелькі скошу,

А я свайго міленькага
З радком перапрошу.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.
[2] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Просіць бацька, просіць маці,
Уся мая радзіна,

Няхай яго перапросіць
Ліхая гадзіна.

## 88. ДОСЫЦЬ, КАЛІНКА ЧЫРВОНЕНЬКАЯ

Досыць, калінка чырвоненькая,
Табе ў лузе стаяці,
Цябе, калінка чырвоненькая,
Пташачкі аклявалі.

Не так пташачкі, не так пташачкі,
Як дробны птушаняткі,
Прылятуць — клюнуць, палятуць — клянуць,
Ягадкі несалодкі.

Досыць, дзевачка маладзенькая,
Табе ў мамкі гуляці.
Цябе, дзевачка маладзенькая,
Суседкі асмяялі.

— Не так суседкі, не так суседкі,
Як мае пароўніцы.
Ай, няхай судзяць, няхай гавораць,
Бо я іх не баюся.

Ай, няхай судзяць, няхай гавораць,
Бо я іх не баюся.
Сваты прыедуць, я замуж пайду,
І я з іх насмяюся.

## 89. ПА САДОЧКУ ХАДЖУ

— Па садочку хаджу,
Барвяночак саджу,
Прыхіліся, мая міла,
Што ж я табе скажу.

Ой, ці чуеш, міла,
Што людзі гаворацъ,
Што да цябе маладыя
Афіцэры ходзяць.

— Ой, няхай гавораць,
Было не лядашча,
Тады, мілы, пакараеш,
Ой, як будзе зашча.

То на свеце стала,
Шчо ўсё людзі гудзяць,
Справядліва і няслушна
Ўсякага асудзяць.

А я, маладзенька,
Гуляю і скачу.
Бо добрая мая доля,
То й і не заплачу.

## 90. ШТО ЗА МЕСЯЦ, ШТО ЗА ЯСНЫ *

Што за месяц, што за ясны,—
Ўночы свеціць, а ўдзень не.
Што за міленькі дружочак,—
Калі прыйдзе, калі не.

Усе людзі, людзі кажуць,
Усе людзі гаварацъ:
— Сорам, дзеўка, сорам, красна,
Позна з вечара гуляць.

Дзяўчыначцы кепска стала,
Стала плакаць ды ўздыхаць,
Хлапчыноньку шкода стала,
Стаў дзяўчынку суцяшаць.

— Не плач, дзеўка, не плач, красна,
Прыйду ў госці да цябе,
Разгарыцца кроў гарача —
Вазьму замуж за сябе.

## 91. ДЗЯЎЧЫНА-САРДЭНЬКА *

— Дзяўчына-сардэнька,
Выйдзі пад акенка,
Прынясе хлапчына
Яблычка красненька.[1]

Прынясе адное,
Прынясе другое,
Ой, выйдзі, дзяўчына,
Ты сардэнька мое!

— Не выйду, не выйду,
Бо людзей баюся,
Будуць гаварыці,—
З табою люблюся.

— Няхай пагавораць,
Мы іх не баімся,
Прыдзе та нядзеля,
На шлюб станавімся.

Станем мы на шлюбе
Абое цясненька,
Няхай пагавораць
Людзі галасненька.

## 92. ЯШЧЭ ПОЛЕ НЕ АРАНА *

Яшчэ поле не арана,
Само жыта сходзіць.
Не любіла кавалера,
Сам да мяне ходзіць.

Нахіліўся клён-дзераўца
Пад маё аконца,
Я думала нелюб стаіць,
Ажно маё сэрца.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Прашу, прашу, сарданятка,
Са двара у сені,
А ўжо мае варажэнькі
На вячэру селі.

Прашу, прашу, сарданятка,
А з сяней да хаты,
А ўжо мае варажэнькі
Палягалі спаці.

А ўжо мае варажэнькі
Моцненька заснулі,
А ўжо мяне, маладую,
Судзіці забылі.

## 93. ПЛЫЛІ ГУСІ, ПЛЫЛІ ГУСІ

— Плылі гусі, плылі гусі
Быстраю вадою,
Маладая дзеўчыненька,
Размоўся са мною.

— Як я буду, як я буду
З табою размаўляці,
Калі відзіць праз акенца
Мая родна маці.

Матуль мая, матуль мая,
Парадніца ў хаце,
Парадзь жа мне, парадзь жа мне,
Як мілога зваці?

— А як сядзеш, мая доньку,
За цясовым столам,
Назвеш яго, назвеш яго
Мілым да саколам.

## 94. КАЛЯ МАЙГО ЦЕРАМА, КАЛЯ МАЙГО НОВАГА *

Каля майго церама, [1] каля майго новага
Бітая дарожачка, таптаная сцежачка.
Туды ішлі малойцы, у гуселькі йграючы,
У гуселькі йграючы, песенькі спяваючы.
Як зачула дзевіца, як зачула красная,
У цераме седзячы, кашулечку шыючы.
Прасілася дзевіца а ў роднай маманькі:
— Пусці мяне, мамачка, пусці мяне родная,
З церама на ганачак гуселек паслухаці,
Гуселек паслухаці, песенак наўчыціся.

## 94а. КАЛЯ МАЙГО ЦЕРАМА

Каля майго церама
А там ішла сцежачка,
А па той сцежачцы
Там ішоў моладзец.

Там ішоў моладзец,
У гуселькі іграючы,
У гуселькі іграючы,
Песенькі спяваючы.

Як учула дзевіца,
У свяцёлцы седзючы,
У свяцёлцы седзючы,
У аконца гледзючы.

— Ой, маць мая, матулька,
Ды пусці на вуліцу
Гуселек паслухаці,
Песенек паўчыціся.

— Ой, доч мая, дочанька,
Гуселькі з пуця звядуць,
Гуселькі з пуця звядуць,
Песенькі састараюць.

---

[1] Першая палавіна кожнага радка паўтараецца.

— Ой, маць мая, матачка,
Ды не праўдачка твая —
Ліхі муж з пуця звядзець,
Бедачкі састараюць.

## 95. УСЕ ХМАРАЧКІ ДЫ ПА ПАРАЧЦЫ

Усе хмарачкі ды па парачцы,
Адна хмарачка розна.[1]

А не сварыся, мая мамачка,
Што прыходжу я позна.

А хоць сварыся, хоць не сварыся,
Ты мяне не навучыш.

Каго я люблю, каго кахаю,
Ты мяне не разлучыш.

Дай волечку мне, да мне, маладой,
Дык помніці буду.

Замуж выйду, хоць як жыць буду —
Цябе не забуду.

## 96. ОЙ, У ЛУЗЕ, СУХАЛОЗЕ

Ой, у лузе, сухалозе
Трубіць казак пры дарозе,
Ой, ён трубіць і не трубіць,
Пад ім конік часта блудзіць.
Прыблудзіў ён да Дунаю,
Стаў дарожанькі пытаці,
Стала зязюлька каваці.
— Не куй, не куй, зязюленька,
Няхай пяе салавейка —
Салавейка боле й знае,
Нам дарожку распазнае.
Ой, па праваму — дарожка,
А па леваму — дзяўчына,
Забыўся я папытаці,

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

За што біла дзеўчу маці.
— Хоць і біла ці не біла,
То на ліха не вучыла,—
Каб з казакам не стаяла,
Белых ручак не давала.
Персцянёчкаў не мяняла,
Шчырай праўды не казала.

## 97. ТАМ, ЗА МОРАМ, ЗА РАКОЙ

Там, за морам, за ракой [1]
Жыла-была ўдава.

Яе дочка хараша,
Цёмнай ночкай уцякла.

Маці дочку шукала,
Ахвіцэра пытала.

— Ахвіцэрык малады,
Ці не бачыў маю дочку?

— Бачыў, бачыў тваю дочку
Пад прыгожанькім дварцом,

Там з прыгожым малайцом
Яны стаяць, гутараць,

Што ліхая наша маці
Не пускае нас гуляці.

## 98. ЦЕРАЗ ГАЙ ЗЕЛЯНЕНЬКІ

Цераз гай зеляненькі
Бяжыць конь вараненькі,
Грыўкаю памахае,
Вуздзечкам пабразгае.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Ой, за кім уздагоны
Малады хлопчык бяжыць?
Ён бяжыць, шапку зняўшы,
Кудзеркі расчасаўшы.

— Дзевачка, душа мая,
Пераймі майго каня,
Пераймі варанога,
Пажалей маладога.

— Рада бы пераняці,
Дык баюся ж я маці:
Мяне маці беражэ,
З чапялою сцеражэ.

## 99. НА НЕБЕ СТУЧЫЦЬ, ГРУЧЫЦЬ

На небе стучыць, гручыць,
Матулька дамоў клічыць.
— Йдзі, дзіця, дамоў, дамоў,
Не ўдавайся ў любосці.

Не ўдавайся ў любосці,
Не цярай маладосці.
— Я й сама тое знаю,
Маладосць пацяраю.

Я й сама тое віджу —
Маладосць пацяраю.
Я й сама таго плачу —
Маладосць сваю трачу.

## 100. ОЙ, НА ГАРЭ НА КРУТОЙ

Ой, на гарэ на крутой,
Стаіць явар зеляной,
Гей, гей, явар зеляной!

А пад тым жа яварцом,
Стаіць дзеўка з малайцом,
Гей, гей, дзеўка з малайцом.

9. Зак. 15

Як стаялі, так стаяць,
Пра матушку гаварaць,
Гей, гей, пра матушку гаварaць.

— Што ліхая наша мацьь,
Не пушчае ў ноч гуляць,
Гей, гей, не пушчае ў ноч гуляць.

— Ой ты, мая міла доч,
Ідзі гуляй на ўсю ноч,
Гей, гей, ідзі гуляй на ўсю ноч.

— Ой, гуляла, гуляла,
Пакуль дружка саймала,
Гей, гей, пакуль дружка саймала.

Пакуль дружка займала,
Па іменушку назвала!
Гей, гей, па іменушку назвала.

## 100а. ОЙ, НА ГАРЫ НА КРУТОЙ

Ой, на гары на крутой
Стаяў явар зеляной.

А пады тым жа яварцом
Стаіць дзеўка з малайцом.

І стаялі, і стаяць,
І да мамы гаварaць.

— Ой, мама, наша мацьь,
Пусці дочку пагуляць.

— Ідзі, ідзі, мая доч,
Хоць на ўсю цёмну ноч.

Як я была малада,
І сама я гуляла,

Я гуляла, гуляла,
Пакуль дружка саймала,

Пакуль дружка саймала,
Па імені назвала.

— Ванька, Ваня, дружок мой,
Спадабаўся розум твой.

Не так розум, як ты сам,
Як сядзеў і пісаў.

— Ой, дзяўчыначка ласкава,
Як ты да мяне прыстала!

## 101. ОЙ, ЧУЦЬ, МАЦІ, ЧУЦЬ

Ой, чуць, маці, чуць,
Дзе малойцы п'юць.
Вясёлая там вулачка,
Кудой яны йдуць.

А знай, маці, знай,
Дачку замуж дай.
Не дай мяне за п'яніцу,
После ж будзе жаль.

— Дачушка мая,
Родная мая!
Шукай сабе, выглядывай,
Яшчэ ж малада.

— Матулька мая,
Родная мая!
Я й шукала, выглядала,
А не выбрала.

Нямаш мне раўні
У сяле між сваймі.
Хіба ўжо там далёканька
Паміж чужымі.

## 102. ОЙ, ВЫРАСЛА БЯРОЗАЧКА

Ой, вырасла бярозачка,
Дзе яе садзіла.
Няма майго міленькага,
Што верна любіла.

Ой, вырасла бярозачка
Ружовага цвету.
Няма мне з кім гаварыці
Да белага свету.

Айцец добры, айцец добры,
Матуля ліхая:
Не пускае на музыку,
Кажа: маладая.

Пусці, маці, пусці, родна,
Я доўга не буду.
Толькі з міленькім сыйдуся,
Назад варачуся.

## 103. ОЙ, У ПОЛІ КРЫНІЧАНЬКА

Ой, у полі крынічанька,
Там халодная вада.
Была ў бацькі адна дочка —
Не дажыла да дабра.

Бацька добры, бацька добры,
А маці ліхая:
Не пускае на вуліцу —
Вуліца смутная.

— Пусці, бацька, пусці, маці,
Я не забаўлюся,
Як запяе першы певень,
Дадому вярнуся.

Пяе певень, пяе другі,
Ужо й кура сакоча,
Кліча маці вячэраці,
А дачка не хоча.

— Вячэрайце, бацька, маці,
Вячэрайце самі,
А я пайду на вуліцу
Гуляць з казакамі.

## 104. КАЛЯ МЛІНА, КАЛЯ МЛІНА

Каля мліна, каля мліна
Расцвіла каліна.
Прасілася пагуляці
Малада дзяўчына.

— Ідзі, доня, ідзі, доня,
Ідзі пагуляці,
Як запяе першы певень,
То дадому спаці.

Пяе певень, пяе другі,
А кура сакоча.
Кліча маці вячэраці,
А дачка не хоча.

— Ой, вячэрай, мая мамка,
Калі наварыла.
Мне сягоння, мая мамка,
Вячэра няміла.

## 105. ХАДЖУ, ХАДЖУ ПА БАЛОТУ

Хаджу, хаджу па балоту —
Балоцейка суха.
Выйдзі, выйдзі на вуліцу,
Мая шчабятуха.

Ды не выйшла яна сама,
Выйшла яе маці.
— Пазнай, пазнай, мая маці,
А як зяця зваці.

Маці зяця не пазнала,
У хату не пазвала.
— Ой, пі, маці, тое піва,
Што я наварыла.

[— Ой, пі, маці, тое піва,]
[Што я наварыла,]
Любі, маці, таго зяця,
Што я спалюбіла.

Не п'е маці таго піва —
Толькі пралівае,
І не любіць свайго зяця —
Толькі праклінае.

—А ці табе, дачушачка,
Мала хлопцаў стала?
А ў каго ты, дачушачка,
Вочанькі ўкляпала?

## 106. НЯДОЛЕЧКА ДА НЯШЧАСЦЕЧКА

Нядолечка да няшчасцечка —
Ніхто праўды не скажа.
Не гаворыць і мая мамачка,
З кім мне ручанькі звяжа.

— Не вяжы, матка, не вяжы, родна,
Як сваю горку долю.
Як пападзецца не за любага —
Дык з масточка да ў воду.

— Не тапіся, маё дзіцятка,
Бо ты душу загубіш,
Да скажы сама шчыру праўданьку,
Каго верненька любіш?

— Да яшчэ, мая мамачка,
Нікога не любіла,
Хай бы я яшчэ, мая мамачка,
Хоць гадок пахадзіла.

# ДЗЯВОЧАЯ ДОЛЯ. НЕДАБРАНАЯ ПАРА. ШЧЫРАСЦЬ У КАХАННІ

## 107. СОНЦА НІЗЕНЬКА

Сонца нізенька,
Вечар блізенька,
Спяшу да цябе,
Маё сардэнька.

Ой, спяшу, спяшу
Да й не застану,
Выйду на гару —
На поле гляну.

Выйду на гару,
Гляну на поле,
Сама я бачу,
Што мне нядоля.

Сама я знаю,
Па кім я плачу,
Каго любіла —
Цяпер не бачу.

## 108. КРУГЛА-МАЛА БАЛОЦЕЧКА

Кругла-мала балоцечка,
Там хадзіла малодачка.
Да хадзіла, напявала,
Сваю красу засявала.

— Расці, расці, краса мая,
Тонкая, высокая,
Каранём глыбокая,
Лісцейкам шырокая.

А калі ты не вырасцеш,
Дык я цябе з карнём вырву,
Дык я цябе з карнём вырву
Ды цераз плот перакіну.

Няхай цябе валы з'ядуць,
Няхай цябе коні стопчуць.
Валы з'ядуць палавыя,
Коні стопчуць вараныя.

Валы з'ядуць палавыя,
Коні стопчуць вараныя,
Валы з'ядуць бушуючы,
Коні стопчуць гарцуючы.

## 109. БЯРОЗА, БЯРОЗА, НЕ П'ЯНА, ЦВЯРОЗА

— Бяроза, бяроза, не п'яна, цвяроза,
Чаго хмурна стаіш? Ці ветру баішся,

Ці ветру баішся, ці дажджу жадаеш?
— Ветру не баюся, дажджу не жадаю,

Ветру не баюся, дажджу не жадаю,
Таго я хмурна, што месца не маю.

Бо на маём месцы зялён явар расце,
Зялён явар расце — шырокае лісце.

— Дзяўчына, дзяўчына, чаго хмурна ходзіш?
Ці галоўка баліць, ці свет заняволіць?

— Галоўка не баліць, свет не заняволіць,
Да таго я хмурна, што не даў бог долі,

Да таго я хмурна, што не даў бог долі,
Што не даў бог долі, як маёй радзіме.

От мая радзіма багата і шчаслíва,
А я, дзяўчынененька, надта нешчаслíва.

## 110. ЗА ГУСТЫМІ ЛОЗАНЬКАМІ

За густымі лозанькамі
Плача дзеўча слёзанькамі:
— Не плач, не плач, дзяўчыненька!
— Ой, як жа мне не плакаці,

Бо я адна ў маткі ў хаце.
У каторае маткі сем,
То е і доленька ўсім.
А я ў свае маткі адна,
То і доленька жадна.
Да пайду я да рэчанькі,
Да пайду я падзіўлюся,
Да пайду я ўтаплюся,
Аб бел-камень разаб'юся,
Няхай людзі тое знаюць,
Як з кахання паміраюць.

## 111. ОЙ, ПАЙДУ Я КАЛЯ РЭЧАК

Ой, пайду я каля рэчак,
Там плавае стада качак,

Качар качку паганяе,
Кожна сабе пару мае,

А я ў бога адна ў кары,
Што не маю сабе пары.

Ой, я на іх падзіўлюся
Ды й аб камень разаб'юся,

Будуць хлопцы валы гнаці,
Тую дзеўку спамінаці,

Тую дзеўку спамінаці,
Што з кахання ўміраці.

## 112. ПА САДОЧКУ ПАХАДЖАЮ

Па садочку пахаджаю,[1]
Каго мела — ўжо не маю,
Каго мела — мець не буду:
Адмовілі злыя людзі,

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

Адмовілі, адсудзілі,
Каб мы ў пары не хадзілі.
А пайду я на астравочак,
Плывець вутак табуночак.
Усе вуткі пару маюць,
Адна адну наганяюць.
А я жыву ў божай кары,
Што не даў жа мне бог пары,
А я жыву ў божай волі,
Што не даў жа мне бог долі.
А я пайду ж я, разыдуся,
Аб бел камень разаб'юся.
[Аб бел камень разаб'юся,]
Драбней маку рассыплюся:
Няхай людзі тое знаюць,
Што без долі паміраюць.

## 113. ЛЯЦЕЎ ГОЛУБ ПА-НАД МОРАМ *

Ляцеў голуб па-над морам,
Падаў ў мора піці,
Ой, цяжанька сіротаньцы
Ў чужых людзях жыці.

Даў бог ручкі, даў бог ножкі
І светлыя вочкі,—
Гаруй, працуй, сіротанька,
Аж да цёмнай ночкі.

Ой, выйду я на вуліцу,
Стану пад варота,
А хто ідзе, той спытае:
— Што плачаш, сірота?

— Ой, плачу я, сіротанька,
Плачу маладая,
Што ніхто мне ў няшчасцейку
Не дапамагае.

## 114. ОЙ, ХАДЖУ Я, ДА ПАХАДЖАЮ *

Ой, хаджу я, да пахаджаю
Да па чыстаму полю.
Ой, сею я, да рассяваю
Сваю горку долю.

— Расці ж, мая горкая доля,
Усё густымі кустамі!
Цвіці ж, мая горкая доля,
Рознымі цвятамі.

Да ніводзін так цвет не харош
Да як той васілёчак,
Ніхто не міл, да ніхто не люб,
Да як верны дружочак.

## 115. СТАІЦЬ ВЕРБА НАД ВАДОЮ

Стаіць верба над вадою,
Над рэчкаю, над быстрою.

Над рэчкаю, над быстрою
Пасеяла дзеўка долю.

— Плыві, доля, ты з вадою,
А я, млода, за табою.

Пры беражку спачывала,
Да ойчанька ліст пісала:

Няхай айцец не турбуе,
Мне пасагу не гатуе,

Я свой пасаг пацярала
Ў чыстым полі пад яворам,

Пад яворам зеляненькім
І з Ясенькам маладзенькім.

Пад белаю бярозаю,
Не п'янаю — цвярозаю;

Пад сухою ляшчынаю,
Не быць жа мне дзяўчынаю.

## 116. ОЙ, ПАСЕЮ СВАЕ ГОРА

Ой, пасею сваё гора [1]
Па чыстаму полю.
Расці, расці, маё гора,
Травой, муравою.
Ой, травушка, муравушка,
Беленькі цвяточак,
Усе цвяточкі беленькія —
Адзін найбялейшы,
Усе хлопцы міленькія —
Адзін наймілейшы.
Не хадзі ты, бел-кудравы,
Край маго садочку,
Не тапчы ты руткі, мяткі,
Не рабі слядочкаў,
Каб матуля не пазнала,
Што я це кахаю.

## 117. ПАД КАМЕНЕМ ВАДУ БРАЛА

Пад каменем ваду брала,
На камені суха.
— Выйдзі, выйдзі, дзяўчынанька,
Ты мне харашуха.

— Я ўсякаму харашуха,
Я ўсякаму люба.
А я, млода, вытачона
З зялёнага дуба.

А не з дуба, не з бярозы
Матуля радзіла.
У няшчасну гадзіначку
На святок пусціла.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 118. ЗАЦВІЛА Ў ЛУЗЕ КАЛІНА, СТОЯЧЫ Ў ЦЯНЕЧКУ

Зацвіла ў лузе каліна, стоячы ў цянёчку,
Спарадзіла мяне маці, няшчасную дочку.

Спарадзіла мяне маці на ранку ў нядзелю
Ды ўдзяліла горку долю, дзе ж яе падзену.

Павязу ж я горку долю на торг прадаваці,
Людзі знаюць горку долю, не хочуць купляці.

— Пайдзі, пайдзі, горка доля, на луг адпасіся,
Ад мяне, маладзенькай, на год адвяжыся.

— Пайду, пайду, горка доля, на луг адпасуся,
А ад цябе, маладой, нідзе не адвяжуся.

## 119. А Ў САДЗЕ КАЛІНАЧКА

А ў садзе каліначка
Белым цветам зацвіла,

Белым цветам зацвіла,
А чырвоным даспела.

Пасылала дачку маці
У сад каліну ламаці.

Дзяўчына да каліны —
Каліна схілілася.

Каліна схілілася,
Дзяўчына здумілася.

Дзяўчына здумілася:
«Дзе доля падзелася?

А дзе я радзілася —
Там доля ўтапілася,

А дзе я купалася —
Там доля засталася».

Адгукніся ты, доля,
Пасярэдзіне мора,

Адгукніся ты, друга,
Пасярэдзіне луга.

## 120. ГОРА Ж МАЁ, ГОРА

Гора ж маё, гора,
Няшчасная доля,
Загарала дзяўчынанька
Мысленкамі поле.[1]

Не так загарала,
Як завалачыла,
Дробненькімі слёзанькамі
Поле ўсё зрасіла.

— Мусіць мяне, матка,
Ў касцёл не насіла,
Што для мяне, маладой,
Долі не ўпрасіла.

— Я ў касцёл насіла,
Я богу малілася.
Така ж табе, мая доню,
Доля судзілася.

## 121. МАМКА Ж МАЯ

Мамка ж мая [2]
Старэнькая,
Як галубка,
Сівенькая.

Што ж ты, мамка,
Нарабіла,
Чаму рана
Не збудзіла?

---

[1] Чацвёрты радок кожнай страфы паўтараецца.
[2] Першы радок і два апошнія паўтараюцца.

Усе дзевачкі
Рана ўсталі,
Шчасце й долю
Разабралі.

Я, малада,
Спазнілася,
Шчасця й долі
Умылілася.

Мая доля,
Як макаў цвет:
Рана цвіце,
Удзень ападзе!
Што ж ты, мамка,
Нарабіла,
Чаму рана
Не збудзіла?

## 122. ЗЯЗЮЛЕНЬКА САДАВАЯ

Зязюленька садавая,
Чаму рана не кавала,
Мяне, младу, не будзіла?
Таварышкі паўставалі,
А я, млада, спазнілася,
Ліха доля прыснілася.

## 123. ОЙ, У ПОЛІ ЛІПІНУШКА, ПАД ЁЮ ВАДА

Ой, у полі ліпінушка, пад ёю вада,
Бедна мая галованька, што долі няма.

А дзе ж доля падзелася, ці ў агні згарэла?
Калі ў агні згарэла — ляці папяльцом.

Калі ў агні ты згарэла — ляці папяльцом,
Калі ў вадзе патанула — ляжы камянцом.

А я, млода, младзюсенька, да пайду гуляць,
А ўсе жа мне варожанькі мне завідаць муць.

## 124. А НА ДВАРЭ ВЕЧАР ВЕЧАРЭЕ

А на двара вечар вечарэе,
Маё сэрца па дзяўчыне млее.

Яно ные, ные, занывае,
Мая маці к мілай не пушчае.

— Прывяжу каня я да тычыны,
А сам пайду да краснай дзяўчыны.

— Добры вечар, мая чарнабрыва!
А ці дома твая горка доля?

— Дома доля вячэру гатовіць,
Згатаваўшы, яна спаць кладзецца.

— Худой долі ў пярынах ляжаці,
А мне зімна пад сцяной стаяці,

Мароз цісне, сапожкі сціскае,
Худа доля ў хату не пушчае.

## 125. ОЙ, ВЯДУ БЯДУ *

Ой, вяду бяду, ой, вяду бяду,
Ды бяда не вядзецца.
А пад вішняю, пад чарэшняю
Бяда спаці кладзецца.[1]

Ой, ляжы, бяда, ды засні, бяда,
На ўсю ночаньку спаці,
А я, молада-маладзюсенька,
Пайду міла шукаці.

## 126. ЛЯЦІЦЬ ГАЛКА ЦЕРАЗ БАЛКУ

Ляціць галка цераз балку,
Лятаючы, крача.
Маладая дзяўчыначка
Ходзіць гаем, плача.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Не пускае яе маці
Рана да крыніцы,
Ні жыта жаці, ні лён рваці,
Ні на вечарніцы.

А раз вечарам пазненька,
Як маці заснула,
Выйшла слухаць салавейку,
Бо зроду не чула.

Выйшла, стала пад вярбою
Ды дзівіцца ў воду.
— Цяжка, маці, важка, маці,
Што й дала ўроду.

Нашто дала кары вочы,
Малёваны бровы.
І ўсё дала, і ўсё дала,
Да не дала долі.

Трэба было, мая маці,
Тых броў не даваці,
А лепш было б, мая маці,
Шчасце, долю даці.

## 127. РАСЦЕ РАМОН ПРЫ ДАРОЗЕ

Расце рамон пры дарозе
Ды ў кубачкі ўецца.
Доля мая няшчасная
За мной валачэцца.

Загараджу густым плотам
Ды й высокім тынам.
Нельга выйсці на вулачку
За ўдовіным сынам.

Харош-прыгож удовін сын,
Мой міленькі лепшы.
Сядзіць сабе на коніку
Ды ў дудачку грае.

[Сядзіць сабе на коніку]
[Ды ў дудачку грае.]
А ля яго малодачак —
Як мак зацвітае.

### 128. ЦЕМНА НОЧКА, ДА НЯВІДНАЯ

Цёмна ночка, да нявідная,
Галовачка мая бедная.

Дзе ж я буду да начаваці,
Што ж я буду да вячэраці?

Начавацьму ў лузе-каліне,
Вячэрацьму да шчуку-рыбу.

Буду спаці сама з сабою,
Белы ручкі пад галавою.

### 129. ПАЙДУ Я БОРАМ, БОРАМ

Пайду я борам, борам,
Гаворачы з богам, з богам.

— Дай, божа, мне долечку харошую,
Свякровачку, як мамачку,

А свёкарку, як татачку,
А дзеверку, як братачку,

А залвіцу, як сястрыцу,
А мілога, як [redacted] сама.

### 130. ОЙ, ЗА ЛЕСАМ, ЗА БОРАМ

Ой, за лесам, за борам
Э-э, да за лесам, за борам
Гаварыла дзеўка з богам.

Ой, дай жа ты мне, божа,
Э-э, ой дай жа ты мне, божа,
Да мілога удалога.

Да мілога удалога,
Э-э, мілога удалога,
А свякратка багатага.

А свякроўку рабочую,
Э-э, свякроўку рабочую,
Залувіцы ахвочуя.

Каб я дзела не рабіла
Э-э, я дзела не рабіла б,
Бела, хораша хадзіла б.

Да што дзень, то ў таляццэ
Э-э, што дзень, то ў таляццэ,
Што нядзелькі, ў кітаечцэ.

## 131. ПАШЛА ДЗЕУКА ХУСЦЕ МЫЦІ

Пашла дзеўка хусце мыці
І з яварам гаварыці.

— Цяпер явар ты зялён,
Цяпер явар ты харош,

А як прыдзе ды на цябе мароз,
Буйны вецер, дробны дождж,

Тваё лісцейка абарве,
Тваё лісцейка пажане.

Цяпер дзеўка малада,
Цяпер дзеўка хараша,

А як пойдзеш ты замуж,
Будзе ліха да твой муж,

Тваю коску абарве,
Тваю слёзаньку разалье.

— Каб ты, явар, не даждаў,
Як ўсю праўду расказаў.

А я маю два брацці,
Вялю явар рубаці,

Вялю явар рубаці,
Будзем скрыпку праўляці.

Як скрыпачка зайграе,
То ўсё гора пазнае.

## 132. ОЙ, ПАСЕЮ ЛЬНУ

Ой, пасею льну
На чорным полю,
Едзе, едзе Ясюленька
На вараным коню.

Яго конь вараны,
Ён сам малады,
А сядэлка чырвоненька,
Канчук рамянны.

Ой, дай, маці, дай,
Дачку замуж дай!
— Не дай мяне за ледаштага,
Бо мне, млодай, жаль.

—Ты, доньку мая,
Выбірай сама!
— Выбірала да не выбрала,
Горка доля мая.

## 133. ОЙ, ЕЛАЧКА, ЕЛАЧКА, ЧОМ ТЫ ЗЕЛЕНА?

Ой, елачка, елачка, чом ты зелена?
— Таму я зялёная, што блізка вада.

[Таму я зялёная, што блізка вада.]
Ой, зрабілі лодачку лепей карабля,

Пусцілі на рэчаньку — вада не цячэць.
Матулька з татулькам няверна жывець:

Малодшую дочаньку замуж аддаець,
Старэйшаю дочаньку па вадзіцу шлець.

Старэйшая дочанька жалка плакала,
Яна тую рэчаньку ўсё праклінала.

— Бадай тая, рэчанька, травой зарасла,
Як я, маладзенькая, замуж не пайшла.

## 134. А ШТО ГЭТА ЗА ТРАВА

А што гэта за трава
У маім садзе парасла?

А што гэта за дружок,
Што далёка ад мяне,

Не ведае аба мне?
Ці я жыву, ці я не?

Паслала б я малога —
Малы кажа: «Баюся,
У паўдарожкі вярнуся».

Паслала б я старога —
Стары кажа: «Не дайду».

[Стары кажа: «Не дайду,]
У паўдарожкі упаду».

Паслала б я роўнага —
Роўны праўды не скажа,

[Роўны праўды не скажа,]
А шчэ болей прымане.

Запрагу я карэту,
Сама сяду паеду.

Пад'язджаю пад лясок.
— Падай, мілы, галасок.

Пад'язджаю пад раку.
— Падай, міленькі, руку.

— Густы, высокі лясок —
Не сойдзецца галасок.

Рака быстра, шырака —
Не сашчэпіцца рука.

## 135. БРОВЫ МАЕ ЧОРНЕНЬКІЯ

Бровы мае чорненькія,
Запрапала, бровы, з вамі —
Нельга выйсці на вуліцу
Усё за злымі за ўрагамі.

Усе ўрагі спаць палеглі,
Адзін ўража не лажыўся,
Адзін ўража не лажыўся,
За мной ночку валачыўся.

— Адступіся, злы ўража,
Няхай са мной мілы ляжа,
Няхай са мной мілы ляжа,
Мне ўсю праўдачку раскажа.

## 136. А У ТЫМ НОВЫМ СЯЛЕ ДЗЯУЧЫНА СТАЯЛА

А ў тым новым сяле дзяўчына стаяла,
Дзяўчына стаяла, з мілым размаўляла.
— Пытаю ў цябе, мілы, ці многа коней маеш?
Калі многа маеш, чаму ж ка мне не бываеш?
— Аднаго каня маю, у дварэ не трымаю.
Пойдзе конь да крыніцы зімняй вады піці:
Я яго паймаю, а паймаўшы, асядлаю,
Паймаўшы, сядлаю, к табе прыбываю.
Прывязу дарунак — залаты пярсцёнак,
Залаты пярсцёнак, едвабны панчошкі,
Саф'яны сапожкі на белыя ножкі.

## 137. А У САДЗЕ РЭЧАНЬКА *

А у садзе рэчанька,
А у садзе быстрая.
Там плывалі два чаўночкі
І тры рыбалоўцы.[1]

Адзін кажа — дзяўчына,
Другі кажа — рыбчына,
Трэці кажа — сэрца мае,
Ці ты пойдзеш за мяне?

— Нашто мяне пытаеш,
Калі хаты не маеш?
— Вазьму, сэрца, ў чужую,
Пакуль сваю збудую.

— Збудуй мне хоць з лебяды,
А ў чужую не вядзі,
Бо чужая такая,
Як свякроўка ліхая.

— Я збудую з чарату,
Яшчэ й сені прыпляту
І пастаўлю край сяла —
Жыві, міла, весела.

## 138. Я Ў БАРУ АБЕД ВАРУ

Я ў бару абед вару,
З-пад каменя ваду бяру,
На лодачцы ўмываюся,
Травіцаю ўціраюся.

На лодачцы ўмываюся,
Травіцаю ўціраюся,
А не знае мая маці,
З кім я заўлякаюся.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Адзін ходзіць каля хаты,
Не ўмываты, не ўціраты,
Хоча мяне замуж узяці,
Ды не хоча тое знаці,

Што я роду не такога,
Каб любіць абы-якога,
А я роду шляхецкага,—
Люблю сына купецкага.

## 139. КАЦІЛАСЯ ЧОРНА ГАЛКА *

Каціласяя чорна галка
Па бару, па бару,
А за ёю ясны сокал
Паблізу, паблізу:
— Пастой, чорна галка,
Ты мая, ты мая!
Яна яму шчабятала:
— Не твая, не твая!

Я убога сірацінка,
А ты пан, а ты пан,
Пашукай сабе дзяўчынку,
Як ты сам, як ты сам!
— Пастой, чорна галка,
Ты мая, ты мая!
Яна яму шчабятала:
— Не твая, не твая!

— Праляцеў я ўсе апушкі,
Яшчэ й лес, яшчэ й лес,
Не знайшоў такое птушкі,
Як ты ёсць, як ты ёсць.
— Пастой, чорна галка,
Ты мая, ты мая!
Яна яму шчабятала:
— Не твая, не твая!

## 140. САКОЛЕ, САКОЛЕ ВЫСОКА ЛЯТАЕ

Саколе, саколе высока лятае,
Высока лятае, ён параньку мае.
Я сам адзін на свеце, мушу пары шукаці;
З'ездзіў я коніка, з'ездзіў я й другога;
— Скажы, дзеўка, праўду, ці будзе што з тога?
— Я табе казала і тваяму роду:
Не хадзі да мяне, не рабі заводу;
У мяне пасагу не будзе,
Возьмуць мяне і так добры людзі;
— Мне тваго пасагу не вельмі трэба,
Заплаціць мне пан бог з высокага неба.
Ты ў мяне пасаг сама, як на небе зара.
— Цяпер ты кажаш, што зара ясна,
А после скажаш — доля няшчасна,
Не дажанеш ты, дажне маці,
Было без пасагу не браці.

## 140а. ОЙ З'ЕЗДЖУ Я, З'ЕЗДЖУ КАНЯ ВАРАНОГА

— Ой, з'езджу я, з'езджу каня варанога,
Да твайго, дзяўчына, ліца румянога.
Скажы мне, праўда, алі не,
Не крушы сэрданька ў ва мне.[1]

— Я ж табе казала, усяму твайму роду,
Што ў нас з табою не будзе заводу.
У мяне пасагу не будзе,
Возьмуць мяне добрыя людзі.

— Мне твайго пасагу саўсём не патрэба,
О дасць жа нам господзь з высокага неба.
Ты ж мне пасага, ты сама,
Як на небе ясная зара.

— Цяпер жа ты кажаш, што ясная зора,
А после ты скажаш, няшчасная доля.
Хоць ты не скажаш, так маці,
Нашто было бедную браці.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Цяпер жа ты відзіш мяне маладую,
Цяпер жа ты відзіш мяне харашую.
Давядзецъ жа гаспадзэь да тугі,
Што б не заглядзеўся на другіх.

— Скарай жа мне, гаспадзэь, на гладкай дарозе,
Еслі я памыслю аб другой нябозе;
А хоць памыслю, не скажу,
Я ў сябе сэрданька укрушу.

## 141. РАНА СОНЦА ЎСХОДЗІЦЬ

Рана сонца ўсходзіць,
А позна заходзіць.
Казак да дзяўчыны
Што вячора ходзіць.

— Не хадзі, казача,
Не хадзі да мене,
Ты багаты, я бедна,
Не возьмеш ты мене.

— А хоць не вазьму я,
То хоць нахаджуся.
З гордаю дзеўчынай
Хоць нагаваруся.

Не нагаварыўся,
Не налюбаваўся,
Ў садзе салавейка
Не нашчабятаўся.

— Не лятайце, птушкі,
Не зрывайце ночы,
Бо я шчэ не спала,
А сонейка ўсходзіць.

Забывайце вочы,
Мілага ласканне,
Бо я добра знаю,
Не будзе кахання.

## 142. ЗЕЛЯНЕЮЦЬ, ЗЕЛЯНЕЮЦЬ *

Зелянеюць, зелянеюць
Лугі, сенажаці,
Пытаецца сын у мацеры,
Ды каторую ўзяці.[1]

А ці тую багатую,
Што хораша ходзіць,
А ці тую сірацiначку,
Што ўсё добра робіць?

А ці тую багатую,
Што валы, каровы,
А ці тую сірацiначку,
Што чорненькія бровы?

Багатая, няўдалая
У садочку гуляла,
А бедная сірацiначка
Ужо тры копы нажала.

У багатай, нехарошай
Валы паздыхаюць,
А у беднай сірацiначкі
Бровы не зліняюць.

## 142а. ЦІ УСЕ ЛУГІ ПАКОШАНЫ, ЦІ УСЕ СЕНАЖАЦІ

Ці ўсе лугі пакошаны, ці ўсе сенажаці,
Пытаецца сын у мацеры, ды каторую браці.

— Ой, ці тую багатую, што валы ды каровы,
А ці тую сірацiначку, што чорныя бровы.

Багатая ганорная ідзе з поля — плача.
А бедная сірацiначка ідзе з поля — скача.

У багатай, у няўдалай валы паздыхаюць,
А ў беднай сірацiначкі бровы не зліняюць.

З багатаю, з няўдалаю трэба разлучацца,
А з беднаю сірацiначкай будзем век кахацца.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

## 143. ЛЯЦЕЎ ВОРАН З ЧУЖЫХ СТОРАН*

Ляцеў воран з чужых сторан,
Пачаў галасіці.
Ой, як трудна ўбогаму
Багату любіці.

Не там шчасце, не там доля,
Дзе багаты людзі,
А хто бярэ па мілосці,
Той шчаслівы будзе.

Пакачу я злоты персцень
Трыма дарагамі,
Застаўся я, маладзенькі,
Паміж варагамі.

Ой, пайду я па-над морам,
Па-над берагамі,
Ой, стану я дый заплачу
Дробнымі слязамі:

Растварыся, сіне мора,
Свае глыбакосці:
Прайшлі ж мае марна лета,
Мае маладосці.

## 143а. ЛЯЦЕЎ ВОРАН ПА-НАД МОРАМ

Ляцеў воран па-над морам
Ды стаў ваду піці.
Ой, як цяжка ўбогаму
Багату любіці.

Не так цяжка, як нядобры
Багатыя людзі:
Як разлучаць у любові,
Дык шчасця не будзе.

Палавіна год мінае,
Я шчасця не маю.
Ой, як жа мне бог прызначыў,
Што чыніці маю?

Хаджу, блуджу, хаджу-блуджу,
Як то сонца ў крузе,
Ці дзе пайду, ці што раблю,
А ўсё сэрца ў тузе.

## 144. А НЕ СТОЙ ПРЫ БЕРАЖОЧКУ

А не стой пры беражочку,
Пры беражку ўтонеш,
А не любі багатыркі,
Бо яе не возьмеш.

Багатырка багатая,
Яна вельмі пышна,
А бедная сіротачка,
Як у садзе вішня.

Багатырка багатая,
Яна надуецца,
А бедная сіротачка
К сэрцу прыхінецца.

## 145. СОРАМ, БРЫДКА, КРАСНА ДЗЕУКА *

Сорам, брыдка, красна дзеўка,
Позна вечарам гуляць.
Дзяўчыначка застыдалась,
Паліліся слёзы з глаз.[1]

Малойчыку шкада стала,—
Стаў дзяўчыну сунімаць.
— Ціха, дзеўка, ціха, красна,
Ціха, любачка мая.

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Ціха, дзеўка, ціха красна,
Ціха, любачка мая,—
Разгарыцца маё сэрца,—
Вазьму замуж за сябе.

— Не падобна таму быці,
Каб я была за табой:
Ты — багаты, а я — бедна
І да тога — сірата.

## 146. ЧЫЕ ПЧОЛЫ НА ДУБРОВЕ

Чые пчолы на дуброве,
Мае ў садочку,
Да хто любіць далёкую,
А я суседачку.

От я тую далёкую
Людзям падарую,
А да свае суседачкі
Я й сам памандрую.

Ой, у тае далёкае
Валы да каровы,
А ў гэтае суседачкі
Усё чорныя бровы.

Ой, у тае далёкае
Сінія бумажкі,
А ў гэтае суседачкі
Кажух і сярмяжкі.

Ой, у тае далёкае
Бычкі да цялушкі,
А ў гэтае суседачкі —
Ц...кі, як падушкі.

Ой, у тае далёкае
Бычкі паздыхаюць,
А ў гэтае суседачкі
Сынкі паязджаюць.

## 147. ЗЯЛЁНАЯ АРЭШЫНА

Зялёная арэшына
На яр падалась.
Маладая дзяўчыначка
У казака ўдалась.

— Які вочы, такі бровы,
Така гаворачка.
Як зайдземся да парачкі,
Люба наша размованька.

Пашла наша гаворачка
Уніз за вадою.
Ты вялікі, я малая,
Не сойдземся з табою.

Хоць сойдземся,
Так не параўняемся,
Ты вялікі, я малая,
Не павянчаемся.

Хоць павянчаемся,
Да не параўняемся,
Ты ў жупане,
Я ў свіціне.

— Як я зніму жупаніну
Да надзену свіціну,
Я ўсё цябе, сэрца маё,
Любіць не пакіну.

## 148. ЛЯЦЕЎ ВОРАН ПА-НАД МОРАМ

Ляцеў воран па-над морам
І стаў галасіці.
— Ой, як цяжка ўбогаму
Багату любіці.

Багатая не думае,
Што бедненькі нудзіць:
Багатая да думае,
Як дзецюкоў гудзіць.

Палавіна лет мінае,
Я шчасця не знаю,
Як жа то мне бог прызначыў,
Што чыніці маю.

Хаджу, блуджу, хаджу, блуджу,
Як то слонца ў крузе.
Куда пайду, чы што раблю,
Усё сэрца ў тузе.

Хаджу, блуджу, хаджу, блуджу,
Век свой праклінаю,
Што палюбіў багатую,
Да яе не маю.

Ляцеў воран па-над морам,
Да сеў ён на сосне.
— О, мой да ты Пракопачку,
Не будзь так нудошны.

Ёсць жа ў нас Праксeдунька,
Малада, хоць бедна,
Пакінь любіць багатую,
Палюбі Праксeдку.

Багатая ды пышная,
Цябе глуміць будзе,
А бедная Праксeдунька
Цябе любіць будзе.

## 149. ОЙ, У ПОЛІ ТРЫ КРЫНІЧАНЬКІ *

Ой, у полі тры крынічанькі,
Там стаялі тры дзяўчынанькі:
Чарнявая і бялявая,
А трэцяя прыбагатая.

Я чарнявую з душы люблю,
З бяляваю павянчаюся,
А з трэцяю, прыбагатаю,
Прыйдзе вечар — развітаюся.

Не ўсе разам ды сады цвітуць,
Не ўсе разам асыпаюцца,
Не ўсе тыя ды да шлюбу йдуць,
Што любяцца ды кахаюцца.

Палавіна тых садоў цвіла,
Палавіна асыпалася,
Палавіна пажанілася,
Што й зроду не відалася.

## 150. У АГАРОДЗЕ РЭЧКА

Ў агародзе рэчка,
Купалася качка,
Любіць, любіць мой міленькі,
Хоць я не дварачка.

У агародзе мята,
За гародам мята,
Любіць, любіць мой міленькі,
Хоць я не багата.

Ў агародзе вішня,
За гародам вішня,
Любіць, любіць мой міленькі,
Хоць я не яешня.

## 151. ЗАКАЦІ, ЗАКАЦІ ТЫ, ЯСНАЕ СОНЕЙКА *

Закаці, закаці
Ты, яснае сонейка,
Хоць за лес, за лясок.
Ты прыйдзі ка мне,
Мой мілы дружочак,
Хоць на час, на часок.

Хоць на час, на часок,
На мінутач(ы)ку,
На цябе пагляджу,
Свае думач(ы)кі
Невясёленькія
Я табе раскажу.

А хацела ж мяне
Мая мамач(ы)ка
За нялюбага аддаць,
А хацелася ж мне,
Мой мілы дружочак,
Ды цябе пачакаць.

## 152. ПАЛЫН, ПАЛЫН, ПАЛЫН ЗЯЛЁНЫ

Палын, палын, палын зялёны,[1]
Хто цябе, палын, у гародзе сеяў?
— Мяне сеялі буйныя ветры,
А палівалі дробныя дажджы,
А палівалі дробныя дажджы,
А пашчыпалі дзеўкі-паненкі.
А ў полі, полі сад зеляненькі,
А ў тым садочку дзяўчына гуляла.
[А ў тым садочку дзяўчына гуляла,]
Дзяўчына гуляла, міленькага ждала.
— А прыйдзі, прыйдзі ка мне, міленькі,
А прыйдзі, прыйдзі хоць на часочак,
Хоць на часочак, хоць на мінутачку,
Хачу расказаць табе сваё горачка.
А аддаюць мяне замуж за нялюбага,
За нялюбага, за няўдалага, ды багатага.
Я таго багацця не хачу, з табой жыць хачу,
Прыйдзі ка мне, міленькі, на выручку.

## 153. ОЙ, БЕЛАЯ БЯРОЗАНЬКА *

Ой, белая бярозанька
Голлечкам да сонца.
Заплакала дзяўчыначка,
Седзячы ў ваконца.

Ой, белая бярозанька
Шумна зашумела,
Маладзенькай дзяўчынаньцы
Галоўка балела.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

Ой, балела, не балела,
Самі слёзы льюцца,
Што да мяне, маладое,
Няўдалыя шлюцца.

Хоць шлецеся, не шлецеся,
Я ваша не буду,
Каму дала белу ручку,
То з тым жыці буду.

Адзін стаіць на ганачку,
Другі — за плячыма,
Адзін сыпле дукатамі,
А другі слязіма:

Ой, каб табе, таварышу,
Дукатаў нястала,
Як я любіў дзяўчыначку,
Табе шкода стала.

Ой, каб жа ты, таварышу,
З ёю не разбыўся,
Як я любіў дзяўчыначку,
А ты ажаніўся.

Ой, бадай жа, таварышу,
Маё ліха табе,
Як я любіў дзяўчыначку,
А ты забраў сабе.

## 154. ЗАКАЦІЛАСЬ СОНЦА ЗА ЦЁМНУЮ ХМАРУ

Закацілась сонца за цёмную хмару,
Маці сваёй доні выбірае пару.

Яна выбірае багатага сына,
А яе вітае бедна сірацiна.

Вітае, вітае да й думае браці.
— Не мяшай у любові, мая родна маці.

Ой, як будзеш, маці, у любові мяшаці,
То пазволь мне, маці, явара зрубаці,

Явара зрубаці, труну збудаваці,
Труну збудаваці, мяне пахаваці.

Лучшай буду, маці, у зямлі ляжаці,
Як з нялюбым, маці, у пары стаяці.

## 155. ЛУГАМ ІДУ, КАНЯ ВЯДУ

— Лугам іду, каня вяду,
Разлілася лужа.
Сватай мяне, казачэнька,
Люблю цябе дужа.

Сватай мяне, хоць не сватай,
Толькі не цурайся,
Каб жа слова не прапала,
Што са мной кахаўся.

— Ой, кахаўся, не смяяўся,
Думаў цябе браці:
Цераз злыя варажэнькі
Мушу пакідаці.

Ой, каб жа ты, дзяўчыначка,
Была багаценька,
Узяў бы цябе за ручаньку,
Павёў да баценька.

Ой, каб жа ты, дзяўчыначка,
Капу грошай мала,
То са мною, дзяўчыначка,
У пары б стаяла.

— Ой, калі б я, казачэнька,
Была багаценька,
Наплявала б на цябе я,
Й на твайго баценька.

Ой, калі б я, казачэнька,
Капу грошы мала,
Я б такімі жаніхамі
Хату падмятала.

Лугам іду, каня вяду,
Разлілася лужа.
Сватай мяне, казачэнька,
Люблю цябе дужа.

## 156. ЗАЙДЗІ, ЗАЙДЗІ, ЯСНА СОНЦА

Зайдзі, зайдзі, ясна сонца,
За круту гару,
А я з сваёй міленькаю
Трошкі пастаю.

— Ды паслухай, дарагая,
Што буду казаць:
Не вяляць мае радныя
Цябе, бедну, браць.

[Не вяляць мае радныя]
[Цябе, бедну, браць,]
Адпраўляюць на Украіну
Багату шукаць.

— Ты паедзеш на Украіну,
А я тут памру.
Ты прыедзеш з Украіны —
Зробіш мне труну.

З Украіны я вярнуўся —
Званы ў царкве б'юць,
А ўжо маю міленькую
Хавацi вязуць.

Стаіць маці, стаіць бацька,
Насміхаюцца:
— За кім, за кім наш сыночак
Так ганяецца?

— Ты не ёсць радзімы бацька,
Ты чужы айчым:
Нашто ты нас з міленькаю
Навек разлучыў?

## 157. ОЙ, ВАЛЫ МАЕ, ДЫ ПАЛОВЫЯ *

— Ой, валы мае, ды паловыя,
Чаму вы не арэце?
Ой, гады мае, ды малодыя,
Чаму вы марна йдзеце? [1]

Каб маім валам ды добры ратай,
То б яны аралі,
Каб маім гадам жыццё лепшае,
То б яны гулялі.

Дробны пташачкі, як мурашачкі,
Па дарожачцы скачуць;
Дурна дзяўчына, неразумніца
Па малойчыку плача.

— Ой, я не плачу, ой, я не тужу,
Самі слёзкі льюцца,
Што ад мілага лісточкаў няма,
Ад нялюбага шлюцца.

## 157а. ВАЛЫ МАЕ ПАЛАВЫЯ

Валы мае палавыя,
Чаму не арэце?
Леты мае маладыя,
Чаму не гуляеце?
Валы мае палавыя
Да ўжо атаралісь,
Леты мае маладыя
Да ўжо адгуляліс.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Дробна пташачка
Па лісціку скача,
Бедны рольнічак
Па дзяўчыне плача.
Як не плакаць, не тужыць,
Самі слёзы льюцца.
Весці ад мілай не ідуць,
Ад нямілай шлюцца.
А хоць шлюцца, хоць не шлюцца,
Маёю не будзе,
Хто дала мне белу ручку,
Са мной жыць не будзе.

## 158. ОЙ, У САДУ, У САДУ Я КОНІ ПАСУ *

Ой, ў саду, ў саду я коні пасу,
Ўсё й жалезныя путы.
Каб не ты, дзяўчына, сэрцу ядына,
То не быў бы я тута.

Зыдзі, месячык, зыдзі, ясненькі,
Як млынава кола.
Выйдзі, дзяўчына, сэрцу ядына,
Пагаворым з табою.

Як мне выходзіць, як мне выходзіць,
Гаварыці з табою —
Мне людзі кажуць, я й сама знаю,
Што не буду тваёю.

Салавеюшка, дробна пташачка,
Ўсё й па ельнічку скача.
Бедна дзеўчына, неразумная
Па кавалеру плача.

Як мне не плакаць, як мне не плакаць,
Ўсё й самі слёзы льюцца.
Ад міленькага пісьмачка няма,
Ад нялюбага шлюцца.

Ой, у саду былі ды два яблычкі,
Абодва скаціліся.
Ой, былі ў мяне два кавалеры,
Абодва скруціліся.

Адзін паехаў на Валынушку,
А другі на Украіну.
Ой, разрэзалі маё сэрданька
Ды й на дзве палавіны.

## 158а. А У ЛУЗЕ ПРЫ ДАРОЗЕ СТАЯЛА БЯРОЗА

А ў лузе пры дарозе стаяла бяроза,
А пад той бярозай плача дзевіца, як роза.
— Чаго тужыш, чаго плачаш, бедная дзяўчына?
Чаго журышся, нябога, якая прычына?
Цябе можа матка біла ці сястра журыла?
— А не маці мяне біла, не сястра журыла.
Да ў мяне, маладое, самі слёзы льюцца,
Што да мяне няўдалыя кавалеры шлюцца.
Шлюцца, шлюцца няўдалыя па тры, па чатыры,
Да ў гэтых кавалераў залёты не шчыры.
Не аддавай мяне туды, дзе не лад у хаце,
Аддавай мяне, маці, дзе мірна ў хаце,
Дзе дзевяры два і тры, ёсць з кім размаўляці,
Дзе залоўкі дзве і тры, ёсць з кім жыта жаці.
Займем постаць шырокую, будзем паджынаці.
Як жа сядзем палуднаваць, ёсць з кім размаўляці.
Няма цвету сінейшага, як цвет васілёчак,
Няма друга вярнейшага, як мілы дружочак.

## 159. БЫСТРАЯ РЭЧКА ВАДУ ЗАМУЦІЛА

Быстрая рэчка ваду замуціла,
Ой, не даў мне бог, не судзіў мне бог,
Каго верна любіла.

Быстрая рэчка ваду замуціла,
Ой, чаго ж, дзеўка, ой, чаго ж плачаш,
Ці не матуля біла?

Біці не біла, толькі засмуціла,
Ой, не даў мне бог, не судзіў мне бог,
Каго верна любіла.

## 160. ЧЫРВОНАЯ КАЛІНОНЬКА *

Чырвоная калінонька
На дол падалася.
Маладая дзяўчынонька
Ў казака ўдалася:

Такі й вочы, такі й бровы,
Така й галавонька,
Як зыдземся да купонькі —
Ціха размавонька.

Наша ціха размавонька
Паплыве з вадою;
Ты вялікі, я малая —
Не зыдусь з табою.

Ты вялікі, я малая —
Не зраўняемося;
Трудна, нудна на сэрданьку —
Не звенчаемося.

## 161. КАЦІЛАСЯ ДА ЯСНАЯ ЗОРАЧКА

Кацілася да ясная зорачка,
Да й упала дадолу,
Прасілася прыкрасная дзевачка,
Хто завядзець дадому.

Абазваўся ды казак маладзенькі
На вароненькім коню.
— Гуляй, гуляй, прыкрасная дзевачка,
Я й завяду дадому.

Вядзі, вядзі, казак маладзюсенькі,
Да вядзі, не ўмарыся.
Па мне, па мне, па мне маладзюсенькай,
Да ўвесь род зажурыўся.

Не так род жа, як родная мамачка,
Да як родная маці.
Хочаць мяне, мяне маладзюсеньку,
За нялюбага аддаці.

## 162. АЙ ТЫ, БЕЛАЯ БЯРОЗА

Ай ты, белая бяроза,
Будзе табе прыгода,

Будзе табе прыгода,
Прыгодачка — злы мароз.

Марозік змарозіць,
А ветрык лісток абаб'е.

А ветрык лісток абаб'е,
Аж на мора занясе.

Маладая дзяўчына,
Будзе табе прыгода,

Будзе табе прыгода
Прыгодачка — злы мужык,

З дзевачкамі разлучыць
І да жанок прылучыць.

Дзеўкі будуць гуляці,
А ты будзеш плакаці.

Дзеўкі пойдуць на вулку,
А ты пойдзеш за люльку.

Дзеўкі будуць гуляці,
А ты будзеш люляці.

Дзеўкі будуць піва піць,
А ты будзеш слёзы ліць.

## 163. НЕ БЯЖЫ, КОНЬ, ЗЯЛЁНЫМ ЛУГАМ

Не бяжы, конь, зялёным лугам,
Ты не еж, конь, лугавой травы,

Ты не еж, конь, лугавой травы,
Ты не пі, конь, ключавой вады.

У тым ключы дзеўка мылася,
Сваёй красы дзівілася:

— Ох, краса мая, краса мая,
Ты каму, краса, дастанешся?

Ці старому, а ці малому,
Ці ўдалому малойчыку?

Калі старому дастанешся,
Каса мая, набадзяешся,

Калі малому дастанешся,
Каса мая, нагаруешся,

А калі ўдалому малойчыку,
Каса мая, накрасуешся.

## 164. ДУМА МАЯ, ДУМАЧКА

Дума мая, думачка,
Думаць дзеўцы нечага,

Думаць дзеўцы нечага,
Любіць дзеўцы некага.

— Любіла б я старога,
Дык старога не хочацца.

Любіла б я малога,
Малога не прыхочацца,

Любіла б я роўнага,
Роўны скора жэніцца,

Роўны скора жэніцца,
Любоў пераменіцца.

## 165. СЯЧЫ ДЗЕРАЎЦА, КУДЫ ХІЛІЦЦА

Сячы дзераўца, куды хіліцца,
Ой і ой люлі, куды хіліцца.

Аддай дочачку, куды хочацца,
Ой і ой люлі, куды хочацца.

Ці за старага, ці за малага,
Ой і ой люлі, ці за малага,

Што й за старага — сухатосць мая,
Ой і ой люлі, сухатосць мая.

Што й за малага — шчыпатосць мая,
Ой і ой люлі, шчыпатосць мая.

А што пораўну — красатосць мая,
Ой і ой люлі, красатосць мая.

## 166. А ТЫ, ТАТАЧКА-КАНАРЭЕЧКА

А ты, татачка-канарэечка,
А ты, мамачка, мая пташачка.

Не сячы дрэва, куды не хінецца,
Не аддай дачку, куды не хочацца.

А сячы дрэва, куды хінецца,
Ты аддай дачку, куды хочацца.

Не за старага, не за малага,
А аддай дачку ўсё за роўнага.

Што за старым жыць — гараваць, тужыць,
Што за малым жыць — сухата мая,

Што за старым жыць — сухата мая,
А за роўным жыць — красата мая.

## 167. ОЙ, БЕЛАЯ БЯРОЗА, ТЫ КУДРАВА *

Ой, белая бяроза, ты кудрава,
Ў стужу, ў холад ты стаяла,
Дзе матуля з дачушкай размаўляла.

— Не аддай мяне, маці, за старога,—
З старым ночку начаваці,
Як за гнілой калодай паляжаці.

Не аддай мяне, маці, за малога,—
З малым ночку начаваці,
Як рыбачцы пад лёдам прастаяці.

Ты аддай мяне, маці, за раўнога,—
З роўным ночку начаваці,
Як салавейку ў садочку шчабятаці.

## 168. ЯК ПАЙДУ Я З ГАРЫ ДЫ Ў ДАЛІНУ

Як пайду я з гары ды ў даліну
Ды выламлю вярбу ды каліну.

Як сяду я каліначку есці —
Ідуць, ідуць ад мамачкі весці.

[Ідуць, ідуць ад мамачкі весці:]
Хочыць маці за старога аддаці.

Я старога змалку не любіла —
Яго следам камень пакаціла.

Як каменю цяжэнька каціцца,
Так мне, маладзе, са старым жаніцца.

Як пайду я з гары ды ў даліну
Ды выламлю вярбу ды каліну.

Як сяду я калінaчку есці —
Ідуць, ідуць ад мамачкі весці,

Ідуць, ідуць ад мамачкі весці:
Хочыць маці за роўніцу аддаці.

А роўніцу змалку я любіла,
Яго следам калечка каціла.

Як калечку лёгенька каціцца,
Так мне, маладзе, з роўніцай жаніцца.

## 169. МАЛАДА ДЗЯЎЧЫНАЧКА

— Малада дзяўчыначка,
Чаго зажурылася?

— Як жа мне не журыцца,
Каго ж я любіць буду?

Любіла б жанатага,
Жонка будзе сердзіцца,

Любіла б халастога,
Халасты ажэніцца.

Халасты ажэніцца,
Любоў пераменіцца.

Любіла б ваеннага,
Салдаціка беднага.

Салдат будзе служыці,
Я ж, малада, тужыці,

Салдат будзе ваяваці,
Я ж, малада, гараваці.

Салдат будзе з пушкі біць,
Я ж, малада, слёзкі ліць.

## 170. А У НЕБЕ, НЕБЕ ЗОРАЧКІ ЯСНЫ

А ў небе, небе зорачкі ясны,
А ў нашай вуліцы дзеванькі красны.

Ой, красны-красны, ды ўсё з каснікамі,
Танцуюць, гуляюць ды ўсё з казакамі!

— На пячы гаршчок поўны з вадой,
Не люблю таго, хто з барадой!

Ах, люблю, люблю мёд салодзенькі,
Люблю малойца, хто малодзенькі.

## 171. ОЙ, З-ПАД ЛЕСІКУ, ЛЕСУ ЦЁМНАГА

Ой, з-пад лесіку, лесу цёмнага,
Ой-лі, ой-люлі, лесу цёмнага.

Што з-пад гаіку, з-пад зялёнага,
Ой-лі, ой-люлі, з-пад зялёнага.

Тудой ішлі ўсё два малайцы,
Ой-лі, ой-люлі, ўсё два малайцы.

Усё два малайцы, абодва холасты,
Ой-лі, ой-люлі, абодва холасты.

Яны йшлі-прайшлі, станавіліся,
Ой-лі, ой-люлі, станавіліся.

За адну дзевачку пасварыліся,
Ой-лі, ой-люлі, пасварыліся.

«Вы ж не біцеся, не сварыцеся,
Ой-лі, ой-люлі, не сварыцеся.

Аднаму каму я застануся,
Ой-лі, ой-люлі, я застануся:

Ці то старшаму, ці то младшаму,
Ой-лі, ой-люлі, ці то младшаму».

Старшы моладзец ўзяў за ручаньку,
Ой-лі, ой-люлі, ўзяў за ручаньку

Да павёў яе ды к таварышам,
Ой-лі, ой-люлі, ды к таварышам.

«Ці пахваліце маю дзевачку,
Ой-лі, ой-люлі, маю дзевачку?

Хоць пахваліце, то не возьмеце,
Ой-лі, ой-люлі, то не возьмеце.

Хоць пагудзіце — не разлучыце,
Ой-лі, ой-люлі, не разлучыце».

## 172. ЗА ГАРОЮ ЛЯЛЕЯ ЛЯЛЕЛА

За гарою лялея лялела,[1]
За другою дзяўчына гуляла.
— Гуляй, гуляй, цябе маці клічыць,
— Няхай клічыць, я ведаю нашто,
Хочыць маці за старога аддаці,
Я старога даўна не любіла,
Яго следам каменне каціла,
Цяжка, цяжка каменне каціці,
Яшчэ цяжэй за старэнькім жыці.
За гарою лялея лялела,
У садочку дзяўчына гуляла,
— Гуляй, гуляй, цябе маці клічыць,
— Няхай клічыць, я ведаю нашто,
Хочыць маці за малайца аддаці,
Я ж малайца даўненька любіла,
Яго следам пярсцёнак каціла,
Лёгка, лёгка пярсцёнак каціці,
Яшчэ лягчэй за малайцом жыці.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 173. ОЙ, ДОЛАМ, ДОЛАМ *

Ой, долам, долам
І далінаю,
Ой, ехаў казак
Украінаю,

Ой, ехаў казак
Украінаю,
Знайшоў дзяўчыну
Пад калінаю.

Каліна цвіце,
Дзяўчына плача.
— Ой, чаго, дзеўка,
Так сільна плачаш?

— Ой, як жа бо мне
Дый не плакаці,
Хацела маці
За ўдаўца 'ддаці!

Не люблю хрэну,
Ні цвету яго,
Не люблю ўдаўца,
Ні следу яго.

Я люблю мядок,
Ён салодзенькі,
Люблю малайца,
Ён малодзенькі,

Бо мяне ўдавец
Усё будзе біці,
Маладзец будзе
Верна любіці.

## 174. ЗЯЛЁНАЯ ЁЛКА, БЕЛАЯ БЯРОЗКА *

Зялёная ёлка, белая бярозка,
Заплакала дзеўка, бедная сіротка.[1]

---

[1] Кожны другі радок паўтараецца.

Яна заплакала, яшчэ затужыла.
— Ой, чаго ж я, млода, цяпер заслужыла.

Згубіў мяне ойцец, шчэ й згубіла маці,
За каго хацела — не хочуць аддаці.

Каго я любіла — не нагаваруся,
Ой, пайду я з жалю ў рэчцы ўтаплюся.

— Не тапіся, дзеўка, бо душу загубіш,
А ідзі за таго, каго верна любіш.

— Каго я любіла, той не хоча браці,
Вялю табе, маці, магілу прыбраці.

Вялю табе, маці, магілу прыбраці,
Чым не з любым другам пад вянцом стаяці.

## 175. ОЙ, БОЖА МОЙ, БОЖА

Ой, божа мой, божа,
Жалка маладосці.
Даў бог мне шчасце
Да й не па шчыросці.

Даў мне бог коні,
Даў бог мне волы,
Даў бог мне друга,
Да не ўдалога.

Ой, вялела б, маці,
Гораньку капаці,
Чым з нялюбым другам,
На каберцы стаці.

Гораньку скапаю,
Лягу сапачыну,
А з нялюбым другам
Навекі загіну.

## 176. А У МАЙГО ТАТКІ

А ў майго таткі
Сад над ракою,
Сад над ракою,
Люлі, люлі.
Двор над вадою.[1]

Пусці, татулька,
У сад пагуляці,
Тваіх не буду
Вішань шчыпаці.

Толькі вышчыплю
Вінаградачку,
Прынясу татачку
На парадачку.

Парадзь, татулька,
Як лепей быці,
Ці замуж ісці,
Ці дома быці.

Дома жывучы —
Людская справа,
Замуж пашоўшы —
Вяліка гора.

Лепш у татулькі
Горы капаці,
Чым з благім мужам
Век гараваці.

Горы капаўшы,
Сядзеш аддыхнеш,
А з благім мужам
Што дзень заплачаш.

---

[1] Апошні радок кожнай страфы паўтараецца з прыпевам «Люлі, люлі»

## 177. НЕ ХАДЗІ, ДЗЕЎКА, ДА КАЛЯ ДУБУ

Не хадзі, дзеўка, да каля дубу,
Не любі, дзеўка, ты хлопцаў-дурняў.

Ён ця палюбіць, навек загубіць,
Ён ця пакахаіць, навек аславіць.

— Пусці, татулька, у сад пагуляці,
А я не буду саду таптаці,

А толькі зламлю вінаградачку
Свайму татульку на парадачку.

Парадзь, татулька, што мне рабіці,
Ці замуж ісці, ці дзеўкай быці.

Няйшоўшы замуж — людская мова,
Зайшоўшы замуж — горкая доля.

Лепей мне ў таткі, чым мне з нялюбым
Увесь век жыці і гараваці.

Лепей мне ў таткі хлеб горкі есці,
Як із нялюбым за сталом сесці,

Лепей мне ў таткі пагараваці,
Як із нялюбым у шлюбе стаці.

## 178. ЦЯКЛА РЭЧКА, ЦЯКЛА РЭЧКА *

Цякла рэчка, цякла рэчка
Быстраю вадою,
Маладая дзяўчыначка,
Размаўляй са мною!

— Лепей буду, лепей буду
Горанькі капаці,
Ніж з нямілым, з нехарошым
Сесці размаўляці.

Лепей буду, лепей буду
Горкі чэмер піці,
Ніж з нямілым, з нехарошым
Аж да смерці жыці!

## 179. ОХ ТЫ, ДЗЯУЧЫНА, ЧЫРВОНАЯ ВІШНЯ

— Ох ты, дзяўчына, чырвоная вішня,
Чаму да мяне з вечара не выйшла?

— Я не выйшла, баюся марозу,
Бо я свае ножкі вельмі памарожу.

— Ох ты, дзяўчына, не бойся марозу,
Я твае ножкі ў шапаньку ўложу.

Мая ж шапанька вельмі дарагая,
За чатыры валы яна купавана,

За чатыры валы, за пяту карову,
За бела лічка і чорныя бровы.

За бела лічка і чорныя бровы,
Ступай, дзяўчына, на чаўнок за мною.

Яшчэ дзяўчына на чаўнок не села,
А ўжо нахапілась няшчасна гадзіна.

Шчука-рыба чоўна затапіла,
Малада дзяўчына на Дунай паплыла.

А за Дунаем тры казакі ходзіць,
Адзін да другога ціхенька гаворыць:

Адзін кажа: «Рыба ў моры грае»,
А другі кажа: «Дзяўчына ўтанае».

А трэці кажа: «Што будзе, то будзе,
Такі дзяўчыну ратаваці буду».

— Ратуй, ратуй, казачэньку, з мора,
Будзеш меці ад маткі заплату.

Ратуй, ратуй мяне, маладую,
Будзеш мецi ад бацькi другую.

— Ой, я не хачу заплатанькi брацi,
Я цябе хачу за мiлую ўзяцi.

— Ой, лепш я буду ў моры патапацi,
Нiж [illegible] нялюбым другам на шлюбе стаяцi.

Лепш я буду ў моры пясок есцi,
Нiж з нялюбым за столiкам сесцi.

Ў моры патапаўшы, то ўтану, то зрыну,
За нялюба пайду, навекi загiну.

Ў моры ўтаплюся, да краю прыплыву,
За нялюба пайду, навекi загiну.

Ў моры патапаўшы, мо хто выратуе,
За нялюба пайду, нiхто не жалуе.

Няхай мае рукi ад'ядаюць шчукi,
Няхай мае косы вадзiца падносiць.

## 180. МIЖ ГАРАМI, МIЖ БАРАМI

Мiж гарамi, мiж барамi,
Пайшла дзеўка за грыбамi
За быстру раку.
Ух! за быстру раку.[1]

Яшчэ к рэчцы не дайшла,
Мухаморыка знайшла,
Краснага грыба.

Грыба краснага схвацiла
Ды ў карзiнку палажыла.
Дай сама адна.

Ой, запалю свечу з лою,
Да выведу дзеўку з бою.
Маладзюсеньку.

[1] Апошнi радок кожнай страфы паўтараецца з выклiчнiкам «Ух!»

Ой, запалю другу васкавую,
Ды тры разы пацалую,
Кладу яе спаць.

Дзеўка спаці не кладзецца
Ды ўсё слёзанькамі льецца,
Баіцца мяне.

Не плач, дзеўка, не плач, красна,
Не лі слёзачак напрасна,
Не бойся мяне,

Не псуй слёзачкамі лічка,—
Куплю табе чаравічкі,
Насі здарава.

— Лепш хадзіці басяком,
Ніж любіцца з дураком
Непанятлівым.

## 181. ПРЫЛЯЦЕЛА ПАВА

Прыляцела пава
Да на дварэ пала,
Не відаць, не відаць,
Каго я кахала.

Прыляцела пташка,
Залатыя крыльца,
Не відаць, не відаць
Майго чарнабрыўца.

Не хадзіць мне туды,
Куды я хадзіла,
Не любіць мне таго,
Каго я любіла.

Каго я любіла,
Даўно прызабыла,
А каго не знала,
З тым пад шлюбам стала.

## 182. ОЙ, НЕ ЛЁН Я СЕЯЛА

Ой, не лён я сеяла,
Капусту садзіла,
Што не даў мне бог,
Каго я любіла.

Ох, і не даў мне бог,
Каго я жалала,
Што за тыя пераборы,
Што перабірала.

Ох, і тыя пераборы,
Да да смерці дакоры.

## 183. БЫВАЙЦЕ ЗДАРОВЫ

Бывайце здаровы,
Бацькавы парогі,
Кудою хадзілі
Мае белы ногі.

Кудою хадзілі
Да й хадзіці будуць,
Каго я любіла,
Да й любіці буду.

Каго я любіла,
Стаіць за плячыма,
Каго знаць не знала,
Той перад ачыма.

Каго я любіла,
Той паплыў з вадою,
Каго знаць не знаю,
Той жыве са мною.

# ПРЫЗНАННЕ

## 184. Я ПЕРАПЯЛІЧКА, ПЦІЧКА НЕВЯЛІЧКА

Я перапялічка, пцічка невялічка,
У полі лятаю, к дрэву прывяртаю,
К дрэву прывяртаю, сокала шукаю.
Сокал мой ясны, малойчык пракрасны,
Згордзіўся ты мною, як вецер гарою,
Як туман далінаю, як сонца калінаю.
Вулан прыглядае за краснай дзяўчынаю.
Вуланчык да хаткі, пытаецца ў маткі:
— Матулька мая, айдзе донька твая?
— Донька выйшла ў поле пшанічаньку жаці.
Вулан да пшаніцы, аж нет там дзявіцы.
Вуланчык да хаткі, пытаецца ў маткі:
— Матанька мая, а й дзе донька твая?
— Пашла да гаёчку збіраці грыбочкаў.
Вулан у гаёчак — прапаў і слядочак.
Вуланчык да хаткі, пытае ў маткі:
— Мамачка мая, а й дзе донька твая?
— Пашла да каморы пасцель белу слаці.

## 185. ІШЛІ ХЛОПЦЫ З ЯРМАЛКУ

Ішлі хлопцы з ярмалку
Дай зрубалі яблыньку.
Ой лі, ой лі, ой да люлі,
Да зрубалі яблыньку.[1]

Да яблынька садовая,
Грушыца мядовая.

---

[1] Апошні радок кожнай страфы паўтараецца з прыпевам «Ой лі, ой лі, ой да люлі».

Да грушыца мядовая,
Дзеўка чарнабровая.

Да дзеўка чарнабровая
Пад нораў не падышла.

Да пад нораў не падышла,
Цалавала малайца.

Да цалавала малайца,
Лепей мацеры, айца.

## 186. А ВЫСОКА, ДАЛЁКА

А высока, далёка,[1]
Салавей гняздзечка ўецъ.

А павышай салаўя,
Іванька дамок строіць.

Ганачак на рыначак,
Аконца на ўсход сонца.

А каб было добра сядзець
Да на рыначак глядзець.

Да на рыначак глядзець,
А дзе Кацечка ідзець.

## 187. СВЯЦІ, МЕСЯЦ, ПРАСВЯЧАЙСЯ

Свяці, месяц, прасвячайся,
Бяжы, коню, пасляшайся.[2]

Штобы міла не заснула,
Вароцечак не замкнула.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.
[2] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Як пад'ехаў пад варота,
Стаіць міла лучшай злота.

Як пад'ехаў пад акенца,
Стаіць міла, міла сэрца.

Як пад'ехаў пад ганачак.
— А мой мілы каханачак!

Узяла каня за грываньку,
А мілага за ручаньку.

Дала каню аўса, сена,
А мілому мёду, віна.

## 188. А Ў ГАРОДЗЕ КАПУСТАНЬКА

А ў гародзе капустанька,
На ёй ліст зялёны.
Едзе, едзе мой міленькі,
Пад ім конь вароны.

Едзе, едзе мой міленькі,
Пад ім конь танцуе,—
Маладая дзяўчынанька
Шнуроўку шнуруе.

— Шнуруй, шнуруй шнурованьку,
Адчыні варота,
Я да цябе, мая міла,
Прыехаў, сірота.

Адчыніла ты варота,
Адчыні і стайню,
Дзе я свайго варанога
Коніка пастаўлю.

Адчыніла ты мне сені,
Адчыні й камору,
Пусці, пусці мяне, міла,
К сабе на размову.

## 189. ДЗЯЎЧЫНА СІРОТА

Дзяўчына сірота,
Не сцялі шырока,
Пасцялі вузенька,
Прысунься блізенька.

Будзем гаварыці,
Як на свеце жыці,
Будзем старавці,
Каб не чула маці.

Я к табе прыеду
У нядзелю раненька,
У нядзелю раненька,
Як ўзыйдзе сланейка.

## 190. ТАМ І РЭЧКА, ТАМ І МОСТ

Там і рэчка, там і мост,
Там і добры перавоз.
Там я сваю радушэньку
На ручаньках перанёс.
Перанёс, пераскачыў,
Нічога не замачыў,
Толькі з яе правай ножанькі
Сапажэчак саскачыў.
Ох, і не жаль мне сапажка.
Толькі мілага дружка.

## 191. ЗАПІЎСЯ БЕЛ-МОЛАДЗЕЦ

Запіўся бел-моладзец,
А ён загуляўся,
І з краснаю дзеўкаю
А ён застаяўся.
Пазнёсенька моладзец
Удвору прыходзіць,
Не вячэраўшы, моладзец

Спацечкі кладзецца,
Ранёсенька моладзец
А ён уставаіць,
Сапожкі на ножкі
А ён надзяваіць,
Крынічнай вадою
Лічанька ўмываіць,
Белым ручнічком
Лічанька ўціраіць.

## 192. СЭРЦА МЛЕЕ, ГРУДЗЬ БАЛІЦЬ *

Сэрца млее, грудзь баліць,
Сам не знаю, што рабіць,
Ой, люлі, ой, люлі!
Сам не знаю, што рабіць.[1]

Ой, пайду я ў чыста поле,
Распрасею сваё гора,

Распрасею, распрайду,
Я ў вішнёвы сад пайду,

А ў вішнёвым садочку
Цвітуць вішні, чарэшні,

Салавей пяе у клетцы,
Плача маладзец па дзеўцы.

## 193. ТЫ, ЯРКАЕ СОНЦА, ЧАГО РАНА УСХОДЗІШ

Ты, яркае сонца, чаго рана ўсходзіш,
Чаго рана ўсходзіш і позна заходзіш? [2]

Беленькі малойчык па рыначку ходзіць,
Па рыначку ходзіць і ў гусельκі іграе,

[1] Апошні радок кожнай страфы паўтараецца з прыпевам «Ой, люлі, ой, люлі!»
[2] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Па рыначку ходзіць і ў гуселькі іграе,
І ў гуслікі іграе, дзяўчыну гукае.

— Ты, дзеўка, ты, красна, не гардуй ты мною,
Не гардуй ты мною — быць табе за мною.

Тваё гардаванне ў мяне пад нагамі,
Тваё бела лічка ў мяне ля сярдзечка,

Тваё бела лічка ў мяне ля сярдзечка,
Твая руса коса ў мяне ля пояса,

Твае чорны бровы мне на размовы,
Твае ўплётачкі ў мяне падвязачкі.

## 194. ВЯНЕ РУТА ЛЯ ПРЫСАДАЎ *

Вяне рута ля прысадаў:
Чарнявая дзяўчыненька —
Мне дасада! [1]

І не піў бы, і не еў бы,—
Да чарнявае дзяўчыны
Паляцеў бы!

Паляцеў бы, ды не мушу:
Распаліла чарнявая
Сэрца, душу.

Ці ты п'ян быў, ці змыліўся,
Што ў такую некрасівую
Улюбіўся?

Я не п'ян быў, не змыліўся:
У дзявочы ясны вочы
Улюбіўся!

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

## 195. ДРОБНЫ ДОЖДЖЫК *

—Дробны дожджык
Ды накрапае,
Выйдзі, дзяўчына,
Сэрца жадае.[1]

— Да цябе б выйшла,
Не пусціць маці.
Яна гаворыць:
«Пара табе спаці».

— Буду да ранку
Цябе чакаці,
Ля тваіх вокан
Буду стаяці.

— Ціха, мой любы,
Маці заснула,
Ціхенька выйду,
Каб не пачула...

А ў чыстым полі
Вецер гуляе,
Хлопец з дзяўчынай
Песню спявае.

## 196. ОЙ, ВЫЙДЗІ, ВЫЙДЗІ, ДЗЯЎЧЫНАЧКА

— Ой, выйдзі, выйдзі, дзяўчыначка,
Пагаворым мы з табою.
— Сажджы, парань, гадзіначку,
Сажджы, парань, другую,
Пакуль роднаму бацюшцы
Вячэру згатую.
Сажджы, парань, гадзіначку,
Сажджы, парань, другую,
Пакуль сваёй роднай матушцы
Белу пасцель пасцялю,
Тады к табе, парнішачка,

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

На парадачку прыду.
— Чаму табе не гадзіці,
Па гораньцы ходзячы?
Як то мне, добру молайцу,
На марозе стоячы.
Памарозіў белы ножачкі,
Да дзевачкі ходзячы,
Пападраў я кішэнечкі,
Гасцінчыкі носячы,
Папацёр я жупанчыкі,
Па заборах лазячы.

## 197. ЗАРАКАЎСЯ МОЙ МІЛЕНЬКІ

Заракаўся мой міленькі
Ка мне не хадзіці.
Падыходзіць пад аконца,
Просіць вады піці:

— Падай, мілка, падай, сэрца,
З новага вядзерца.
Мы пастаім пагаворым,
Развесялім сэрца.

## 198. ЯШЧЭ КУРЫ НЕ СПАЛІ *

Яшчэ куры не спалі,
Людзі не вячэралі,
Кліча хлопец млоду дзяўчыначку
К сабе на размовачку.[1]

— Пастой, мілы, гадзіну,
Пастой, мілы, другую,
Пакуль, пакуль сваёй матуленьцы
Вячэраньку згатую.

— Добра табе казаці,
У цёплай хаце седзячы,
А мне трудна, хлопцу маладому,
На марозе стоячы.

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

## 199. ОЙ, ТУГА МНЕ, ТУГА АД МІЛАГА ДРУГА

Ой, туга мне, туга ад мілага друга.
Адламалася паліца ад плуга.

Ці ісці да лесу паліцу часаці?
Ці йсці да дзяўчыначкі ўсю ноч гуляці?

Скора казак, скора з лесу выязджае —
Маладая дзяўчына браму зачыняе.

— Адчыні, дзяўчына, хоць браманьку-сені:
Ужо мяне, казака, камарочкі з'елі.

— Хай цябе, казача, хоць камары з'ядуць,
Ля мяне, дзяўчыны, ды й лепшыя сядуць.

— Чаму ты, дзяўчына, ўчора не казала,
Як ад мяне, казака, падарачкі брала?

## 200. НЕ АГОНЬ ГАРЫЦЬ, НЕ ВАДА КІПІЦЬ*

Не агонь гарыць, не вада кіпіць,
Маладзецкае сэрцайка баліць.

Ой, баліць, баліць, не знаю па кім,
Ці па бацюшку, ці па матулі.

Не па бацюшку, не па матулі,
А па здрадніцы, краснай дзевіцы.

## 201. АЙ, БОЖА МОЙ, БОЖА, БЕЗ ДОЛІ УРАДЗІУСЯ*

Ай, божа мой, божа, без долі ўрадзіўся:
Які свет вялікі, а я не жаніўся.
А што ж я думаю,
Красну дзевіцу кахаю,
Паклічу я мілу
К сабе на параду.

Ай, божа ж мой, божа, які я ўрадзіўся,
Плыў я цераз рэчку, да і не умыўся.

Плыў я цераз рэку,
Плыў я ды цераз быстру,
Пераплыў я рэку,
Ды не уціраўся.

— Дай жа я вярнуся, дай жа я ўтруся,
На сваю на мілу дай жа падзіўлюся.
Ох ты, конь мой мілы,
Конь мой мілы, сівагрывы,
Бяжы, сівагрывы,
Аж да маёй мілай.

Стань пад варатамі, удар капытамі,
Ці не выйдзе міла з чорнымі брывамі.
А што ж я думаю,
Красну дзевіцу кахаю,
Ці не выйдзе міла
Ка мне на параду.

## 202. ЗАКУРЫЎСЯ ДЫ ДРОБНЕНЬКІ ДОЖДЖЫК

Закурыўся ды дробненькі дожджык
Па чысценькім полі,
Закурыўся.
Зажурыўся мой міленькі дома
Па мне, маладзенькай,
Зажурыўся.

Не курыся ды, дробненькі дожджык,
Па чысценькім полі,
Не курыся.
Не журыся, мой міленькі дома,
Не журыся.

## 203. ПАЙШОЎ ЯСЬ НАШ НА ЛУЖОК *

Пайшоў Ясь наш на лужок,[1]
Накасіў атавачкі ён стажок.
Пайшоў Ясь наш аддыхаць
І сваю Настулечку стаў чакаць.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

А Настулька не прыйшла,
Маці дома работачку ёй знайшла.
— Чакай, Яська, да пары,
Аж да самай ночанькі, да зары.

## 204. АХ, ВУТКА ЛУГАВАЯ

Ах, вутка лугавая,
Та малодка маладая.
Й дзе ж ты была, прабывала,
Й дзе ж ты ночку начавала?
— Начавала ночку
У цёмным лясочку,
Пад калінавым кусточкам.
Там ішлі, прашлі ўдалыя
Тры малойцы маладыя.
Выразалі па пруточку
Да зрабілі па гудочку.
Вы, гудочкі, не гудзіце,
Майго мілага не будзіце.
А мой мілы за ракою,
Варыць да не брагу,
Любіць дзеўку, да не кажыць.

## 205. ДА НА СТРАСЕ БЕЛ МАРОЗ

Да на страсе бел мароз,
А у гародзе шчыр парос.

— Чаму, хлопчыкі, не рвіцё,
Ды у шапачкі не ўткніцё.

— Да нам рвецца на душы,
Што ўсе дзевачкі харашы,

Адна Настачка няўдача,
Па ёй Яначка паплача.

## 206. А У ПОЛІ ДУБ, ДУБ *

А ў полі дуб, дуб,
А пад дубам ёлка,
Там дзяўчына жыта жала,
Сама чорнаброўка.[1]

Ехаў казачэнька,
«Памагай бог» дае,
Дзеўка стала, адказала,
Сэрданькам назвала.

Там за гаем, гаем
Дзевер ваду носіць,
Ой, там маці свайго сына
Вячэраці просіць.

— Ой, вячэрай, маці,
Калі наварыла,
А я сяду ды паеду
Да дзяўчыны-любы.

## 207. ПАЗВОЛЬ, ПАЗВОЛЬ, МАЦІ *

Пазволь, пазволь, маці,
Крыніцу капаці,
Ці не прыдуць дзеўкі
Рана ваду браці.[2]

Вось дзяўчаткі прышлі,
Ваду зачарпнулі,
А маю міленьку
Мама не пусціла.

Пазволь, пазволь, маці,
Карчму будаваці,
Ці не прыдуць дзеўкі
Туды пагуляці.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.
[2] Тое ж.

Вось дзяўчаткі прышлі,
Прышлі пагулялі,
А маю міленьку
Мама не пускае.

Пазволь, пазволь, маці,
На луг пахадзіці,
Ці не прыдуць дзеўкі
Карагод вадзіці.

Вось дзяўчаткі прышлі,
Карагод вадзілі,
А маю міленьку
Мама не пусціла.

## 208. ЗЯЛЁНЫ ДУБОЧАК *

Зялёны дубочак,
Шырокі лісточак,
Куды вецер вее,
Туды галлё гнецца.[1]

Сягоння субота,
А заўтра нядзеля:
— Чаму ў цябе, хлопчык,
Кашуля не бела?

— А як жа ж будзе бела,
Хоць заўтра нядзеля,
Матка ў мяне стара,
Сястра ў мяне мала.

Матка ў мяне стара,
Сястра ў мяне мала,
Дзяўчына кахана
Любіць перастала.

Пераплыву рэчку,
Сяду на масточку,
Ці не прыдзе міла
Памыць мне сарочку.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

## 208а. ПАВЕЙ, ВЕТРУ, ДЫ ПАВЕЙ, ВЕТРУ *

Павей, ветру, ды павей, ветру,
З высокага гаю,
Прыедзь, прыедзь, ды мой міленькі,
З далёкага краю.[1]

Ой, рад бы я дый павеяці,
Калі гай высокі,
Ой, рад бы я дый прыехаці,
Калі край далёкі.

Валы равуць, дамоў бягуць —
У полі за ракою,
А за імі ды мой міленькі,—
Маша мне рукою.

Ой, сёння ды суботанька,
А заўтра нядзеля:
— Чаму ж ў цябе, ды мой міленькі,
Кашуля не бела?

— Ой, ці бела, ці не бела —
Сёмая нядзеля:
Маці стара, сястра мала —
Некаму памыці.

Пераплыла дзеўка рэчку,
Села на пясочку,
Ды й памыла, ды й пакачала
Міламу сарочку.

## 209. А НА ДВАРЭ СНЕГ НАПАЎ

А на дварэ снег напаў,
А малойчык з каня спаў.
Як з каня спаў, так ляжыць,
Ажно мілая бяжыць.
Скора міла прыбяжала,

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

За ручаньку падзяржала,
За правую ўзяла
І пад ручку павяла.
У дварэ яго мілавала,
Шчырым сэрцам цалавала,
То Мар'яначка была,
То дзяўчыначка міла.

## 210. У САДЗЕ ВІШНЯ ПАХІЛІЛАСЯ *

У садзе вішня пахілілася,
Антось з Гэлечкай палюбіліся.[1]

У садзе вішня асыпаецца,—
Антось з Гэлечкай абдымаецца.

Паехаў Антось у горы-даліны,
— Адчыні, Гэлечка, божа адзіны.

Устала Гэля, як бы не спала,
Абняла Антося, пацалавала.

— Не хадзі, Антосю, у новых ботах,
Не рабі слядочкаў у маіх варотах.

Бо гэты сляды наробяць бяды,—
Выведуць коні на чатыры стараны.

— Я гэту бяду пальцам развяду,
Да сваёй да Гэлі ў сваты прыду.

## 211. ОЙ, ТОНКА, ТОНКА САСОНКА

Ой, тонка, тонка сасонка,
Ці затым ты тонка, што адна.
Чаго ты к яру прылягла,
Дзевачкам дарожку заняла?
Там дзевачкі часта хадзілі,
На ваду вяночкі насілі:
Адна Ганулька зблудзіла

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

І свой вяночак згубіла.
Ходзіць Яначка гукае
Сваёй Ганулькі шукае:
Вярніся, Ганулька, вярніся,
Мне маці сказала — жаніся.
Вярніся, Ганулька, дахаты,
Я прыду да цябе ў сваты.

## 212. ОЙ, ВАЛЭ МАЕ, ВАЛЭ

Ой, валэ мае, валэ,
Валэ крутарогі,
Да й аб'ездзіў я на вас
Усе сцежкі й дарогі.

Дзе мы будзем начаваць?
У дзяўчонкі Насці.
Што мы будам вячэраць?
Перапёлку ў маслі.

Ой, ці ўсю яе з'ядзім,
Ці крыльцы-рабельцы?
Як узяло казака
Да й за шчыра сэрца.

[Як узяло казака]
[Да й за шчыра сэрца,]
А дзяўчына з казака
У вочы смяецца.

— Не смейся, дзяўчынка,
Я ў цябе ўлюбіўся,
Цераз цябе, дзяўчынка,
Ад роду адбіўся.

## 213. У САДЗЕ ХАДЗІЛА, КВЕТАЧКІ РВАЛА

— У садзе хадзіла, кветачкі рвала,
Мяне, дзяўчына, ачаравала.

Ачаравала сэрца і душу,
Цяпер да цябе хадзіці мушу.

Хадзіці мушу, любіці буду,
Скажу па праўдзе: сватаці буду.

Ой ты, дзяўчына, ты горда, пышна,
Чаму ты ўчора гуляць не вышла?

— Ой, я не выйду, гуляць не стану,
Я вышлю сёстру такую саму.

— Ой, я з сястрою ўсю ноч прастояў,
Не тыя рэчы, што ў нас з табою.

Не тыя рэчы, не тая мова,
Не белаліца, не чарнаброва.

## 214. ОЙ, У ЛУЗЕ, У ЛУЗЕ ЗЯЛЁНЫ БАРОЧАК

Ой, у лузе, у лузе зялёны барочак,
Зялёны барочак.
— Не плач, не журыся, малады казачак,
Малады казачак.

— Ой, не сам я плачу, плачуць кары вочы,
Плачуць кары вочы.
Не дадуць спакою, [redacted] ні днём, ні ночы,
А ні днём, ні ночы.

Не дадуць хадзіці, дзяўчыны любіці,
Дзяўчыны любіці.
— Памру, памру, міла, а ты будзеш жыва,
А ты будзеш жыва.

На маю магілу не будзеш хадзіці,
Не будзеш хадзіці.
Не будзеш хадзіці, да й мяне любіці,
Да й мяне любіці.

Ой, у лузе, лузе зялёны барочак,
Зялёны барочак.
— Не плач, не журыся, малады казачак,
Малады казачак.

На тваю магілу я хадзіці буду,
Я хадзіці буду.
І цябе, казачак, я любіці буду,
Я любіці буду.

— Прыдзеш на магілу — не махай рукою,
Не махай рукою,
Бо ўсе людзі скажуць, што я жыў з табою,
Што я жыў з табою.

— Няхай людзі кажуць, а я не баюся,
А я не баюся.
Каго верна люблю, з тым я расстаюся,
З тым я расстаюся.

## 215. САКОЛЕ, САКОЛЕ, ВЫСОКА ЛЯТАЕШ

— Саколе, саколе, высока лятаеш,
Высока лятаеш, далёка чуваеш.

Раскажы, саколе, пра сваё лятанне,
Пра сваё лятанне, пра маё каханне.

— А маё лятанне па цэламу свету,
А тваё каханне да шлюбу прыбрана.

— А чаго ж ты плачаш, а чаго ж ты тужыш,
Няўжо ты на свеце адну мяне любіш?

Было тады браці, як ты заляцаўся,
Цяпер бярэ другі, то ты не мяшайся.

— Гаю ты мой, гаю, зялёны мой гаю,
Страціў я дзяўчыну, цяпер не паймаю.

А хоць і паймаю, то ўсё ж не такую:
Да сэрца прытулю, ды не пацалую.

## 216. ОЙ, У ПОЛІ ПРЫ РАЗДОЛЛІ

Ой, у полі пры раздоллі
Дзеўка жыта жала.
Пры шырокай крынічэньцы
Коніка паяла.

Конік піе, ножкай біе,
Ён дарожку чуе.
А бог знае, бог ведае,
Дзе казак начуе.

Ой, начуе казачэнька
У карчме на кравацi.
Прышла ж яго родна мацi,
Кліча вячэрацi.

— Ой, вячэрай, мая мацi,
Калі наварыла,
А [redacted] пайду вячэрацi,
Дзе дзяўчына міла.

— Не йдзі, не йдзі, мой сыночак,
Табе горай будзе.
Лепей ідзі утапіся —
Табе лепей будзе.

Утапіўся казачэнька,
Шапачка плывае.
Ходзя дзеўка каля рэчкі,
Ручачкі ламае.

Заламала белы ручкі
Ад пальца да пальца:
«Нету майго казачэнькі,
Нет майго красаўца».

## 217. КАЛІНА-МАЛІНА *

Каліна-маліна,
Чом не чырванееш,
Ці сушы баішся,
Ці дажджу жалееш?

— Сушы не баюся,
Дажджу не жалею,
На пяску вырасла,
То й не чырванею.

Малады казача,
Чаго зажурыўся,
Ці валы прысталі,
Ці з дарогі збіўся?

— Валы не прысталі,
З дарогі не збіўся,—
Любіў я дзяўчыну,
Ды не ажаніўся.

Узяў [illegible] другую,
Толькі не такую,—
Прытулю да сябе,
Ды не пацалую.

Маладыя хлопцы,
Ды ўсе рыбалоўцы,
Вы закіньце сетку
На ўсю быстру рэчку,—

Вы закіньце сетку
На ўсю быстру рэчку
Ды злавіце долю
Хлопцу маладому.

Шчука-рыба йграе,
Сабе пару мае,
А я, маладзенькі,
Парачкі не маю.

## 217а. ЗЯЛЁНЫ ДУБОЧАК *

Зялёны дубочак
На яр пахіліўся,
Малады малойчык,
Чаго засмуціўся?

Ці валы прысталі,
Ці з дарогі збіўся?
Ці ў карчомцы п'яны
З суседзьмі пабіўся?

— Ні валы прысталі,
Ні з дарогі збіўся —
Малады малойчык
Без долі радзіўся.

Ой, пашоў я з гора
Ды ў чыстае поле,
У чыстае поле
Шукаць сваёй долі.

Як пашоў я долам,
Долам-далінаю,
Не знайшоў я долі,
Толькі быстру рэчку.

А каля той рэчкі
Стаяла карчомка,
А у той карчомцы
Ды тры рыбалоўцы.

Ой вы, рыбалоўцы,
Удалы малойцы!
Закіньце вы сетку
У быстраньку рэчку.

Закіньце вы сетку
У глыбоку рэчку,
Ды мне, маладому,
Вылавіце долю.

Не ўлавілі долі,
Ды ўлавілі шчуку:
Шчучка ў вадзе грае,
Сабе пару мае.

А я, маладзенькі,
Долечкі не маю.
Долечкі не маю,
Парачкі не знаю.

Толькі ўсяе пары,
Што вочанькі кары.
Толькі ўсяе долі,
Што чорныя бровы.

## 217б. ШТО, ЗЯЛЁНЫ ДУБЕ

— Што, зялёны дубе,
На ель пахіліўся?
Беленькі малойчык,
Аб чом зажурыўся?
Ці валы прысталі,
Ці з дарожкі збіўся?
— Валы не прысталі,
З дарожкі не збіўся,
Аб тым зажурыўся,—
Без долі радзіўся.
Як пайду я ў поле
Сабе долі іскаці.
Не найшоў я долі,
Найшоў рыбалова.
— Рыбалоўцы-хлопцы,
Белыя малойцы,
Закідайце сеці
А злавіце рыбку-долю.
Не ўлавілі долю-рыбку,
А ўлавілі рыбку шчуку.
Рыба шчука йграе,
Сабе пару мае.
А я ж то гуляю
Да й пары не маю.
Толькі ў мяне долі,
Што чорныя бровы.
Толькі ў мяне пары,
Што вочанькі кары.
А пайду я ў поле,
Пайду ўтаплюся,
Няхай людзі знаюць,
Як з гора ўміраюць.

## 217в. ЗЯЛЁНЕНЬКІ ДУБЧЫК НА ВІР НАХІЛІЎСЯ *

Зялёненькі дубчык на вір нахіліўся,[1]
Бяленькі малойчык, аб чом зажурыўся:
— Ці валы прысталі, ці з дарожкі збіўся?
— Валы не прысталі, з дарожкі не збіўся,
Аб том зажурыўся: холаст, не жаніўся,
А сватаўся дзеўку, дзеўку чарнаброўку,
Сватаўся другую, што людзі ўзялі...

## 217г. ЗЯЛЁНЫ ДУБОЧАК

Зялёны дубочак
На бок пахіліўся,
Малады мальчышка,
Аб чым зажурыўся:
Ці коні прысталі,
Ці з дарогі збіўся?
— Коні не прысталі,
З дарогі не збіўся,
Зайшоў я ў карчомку,
Водачкі напіўся.
Слугі мае, слугі,
Слугі дарагія,
Запрагайце коні,
Коні вараныя.
Я пайду у поле
Іскаць сабе долі.
Не найшоў я долю,
Найшоў сіне мора.
А ў тым сінім моры,
Хлопцы-рыбалоўцы,
Перакіньце сетку
Цераз сіне мора,
Ўлавіце шчуку
Хлопцу маладому.
Рыба-шчука йграе,
Сабе пару мае,
А я, маладзенькі,
Парачкі не маю.

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 218. ЦІ ТО, БОЖА, З ТВАЕЙ ВОЛІ

Ці то, божа, з тваёй волі,
Ці з няшчаснай мае долі,
Што я жыву на пустыні,
Трачу лета без дружыны?

Лета ж мае маладыя,
Чаму ж вы так нешчасныя?
Каго люблю — няма таго,
Хто мяне любіць — не я яго.

Божа, з неба высокага
Глянь на мяне, маладога!
Глянь на мяне, што я прашу,
І дай мне жонку харашу.

Штоб была добра гаспадыня
І харошая дружына,
І каб хаты пільнавала,
І другога не кахала.

## 219. ЧАМУ, САЛАВЕЙКУ, РАНА НЕ СПЯВАЕШ

— Чаму, салавейку, рана не спяваеш,
Гей, гей, рана не спяваеш? [1]

Зачым, салавейку, голасу не маеш,
Гей, гей, голасу не маеш?

— Пацяраў голас ў вішнёвым садочку,
Гей, гей, у вішнёвым садочку,

У вішнёвым садочку, у ліповым кусточку,
Гей, гей, у ліповым кусточку.

Малінкі едучы, зімну воду п'ючы,
Гей, гей, зімну воду п'ючы.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

— Чаму ты, малойчыку, доленькі не маеш,
Гей, гей, доленькі не маеш?

— Пацяраў я долю праз сваю сваволю,
Гей, гей, праз сваю сваволю.

У карчме, у стадоле і ў новай каморы,
Гей, гей, і ў новай каморы.

Мёд, віно п'ючы, дзевачкам даючы,
Гей, гей, дзевачкам даючы!

## 220. ЧАГО, ІВАНЬКА, ЖУРЫШСЯ

Чаго, Іванька, журышся,
Чаго засмучаешся?
— Як жа не журыціся,
Як не засмучаціся:
Тавырышы жэняцца,
Я ж, молад, не думаю.
Хаджу каля Дунаю,
Тапіціся думаю,
Думаю тапіціся,
Некаму журыціся:
Мамачка старэнькая,
Сястрыца маленькая,
Братцы — пераспелачкі,
Ходзяць да дзевачкі.
Пойдуць з завячоркамі,
Прыйдуць з апаўночачкі.
А мая дзяўчыначка —
Бедна сіраціначка.

## 220а. ДА ЧАГО Ж, ВАНЬКА, ЖУРЫШСЯ *

— Да чаго ж, Ванька, журышся,
Да чаго ж ты пячалішся?
Люлі, люлі, люлі,
Да чаго ж ты пячалішся? [1]

[1] Апошні радок кожнай страфы паўтараецца з прыпевам «Люлі, люлі, люлі».

— Як жа мне не журыціся,
Як жа мне не пячаліцца?

Да таварышы жэняцца,
Толькі я шчэ не думаю.

Толькі я шчэ й не думаю,
З недаросткамі гуляю.

Вот сяджу каля Дунаю
Ды тапіціся думаю.

Можа стаў бы тапіціся,
Ды хто ж будзе журыціся?

## 221. НЕ ХАДЗІ, КАЗАЧА, ПА-НАД БЕРАГАМІ

Не хадзі, казача, па-над берагамі,
Не плач, не журыся з чорнымі брывамі.
Зялёны дубочку, чаго пахіліўся,
Малады казача, чаго зажурыўся?
— Як мне не хіліцца, вада корань мые,
Як мне не журыцца, калі сэрца ные?
Не хілісь, дубочку, бо шчэ зяляненькі,
Не журысь, казача, бо шчэ маладзенькі.
Чом, дуб, не зялёны, бо туча прыбіла,
Казак не вясёлы, ліхая гадзіна.
Чорны бровы маю, да не ажаніўся,
Хіба ж пайду да рэчачкі, з жалю утаплюся.
Не тапісь, казача, бо душу загубіш,
Ходзім, павенчаймось, калі верна любіш.
Толькі ж да любові, што чорныя бровы,
Толькі ж да пары, што вочанькі кары.

## 222. ТЫ, ДУБ ЗЕЛЯНЕНЬКІ *

Ты, дуб зеляненькі,
Цябе туча ўбіла.
Хлопец маладзенькі —
Доля нешчасліва.

Чорны вочкі маю.
Ды не ажанюся,
Дзяўчаты не любяць —
Пайду утаплюся.

Не тапіся, хлопча,
Бо душу загубіш,
Скажы шчыру праўду,
Каго верна любіш?

## 223. ЧАГО ТЫ ХОДЗІШ

— Чаго ты ходзіш,
Чаго ты блудзіш,
Чаму не скажаш,
Каго ты любіш?

— Ой, знаю, знаю,
З кім я люблюся.
Толькі не знаю,
З кім ажанюся.

Ой, знаю, знаю,
Каго кахаю,
Толькі не знаю,
З кім жыці маю.

## 224. ОЙ, БОЖА МОЙ, БОЖА *

Ой, божа мой, божа,
Дзяўчыну люблю,
Сам я добра знаю,
Яе не вазьму.[1]

Думаў ажаніцца,
Думаў яе браць,
Не зваляе маці,—
Мушу пакідаць.

[1] Апошні радок кожнай страфы паўтараецца.

Ой, дай божа, божа,
Вечара даждаць:
Пайду да дзяўчыны
У астатні раз.

Не дайходжу хаты,
На двары стаіць,
Казаў «добры вечар»,
А яна маўчыць.

— Ой ты, хлопец, хлопец,
Ты цяпер не мой:
На тваё калечка,
Хустку дай маю.

Пакаціліся слёзы
З маіх чорных глаз...
— Хадзі, пацалую
Хоць апошні раз!..

У маленькай хатцы
Аганёк гарыць,
Малада дзяўчына
Смутная сядзіць.

## 225. А КАМУ ВЕЧАР, А МНЕ ВЕЧАРЫНКА *

А каму вечар, а мне вечарынка,[1]
Каму дзеці, а мая кручынка.
Прывяжу я каня ка тычыне,
А сам пайду [я к сваёй дзяўчыне].
Ты здарова, мая чарнабрыўка!
Чарнабрыўка вячэру гатовіць,
Павячэраўшы, пасцелюшку сцеле,
Паслаўшы, спатанькі лажыцца.
Трудна, маці, у пярынах ляжаці.
Трудней малайцу пад вакном стаяці
Мяцель глазкі, глазкі замятае,
Буйны вятры кудры раздзімаюць,
Белы ножкі ліпнуць кі дарожкі.

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 226. У ПОЛІ БЯРОЗА *

У полі бяроза
Кудрава стаяла.
Хто йдзе — не мінае,
Бярозу ламае.
Гора таму жыцi,
Хто пары не мае.

Гора таму жыці,
Хто пары не мае.
Дадому прыходзіць —
Адзін спаць лягае.
Да сцяны вачыма,
На хату плячыма.

Да сцяны гаворыць,
А яна не чуе:
— Хто ж мяне прытуліць,
Вячэру згатуе,
Румяныя губкі
Хоць раз пацалуе?

Адазвалась Галя
У сенях за дзвярыма:
— Цябе прытулю я,
Вячэру згатую,
Румяныя губкі
Сто раз пацалую.

## 227. У ЧЫСТЫМ ПОЛІ КАРЧОМКА СТАЯЛА

У чыстым полі карчомка стаяла,
А ў той карчомцы дзяўчыначка гуляла.
Прапіў казак і коніка на мяду,
Трахтуючы дзяўчыначку маладу.
— Не ўмела ты, дзяўчыначка, мёду піць,
Да ўмей жа ты, дзяўчыначка, са мной жыць.

## 228. ЦЯКЛА РЭЧКА З-ПАД МЯСТЭЧКА

Цякла рэчка з-пад мястэчка,
З вішнёвага саду.
Кліча хлопец дзяўчыначку
К сабе на параду.

— Парадзь, парадзь, дзяўчыначка,
Як родная маці,
Ці мне цяпер жаніціся,
Ці восені ждаці?

— А я табе, бел малойчык,
Раю і не раю,
З табой стаю, размаўляю,
Пра другога дбаю.

— А каб жа ты, дзяўчыначка,
Тады замуж пайшла,
Як у млыне на камені
Пшанічанька ўзышла.

— А каб жа ты, мой малойчык,
Тады ажаніўся,
Як у полі пры дарозе
Сухі дуб развіўся.

## 229. ЯК ПАЙДУ Я КАЛЯ МЛЫНА

Як пайду я каля млына,
Ці не злаўлю ліна.
Не з кім сесці, не з кім з'есці —
Ліхая гадзіна.[1]

Як пайду я каля рэчкі,
Ці не злаўлю шчучкі.
Дзяржыць парынь дзяўчыначку
За белыя ручкі.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

— Парай, парай, дзяўчыначка,
Як родная маці,
Ці мне цяпер жаніцеся,
Ці восені ждаці.

— А я табе, мой міленькі,
Раю і не раю.
Я з табою вечар стаю,
Да другога маю.

— А бадай ты, дзяўчыначка,
Тады замуж вышла,
Як у млыне на камені
Пшанічанька ўзышла.

А бадай ты, мой міленькі,
Тады ажаніўся,
Як у лесе на верасе
Сухі дуб развіўся.

## 230. ОЙ ТЫ, ГРУШКА МАЯ

— Ой ты, грушка мая,
Ты кудравая,
Дзе ты, грушка, расла,
Маладжавая?

— А я, грушка, расла
Пры крутым беражку,
Пры крутым беражку,
Пры зялёным лужку.

Не стучыць, не гручыць,
Ўсё раздольнічак,
А наверна дружок,
Палюбоўнічак.

Запаліла свячу
З воску ярнага,
Дажыдала дружка
З карчмы п'янага.

— Я прышоў да цябе
Распрасіціся,
Ці пазволь ты мне
Ажаніціся.

— Ой, жаніся сабе,
Памагай табе бог,
Не бяры ж удавы,
Не сушы галавы.

А бяры сабе
Палюбоўніцу,
Палюбоўніцу,
Сабе роўніцу.

## 231. ДА ЗАЦВІЦЕЛА Ў ГАРОДЗЕ МАКОЎКА

Да зацвіцела ў гародзе макоўка,
Да баліць, баліць мне, малойчыку, галоўка.
А вяліць, вяліць да мне мамачка жаніцца,
А вяліць, вяліць да нялюбую жану брацї.
З нялюбай жаной мне вячэрачка не смачна,
З нялюбай жаной мне пасцелечка не мякка,
З нялюбай жаной мне размовачка не ціха.
А вяліць, вяліць мне татачка жаніцца,
А вяліць, вяліць мне любую жану браць.
А з любай жаной вячэрачка смачна,
А з любай жаной пасцелечка мякка,
А з любай жаной размовачка ціха.

## 232. ПА САДОЧКУ ХАДЖУ

— Па садочку хаджу,
Барвіночку саджу.
Чаму я ў цябе, матуля,
Нежанаты хаджу.

— Ажаніся, сынку,
Вазьмі сабе жонку,
Вазьмі сабе жонку
Удовіну дочку.

— Удовіна дочка —
То не мая роўня,
Ходзіць па садочку,
Як бы каралёўна.

Ані з ёю стаці,
Ані пагадаці,
Толькі шапку зняці
Дай «дзень добры» даці.

Ой, дзень добры, добры,
Добры табе, маці,
Бо я хачу замуж
Тваю дочку ўзяці.

— Шкада цябе, сынку,
Шкада твайго слова,
Дочка — спавалочка,
Не начуе дома.

— Байкі, маці, байкі —
Будзе начаваці,
Дубова галінка
Будзе прыпыняці...

## 233. А У КІЕВЕ ДА АГОНЬ ГАРЫЦЬ

А ў Кіеве да агонь гарыць,
А ў Тураве дымна,
От там да майго міленькага
Будыначкі відна.

Цераз тыя будыначкі
Арол воду носіць,
А там матка сыночка
На вячэру просіць.

— Вячэрай жа, мая матка,
Калі наварыла,
А я пайду да дзяўчыны —
Мне дзяўчына міла.

## 234. ДЗЕ ТЫ, ХМЕЛЮ, ЗІМАВАЎ *

Дзе ты, хмелю, зімаваў,
Што не развіваўся,
Дзе ты, сынку, начаваў,
Што не разуваўся? [1]

Зімаваў я ў саду
Пад белай бярозай,
Начаваў я ў таку
Пад луговым возам.

Маці, сына не пытай,
Што не разуваўся,
Ён дзяўчыну к сабе ждаў,
Але ашукаўся.

## 234а. ДЗЕ ТЫ, ХМЕЛЮ, ЗІМАВАЎ

— Дзе ты, хмелю, зімаваў,
Што не развіваўся.
Дзе ты, сынку, начаваў,
Што не разуваўся.

— Ой, я, хмелю, зімаваў,
Ў лесе на тычыне,
А я, матка, начаваў
Пры краснай дзяўчыне.

— Дзе ты, сынку, валочышся,
Дзе ты, сынку, ходзіш,
Скардзіліся малодачкі,
Што ты шкоду робіш.

— Я буду хадзіці,
Шкоданьку рабіці,
Трэба было мяне, матка,
Сямі лет жаніці.

— Ці я ж табе не казала,
Ці не гаварыла,
Трэба было жаніціся,
Як толькі ўрадзіла.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

## 234б. ОЙ ТЫ, ХМЕЛЬ, МОЙ ХМЯЛЕК *

— Ой ты, хмель, мой хмялёк,
Дзе ты зімаваў?
— Зімаваў, зімаваў
Ў лесе ля тычыны.[1]

— Ой ты, сын, мой сынок,
Дзе ты вандраваў?
— Я шукаў, выглядаў
Добрае дзяўчыны.

Сядзіць голуб на страсе,
А галубка ў клеці,—
З адной дзеўчынай гуляю,
Друга на прымеці.

— Ажаніся, не ляніся —
Будзеш панаваці:
З адной будзеш свінні пасці,
З другой заганяці.

— Ой ты, сын, мой сынок,
Час за розум брацца:
Каб за тыя пераборы
Ў дурнях не астацца.

## 234в. ДЗЕ ТЫ, ХМЕЛЮ, ЗІМАВАЎ

Дзе ты, хмелю, зімаваў,
Чом не развіваўся?
Дзе ты, сынку, начаваў,
Чом не разуваўся?
— Кепска, кепска, сыну робіш,
Што па ночы ходзіш,
Жаліліся маладзіцы,
Што ты шкоду робіш.
— Як я хадзіў, міла маці,
Так буду хадзіці,

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Было мяне, матуленька,
Сем лет ажаніці.
—Штоб я тое, мой сыночак,
Штоб я тое знала,
То б я цябе ажаніла,
Калі спавівала.
— Ой, ішоў я з вечарніцы
Да ў цёмную ночку,
Ой, сустракаў тры паненкі
Ідучы ў улочку.
Адна дзеўка Кацярына,
Другая Марыся,
А трэцця мая міла,—
З ёю мне там стаці,
Ані размаўляці,
Узяўшы шапку ў ручаньку,
Добры вечар даці.
Ой, то відна дочка,
Да чы ж мая роўня,
Ой, як выйдзе на улачку,
Уласна каралёўна.

## 235. ТУГА МАЯ, ТУГА *

Туга мая, туга
Без вернага друга.[1]

Паламаў паліцы
Ад сахі, ад плуга.

— Ці мне стаці, маці,
Паліцы цасаці?

Ці мне да дзяўчыны
На ўсю ноч махаці?

Ой, кіну я, кіну
Трасціну аб сцену,

А сам да дзяўчыны
На ўсю ночку дзвіну.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

## 236. ПАСЕЮ Я ЖЫТА, НЯМА КАМУ ЖАЦІ *

Пасею я жыта, няма каму жаці,
Прыйдзе цёмна ночка, не з кім размаўляці.[1]

—Ой, маеш ты сынку рубля залатога,
Пойдзеш сабе купіш каня варанога.

— Ой, каб табе, маці, так лёгка скакаці,
Як мне, маладому, з канём размаўляці.

Конь вады нап'еццa, на саломе ляжа,
А мне, маладому, нічога не скажа.

## 236а. ОЙ, ЧАС, ПАРА, МАЦІ

— Ой, час, пара, маці,
Дзяўчыну шукаці.
Насеяў я жыта,
Няма каму жаці.

Насеяў я жыта,
Няма каму жаці,
Прыдзе цёмна ночка,
Не з кім размаўляці.

— Ой, маеш ты, сынку,
У кішэні грошы,
Выжнуць табе жыта
Дзяўчаты харошы.

Ой, маеш ты, сынку,
Каня варанога,
Завядзі на стайню,
Размаўляй да ёга.

— Ой, каб табе, маці,
Так цяжка ўміраці,
Як мне із канём
Цяжка размаўляці.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Конь з работы прыдзе,
На саломе ляжа,
А мне, маладому,
Праўданькі не скажа.

Дайце каню сена
Ды яшчэ аброку,
А мне, маладому,
Дзяўчыну да боку.

## 236б. ОЙ, МАЦІ, МАЦІ, ШТО МАЮ СКАЗАЦІ

— Ой, маці, маці, што маю сказаці,
Пасеяў я жыта, няма каму жаці.

Пасеяў я жыта, няма каму жаці,
Пасеяў пшаніцу — будзе зімаваці.

Пасеяў пшаніцу — будзе зімаваці,
Прыдзе цёмна ночка — нет з кім размаўляці.

— Дам [redacted] табе, сынку, рубля залатога,
Купі сабе, сынку, каня варанога,

Паставіш на стайню — будзе конь стаяці,
Прыдзе цёмна ночка — будзеш размаўляці.

Багдай табе, маці, так лёгка канаці,
Як мне, маладому, з канём размаўляці.

Конь вады нап'еццa — на саломку ляжа,
А мне, маладому, славечка не скажа.

— Дам я табе, сынку, рубля залатога,
Купі сабе, сынку, каня варанога.

Купі сабе, сынку, брычку залатую,
Вязі сабе, сынку, жану маладую.

## 236в. ЧАМУ, КОСЮ, ВАДЫ НЕ П'ЕШ? *

Чаму, косю, вады не п'еш,
Ці дарожку чуеш?
Чаму, Ясю, мой сыночку,
Дома не начуеш?

— А як жа мне, мая маці,
Дома начаваці,—
Пасцель бела, сцяна нема,
Не з кім размаўляці!

— Маеш, сынку Ясюленьку,
Каня варанога,
Вядзі яго да стаенькі,
Размаўляй да ёга.

— Гаварыў я да коніка,
А ён не гаворыць,—
Як успомню аб дзяўчыне,
Душа й сэрца баліць.

— Трэба, сынку, аб дзяўчыне
Табе забываці,—
Толькі помні, мой сыночку,
Што я твая маці.

## 237. ЖАНІ МЯНЕ, МАТКА, ЖАНІ МЯНЕ, КВЕТКА

— Жані мяне, матка, жані мяне, кветка,
Бо як не ажэніш, я сам ажанюся,
Пайду да рэчанькі, з гора ўтаплюся.

— Не тапіся, сынку, бо душу загубіш,
Выбірай дзяўчыну, каторую любіш.

— Ой, як жа мне, матка, дзеўкі не любіці,
Калі я не маю з кім пагаварыці?

— Да каня, сынку, да каня, Ясеньку,
— Ох, я да каня, а конь мне гаворыць,
Ён мае сэрданька, як ножыкам кроіць:

15. Зак. 15

— Ты пойдзеш да дзеўкі, да дзеўкі ў залёты,
А мяне паставіш ў крапіве пры плоці.

Ты пойдзеш да дзеўкі мёд, віно піці,
А мяне паставіш сыру зямлю біці.

Ты пойдзеш да дзеўкі на ціху размову,
А мяне паставіш ў пустую абору,

Ты пойдзеш да дзеўкі, да дзеўкі ў пярыну,
А мяне паставіш ў халодну адрыну.

## 238. СПРАЎ ЖА МНЕ, МАЦІ

Спраў жа мне, маці,
Каня варанога,
Жані мяне, маці,
Сына маладога.

— Пачакай жа, сынку,
Да каляд вяселля.
— Ах, мая маці,
Не магу я ждаці.

— Ах, мая маці,
Не магу я ждаці,
Прыдзе цёмна ночка
Не з кім пагуляці.

Я да каня слоўца,
Да каня другое,
А да мяне кося
Ні слова не мове.

А да мяне кося
Ні слова не мове,
Ні слова не мове,
Дарожачку строе.

Ах, косю, мой косю,
А што ж табе цяжка,
Ці то мае сукні,
Ці то мае грошы.

Ці то мае сукні,
Ці то мае грошы,
Ці то мае грошы,
Ці я сам харошы?

## 239. ОЙ, ЗНАЦІ, ЗНАЦІ

Ой, знаці, знаці
Хто нежанаты:
Белае лічанька,
Як у паняты.

Ой, знаці, знаці,
Хто ажаніўся:
Скорчыўся, зморшчыўся,
Ўсім зажурыўся.

Ой, знаці, знаці,
Хто каго любіць,
Далёка садзіцца,
К сабе галубіць.

Ой, знаці, знаці,
Хто з каго кпіцца.
Блізка садзіцца,
Скоса дзівіцца.

Ой, знаці, знаці,
Хто любіць руску,
Вытаптаў сцежачку
Цераз пятрушку.

Ой, знаці, знаці,
Хто любіць польку,
Вытаптаў сцежачку
Цераз фасольку.

Ой, гора, гора
Таму нежанатаму,
Як таму гаршчэчку
Шчарбатаму.

Кіпіць, кіпіць,
Ды ўсё збягае,
Куды павернецца,
Шчасця не мае.

## 240. МАРУСЯ, МАРУСЯ

Маруся, Маруся,
Гіну за табою,
Не адзін я вечар
Прасядзеў з табою.[1]

Не адзін я вечар,
Не адну нядзелю.
На цябе, Маруся,
Маю ўсю надзею.

Маю ўсю надзею
І думаю брацi,
Толькі ці пазволіць
Мая родна маці?

Матку перапросім,
Сястру пераможам.
Прывязу Марусю,
Як чырвону рожу.

Прывязу Марусю,
Пасаджу ў куточку:
— Глядзі яе, мамка,
Як родную дочку.

— Ў пісьмах не пісана,
Ў кнігах не чытана,
Каб дзіця чужое
Было, як раднoе.

Дам табе, Маруся,
Каня варанога:
Адвяжысь, Маруся,
Ад сына раднога.

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

— Я коніка прадам,
Вазьму добры грошы,
Не адвяжусь ад сына,
Бо твой сын харошы.

Ён хлопец харошы,
А я дзеўка пышна,
Ён за мною ходзіць,
Каб за яго вышла.

## 241. ЛЯЦЕЎ СЕЛЕЗЕНЬ ЦЕРАЗ НОВЫ ДВОР

Ляцеў селезень цераз новы двор,
Чаму ты, селезень, смуцён, невясёл?

Як мне, селезню, вясёламу быць,
Любіў дзяўчыну, ды вяляць забыць.

Любіў дзяўчыну паўтара рока,
Пакуль не ўзналі суседзі збоку.

А як узналі — маці сказалі,
Мяне, малойца, пазневажалі.

А ў маёй матулі ліха натура,
Не дала селезню ні піці, ні есці.

— Кідай, селезень, дзяўчыну любіці,
Ідзі, селезень, у войска служыці.

Я ў войска пайду — ваяваць буду,
Цябе, дзяўчына, вавек не забуду.

## 242. ОЙ, ЗА ГАЕМ, ЗА ДУНАЕМ *

Ой, за гаем, за Дунаем,
Там дзяўчына лён збіра(а)ла. [1]

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Там дзяўчына лён збірала,
К сырой зямлі прыпада(а)ла.

Роля мая сырэнькая,
Якая ж ты міленька(а)я.

Узяла бацьку і матулю,—
Вазьмі мяне, маладу(у)ю.

Вазьмі мяне, маладую,
Як вішаньку садаву(у)ю.

А вішанька ў саду цвіце,
А мой мілы з вайны е(э)дзе.

— Ціха, міла, не журыся,—
Яшчэ я не ажані(ы)ўся.

Як назад я варачуся,
То з табою ажаню(у)ся.

## 243. ПА-ЗА ЛУГАМ ЗЕЛЯНЕНЬКІМ

Па-за лугам зеляненькім [1]
Брала ўдоўка лён драбненькі.
Яна брала, выбірала,
Тонкі голас падавала.
А Васіль там сена косіць,
Тонкі голас пераносіць.
Кінуў косу ён да долу,
А сам пайшоў ён дадому.
Выйшла маці яго з хаты,
Стала ў Васіля пытаці:
— Чом, Васіль, зноў не вяселы,
Буйну голаву павесіў?
Чом не п'еш ты, не гуляеш,
Калі чорны бровы маеш?

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 243а. ОЙ, ЗА ГАЕМ ЗЕЛЯНЕНЬКІМ

Ой, за гаем зеляненькім
Рвала ўдова лён драбненькі,

Яна рвала, выбірала,
Тонкі голас падавала.

Там Васілька сена косіць,
Тонкі голас пераносіць.

Кінуў косу на траваньку,
А сам пайшоў дадоманьку.

І сеў сабе на лаваньку,
Схіліў голаў на століньку.

Выйшла маці воду браці,
Стала Васіля пытаці:

— Чаго, Васіль, ты думаеш?
Чаму не п'еш, не гуляеш?

— Пазволь, маці, удову браці,
Тагда буду піць, гуляці.

— Не пазволю ўдову браці,
Удова ўмее чараваці.

Счаравала мужа свайго,
Зачаруе й сына майго.

— Ой, я чараў не баюся,
А на ўдове ажанюся.

## 244. П'Е П'ЯНІЦА, П'Е

П'е п'яніца, п'е,
У яго грошы е.
Ой, за ім, за ім
Яго стара маці
Дробны слёзы лье.

— Ой, сыночак мой,
Дзяціна мая.
Ой, пакінь, пакінь
Гарэлачку піці,
Бо прап'еш каня.

— Ой, маці мая,
Не пакіну я.
Ой, да не пакіну я
Гарэлачку піці,
Бо салодкая.

— Ой, сыночак мой,
Дзяціна мая.
Ой, пакінь, пакінь,
Удовачку любіці,—
Не пара твая.

— Ой, маці мая,
Не пакіну я.
Ой, да не пакіну я
Удовачку любіці,
Бо красівая.

— Ой, сыночак мой,
Дзяціна мая.
Ой, пакінь, пакінь
Гасцінцы насіці,
Бо грошай няма.

— Ой, маці мая,
Не пакіну я.
Ой, да не пакіну я
Гасцінцы насіці,
Бо лаўка свая.

— Ой, сыночак мой,
Дзяціна мая,
Пакінь да пакінь
Дзяўчыну любіці,
Бо звядзе з ума.

Ой, маці мая,
Не пакіну я.
Ой, да не пакіну
Дзяўчыну любіці,
Не звядзе з ума.

Ой, маці мая,
Не пакіну я,
Ой, да не пакіну,
Дзяўчыну любіці,
Бо й любоў мая.

# ЖУРБА ХЛОПЦА

## 245. ОЙ ТЫ, ЦЕМНАЯ ВЕЧАРЫНАНЬКА *

Ой ты, цёмная вечарынанька,
Не відна хадзіці,[1]
Ой, не відна хадзіці.

Ой, харошую ды дзяўчынаньку
Не вяляць любіці,
Ой, не вяляць любіці.

Ой, як я выйду ды на вуланьку,
У дуданьку йграюць,
Ой, у дуданьку йграюць.

Ой, няхай мае ды дзяўчынанькі
Ніхто не займае,
Ой, ніхто не займае.

Ой, няхай мае ды дзяўчынанькі
Ніхто не цалуе,
Ой, ніхто не цалуе.

Ой, няхай яе бела лічанька
Ніхто не сапсуе,
Ой, ніхто не сапсуе.

Бо яе лічка так, як яблычка,
Як чырвона ружа,
Ой, як чырвона ружа.

Ой, як выйду я ды на вуланьку,
То ўсім люба-гожа,
Ой, усім люба-гожа!

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

## 246. БЫВАЙЦЕ ЗДАРОВЫ

Бывайце здаровы,
Добрыя людзі!
Прашу спамінаці,
Як мяне не будзе.

Прашу спамінаці
Добрымі славамі:
Дзе ж тая дзяўчынка
З чорнымі брывамі?

Ці яна на службе,
Ці замуж узята,
Што яе не відна
Ні ў будзень, ні ў свята?

Яна ні на службе,
Ні замуж узята,
Сядзіць яна ў хаце
І ў будзень, і ў свята.

## 247. НА ДУБОЧКУ, НА ВЯРШЭЧКУ

На дубочку, на вяршэчку,
Там пасеяў казак грэчку.

Узнялася шура-бура,
Казакову грэчку здула.

А ні грэчкі, ні мякіны,
Ні дзяўчыны чарнабрывы.

А каб жа мне тое далі,
Што учора абяцалі,—

Чатыры волы і каровы
І дзяўчыну чарнаброву.

## 248. ДЗЯЎЧЫНАЧКА, А СУХОТАЧКА МАЯ

— Дзяўчыначка, а сухотачка мая,[1]
Кажуць людзі, што не будзеш ты мая,
Кажуць людзі, што ты будзеш чужая
Чаму ж ты мне праўды не сказала,
Як ты ў мяне падарачкі брала?
— Невялікі я падарачак брала,
Да сем парак чаравічак стаптала
Ды й восьмую ў кладоўку схавала.
— Аддай, маці, ключы ад кладавой,
Кіну, брошу я падарак на вочы,
Хай ён яго хоць на носу чапляе,
Хай ён сабе да другую шукае.

## 249. СПІУСЯ КАЗАК, СПІУСЯ

Спіўся казак, спіўся,
З дарожачкі збіўся,
Коню вараному
На грыву схіліўся.

— Ляці, сівы коню,
У шырока поле:
Там мая дзяўчыначка
Пшанічаньку поле.

Пшанічаньку поле,
Куколь выбірае,
Коню вараному
На грыву кідае.

— Кідай ты, дзяўчыначка,
Куколь выбіраці,
Ідзі ты, дзяўчыначка,
Пасцель белу слаці.

— Куколь выбіраўшы,
На мяжы палажу.
Пасцель пасцяліўшы,
З табой спаць не ляжу.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 250. ДЗЯЎЧЫНА, ПА САДОЧКУ ХАДЗІЛА?

— Дзяўчына, па садочку хадзіла?
Красная, ягадкі збірала?
— Сам бачыш, што не смародзіну.

— Дзяўчына, у кабачык збіраеш?
Красная, у кабачык збіраеш?
— Сам бачыш, што не ў шапку тваю.

— Дзяўчына, знаць, маме панясеш?
Красная, знаць, маме панясеш?
— Сам бачыш, сваёй, не тваёй.

— Дзяўчына, знаць, мяне не любіш?
Красная, знаць, мяне не любіш?
— Сам бачыш, што я цябе не люблю,
Сам бачыш, што я цябе не люблю.

## 251. ДЗЯЎЧЫНА МАЯ ЗАРУЧОНАЯ*

— Дзяўчына мая заручоная,
Чаго так ходзіш засмучоная?
— Як мне хадзіці, вясёлай быці?
Каго любіла, трэба забыці.

— Дзяўчына мая, славамі блудзіш.
Сама не знаеш, каго ты любіш.
— Ой, знаю, знаю, каго кахаю,
Адно не знаю, з кім жыці маю.

## 251а. АХ ТЫ, ДЗЯЎЧЫНА ЗАРУЧАНАЯ

— Ах ты, дзяўчына заручаная,
Чаго ты ходзіш засмучаная.

— Я хаджу, хаджу засмучаная,
Што не папраўдзе заручаная

— Ах ты, дзяўчына, чаго ўздыхаеш,
Сама не знаеш, каго кахаеш.

— Я знаю, знаю, каго кахаю,
Толькі не знаю, з кім жыці маю.

— Ах ты, дзяўчына, сама ты пышна,
Чаму на вулку гуляць не выйшла?

— А я не выйду, а я не стану,
А вышлю сёстру такую саму.

— Я із сястрою ўсю ноч прастою,
Не тыя рэчы, што із табою.

Не тыя рэчы, не та размова,
Не бела лічка, не чарнаброва.

## 252. БОЖА МОЙ, БОЖА, ПА КІМ Я УДАУСЯ?

Божа мой, божа, па кім я ўдаўся?
Плаваў па моры, ды не ўмываўся.

Плаваў па моры, ды не ўмываўся,
Любіў дзевачку, ды не абвянчаўся.

— Дзевачка мая засватаная,
Чаго ты сядзіш заплаканая?

Дзевачка мая заручоная,
Чаго ты сядзіш засмучоная?

— Таго я сяджу заплаканая —
Не па любові засватаная.

Таго я сяджу засмучоная —
Не па любові заручоная.

## 253. А ДЗЕ ТАЯ КРЫНІЧАНЬКА

А дзе тая крынічанька,
Што голуб купаўся,
А дзе ж тая дзяўчынанька,
Што я заляцаўся?

Ужо тая крынічанька,
Травою зарасла,
А ўжо тая дзяўчынанька
За іншага пашла.

Ой, я тую крынічаньку,
Тыччам ператычу,
Да я сваю міленькую,
К сабе пераклічу.

[Да я сваю міленькую]
Чаўном пераплаўлю,
А я сваю міленькую
К сабе перабаўлю.

## 253а. А ДЗЕ ТАЯ КРЫНІЧАНЬКА *

А дзе тая крынічанька,
Голуб што купаўся?
А дзе тая дзяўчынанька,
З каторай кахаўся?

А ўжо тая крынічанька
Даўно замучона,
А ўжо тая дзяўчынанька
З другім заручона.

Ой, я тую крынічаньку
Тыччам ператычу,
Ды я сваю міленькую
К сабе пераклічу.

Ой, я тую крынічаньку
Чаўном пераплаўлю,
Ды я сваю міленькую
К сабе перабаўлю.

Вой, стаяла каліканька
На заходзе сонца,
А плакала дзяўчынанька
Гледзячы ў ваконца.

Зажурылі, засушылі
Мяне, маладзеньку,
Яшчэ з войскам у свет далёкі
З'ехаў і міленькі.

Не плач, не плач, дзяўчынанька,
Я к табе вярнуся.
Ўсёй душою, шчырым сэрцам
К табе прыхілюся.

Зажывём мы, запануем,
Як галубкоў двое,
І раздзелім з табой шчасце,
Долю і нядолю.

## 2536. А ДЗЕ Ж ТАЯ КРЫНІЧАНЬКА

А дзе ж тая крынічанька,
Што голуб купаўся?
А дзе ж тая дзяўчынанька,
Што з ёю кахаўся?

А ўжо тую крынічаньку
Галубкі выпілі.
А ўжо ж тую дзяўчынаньку
Малайцы ўхапілі.

А я тую крынічаньку
Тыччам ператычу,
А я ж тую дзяўчынаньку
Да се пераклічу.

А я тую крынічаньку
Плавам параплаўлю,
А я ж тую дзяўчынаньку
Да се перабаўлю.

Ой, клікаў я, ой, клікаў я,
Клікала радзіма.
Бадай цябе перакліча
Няшчасна гадзіна.

## 254. РАСЛА, РАСЛА ЧАРОМУХА *

Расла, расла чаромуха,
Тонка, высока,
Тонка, гонка, высокая,
Лістком шырока.

Няможна з той чаромушкі
Лісточка сарваць,
Няможна і дзяўчоначкі
Засватанай брацъ.

Капаў, капаў крынічаньку
Нядзелечак дзве,
Кахаў, кахаў дзяўчынаньку
Людзям — не сабе.

А ўжо ж з тое крынічанькі
Арлы воду п'юць,
А ўжо ж тую дзяўчынаньку
Да шлюбу вядуць.

Адзін вядзе за ручаньку,
Другі — за рукаў,
Трэці стаіць, слёзы роніць:
Любіў, да й не ўзяў.

## 255. КАПАЎ, КАПАЎ КРЫНІЧАНЬКУ

Капаў, капаў крынічаньку
Нядзелечак дзве.
Любіў, любіў дзяўчыначку
Людзям — не сабе.
Жаль, жаль, жаль мне будзе:
Возьмуць яе ў людзі,
Возьмуць яе ў людзі —
Мая не будзе.

А ўжо ж тая крынічанька
Замуцілася.
А ўжо ж мая дзяўчыначка
Зажурылася.

Жаль, жаль, жаль мне будзе:
Возьмуць яе ў людзі,
Возьмуць яе ў людзі —
Мая не будзе.

Да ўжо з маёй крынічанькі
Арлы ваду п'юць,
До ўжо ж маю дзяўчыначку
Да шлюбу вядуць.
Жаль, жаль, жаль мне будзе:
Возьмуць яе ў людзі,
Возьмуць яе ў людзі —
Мая не будзе.

Адзін вядзе за ручаньку,
Другі за рукаў,
Трэці ідзе галосячы:
«Любіў, ды не ўзяў».
Ой, жаль не памалу:
Любіў дзеўчыну змалу,
Любіў дзеўчыну змалу,
Любіў, ды не ўзяў!

## 255а. КАПАУ, КАПАУ КРЫНІЧАНЬКУ Я У СВАІМ САДУ

Капаў, капаў крынічаньку я ў сваім саду,
Любіў, любіў дзяўчыну я ў сваім краю.
Ох, жаль, жаль, нямалы, любіў я дзяўчыну змала.
Любіў яе нямала, любіў, ды не ўзяў!
Не жаль мне тэй сцежанькі, што я пратаптаў,
А жаль мне той дзяўчынкі, што любіў, ды не ўзяў!
Ох, жаль, жаль мне будзе, возьмуць яе людзі,
А мая не будзе!
Не жаль мне тых падарункаў, што я накупляў,
А жаль мне тых чырвоных губак, што я цалаваў!
Ох, жаль, жаль, нямалы, любіў я дзяўчыну змала,
Любіў яе нямала, любіў, ды не ўзяў!
З маёй крынічанькі арлы ваду п'юць,
А маю дарагую да шлюбу вядуць!
Ох, жаль, жаль мне будзе, возьмуць яе людзі,
А мая не будзе!

Адзін бярэць за ручаньку, другі — за рукаў,
А я стаю і шкадую, што вадзіў, ды не ўзяў!
Ах, жаль, жаль, нямалы, любіў я дзяўчыну змала,
Любіў яе нямала, любіў, ды не ўзяў!

## 255б. КАПАУ ЖА [redacted] КРЫНІЧАНЬКУ

Капаў жа я крынічаньку,
Капаў жа і дзве,
Сватаў жа я дзяўчыначку
Людзям, не сабе.

За рэчкаю да за быстраю
У цымбалікі б'юць,
Да ўжо ж маю любезную
Да шлюбу вядуць.

Як прышлі у цэркаўку
Ен кажа: мая.
Яна яму адказвае:
Ой, няпраўда твая.

Як звязаў ім поп ручанькі,
Ён кажа: мая.
Яна яму адказвае:
Уся праўда твая.

Адзін дзяржыць за ручаньку,
А другі за рукаў.
Трэці стаіць, слёзы роніць,
Што любіў ды й не ўзяў.

## 256. ВЫКАПАЮ КРЫНІЧАНЬКУ

Выкапаю крынічаньку
У вішнёвым саду:
Ці не прыйдзе мая міла
Сюды па ваду?

Прыйшла, прыйшла мая міла
Найраней за ўсіх,
Зачэрпнула вядзерачка
Найпаўней за ўсіх.

Хацеў я ёй падсабіці —
Яна не дала,
Даваў я ёй златы персцень —
Яна не брала.

Ой, напэўна дзяўчыначку
Другі спалюбіў,
Жалка, жалка маіх ножак,
Што я к ёй хадзіў.

Жалка, жалка маіх ручак,
Што я абдымаў,
Жалка, жалка маіх губкаў,
Што я цалаваў.

## 257. КАПАЎ, КАПАЎ КРЫНІЧАНЬКУ

Капаў, капаў крынічаньку
У сваім саду,
Каб хадзіла мая мілка
Са мной па ваду.

Ах, жаль, жаль мне будзець,
Возьмуць чужы людзі,
Ды мне не будзець.[1]

Навяду я павадок
Да самай крынічкі,
Каб хадзіла мая мілка
Са мной па вадзічку.

Да ўжо ж мая крынічанька
Абрываецца,
Да ўжо ж мая дзяўчынанька
Заручаецца.

---

[1] Прыпеў паўтараецца двойчы.

Да ўжо ж з маёй крынічанькі
Вады не бяруць,
Ды ўжо ж маю дзяўчынаньку
Да шлюбу вядуць.

Да ўжо ж мая крынічанька
Травой зарасла,
Да ўжо ж мая дзяўчынанька
Ужо замуж пашла.

А што гэта за крынічка,
Што я ваду піў,
А што гэта за дзяўчына,
Што люблю й любіў.

## 258. ЗАБАЛЕЛА ГАЛОВАНЬКА *

Забалела галованька,
Відна, я памру, да гэй!
Відна, я памру.[1]

Прывядзіце дзяўчыначку,
Катору люблю, да гэй!

Ой, прывялі дзяўчыначку,
Відна, не маю, да гэй!

Бадай цябе, дзяўчыначка,
Маці не знала, да гэй!

Ой, як ты мне, маладому,
Вядра не дала, да гэй!

Ой, не дала вядзерачка
Каня напаіць, да гэй!

Не капаўшы крынічанькі,
Не піці вады, да гэй!

---

[1] Апошні радок кожнай страфы паўтараецца з выклічнікам «да гэй!»

Не кахаўшы дзяўчыначкі,
Не мецi жаны, да гэй!

Выкапаў я крынiчаньку,
То й галубкi п'юць, да гэй!

Пакахаў я дзяўчыначку,
Да шлюбу вядуць, да гэй!

Не жаль жа мне таго каня,
Што я паязджаў, да гэй!

Ды жаль жа мне дзяўчыначкi,
Што верна кахаў, да гэй!

Не жаль жа мне таго воза,
Што я паламаў, да гэй!

Ды жаль жа мне дзяўчыначкi —
Любiў, да не ўзяў, да гэй!

Не жаль жа мне тых боцiкаў,
Што я патаптаў, да гэй!

Ды жаль жа мне дзяўчыначкi,
Што яе не ўзяў, да гэй!

Не жаль жа мне пярсцёначкаў,
Што я дараваў, да гэй!

Ды жаль жа мне дзяўчыначкi,
Што я цалаваў, да гэй!

## 258а. ЗАБАЛЕЛА ДЫ МАЯ ГАЛОВАНЬКА *

Забалела ды мая галованька,
Забалела галава.
Гэй! Гэй! Гэй! Забалела галава.

А што ж будзе, калi з той галованькi,
Можа, я памру, памру?
Гэй! Гэй! Гэй! Можа я памру?

Ой, пайдзіце, ка мне прывядзіце
Ды каго ж я люблю.
Гэй! Гэй! Гэй! Ды каго жа я люблю.

Прывядзіце ка мне Кацярыначку,
Ці не жыў жа буду я?
Гэй! Гэй! Гэй! Ці не жыў жа буду я.

## 258б. БАЛІЦЬ МАЯ ГАЛОВАНЬКА, ЗНАЦЬ, СКОРА ПАМРУ

Баліць мая галованька, знаць, скора памру,[1]
Вы ідзіце, прывядзіце, каго я люблю.
Вы ідзіце прывядзіце, каго я люблю,
Палажыце водле боку, ці не пажыву.
Прыкапайце крынічаньку ў зялёным саду,
Ці не прыдзе раздушанька рана па ваду.
Прышла, прышла раздушанька паранша за ўсіх,
Размахнула, пачарпнула, ўзняла панясла.
Ой, не жаль жа мне тае вады, што валы папілі,
А жаль жа мне раздушанькі, к вянцу павялі.
Не дасталась раздушанька ні брату, ні мне,
А дасталась раздушанька лакею свінне.
А жаль жа мне тых гасцінцаў, што я даравaў,
Канхветачкі, папранічкі з Масквы дастаўляў.

## 259. ОЙ, У СЛУЦКУ, У СЛУЦКУ ДЫ Й НА РЫНАЧКУ

Ой, у Слуцку, у Слуцку ды й на рыначку,
Там малойчыкі п'юць гарэлачку.
Гарэлачку п'юць, песенькі пяюць.
Адзін малойчык, смуцён, невясёл,
— Чаго, маладзец, смуцён, невясёл,
Гарэлкі не п'еш і песень не пяеш?
— Ой, як жа мне пець, вясёламу быць:
Учора з вячора паненка была,
А сёння рана заручаная.
Не такі ж бы жаль, каб на старане,

[1] Кожны радок паўтараецца.

А то ў суседа, на адным дварэ.
Па ваду ідзе — дзень добры дае,
А ваду нясе — насміхаецца,
Сэрца маё з жалю разрываецца.

## 260. ЖУРБА МАЯ, ЖУРБА

Журба мая, журба,
Ты мяне журыла:
Ты мяне журыла
І з розуму збіла.

Я слаўны хлапчына,
Журбы не баюся,
Пайду да карчомкі,
Водачкі нап'юся.

Вып'ю я румачку,
Вып'ю я другую,
Ці не прызабуду
Журбу праклятую.

Што то за такое,
Водачка не п'ецца,
Каля майго сэрца
Усё журба ўецца.

Лугі мае, лугі,
Лугі, сенажаці.
Люблю я дзеўчыну,
Ды не магу ўзяці.

Лугі мае, лугі,
Лугі пакашоны.
Ужо мая дзеўчына
З другім заручона.

## 261. СПОМНІ, УЗДУМАЙ, ЗАБАУНІЦА

Спомні, ўздумай, забаўніца,
Спомні аба мне,
Спомні, ўздумай, забаўніца
У чужой старане.

Я па табе, забаўніца,
Дзень і ноч не сплю,
За нудою-цемнатою
Хадзіць не магу.

Расце трава шаўковая
На маём акне,
Сарву траву шаўковую,
Кіну на свой след.

Сарву траву шаўковую,
Кіну на свой след.
Азірнуся назад сябе —
Забаўніцы нет.

За рэчкаю, за быстраю
Цымбалікі б'юць,
Да ўжо ж маю забаўніцу
Пад ручкі вядуць.

Адзін вядзе за ручаньку,
Другі за рукаў,
Трэці стаіць — сэрца баліць:
Любіў да не ўзяў.

Махні, махні, забаўніца,
Хоць разок платком,
Маргні, маргні, забаўніца,
Хоць разок глазком.

Застаецца забаўніца
Ні брату, ні мне,
Застаецца забаўніца
Самай благаце.

## 262. ЗА РЭЧКАЮ, ЗА БЫСТРАЮ

За рэчкаю, за быстраю,
Цымбалікі б'юць,
Там жа маю забаўніцу
Пад ручкі вядуць.

Адзін вядзець пад ручачкі,
А другому жаль.
Трэці ідзець, слёзкі ліець —
Любіў ды не ўзяў.

— Карміў, паіў забаўніцу,
Ручыў да сябе.
Засталася забаўніца
Другому, не мне.

Я і дзень не спаў,
Я і ноч не спаў:
Усё па ёй тужыў,
Плакаў, гараваў.

Шахні-махні, міленькая,
Шоўкавым платком.
Любіць будзем, не забудзем,
Пакуль не памром.

## 263. ПРЫЕХАЎ МОЙ МІЛЕНЬКІ З ПОЛЯ

Прыехаў мой міленькі з поля
Да паставіў каня на парозе,
Сам заплакаў, край коніка стаўшы:
— Баліць мая галовачка ў тузе,
Сядні засватана дзяўчыначка ў людзі.

Дай, божа, вечара дождаці,
Пашлю людзей дзяўчыны сватаці,
А сам пайду пад акошка слухаці,
Што будзе дзяўчына казаці.

А дзяўчына па гораньцы ходзіць,
Сваёй мамцы славесна гавора:
— Парай жа мне, маці, як людзям казаці:
Ці мне іх з хаты выпраўляці,
Ці мне ім рушнічкі даваці.

## 264. ТАМ КАЛЯ МЛЫНА *

Там каля млына
Цвіла каліна.
Дзе ж тая дзяўчына,
Што мяне любіла? [1]

Не так любіла,
Як жалавала,
Купіла коніка,
Падаравала.

А той конічак,
Быстрыя ногі,
Вёз мяне да мілай,
Зблудзіў з дарогі.

Ані сцяжынкі,
Ані дарожкі.
Паедзем, коніку,
Аж да варожкі.

— З кім мая міла
Ручанькі звяжа,
З кім мая мілая
Спатанькі ляжа?

— Ой, ляжа, ляжа
Сама з сабою,
Белыя ручанькі
Пад галавою.

## 265. ПАЕХАЎ МІЛЫ ПА ЖУРАВІНЫ

Паехаў мілы па журавіны,
Згубіў коніка, ой, божа мой мілы!

Ой, ні сцежкі, ні дарожачкі,
Паехаў мілы да варожачкі.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Варожачка тая ды праўды не кажа,
З кім дзеўчыночка спаценькі ляжа.

Ой, ляжа, ляжа сама з сабою,
Белыя ручанькі пад галавою.

Там, у каморы, пад дзверачкамі,
Стаіць пасцелька з падушачкамі.

На той пасцельцы малойчык думае,
У правай ручаньцы скрыпку трымае.

Скрыпачка грае і прымаўляе:
— Дзе мая люба з другім гуляе.

## 266. УЧОРА НЕ БЫЎ

Учора не быў
І сёння не быў,
Відаць мой міленькі
Мяне пазабыў.

— Яшчэ не забыў,
Хіба забуду:
Сяду і паеду —
Сем год не буду.

Да едзь сабе, едзь,
Такой там бяды.
Прыласкаю хлопца
З чужой стараны.

Пасаджу яго
На канцы стала,
Буду паглядаці
Як на сакала.

— Сакол, мой сакол,
Чым ты невясёл?
Напэўна, саколік,
Саколку ты меў?

— Я саколку меў,
І замуж пайшла.
Ды каб жа далёка —
Ў суседа майго.

Вадзіцы ідзе —
«Добры дзень» дае
Яна майму сэрцу
Жалю паддае.

Вадзіцы ідзе —
Усміхаецца,
А маё сэрцайка
Разрываецца.

Пайду я, пайду —
Стрэльбачку вазьму.
Няхай жа не будзе
Ні мне, ні яму.

### 267. ОЙ, У ПОЛІ ДУБ, ДУБ *

Ой, у полі дуб, дуб,
А пад дубам ёлка,
Там дзяўчына жыта, жыта жала —
Сама чарнаброўка.[1]

Ехаў казак ад Дунаю,
«Памагай бог»,— дае;
Дзеўка стала, стала адказала,
Сэрданькам назвала.

Там за гаем, за Дунаем
Дзевер воду носіць,
Ой, там маці, маці свайго сына
Вячэраці просіць.

— Ой, вячэрай, мая маці,
Калі наварыла,
А я сяду, сяду і паеду,
Дзе дзяўчына міла.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Ой, я еду, еду,
На горцы прыстану,
Ой, там маю, маю дзяўчыноньку
Хлопцы абнімаюць.

Абнімайце, абнімайце,
Адно не цалуйце,
Толькі маёй, маёй дзяўчыноньцы
Лічка не сапсуйце.

## 268. ЗАШЧАБЯТАЎ СІЗЕНЬКІ ГАЛУБЧЫК *

Зашчабятаў сізенькі галубчык
У зялёнай ляшчыне;
Закахаўся малады хлапчына
Прыгожай дзяўчынай.

Ён у дарожку выязджае,
Ой, да сэрца яго вяне,
Ой, прад ім голуб, ой, прад ім сізы
Высока лятае.

— Ой, скажы, голуб, ой, скажы, сізы,
Ды што мне чуваці.
— Ой, пачуеш ты навіначку
Смутну, невясёлу.

Ой, пачуеш ды ты навіначку
Смутну, невясёлу,—
Ой, ды ўжо твая ды дзяўчыначка
Да шлюбу гатова.

## 269. ТЫ, ЧЫРВОНАЯ КАЛІНА

— Ты, чырвоная каліна,
Ах, і што цябе зламіла?
— Зламілі мяне буйныя ветры
Са лютымі маразамі.[1]

— Ой ты, беленькі малойчык,
Ах, і што цябе ссушыла?
— Ссушыла мяне дзяўчына тая,
Што із чорнымі брывамі.

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Стаю я пад канвою (пад вярбою),
Хаджу (сачу) я за табою.
Выйдзі, дзяўчына, выйдзі, рыбчына,
Пагаворым мы з табою.

— Ах, і рада б выхадзіці
Ды з табою гаварыці:
Ляжыць нялюбы на правай ручцы,
Я ж баюся разбудзіці.

— Дзяўчыначка мая люба,
Адкаціся ад нялюба,—
Буду страляці, буду лучаці
З-за зялёнага дуба.

Буду, буду я лучаці
З-за зялёнага дуба:
Заб'ю нялюба з тугога лука,
Як сізога галуба.

— А ці ўлучыш, ці не ўлучыш,
Ужо з нялюбым не разлучыш.
Сядлай жа каня, з'язджай са двара,
Ты не мой, а я не твая.

## 269а. ТЫ, ЧЫРВОНАЯ КАЛІНА *

— Ты, чырвоная каліна,
Ах, і што цябе зламіла?
— Зламілі мяне
Буйныя ветры
Са лютымі маразамі.
— Ах, і беленькі малойчык,
Ах, і што цябе ссушыла?
— Ссушыла мяне
Тая дзяўчына,
Што з чорнымі брывамі.

Хаджу я за табою,
Стаю я пад канвою:
— Выйдзі, дзяўчына,
Выйдзі, рыбчына,
Пагаворым мы з табою.
— Ах, і рада б я выйці,
Ды з табою гаварыці:
Ляжыць нялюбы
На правай руцэ,
Не магу ж я адкаціцца.
— Дзяўчыначка мая люба,
Адкаціся ад нялюба,
Буду страляці,
Буду лучаці
З-за зялёнага дуба.
Заб'ю нялюба
З тугога лука,
Як сізага галуба.
— А ці ўлучыш, ці не ўлучыш,
Толькі з нялюбым разлучыш!
Засядлай каня,
З'язджай з двара:
Ты не мой,
Я не твая!
Мілы коніка сядлае
І з конікам размаўляе:
— Бяжы, мой косю,
Бяжы, вароны,
Ты да ціхага Дунаю.
Дунай-рэчка возміць крушу,
А ангелы — маю душу.
Ты ж мая рэчка,
Ты ж мая быстра,
Вынесь косці на сушу.

## 2696. НЯМА Ў СВЕЦЕ ТАК НІКОМУ *

Няма ў свеце так нікому,
Як казаку маладому.[1]

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Нідзе з каня не ссядае,
Лучка з плечка не здымае.

З сядла ножак не вымае,
Да дзяўчыны ад'язджае.

Як прыехаў пад варота:
— Чом не выйдзеш, дзеўча-злота?

Чом дзяўчына не выходзіш,
Чом да мяне не гаворыш?

— Ой, як жа мне выхадзіці
І з табою гаварыці?

Ляжыць нелюб на пасцелі,
Штоб мне яго не збудзіці.

— Дзяўчынанька мая люба,
Адхіліся ад нялюба.

Адхіліся ад нялюба,
Заб'ю яго, як галуба!

— Ой, ці трапіш, ці не трапіш,
Адно маё жыццё страціш.

Сядзь на каня варанога,
Выедзь із двара маёга.

Сядзь на каня, едзь з двара,
Ужо ты не мой, я не твая.

Ужо ты не мой, я не твая,
Галованька бедна мая!..

## 269в. ТЫ, ГАЛУБКА, ТЫ, СІЗАЯ

Ты, галубка, ты, сізая,
Твая галава малая,
Ты скрозь свету пралятаеш,
Ты ўсё гора маё знаеш.

А што гэта за дарожка,
Што ад гаю да Дунаю?
Што направа — да радзімы,
А налева — да дзяўчыны.

Я направа запытаю,
А налева заязджаю.
Пад'язджаю пад акенца:
— Добры вечар, маё сэрца.

Ці спіш-ляжыш, ці што робіш,
Чаму са мной не гаворыш?
— Як я буду гаварыць,
Збоку нялюбы ляжыць.

[— Адкаціся ад старога,]
[Любі мяне, маладога,]
Любі мяне, маладога,
Заб'ю твайго нелюбога.

— А ці ўлучыш, ці не ўлучыш,
Толькі мяне з ім разлучыш.
А ці ўдарыш, ці не ўдарыш,
Толькі яго з свету збавіш.

# ЗАЛЯЦАННІ, СУСТРЭЧЫ

## 270. АЙ, КОСЯ, МОЙ КОСЯ

— Ай, кося, мой кося,
Кося вараненькі.
Ай, чаго ж ты, кося,
Так цяжка ўздыхаеш?

А ці табе цяжка
Раменная ўпражка?
Ці раменна ўпражка,
Ці я, маладзенькі?

— Ай, мне не цяжка
Ні раменна ўпражка,
Ні раменна ўпражка,
Ні ты, маладзенькі.

А толькі мне цяжкі
Начныя паезды.
Начныя паезды,
Дальнія палёты.

А ты ж паедзеш
К дзеўцы віно піць,
А мяне пакідаеш
Сыру землю біць.

## 271. ЧЫРВОНА РУЖА ПАД ГАРОЙ

Чырвона ружа пад гарой,
Вандруй, дзяўчына, ў свет са мной.
Раз-два, раз-два-тры,
Вандруй, дзяўчына, ў свет са мной.[1]

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Раз-два, раз-два-тры».

Правандравалі тры мілі,
Аж да чырвонай каліны.

А ў лесе цёмна, зор не відаць,
Тут будзем ночку начаваць.

А хто нас заўтра разбудзе,
Калі далёка ад людзей?

Разбудзіць песняй салавей,
Хоць і далёка ад людзей.

Ціха, салоўка, не спявай,
Майму мілому спаць ты дай.

І спіць салодка мой мілы,
Яго хусцінкай накрыла.

## 272. ОХ, КАЗАЧА, КАЗАЧЭНЬКА

— Ох, казача, казачэнька,
Дзе будзем начаваць?
— Пад цёмным лесам, зялёным гаем,
Ты, мая люба, дарага.

— Ох, казача, казачэнька,
Што мы будзем прасцілаць?
— Сцялі радзенцы ты, маё сэрца,
Мая люба, дарага.

— Ох, казача, казачэнька,
Чым мы будзем укрывацца?
— Я адзяяльцам, а ты рукаўцам,
Мая люба, дарага.

— Казача, казачэнька,
Хто нас будзе будзіць?
— Голуб загудзіць, ён нас разбудзіць,
Мая люба, дарага.

— Казача, казачэнька,
Чым мы будзем умывацца?
— Што я расою, а ты слязою,
Мая люба, дарага.

## 273. САКОЛІК МОЙ ЯСНЫ

Саколік мой ясны,
Моладзец пракрасны,
Не круці ты мною,
Як віхар гарою.[1]

Мароз даліною,
Салдат дзяўчыною!
— Матусенька мая,
А дзе дочка твая?

— Пайшла мая дочка
У чыстае поле,
У чыстае поле
Пшанічаньку жаці!

Казак да пшанічкі,
Там нету дзявічкі:
— Матусенька мая,
А дзе дочка твая?

— Пашла мая дочка,
Пашла да крынічкі,
Пашла да крынічкі
Сцюдзёнай вадзіцы!

Казак да крынічкі,
Там нету дзявічкі.
— Матусенька мая,
А дзе дочка твая?

— Пашла мая дочка
У нову камору,
У нову камору
Белу ложу слаці.

— Ты дзеўка-сіротка,
Не сцялі шырока,
Пасцялі вузенька,
Прыгарнісь блізенька.

---

[1] Апошні радок кожнай страфы паўтараецца.

Пасцялі вузенька,
Прыгарнісь блізенька,
Будзем гаварыці,
Як на свеце жыці.

## 274. У ЛЕСЕ, У ЛЕСЕ НА БОРКУ

У лесе, у лесе на борку,
Ды рубіў дзяціна каморку.

К яму дзяўчына падбягала
Ды рубіць каморку памагала.

— Ды рубі, дзяцінка, з канцом,
Будзем жыць з табою, з малайцом.

## 275. ОЙ, У САДЗЕ ВІШНІ ПАХІЛІЛІСЯ

Ой, у садзе вішні пахіліліся,
Маруся з Ясюлём палюбіліся.

Паехаў Яся па журавіны,
Пагубіў коні, божа ядыны.

Паехаў Яся на паляванне,
Пакінуў Марусю як маляванне.

— Ой, Ясю, Ясю, ў каго ты ўдаўся,
Пераплыў рэчку ды й не ўмываўся.

— Як пераплыву, то й умыюся,
З табою, Маруся, нагаваруся.

## 276. ДЗЯЎЧЫНЕНЬКА, ШУМІЦЬ ГАЙ *

— Дзяўчыненька, шуміць гай,[1]
Каго верна любіш, не забывай.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

— Няхай шуміць, хай гудзе:
Ды хто верна любіць — той сам прыйдзе.
— Дзяўчыненька, адчыні,
Хаця ж маё сэрца развесялі.
— Ой, не буду адчыняць,
Бо захочаш ночаньку начаваць.
— Ой, не буду, не буду,
Толькі ўзыдзе месячык, я пайду.
Мы сядзелі да зары,
Пакуль стала відненька на двары.
Зышоў месяц і зара,
Аставайся, мілая, здарова!

## 276а. ДЗЯЎЧЫНАЧКА, АДЧЫНІ, АДЧЫНІ

— Дзяўчыначка, адчыні, адчыні,
Сама сваё сэрцайка звесялі.

— Я ж не буду адчыняць, адчыняць,
Бо ты будзеш ночачку начаваць.

— Я ж не буду начаваць, начаваць,
Пажартую з вечара — пайду спаць.

Жартавала дзеўчына да зары,
Пакуль стала відненька на двары.

## 277. СЦЯЛІСЬ, СЦЯЛІСЬ, БАРВІНАЧАК

Сцяліcь, сцяліcь, барвіначак,
Не коранем — лістам.
Клікаў казак дзяўчыначку
Не голасам — свістам.

— Ці ты чула, дзяўчыначка,
Як я цябе клікаў,
Цераз тваё падвор'ечка
Сівым конем ехаў.

— Ой, хоць чула, хоць не чула,
Не адзывалася.
Цёмна ночка, дробны дождж ык —
Не спадзявалася.

— Бадай жа ты, дзяўчыначка,
Зязюлькі не чула,
Як ты майго галасочку
Са сну не пачула.

### 277а. ЦВІЛА РУЖА У АГАРОДЗЕ

Цвіла ружа ў агародзе
Чырвоненькім цветам.
Ехаў хлопчык да дзяўчыны
Віднюсенькім светам.

— Ці ты чула, дзяўчыначка,
Як я цябе клікаў,
Каля тваіх новых варот
Сівым канём ехаў.

— Ці я чула, ці не чула,
Не адзывалася,
Бо на цябе, мой міленькі,
Не спадзявалася.

Голуб сізы, голуб сізы
Высока лятае.
Няхай таму цяжка жыці,
Хто нас разлучае.

### 278. ЗГАРЭУ ДОЛ

Згарэў дол,
Там новы двор.
Ой, люлі, люлі,
Там новы двор.

А у тым двары,
Дзеўка хараша,
Дзеўка хараша,
Маруся-душа.

— Маруся-душа,
Адкрый варатца,
Адкрый варатца,
Ўпусці малайца.

— Не маю часу,
Косаньку чашу,
Косаньку чашу
Ды й заплятаю.

Другою рукой
Падпаясваюся,
Цябе, маладога,
Я дажыдаюся.

## 279. ХАДЗІЎ, БЛУДЗІЎ КАЗАК ПА ДАЛІНЕ

Хадзіў, блудзіў казак па даліне,[1]
Як прыблудзіў к маладой дзяўчыне:
— Дзяўчыначка, пусці начаваці.
— Я не пушчу — будзеш жартаваці.
— Мае жарты к табе не прыстануць.
Я сам, малады, ложы не пралежу,
Мае сукні крука не правесяць,
Мае коні стайні не прастояць,
Дзяўчыначка, будзі мяне рана,
Вот так рана, штобы не світала,
Штобы гусі на стаў не ляцелі,
Штобы куры на смецці не пелі.
Ужо гусі на стаў паляцелі,
Ужо куры пелі, перапелі,
— Дзяўчыначка, праз тваё каханне,
Ссякуць мяне, як бела качанне,
Дзяўчыначка, праз тваю распусту,
Ссякуць мяне, як белу капусту.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 279a. ХАДЗІЎ, БЛУКАЎ КАЗАК ПА ДАЛІНЕ

Хадзіў, блукаў казак па даліне [1]
Ды прыблудзіў к маладой дзяўчыне:
— Дзяўчыначка, пусці начаваці!
— Ой, не пушчу,— будзеш жартаваці!
— Дзяўчыначка, далі-бог, не буду!
Дзяўчыначка, будзі мяне рана,
Вось так рана, каб куры не пелі,
Куры не пелі, зоры не гарэлі,
Каб салдаты на вайну не сталі,
Ружжаў, мечаў у ручачкі не бралі!
Дзяўчыначка сільненька заснула,
Куры пелі ды ўжо перапелі,
Зоры гарэлі, ды ўжо паразрэлі,
Усе салдаты на вайну пасталі,
Ружжа, мечы ў ручачкі пабралі.
— Дзяўчыначка, што ж ты мне зрабіла,
Цяпер мяне на векі згубіла!
Схавай мяне ў вішнёвым садочку,
Выкапай мне глыбоку магілу,
Пасадзі мне ў галоўках каліну,
Прыдзе ка мне родны бацька, маці,
Будуць нада мной каліну ламаці,
Будуць мяне век успаміпаці.

## 280. СОНЦА НІЗЕНЬКА

— Сонца нізенька і вечар блізенька,
Прыязджай да мяне, казача-сардэнька.

Прыязджай да мяне і да мае хаты,
То я цябе ўпушчу да сябе ў хату.

Калі ўпускала, лічка цалавала,
Калі выпускала — слёзанькі пускала.

Прызнайся, казача, прызнайся, казача,
Калі сам сабою, то начуй са мною.

Калі сам сабою, то начуй са мною,
Калі жонку маеш, то ступай дадому.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

— Ох, я жонку маю і дзетачак двое,
Ох, да не прыстае, сардэнечка мое.

— Як тая пташачка па бару лятае,
Па бару лятае і та пару мае,

Па бару лятае і та пару мае,
А я, маладая, парачкі не маю.

Толькі ўсяе пары, што вочанькі ў твары,
Толькі ўсяе славы, што чорныя бровы.

## 281. СЕНА МАЁ, МАЁ СЕНА

— Сена маё, маё сена,
Па-пад сенам вада,
Чаго, дзеўка, плачаш, такая малада.
Чаго, дзеўка, плачаш, лічанька марнуеш,
Знаці па дзяўчыне — казака жалуеш.
— Жаль мне казака, адно яго рэчы,
Жаль па косаньках, што заслалі плечы.
Плечы ўсцілала, пояса пакрыла,
Да мне, маладзенькай, жалю нарабіла.
Сядлай, хлопча, каня, сядлай варанога,
Паедзема да двора новага.
Прыязджае да двора новага,
А дзяўчына дзверы зачыняе.
— Адчыні, дзяўчынанька, стайню,
Тут я свайго коніка пастаўлю.
— Яшчэ ж бо я стайні не рабіла,
Штоб казаковы коні станавіла.
— Ой, адчыні, дзяўчынанька, сені,
Бо ўжо мяне сабакі заелі.
— Да няхай ядзяць, хоць кусаюць,
Бо ўжо мяне іншы кахаюць.

## 282. СВЕЦІЦЬ МЕСЯЦ НА НЕБЕ ВЫСОКІМ *

Свеціць месяц на небе высокім,[1]
Ходзіць мілы па дварэ шырокім.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

— Адчыні жа, міленькая, дзверы,
Каб жа мяне сабакі не з'елі!
— Няхай табе тая адчыняе,
Што з табою ціха размаўляе.

## 283. ДА ІШОЎ КАЗАК З ГАРЫ З ВАДОЮ

Да ішоў казак з гары з вадою,
Гэй, гэй, джум, джум, з гары з вадою!

Надыбаў дзяўчыну з бандурыною,
Гэй, гэй, джум, джум, з бандурыною!

— Дзень добры, дзяўчына! Як ся ты маеш?
Гэй, гэй, джум, джум, як ся ты маеш!

Пазыч мне бандурку, што сама йграеш,
Гэй, гэй, джум, джум, што сама йграеш!

— Мая ж бандурка: не па такому!
Гэй, гэй, джум, джум, не па такому!

Усякая струнанька: па залатому!
Гэй, гэй, джум, джум, па залатому.

## 284. ОЙ, БОРАМ, БОРАМ ДЫ БАРАВІНАЮ

Ой, борам, борам ды баравінаю,
А хто там ехаў ды вечарынаю?

Ой, ехаў, ехаў Яначка п'яны:
— Адчыніся, Зося, бо я твой каханы.

— Я не адчынюся, бо мамы баюся,
А я тваёй маме да ножак скланюся.

А я тваёй маме да ножак скланюся,
А ў цябе, маладой, я нанач прашуся.

Мне ноч начаваці, касу таргаваці,
Цябе, маладую, за сябе ўзяці.

За русую касу тры тысячы кладу,
Цябе, маладую, з сабою бяру.

## 285. ОЙ, ПАЙДУ ДА Й У ДАЛЬ ДАЛІНОЮ

Ой, пайду да й у даль даліною
Да й знайду я каліну з вярбою.

Ці мне цябе, каліна, паламаці?
А ці мне яшчэ з год пагуляці?

Да й пайду ж я у сад зеляненькі —
Сустракае казачок маладзенькі.

Сустракае да й дарожкі пытае,
А я ж, малада, да й дарожкі не знаю.

Да й даў казак каня падзяржаці,
А сам пайшоў дарожкі шукаці.

Да й стаіць конік без аброку,
Да й заржаў у мяне ля боку.

Конік укусіць, то за год загаюся,
А казак здрадзіць — навек не ўтаюся.

## 286. ОЙ, ШТО ПА ТОЙ КАЛІНОНЬЦЫ *

Ой, што па той каліноньцы,
Што па ёй ветрык вее,
Ой, што па той дзяўчыноньцы,
Што на чужой краіне.

Ляцеў голуб каля хаты,
Ён сівы, валахаты,
Як загудзе галасненька,—
Майму сэрцу трудненька.

Ой, нап'юся я вадзіцы
Ды з новага калодца,
Не стой, не стой блізка мяне
І не крой майго сэрца.

Бо ты стаіш блізка мяне
І з другою гаворыш,
Сэрца маё маладое
Без нажа ты мне кроіш.

Ой, зраблю я пробу з воску
І пушчу я на воду:
Ці харошых айца-маткі,
Ці харошага роду.

## 287. ЖАЛКА, ЖАЛКА ВЕЧАРОЧКА

Жалка, жалка вечарочка,
Што я была дома,
Пацярала галасочак,
Як сіняе мора.

Галасочак на лясочак,
Як хмарачкі розна.
Сварылася родна маці,
Што я хаджу позна.

Ой, я хаджу, пахаджаю,
Я свой розум маю:
Каля ціхага Дунаю
Каня напаваю.

Конь вараны не п'е вады,
Ён дарожку чуе.
Ой, бог знае, бог ведае,
Дзе мой мілы начуе.

Начуе мой мілы
У лузе пры даліне,
Прывязаўшы каняchаньку
К чырвонай каліне.

## 288. ЗАКУВАЛА ЗЯЗЮЛЬКА *

Закувала зязюлька
У вішнёвым садочку,
Ой, баліць, баліць маё сэрданька
Па маім галубочку.[1]

Ой, зязюлька кукуе,
Салавей тое чуе,
А я не знаю ды не ведаю,
Дзе мой мілы начуе.

Калі дзе пры дарозе,
Прынясі яго, божа,
Калі ў дзеванькі у святлічаньцы,
Пакарай яго, божа.

Пакарай яго, божа,
Хоць маёю бядою,
Бо я да яго з шчырым сэрданькам,
Ён да мяне з няпраўдою.

## 288а. ЧЫРВОНА КАЛІНА *

Чырвона каліна
Ды із ветрам гаварыла.
Я сама знаю, мне людзі кажуць,
Што яму я не міла. [2]

Ой, у полі вазерца,
Там вісела вядзерца.
Ой, сыйдземася, пагадземася,
Маё мілае сэрца.

Салавейка шчабеча,
А зязюлька кукуе.
Ой, бог то знае, а бог ведае,
Дзе мой мілы начуе.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.
[2] Тое ж.

Калі ён у дарозе,
Прынясі яго, божа,
Калі ў дзеванькі на пасцеленьцы,
Пакарай яго, божа.

Пакарай яго, божа,
Ды вялікаю бядою,
Бо я да яго з шчырым сэрданькам,
Ён да мяне з няпраўдою.

## 289. НЕ СПАЛАСЯ МОЛАДЗЕ, НЕ ДРАМАЛАСЯ

Эй, не спалася моладзе, не драмалася.[1]
Прыснілася моладзе мілага рука,
Прачнулася молада — мілага няма.
А пайду я, молада, у сад гуляючы,
Віджу-віджу, міленькі шчыпіць вішанькі.
— Шчыпі-шчыпі, міленькі, і сабе і мне,
— Шчыплю-шчыплю, мілая, сабе, не табе.
Ёсць у мяне мілая лепша за цябе,
Як сівыя голубы гняздзечка вілі,
Тады з табой, мілая, хораша жылі,
Як сівыя голубы на зямлю палі,
Тады з табой, мілая, разлуку мелі.

## 290. ОЙ, НЕ ШУМІ ТЫ, ГАЮ *

Ой, не шумі ты, гаю,
Не задавай мне жалю.[2]

Ой, не шуміце, лугі,
Не задавайце тугі.

Я сама тугу знаю,
Што мілога не маю.

Ой, паехаў міленькі
Ды за гай зеляненькі.

Ой, за гай, за ляшчыну
Па харошу дзяўчыну.

---

[1] Кожны радок паўтараецца з воклічам «Эй».
[2] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

## 291. ПА САДОЧКУ ПАХАДЖАЮ

Па садочку пахаджаю
Ды сам сабе разважаю.

Ды сам сабе разважаю,
Што далёку мілу маю:

Ні да яе ліст пісаці,
Ні да яе каня слаці.

Ліст пісаці — людзі бачаць,
Каня слаці — месяц свеціць.

Сяяці, месяц, пасвячайся,
Ляці, конік, паспяшайся,

Каб дзевачка не заснула,
Вароцечкаў не замкнула.

Пад'язджаю пад варота,
Стаіць міла шчыра злота.

Пад'язджаю пад акенца,
Стаіць міла шчыра сэрца.

Ўзяла каня за грываньку
Дай павяла на стаеньку,

А мілога за ручаньку
Да й павяла ў святліччаньку.

Дала каню аўса есці,
А мілому крэсла сесці,

А мілому мёду-віна,
Сама села ля стала.

Сама села ля стала
І слова не падала.

А міленькі здагадаўся
І ў дзяўчыны запытаўся:

— Чаго, міла, засмутнела?
Каню аўса пажалела?

— Толькі жаль мне маладосці,
Што любіла да шчыросці.

## 292. ОЙ, ВЫЙДУ Я НА ГОРАЧКУ

Ой, выйду я на горачку,
Гляну я пад горачку,

Мілы мой з вайны ідзе,
Коніка ў руцэ вядзе.

Я ж яму рада была,
Вароцейкі адчыняла.

Коніка — за вуздзечку,
Мілага — за ручэчку.

Коніку — аўса, сена,
З міленькім сама села.

Конік мой не п'е, не есць,
Міленькі не гаворыць.

Конічак тужыць па канях,
Міленькі па дзевачках.

## 292а. Я ДУМАЛА, СОНЦА СВЕЦІЦЬ

Я думала, сонца свеціць,[1]
Аж мой мілы з вайны едзіць.

Я мілога пераймаці,
Вароцечкі адчыняці.

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Я коніка за цуглічкі,
А мілога за ручачкі.

Я коніка да стаёнкі,
А мілога да свяцёлкі.

Я коніку сена, аўса
А мілому мёду, віна.

Не есць конік сена, аўса,
Не п'ець мілы мёду, віна.

Іржэць конік па коніках,
Плачыць мілы па дзевачках.

Я мілому пярыначку,
Мілы кажыць — дзяўчыначку.

## 2926. ОЙ, ПРЫ ЯСНАЙ СВЯЧЫ

Ой, пры яснай свячы
Ехаў да мілае ў начы.
Ой ты, свяча, гары, гары,
Ты, коніку, бяжы, бяжы.
Ой ты, свяча, разгарайся,
Ты, міленька, распрашчайся.

Як прыехаў перад варота,
Стаіць міла крашай злота.
Як прыехаў перад дзверы,
Стаіць міла на паперы.

Узяла каня за грываньку
Да павяла ў стаеньку,
Узяла мяне за ручаньку
Да павяла ў святлічаньку.

Дала ж каню аўса, сена,
Дала ж бо мне мёду, віна
І вячэры наварыла,
Белу пасцеленьку слала.

Стала ж яна, задумала,
Белы рукі заламала,
Белы рукі заламала,
Чорны вочы зарумала.

Чаго ж, міла, задумала,
Белы рукі заламала,
Белы рукі заламала,
Чорны вочы зарумала?

Чы жалееш аўса, сена,
Чы жалееш мёду, віна,
Чы смачнае вячэранькі,
Чы белае пасцеленькі?

Не жалею аўса, сена,
Ані таго мёду, віна,
Ні смачнае вячэранькі,
Ні белае пасцеленькі.

Як жалею заляцання
Да няверната кахання,
Што да мяне заляцаеш,
А да іных паязджаеш,

Хоць да іных паязджаю,
Абы цябе ў сэрцы маю.

## 293. СКОРА ДАСЦЬ БОГ ВЕЧАР *

Скора дасць бог вечар
Ды павечарэе,
На маім сардэньку
Ды павесялее.

Ды ўжо скора вечар
Ды сонейка зайдзе,
Можа, мой міленькі
Ды да мяне прыдзе,

А як не да мяне,
То да мае хаты,—
Адчыню вароты,
Каб не чула маці.

Дзверы адчыняла,
Мілага ўпускала,
Мілага ўпускала,
Праўданькі пытала:

— Скажы, мілы, праўду,
Ці ты мяне любіш,
Ці ты мяне любіш,
Ці з мяне смяешся?

Ці ты мяне любіш,
Ці з мяне смяешся,—
Да другое ходзіш,—
З другою гаворыш.

Да другое ходзіш,
З другою гаворыш,
А мне, маладзенькай,
Няславаньку робіш.

— Хоць да яе хаджу,
Жаніцца не буду,
А хоць ажанюся,
Любіці не буду.

### 293а. ОЙ, КАЛІ ТОЙ МЕСЯЦ

Ой, калі той месяц
Ды з-за хмары выйдзе,
Калі маё сэрца
Ды да мяне прыйдзе.

А як не да мяне,
То да хаты мае.
Адчыню я дзверы,
Каб маці не ўчула.

А як адчыняла,
Лёгенька ступала,
А як праваджала,
Плакала, рыдала:

— Скажы, мілы, праўду,
Ці ты мяне любіш,
Ці ты мяне любіш,
Ці з мяне смяешся?

Ці ты мяне любіш,
Ці з мяне смяешся?
Да другое ходзіш,
Мне не прызнаешся.

Да другое ходзіш,
З другою гаворыш,
А да мяне прыйдзеш —
Слова не прамовіш.

Не хадзі, няверны,
Да маёй ты хаты,
Не тапчы, няверны,
Кучаравай мяты.

Не табе, няверны,
Я яе садзіла,
Не табе, няверны,
Яе палівала.

## 294. ОЙ, ТАМ, НА ГАРЭ, ТАМ, НА ВЫСОКАЙ

Ой, там, на гарэ, там, на высокай,
Ой, там сівы конь да разгуляўся,

Малады хлопец, маладзюсенькі,
На вайну, вайну, ах, прыбіраўся.

Ах, прыбіраўся, да ўсім скланяўся:
Айцове, матулі, а сваёй мілай,

А сваёй мілай, а чарнабровай,
Ох, да найніжай ён скланяўся.

— Пакідаю це, мая мілая,
Пакідаю ў цёмненькім да лесе,

Пакідаю ў цёмненькім да лесе,
Гаруй, гаруй, як ластаўка ў стрэсе.

— Цябе не знала, не гаравала,
Не гаравала, а цяпер мушу.

Высушыў мяне, маладзенькую,
Высушыў маю, ох, высушыў душу.

## 295. ОЙ, БАЛІЦЬ СЭРЦА, РАЗГАРАЕ

Ой, баліць сэрца, разгарае,
Да любіў мілы, пакідае.
Не знаю, што рабіць,
Як яго забыць.

Мілы да другой ідзе,
Сабе песеньку пяе,
Голас падае,
Маё сэрца мрэ.

А я, млода, пачула,
На ганачак вышла,
За ручку ўзяла,
У горнічку ўвяла.

Пасадзіла да на кравацї,
Стала ў яго пытаці:
— Дзе, мілы, будзеш
Вечар праважаці?

Мілы да мне не гаворыць,
Толькі ж маё сэрца кроіць,
Потым гаворыць,
Правясці вяліць.

А я, млода, з жалю млею,
Правясці яго не смею:
— Баюся цябе,
Ты здрадзіш мяне.

Ты мяне, млоду, ашукаеш,
Радню маю аплюшаеш,
Няславу зробіш
Айцу, матулі.

## 296. ТЫ, ДУБОЧАК ЗЕЛЯНЕНЬКІ *

Ты, дубочак зеляненькі,
Шырок лісток на табе.
Ты, казача маладзенькі,—
Няма праўданькі ў цябе.

Ах, ты кляўся і бажыўся:
— Не пакіну я цябе.
А цяпер ты пакідаеш,
Сабе другую бярэш.

Выйду ў поле, выйду рана,
Дый сяду я пад кустком.
Ой, гукну я, маладзенька,
Сваім тонкім галаском.

— Вы, кусточкі ракітовыя,
Прыхініцеся к зямле,
Ой вы, птушкі, вы, вясёлыя,
Заспявайце песню мне.

Заспявайце песню гэтак,
Каб далёка паплыла,
Ды каб сэрцу гаратному
Яна ўцеху прынясла.

## 297. ЗАКУКУЙ, ЗАБУРКУЙ, СІВЫ ГАЛУБОЧАК *

Закукуй, забуркуй, сівы галубочак,
Ды на жаркай каліне,—
Заплач, затужы, малады малойчык,
Па харошай дзяўчыне.

Ой, чаго ты плачаш, ой, чаго ты тужыш
Ды галоўку клапоціш?
Ты людзям кажаш, мне людзі гавораць,
Што пакінуці хочаш.

Пакідай сабе, мой хлопча маладзенькі,
Я плакаць не буду,—
Ды збудую святліцу нову,
Адна жыці буду.

Ды хіліцеся, зялёныя лозы,
Адкуль вецер вее,—
Пазірайце, ясныя вочкі,
Адкуль мілы едзе.

Ды хіліліся зялёныя лозы
І зноў перасталі,
Ды пазіралі ясныя вочкі
І зноў плакаці сталі.

Ды заплакалі ясныя вочкі,—
Слёзак не вытруся,
А едзе мой мілы ды вязе другую,—
З жалю разарвуся.

## 298. ОЙ, УЧОРА, УЧОРА ДЫ У НАС МЯЦЕЛІЦА БЫЛА

Ой, ўчора, ўчора ды ў нас мяцеліца была,
Пазавявала ўсе слядочкі і лугі,—

Пазавявала ды ўсе слядочкі і лугі,
Ой, ды замяла майго мілага друга.

Ох, з кім жа цяпера я пахажываць буду,
Ох, з кім жа цяпер разгаварываць буду?

Ох, ці з тым, ці з тым, да, што я ўчора гуляла,
Ох, ці з тым, ці з тым, што глазамі відала?

Ой, як выйду я ды на высокую гару,
Ой, стану, гляну ва ўсякую старану!

Там мой міленькі ды з канца вуліцы едзе,
І з сабою ён чужу іншую вядзе.

## 299. Я СВАЙГО МІЛЕНЬКАГА

Я свайго міленькага
Цераз Дунай відзела,
Верна слова мовіла,
Жаніцца пазволіла.

— Жанісь, жанісь, любенькі,
Жанісь, чарнабрывенькі,
Бяры сабе лепшую,
Таварышку меншую.

У маёй таварышкі
Лічка красівейшае,
Лічка красівейшае,
Кашулька танейшая.

Мой міленькі веры даў,
Мыецца, румяніцца,
Мыецца, румяніцца,
Жаніцца збіраецца.

Абярнуся малада
Шэраю зязюляю,
Я й палячу, малада,
У чыстае полечка.

Я й палячу, малада,
У чыстае полечка.
А сяду я, малада,
У арэхавым кусціку.

Будзіць мілы ехаць
З другою жаніцца.
Я ў кусціку таргнусь —
Кусцік зашатаецца.

Я ў кусціку таргнусь —
Кусцік зашатаецца,
Конічак спужаецца,
Мой міленькі зваліцца.

Мой міленькі зваліцца,
Аб зямлю ударыцца:
Ні мне, ні таварышцы —
Сырой зямлі-матушцы.

## 300. ЧАМУ, СІНЯ МОРА, ПАЦІХУ ПЛЫВЕШ*

Чаму, сіня мора, пацiху плывеш,
Мой вараны конік, чом вады не п'еш? [1]

— Мой мілы дружочак, не верна жывеш:
Каля майго саду ды другую жджэш.

Да другой ідучы, песенькі пяеш,
А мне, маладзенькай, жалю задаеш.

— Высадзі, міленька, вішнямі садочак,
Ой, каб не даходзіў мой галасочак.

— Высцелі, міленька, саломкаю двор,
Ой, каб конь не пэцкаў залатых падкоў.

Выслала мілая палову двара:
— Ой, цяпер не мой ты, а я не твая.

## 301. У КАНЦЫ СЯЛА ЛЯЖАЛА ГАРА

У канцы сяла ляжала гара,
А на той гарэ стаяў новы двор.

У тым двара жыла ўдоўка малада,
Была ў тае ўдоўкі дачка хараша.

Выводзіла яна да сівага каня,
Сівага каня да ціхага Дуная.

— Ціхі Дунаю, чаму баўны не б'еш?
Друг мой міленькі, не па праўдзе жывеш:

[Друг мой міленькі, не па праўдзе жывеш:]
Мой двор мінаеш ды да лепшых ідзеш.

— Да ўсадзі, міла, ў варотах вярбу:
Адкуль ні ісціму — я к табе зайду.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Ды высып, міла, жоўтым пяском двор —
Каб не памараў конь залатых падкоў.

Пасцялі, міла, белу мякку пасцель —
Каб не памуліў я сваіх касцей.

—Не на тое мяне маці радзіла,
Каб я ў варотах вярбу садзіла.

Не на тое мяне маці гадавала,
Каб я табе белу мякку пасцель слала.

### 301а. ОЙ, ПАСЕЮ ЯРЫЦУ-ПШАНІЦУ

Ой, пасею ярыцу-пшаніцу,
На весну авёс.
Знаю, знаю, мой міленькі,
Не дружна жывеш.

Да ходзячы да іншае,
Песенькі пяеш,
Да на маё новае падвор'е
Голас падаеш.

— Высадзь, высадзь, мая міла,
Вішанькамі двор,
Каб не павеяў вецер галасочку
На мой новы двор.

Высцель, высцель, мая міла,
Хустачкамі двор,
Каб не замачыў я
Сваіх новых ботаў,
Залатых падкоў.

Не капаўшы ў саду крынічэнькі,
Не піці вады,
Не любіўшы харошае дзеўкі,
Не меці жаны.

Выкапаўшы ў саду крынічэньку,
Халодна вада,
Палюбіўшы харошу дзяўчыну,
Мілая жана.

## 3016. РАЗВІВАЙСЯ, ЗЯЛЕНЫ СПАРЫШУ

Развівайся, зялёны спарышу,
Як ліст на водзе,
Не цешцеся, мае варожанькі,
А маёй прыгодзе.

Ды мая прыгода, ды мая прыгода,
Як ранняя раса:
Соўнейка ўзыдзе, ветрык павіне,
Ападзе ж яна ўся.

Ты ж, мой міленькі, галубчык сівенькі,
Не па праўдзе жывеш.
Міма маёй хаты, міма вароцечак
Ды да іншай ідзеш.

Да іншай ідучы, да іншай ідучы,
Песенькі пяеш,
А мне, маладзенькай, галубцы сівенькай,
Жалю задаеш.

— Ты ж мая мілая, галубка сівая,
Абсадзі садам двор,
Каб табе не зайшоў сардэчны
Галасочак мой.

— Я не садзіла, я не палівала,
Сад сам прыняўся,
Каго не любіла, каго не кахала,
Той сам праслаўся.

Каго не любіла, каго не кахала,
Той сам жа праслаўся.
Мне, гаротніцы, дзень белы
Чорнай ноччу здаўся.

Развівайся, зялёны спарышу,
Як ліст на водзе,
Не цешцеся, мае варожанькі,
А маёй прыгодзе.

## 301в. ОЙ, ДА ВЫХОДЗІЛА

Ой, да выходзіла
Дзеўка са двара,
Яна выводзіла
Варанога каня.

Ой, да сіне мора,
Зачым шыбка ідзеш?
Малады малойчык,
Зачым без праўды жывеш?

Як прыдзе вечар,
Да іншай ідзеш,
Мяне, маладзеньку,
Ды адну кідаеш.

— Пасадзі, дзяўчына,
Ды ў варотах вярбу,
Куды буду ехаць,
Да цябе зайду.

— Каб я высадзіла
Да палавіну двара,
Усё роўна я не буду
Мілая твая.

Пасцялі, дзяўчына,
Дыванамі двор,
Каб не запыліці
Мілага падкоў.

— Каб я высцілала
Палавіну двара,
Усё роўна не буду
Мілая твая.

## 301г. АХ ТЫ, МОРА, МОРА

Ах ты, мора, мора,
Чаго шыбка йдзеш?
Конік вараненькі,
Вадзіцы не п'еш.

Конік вараненькі,
Вадзіцы не п'еш,
Між травой густою
Капыцечкам б'еш.

Між травой густою
Капыцечкам б'еш,
Не па праўдзе, мілы,
Са мною жывеш.

Не па праўдзе, мілы,
Са мною жывеш,
А як прыдзе вечар
Да другой ідзеш.

А як прыдзе вечар
Да другой ідзеш,
Цераз мой жа дворык
Музыку вядзеш.

Цераз мой жа дворык
Музыку вядзеш,
А мне, маладзенькай,
Жалю задаеш.

— Перасадзі, міла,
Калінаю двор,
Каб жа не даходзіў
Галасочак мой.

Перасадзі, міла,
Палову двара,
Бо я ўжо не твой,
А ты не мая.

## 301д. ВЫХАДЗІЛА ДЗЕУЧА СА ДВАРА

Выхадзіла дзеўча са двара,
Вывадзіла варанога каня.

— Конік вараненькі, чаму вады не п'еш?
Толькі пад сабою сыру землю б'еш?

Міленькі дружочак, не па праўдзе жывеш,
Як прыдзе вечар, да другое ідзеш,

Як прыдзе вечар, да другое ідзеш,
А мне, маладзенькай, голас падаеш.

— Пасадзі, мілая, у варотах вярбу,
Адкуль буду ехаць, да цябе зайду.

— Я засадзіла б палавіну двара,
Цяпер ты не мой, а я не твая.

## 302. РЭЧАНЬКА ВУЗКАЯ, ВАДЗІЦА МУТНАЯ

Рэчанька вузкая, вадзіца мутная,
Да чаго ж ты, дзяўчыначка, сягоння смутная?
— Да як жа мне жыці, вясёлаю быці?
Каго люблю, каго люблю, не магу забыці.
Прыляцела пава, села на прывале
Вот няма, не відаць, каго я кахала.
Сівы селязенька стаў вутцы на ножку,
Вот няма, не відаць мілога на ложку
Соўнышка заходзіць, мілы не прыходзіць,
Вот я знаю, панімаю, за другою ходзіць.

# АШУКАНЫ ДАВЕР. ЗДРАДА

## 303. ЛЯЦЯЦЬ ГУСІ З БЕЛАЙ РУСІ

Ляцяць гусі з Белай Русі,
У моры вады не напіўшыся.
Ішоў казак з Украіны
Малодзенькі, не жаніўшыся.
І сам ідзе, каня вядзе,
Шабелькаю апіраецца,
За ім дзеўча, за ім сэрца,
Слёзанькамі абліваецца.
— Не плач, дзеўча, не плач, сэрца,
Не клапаці ты галаванькі,
Вазьму цябе, не пакіну
Для людской пагаворанькі.
Ці ўсе тыя сады цвітуць,
Што зелена развіваюцца,
Ці ўсе тыя да й шлюб бяруць,
Што верненька да й кахаюцца?
Палавіна саду цвіце,
Палавіна развіваецца,
Палавіна шлюб бяруць,
Палавіна раскідаюцца.

## 304. УЧОРА НЕ БЫЎ *

Учора не быў,
Сягоння не быў,
Знаць, мой міленькі
Мяне пазабыў?

Яшчэ не забыў,
Яшчэ забуду,
Сяду, паеду,
Сем год не буду.

Едзь жа сабе, едзь,
Такое бяды:
Знайду сакола
З сваёй стараны.

Пасаджу яго
У канцы стала,
Буду глядзеці,
Як на сакала.

Чаму ж ты, сакол,
Хмуран, не вясёл,
Знаць, у сакола
Саколкі няма.

Учора з вячора
Саколка была,
Сягоння зрана —
Заручоная.

### 305. УЧОРА НЕ БЫЎ, СЯГОННЯ НЕ БЫЎ

— Учора не быў, сягоння не быў,
Знаць мой міленькі мяне пазабыў.

— Я не пазабыў, не пазабуду,
Сяду паеду, сем лет не буду.

— Язджай сабе, з такой бяды,
Найму молайца з чужой стараны.

Пасаджу яго ў канцы стала,
Буду глядзець, як на сакала.

— Саколе, саколе, зачым не вясёлы?
Знаць, у сакола саколкі няма.

Учора звячора саколка была,
Сягоння рана расстраляна была.

Вот не жаль бы быў, каб дзе на лужку,
А гэта на грудзе, на жоўтым пяску.

— Малойцу, малойцу, чаму не вясёл?
Знаць, у малойца дзяўчынкі няма.

Учора звячора дзяўчынка была,
Сягоння рана заручоная.

Вот не жаль бы быў, каб далёкі браў,
Бяруць суседзі па адным двары.

Па вадзіцу ідзе, мне ручку дае,
Майму сэрцу жалю задае.

Вадзіцу нясе — праліваецца,
Маё сэрцайка разрываецца.

## 306. ТЫ, ЗЯЛЁНЕНЬКІ ДУБОЧАК

— Ты, зялёненькі дубочак,
Ці не жаль табе бярозы,
Ці не жаль табе бярозы,
Што сякуць яе, рубаюць.
— Няхай сякуць і рубаюць,
Толькі ў скірты не складаюць.
— А ты, беленькі малойчык,
Ці не жаль табе дзяўчынкі,
Ці не жаль табе дзяўчынкі,
Што чужога хлопца любіць.
Няхай любіць і галубіць,
Толькі ў лічка не цалуець.
Яе лічка, як бруснічка,
А сама малада, як ягада.

## 307. ОЙ, ДА ПАЙДУ Я, МАЛАДА

Ой, да пайду я, малада,
Да лугам, даліною.
Ой, да сарву, зламаю
Каліну з маліною.

Ой, да сяду я, малада,
Да каліначку есці.
Ой, да ці не прыдуць
Ад мілога весці.

Ой, да бадай мяне
Да каліна ўдавіла.
Ой, як я свайго
Да мілога ўгнявіла.

Ой, ці я табе, мілы,
Да кашулі не шыла.
Ой, ці я табе, мілы,
Да не беленька мыла?

Ой, да мыла я кашулю
Да на сіненькім моры.
Ой, да я слала пасцельку
Да ў новай каморы.

## 308. ГАРЫЦЬ АГОНЬ, ПАГАРАЕ

Гарыць агонь, пагарае,
Любіў мілы — пакідае.
Не знаю, як жыць,
Без мілага быць.
Ён па вулачцы ідзе,
Розны песенькі пяе,
Голас падае,
Ка мне не зайдзе.

## 309. БАЛІЦЬ МНЕ ГАЛОВАЧКА

Баліць мне галовачка,
Сам не знаю чаму.
Пакідаю сваю дзяўчыначку,
Сам не знаю каму.

А на моры ды на Дунаі
Рыбак рыбку ловіць,
Яго чаўночак размаляваны
Сярод мора тоніць.

Яго платочак вышываненькі,
Сярод мора плывець,
Яго дзяўчыначка закаханая
Па беражку ідзець.

«Не жаль мне таго чаўночка,
А жаль малявання,
Не жаль мне таго платочка,
А жаль вышывання.
Не жаль мне той дзяўчыначкі,
А жаль закахання».

## 310. ЦІ СВЕТ, ЦІ СВІТАЕ *

Ці свет, ці світае,
Ці на зоры займае?
А мой міленькі,
Голуб сівенькі,
Коніка сядлае.[1]

Сядлай, мілы, каня,
Каня вараненькага,
Прыязджай, мілы,
Не кідай, мілы,
Мяне маладзеньку.

Ці ж я не такая,
Як і тая, другая,—
Я харошая,
Я прыгожая,
Толькі доля ліхая.

У полі асінка
Вецярок калыхае,
А мой міленькі,
Чарнабрывенькі,
Ад мяне уцякае.

У полі дубочак,
На вярху жалудочак.
Як не бачу я
Цябе, міленькі,—
Невясёлы дзянёчак.

---

[1] Апошнія тры радкі кожнай страфы паўтараюцца.

У полі азерца,
Там плывала вядзерца.
Ой, прыйдзі, прыйдзі,
Ды парадзімся,
Маё мілае сэрца.

Ты пойдзеш гарою,
Я пайду даліною.
Людзі кажуць мне
Ды сама знаю,
Што не жыць мне з табою.

## 311. АДКАСНІСЯ, АДВЯЖЫСЯ, МАЁ ГОРА

Адкасніся, адвяжыся, маё гора, [1]
Хоць я трошачкі без гора пагуляю,
Красатосці, маладосці павідаю.
Ці ведаеш, мой міленькі, ці забыўся
Як мы з табой ў зялёным саду гулялі,
Пад зялёнаю ігрушаю сядзелі?
Там мы тайныя славечкі гаварылі,
А ты кляўся і бажыўся, што не кіну.
А цяпер жа, мой міленькі, пакідаеш
І на тайныя славечкі забываеш.

## 312. ОЙ ТЫ, ДУБЕ, ДУБЕ

Ой ты, дубе, дубе,
Ты, зялёны дубе,
Ой, на табе, дубе,
Два голуба гудзе.

Два голуба гудзе,
Галубка сакоча.
Любіў казак дзяўчынаньку,
Ды пакінуць хоча.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

— Ты любіш, не любіш,
Я плакаць не буду,
Яшчэ маладая,
Без пары не буду.

Толькі тваёй пары,
Што вочанькі кары,
Ды ўсяго размовы,
Што чорныя бровы.

## 313. ПРАЗ ЦЕМНЫ ЛЯСОК*

Праз цёмны лясок
Дарожка ў садок,—
Вытаптаў хадок? [1]

Мой мілы, душа,
Ён мяне любіў.
Ён жа гэтай дарожанькай
Да мяне хадзіў.

Хадзіў ён вясну,
Другую хадзіў,
На трэцюю, нешчаслівую,
Мяне пазабыў.

Праз цёмны лясок
Дарожка бяжыць;
Па міламу, нявернаму,
Маё сэрца баліць.

## 314. А СТАІЦЬ ЯВАР ДЫ НАД РЭЧКАЮ*

А стаіць явар ды над рэчкаю,
Няма перамены.[2]
Ай, любіў дзяцюк ды дзяўчоначку,
Няймі яму веры.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.
[2] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Як любіліся ды кахаліся,
Як роўная пара,
А цяперацька разлучыліся,
Як цёмная хмара.

Ты, дзяцюк, глума, ты звядзеш з ума,
Любіць ты не будзеш,
Пра дзяўчыначку чарнабрывачку
Судзіці ты будзеш.

Саташнелася, сабяднелася,
Ссохла на былінку.
Былі вочачкі, як у совачкі,
Сталі, як у рыбкі.
Сяміршынная падпаясачка
Стала караценька.

## 315. ГАЛОВАНЬКА МАЯ БЕДНАЯ

Галованька мая бедная,
Чаго скора склапацілася?
Вы вочкі мае светленькія,
Чаго вы скора змутусіліся?
Ручкі вы мае беленькія,
Чаго скора апусціліся?
Ножкі мае бягучыя,
Чаго скора падламаліся?
Падламіліcь ножанькі
Ад доўгай паходанькі,
Апусціліся ручанькі
Ад цяжкай работанькі.
Склапацілася галованька
Ад цяжкага ўздыханнейка,
Змутусіліся вочанькі
Ад слёзнага праліваннейка.

## 316. ЕСЦЬ У ПОЛІ ГАЙ, ГАЙ *

Есць у полі гай, гай,
А ў тым гаю хатка.
— Не пакідай, мілы, мяне,
Не вялела матка.[1]

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Калі ж ты пакінеш,
Навек ты пагінеш,
На рэчаньцы, на быстранькай
Будзеш патанаці.

Будзеш патанаці,
Ратунку гукаці,
А я, млода, як ягода,
Не буду даваці.

Есць у полі лозы —
Пабілі марозы.
Разбі, божа, разлучнічка,
Сіроцкія слёзы.

Сіроцкія слёзы
Дарам не мінуцца.
На бел камень успадаюць —
Камень разбіваюць.

## 317. СКАЖЫ, ДЗЕУКА, ПРАУДУ

— Скажы, дзеўка, праўду,
Ці дала прынаду?
Ці ты мяне верна любіш,
Ці на якую здраду?
— Цябе люблю, сам то пан бог знае,
Бадай яму цяжка было,
Хто нас разлучае.
— Ніхто не такі,
Як мой сусед блізкі,
Бадай яму цяжка было,
Як каменю плысці.
Камень пад вадою,
Бяда за бядою.
Цяжка, цяжка, дзяўчынанька,
Разлука з табою.
Як у полі лозы
Пабілі марозы,
Паб'юць цябе, разлучнічку,
Дзявоцкія слёзы.

Дзявоцкія слёзы
Нідзе не мінаюць,
Як упадуць на бел камень,
Камень разбіваюць.
Есць у полі ліпа,
Лісце папускала,
Пад таею ліпінаю
Дзяўчына плакала.
Адным вочкам плакала,
Другім дзівілася.
Як здумае а хлапчыне,
Ей сэрданька вяне.

## 318. СЯДЗЕЛА, СЯДЗЕЛА

Сядзела, сядзела,
Глядзела ў акенца,
Ці не прыдзе мілы
Успакоіць сэрца?

Ці табе, мой мілы,
Ужо любоў няміла,
Што цябе так рана
Да сну прыкланіла?

Цярпела ад маткі,
Цярпела ад брата,
Шчэ трэба цярпеці
Праз гэтага ката.

Цярпела, цярпела,
Слова не сказаўшы,
Трэба йсці ўтапіцца,
Вочы завязаўшы.

Колькі ўцалавала.
Колькі ўмілавала —
Каб на кожным месцы
Правалілася рана.

Колькі буйных слёзак
Я дарма праліла —
Каб тваё ўсё цела
На раны пабіла,

Каб здурнеў, мой мілы,
Паляцеў па полі,
Баяліся б людзі,
Пужаліся б коні.

### 319. ОЙ, У ЛЕСЕ КЛЕН-ДЗЕРАВА РОСЛА

Ой, у лесе клён-дзерава росла,
Хадзіў казак да дзеўчыны позна.

— Ой, не хадзі, казача, да мяне
І не чыні славанькі для мяне.

— Ой, я славы тваёй не баюся,
Каго люблю, стану і абымуся.

Ой, здрада, чорныя вочы, здрада!
Чаму ў цябе, мой мілы, не праўда.

Пусціў славаньку такую,
Сказаў, сэрца, што сватацца буду.

[Сказаў, сэрца, што сватацца буду,]
А цяпер жа думаеш, гадаеш,

Відна, ты мяне пакінуці маеш,
Відна, ты сабе іншай шукаеш.

Ой, хоць знайдзеш з канямі да з валамі,
Так не знайдзеш з чорнымі бравамі.

Ой, хоць знайдзеш з русаю касою,
Так не знайдзеш з такою красою.

Ой, хоць знайдзеш па лічку бяленька,
Так не знайдзеш на славу вярненька.

Ой, хоць знайдзеш у жупане галубенькім,
Так не знайдзеш, як я маладзенька.

Ой, хоць знайдзеш у жоўтых чаравічках,
Так не знайдзеш, як я невялічка.

Калі ж, мілы, мяне пакідаеш,
Пакінь жа мне каня варанога.

[Пакінь жа мне каня варанога,]
Штоб я не забыла цябе, маладога.

Пакінь жа мне залатое сядзельца,
Штоб я не забыла цябе, маё сэрца.

Пакінь, мілы, жупан галубенькі,
Штоб я не забыла, які ты маладзенькі.

Пакінь, мілы, чырвон паясок,
Штоб я не забыла, які твой галасок.

Пакінь, мілы, жоўты чаравічкі,
Штоб я не забыла, які ты невялічкі.

Ой, спраў, мілы, залатое вудзіла,
Каб я твайго каня да вады вадзіла,

— Нашто, міла, золата цяраці,
Будзеш майго каня з вядра напаваці.

### 320. ОЙ, ДУБЕ МОЙ, ДУБЕ

Ой, дубе мой, дубе,
Кучаравы дубе.
Што ж на табе, дубе,
Два гудзе галубе.

А трэцяя галубка
Сядзіць ды варкоча.
Любіў хлопец дзеўку,
Пакінуці хоча.

— Ой, кідай, не кідай,
А плакаць не буду.
А я маладая,
Без пары не буду.

А калі б я знала,
Якая мне пара,
Я ж бы сваё лічка
Ды падмалявала.

Лічка — каліною,
Броўкі — сажыною,
Піла б ды гуляла
Пакуль дзеўчыною.

## 321. КАСІЎ КАЗАК СЕНА

Касіў казак сена,
Як была пагода.
Любіў хлопец дзеўку,
Як была малода.

Любіў хлопец дзеўку,
Цяпер пакідае.
Бедная дзяўчына
Вяночак хавае.

Не так жа вяночак,
Як розныя рэчы,
Распусціла косы
На ўсе свае плечы.

Распусціла косы,
Плечы утуліла.
Выйшла за вароты,
Жалю нарабіла:

— Ой, жалю, мой жалю,
Вялікі пячалю.
Калі б жа я знала,
А дзе ж мая пара.

Калі б жа я знала,
А дзе ж мая пара,
То я б сваё лічка
Шчэ й падмалявала.

То я б сваё лічка
Шчэ й падмалявала:
Броўкі ажынаю,
Шчочкі малінаю.

## 322. ДЗЕСЬ ПАЕХАЎ МІЛЕНЬКІ *

Дзесь паехаў міленькі
На мора гуляць. Гэй, гэй, гэй, гэй! [1]
А мяне пакінуў
Гора гараваць.

Гарую я ночаньку,
Гарую я дзве.
А на трэцю ночаньку,
Рана на зары.

Пайду падзіўлюся
На сіняе мора.
А на сінім моры
Карабель плыве.

А на сінім моры
Карабель плыве.
Адзін парус белы,
Другі галубы.

Адзін парус белы,
Другі галубой.
На палубе ходзіць
Мілёначак мой.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Гэй, гэй, гэй, гэй!»

## 323. ОЙ, ПАЙДУ Я Ў САД *

Ой, пайду я ў сад,
Ў саду прахаджуся.[1]
Да й скалола ножку
На сухую йгрушку.

Баліць мая ножка.
Да й баліць бальная.
Любіў хлопец дзеўку
Да ўжо й пакідае.

Ой, паехаў хлопец
Ў новы гарадочак:
За ім красна дзеўка,
Да ў яго слядочак.

Яна за ім гналась,
Гналась, не дагнала
На бітым шляху
Ў паўдарожкі ўпала.

Дзеўка як упала,
Упала — прызаснула,
Пасярод дарогі,
Што серая кукуля!

Наехалі ўланы,
Ці тры, ці чатыры.
Яны красну дзеўку
Ўвялі, пабудзілі:

— Устань ты, красна дзеўка,
Устань да абачхніся,
Вытры свае слёзкі,
Болей не журыся.

Да на нас, уланаў,
На нас паглядзіся!
Да у нас, уланаў,
Коні вараныя.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Коні вараныя —
Сёдлы залатыя;
Сёдлы залатыя,
Самі маладыя!

— Маладыя ўланы,
Скажыце мілому,
Што яго дзяўчыны,
Нет ужо на свеце.

## 324. ОЙ, СТАЯЛА ЯЛІНАЧКА *

Ой, стаяла яліначка
На заходзе сонца,
Ой, плакала дзяўчыначка,
Гледзячы ў ваконца.[1]

Няма майго міленькага,
Няма маёй душкі,
Каму ж усе дастануцца
Пуховы падушкі?..

## 325. ДУБ ДА ДУБА ПАХІЛІЎСЯ *

Дуб да дуба пахіліўся,
А дзяўчыне сон прысніўся.[2]

Ой, прысніўся сон чудненькі,
Што прыехаў мой міленькі.

А я выйшла, адчыніла —
Не той любы, што любіла:

Не це вочы, не це бровы,
Не це вусны да размовы.

— Ой ты, коню сівагрывы,
Раскажы, дзе ёсць мой мілы?

А твой мілы за гарою
Размаўляе із другою.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.
[2] Кожнае двухрадкоўе паўтараецца.

## 326. ТУМАН, ТУМАН ПРЫ ДАЛІНЕ *

Туман, туман пры даліне,[1]
Шырок лісцік на каліне.
Яшчэ шыршы на дубочку,
Кліча хлопец дзяўчыночку.
Ён не сваю, ды чужую:
— Хадзі, дзеўка, пацалую.
— Нашто мяне цалаваці,
Сэрцу тугі дадаваці?
Не задавай сэрцу тугі,
— Не вазьму я — возьме другі.
Не плач, міла, не журыся:
Я ж яшчэ не ажаніўся.
А як буду жаніцися,
Прашу піва напіцися.
Майго піва напіцися,
Майму дзіву дзівіцися.
— Тваё піва мне не піва,
Тваё дзіва — мне не дзіва.
Толькі дзіўна слава тая,
Што па свеце пахаджае:
Твая маці — чараўніца,
А сястрыца — разлучніца.
Разлучыла нас з табою,
Як рыбачку із вадою.

## 326а. ТУМАН, ТУМАН ПА ДАЛІНЕ *

Туман, туман па даліне,[2]
Шырокі ліст на каліне.
Яшчэ шыршы на дубочку,
Кліча голуб галубачку.
Хоць не сваю, дык чужую,
Хадзі, міла, пацалую.
— Нашто ж маеш цалаваці,
Сэрцу тугі задаваці?
Не задавай сэрцу тугі,
Не возьмеш ты, возьме другі.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.
[2] Тое ж.

Возьме другі і харошы,
Майму сэрцайку прыгожы.
— Не плач, дзеўка, не журыся,
Я ж яшчэ не ажаніўся.
Во, як буду жаніціся,
Прашу піва напіціся.
Майго піва напіціся,
Майму дзіву дзівіціся.
— Тваё піва мне не піва,
Тваё дзіва мне не дзіва.
Толькі дзіўна слава тая,
Што па людзях пахаджае.
Твая маці — чараўніца,
А сястрыца — разлучніца.
Разлучыла нас з табою,
Як рыбаньку із вадою.
Цяжка рыбцы без вадзіцы,
Так мне, беднай маладзіцы.
Цяжка рыбцы на пясочку,
Так мне, беднай, без дружочка.

## 3266. ТУМАН, ТУМАН, ТУМАН, ТУМАН ПА ДАЛІНЕ

Туман, туман, туман, туман па даліне,
Шырокі ліст на каліне, на каліне,
Шырэй таго, шырэй таго на дубочку,
Кліча голуб галубачку, галубачку,
Хоць не сваю, хоць не сваю, да чужую.
— Пастой, міла, пацалую, пацалую.
— Нашто ж тое, на што ж тое цалаванне,
Сэрцу тугі задаванне, задаванне.
Не задавай, не задавай сэрцу тугі,
Не возьмеш ты, возьме другі, возьме другі.
— Пастой, дзеўка, пастой, дзеўка, не журыся.
Я йшчэ молад, не жаніўся, не жаніўся.
А як буду, а як буду жаніціся
Прашу й піва напіціся, прашу й дзіва дзівіціся,
дзівіціся.
— Тваё й піва, тваё й піва мне не міла,
Тваё й дзіва мне не дзіва, мне не дзіва.
Толькі дзіва, як мы з табой гаварылі,
Твая й маці чараўніца, твая сястра разлучніца,
разлучніца.

Разлучыла, разлучыла нас з табою,
Як рыбачку із вадою, із вадою.
Гарыць агонь, гарыць агонь за вадою.
Я й не віджу за бядою, за бядою.
Гарыць агонь, гарыць агонь за лясамі,
Я не віджу за слязамі, за слязамі.

### 326в. ТУМАН, ТУМАН ПРЫ ДАЛІНЕ

Туман, туман пры даліне,
Шырокі ліст на каліне,
Шыршы, большы на дубочку,
Кліча голуб галубочку.
Хоць не сваю, так чужую:
— Хадзі, сэрца, пацалую!
— Нашто ж чужу цалаваці,
Сваёй жалю задаваці?
Свая стаіць, слёзы льюцца.
Не плач, дзеўка маладая,
Яшчэ ж молад, не жаніўся,
Вялі піва напіцца.
— Тваё піва мне не дзіва,
Дзіўнёшанька твая слава.
Твая маці — чараўніца,
А сястрыца — разлучніца.
Разлучыла нас з табою,
Як рыбаньку з вадою,
Белу рыбку з акуньцамі,
Мяне, младу, з маладцамі.

### 327. ЗДРАДА, ЗДРАДА, ЧОРНЫ БРОВЫ, ЗДРАДА!

Здрада, здрада, чорны бровы, здрада!
А ўсё ж твая, мой мілы, няпраўда.

Як жаніўся, любіці маніўся,
А цяпер ты ад мяне ад'язджаеш.

А куды ж ты ад мяне ад'язджаеш,
Каму, маладую, мяне пакідаеш?

Рана ўстаеш, каню аброк даеш,
На повадзе к вадзе каня вядзеш.

Як белы свет коніка сядлаеш,
У абед дык з двору выязджаеш.

Я пастаўлю стоража ў парозе,
Сама лягу на цісовай ложы.

Чую, чую, сторож мой гаворыць,
Што мой мілы ўжо ад'язджаець.

— Зламі, конік, нагу вараную,
Скруці, мілы, галаву змянную.

Скруці, мілы, галаву змянную,
Як ты змяніў мяне, маладую.

## 328. ЗДРАДА, ЗДРАДА, ЧОРНЫ ВОЧЫ, ЗДРАДА

Здрада, здрада, чорны вочы, здрада,
Чаму ў цябе, малойча, няпраўда? [1]

Ой, ты казаў, будзеш мяне браці,
А цяпер едзеш другой шукаці.

Хоць праедзеш Польшчу і Краіну,
То не знайдзеш над мяне дзяўчыну.

А хоць знайдзеш з коньмі і валамі,
То не знайдзеш з чорнымі брывамі.

А хоць будзе ад мяне пякнейша,
То не будзе сэрца прыхільнейша.

## 329. ЁСЦЬ У ПОЛІ ЛОЗЫ — ПАБІЛІ МАРОЗЫ

Ёсць у полі лозы — пабілі марозы,
Разбі, божа, разлучніка, сіроцкія слёзы,[2]

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.
[2] Тое ж.

Сіроцкія слёзы дарам не праходзяць:
На бел камень як спадаюць — камень разбіваюць.

Ёсць у полі ліпа — казачэнька ўбіты,
Чырвонаю кітайкаю лічанька накрыта.

Ёсць у полі жыта — ў копачкі збіта,
Зялёнаю кітайкай вярхушка накрыта.

Ёсць у полі чай, чай, пад тым чаем хатка:
— Не пакідай, мой міленькі, не вялела матка.

Калі ж ты пакінеш — на свеце пагінеш,
На рэчачцы на быстранькай будзеш патанаць,

Будзеш патанаць — ручку падаваць,
А я, млада-младзёшанька, не буду хватаць.

Плыві, плыві, мой міленькі, жоўтымі пяскамі,
А я астаюся, младзёшанька, з другімі дружкамі.

## 330. ПРЫЛЯЦЕЛІ ГУСІ З ДАЛЁКАГА КРАЮ *

Прыляцелі гусі з далёкага краю,
Ваду замуцілі на ціхім Дунаю.

Пачакайце, гусі, я вас запытаю,
Ці вы з таго краю, дзе мілую маю?

Мо яна забіта, мо ў няволю ўзята,
Мо ў няволю ўзята, ці з другім занята?

Ні яна забіта, ні ў няволю ўзята,
Няшчасным замужжам навекі занята.

Ой, дзе сонца ўзыйдзе, там расы не будзе,
З нашага кахання нічога не выйдзе.

Пайду я ў садочак, вышчыпну лісточак,
Буду я пісаці міленькай лісточак.

Буду я пісаці чорным атраментам,
Чорным атраментам, плачам і ляментам.

Буду я пісаці белымі рукамі,
Белымі рукамі, дробнымі слязамі.

## 330а. ОЙ, ЛЯЦЕЛІ ГУСІ *

Ой, ляцелі гусі
Ды з-пад Белай Русі,
Селі яны, палі
На ціхім Дунаю.

Селі яны, палі,
Ваду замуцілі,
А нас, маладзенькіх,
З табой разлучылі.

Бадай тыя гусі
Марна запрапалі,
Як мы кахаліся,
Цяпер перасталі.

Як мы кахаліся,
Як ластаўкі ў стрэсе,
Цяпер разышліся,
Як дарожкі ў лесе.

Як мы кахаліся,
Нас бяда не знала,—
Цяпер разышліся,
Як цёмная хмара.

## 330б. ПРЫЛЯЦЕЛІ ГУСІ *

Прыляцелі гусі
З далёкага краю,
Ваду замуцілі
На ціхім Дунаю.[1]

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Бадай тыя гусі
Так марна прапалі,
Як мы любіліся,
Цяпер перасталі.

А мы любіліся,
Як ластаўкі ў стрэсе,
Цяпер разышліся,
Як сцежанькі ў лесе.

А мы любіліся,
Як брат і з сястрою,
Цяпер разышліся,
Як сонца з луною.

А з цёмнае хмары
Дажджу ды не будзе,
З нашага кахання
Нічога не будзе.

На вуліцы камень
Сонца асвяціла.
Кліча маць вячэраць —
Вячэра не міла.

Вячэрай жа, маці,
Калі наварыла:
Няма міленькага,
Што я палюбіла.

Няма міленькага,
Няма маёй душкі,
Каму застануцца
Пуховы падушкі?

## 330в. ЛЯЦЕЛІ ДЗВЕ ГУСІ З ДАЛЁКАГА КРАЮ *

Ляцелі дзве гусі з далёкага краю,
Памуцілі воду на сінім Дунаю.[1]

Бадай тыя гусі на моры прапалі,
Як мы кахаліся — цяпер перасталі.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Як мы кахаліся, як голубы ў пары,
Цяпер разышліся, як цёмныя хмары.

Як мы кахаліся, як голубы ў стрэсе,
Цяпер разышліся, як ягадкі ў лесе.

Каму маё сэрца, каму мае думкі,
Каму застануцца пуховыя падушкі.

Ідзе цёмна хмара — дожджыку не будзе,
З нашага кахання нічога не будзе.

Ідзе цёмна хмара, дробны дождж спусціўся,
Скажы, скажы, мілы, чаго зажурыўся?

Таго зажурыўся, што ў цябе ўлюбіўся.
Быў вечар халодны, моцна прастудзіўся.

### 330г. ПРЫЛЯЦЕЛІ ГУСі

Прыляцелі гусі,
Селі на даліне,
Ніхто не шкадуе
Маладой дзяўчыны.

Не шкадуе айцец,
Не шкадуе маці,
Толькі той шкадуе,
Хто думае браці.

Варота цяжкія,
Суседзі ліхія,
Не даюць хадзіці,
Дзяўчыну любіці.

Як мы любіліся,
Як ластаўкі ў стрэсе,
Цяпер разыйдземся,
Як туман па лесе.

Туман разышоўся,
Усюды светла стала.
Нашая любоўня
Навекі прапала.

## 331. КАЛЯ МЛЫНА, КАЛЯ БРОДУ

Каля млына, каля броду
Два голуба пілі воду.
Яны пілі, варкуцелі,
Узняліся, паляцелі.
Крылышкамі ўстрапянулі,
Пра каханне ўспамянулі.
Як мы з табой любіліся,
Сухі дубы развіліся.
Як мы любіцца пераcталі,
Тай зялёны паўсыхалі.
Ой, пайду я вакол саду,
Там гуляе гусей стада.
Адна другу паганяе,
Кожна сабе пару мае.
А я, малада, й божай веры,
Не даў жа мне гасподзь пары.
А ні пары, ні параньські,
А ні шчасця, ні доленькі.

## 332. А НЕТУ-НЕТУ ЛЕПШАГА ЦВЕТУ

А нету-нету лепшага цвету,
Як сінь васілёчак.[1]

А нету-нету лепшага слоўца,
Як мілы дружочак, як мілы дружочак.

Па сінім моры ды па Дунаі
Рыбак рыбку ловіць, рыбак рыбку ловіць.

Яго чаўночак маляваненькі
Сярод мора тоніць, сярод мора тоніць.

Яго платочак вышываненькі
Па Дунаі плывець, па Дунаі плывець.

Яго дзяўчына, яго кахана
Беражочкам ідзець, беражочкам ідзець.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

А не жаль жа мне таго чаўночка —
Жаль мне малявання, жаль мне малявання.

А не жаль жа мне таго платочка —
Жаль мне вышывання, жаль мне вышывання.

А не жаль жа мне той дзяўчыны —
Жаль яе кахання, жаль яе кахання.

Мы любіліся, мы кахаліся,
Нас гора не знала, нас гора не знала.

А як прыйшлося расхадзіціся,
Як цёмная хмара, як цёмная хмара.

Мы любіліся, мы кахаліся,
Як ластаўкі ў стрэсе, як ластаўкі ў стрэсе.

А як прыйшлося расхадзіціся,
Як ягадкі ў лесе, як ягадкі ў лесе.

## 333. ОЙ, У ЛУЗЕ ЦВЕТ-КАЛІНА *

Ой, у лузе цвет-каліна,
Няма таго, што любіла,[1]

Няма яго і не будзе,
Адгудзілі злыя людзі.

Адгудзілі, 'дгаварылі,
Каб мы ў пары не хадзілі.

Як мы, сэрца, любіліся,
Сухі дубы развіліся,

А цяпер, як перасталі,
То й зялёны паўсыхалі.

Як мы ў параньцы хадзілі,
Варажэнькі пасушылі,

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

А цяпер мы перасталі,—
Варажэнькі рады сталі.

Бяжы, коню, плаўком, плаўком,
А на плаўцы дзве чыранкі;

Адна другу паганяе,
Кожна сабе пару мае.

Я, малада, ў велькай кары,
Ой, не даў мне госпад пары,

Ой, ні пары, ні парэнькі,
Ані шчасця, ні доленькі.

### 334. ПА САДОЧКУ ПАХАДЗІЛА

Па садочку пахадзіла,
Сама сабе гаварыла,[1]

Сама сабе гаварыла:
— Няма таго, што любіла,

Няма таго і не будзе,
Рассудзілі ліхі людзі.

Рассудзілі, разгудзілі,
Каб мы ў пары не хадзілі.

Каб мы ў пары не хадзілі,
Друг дружочка не любілі.

Як мы, сэрца, любіліся,
Сухі дубы развіліся,

Любіціся перасталі,
Зялёныя сохнуць сталі.

О цяпер я пагуляю,
Як рыбанька па Дунаю,

Як рыбанька пад аірам,
Так я, млода, з кавалірам.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

## 334а. ЗЯЛЁН ЛІСТОК НА ДУБОЧКУ

Зялён лісток на дубочку,
Я й хадзіла па садочку.

Я й хадзіла, гаварыла,
Няма таго, што любіла,

Няма, няма і не будзе —
Рассудзілі мяне людзі.

Рассудзілі, разлучылі,
Каб мы ў пары не хадзілі.

А мы ў пары хадзіць будзем
І друг друга любіць будзем.

От пайду я на прастору,
Пагляджу я ў тую строну,

Дзе мой мілы ваду бярэ
І з другою размаўляе,

А мне маё сэрца крае,
Што з другою размаўляе.

Вот вазьму я тры патроны,
Расстраляю чорны бровы.

Няхай людзі гэта знаюць,
Што з кахання смерць бывае.

І з кахання, і з мілосці
Прыкрывае зямля косці.

## 335. А У ГАРОДЗЕ ГАРДАВІЦА *

А ў гародзе гардавіца
Павілася ў трубку.
Любіў хлопец дзяўчынаньку,
Як голуб галубку.

Любіліся, кахаліся —
Іх маці не знала,
А цяпера разышліся,
Як цёмная хмара.

Чорна хмара разайдзецца,
Дожджыку не будзе,
А з нашага каханнечка
Нічога не будзе.

А з нашага каханнечка —
Ні славы, ні ўжытку:
Чорным вочкам спання няма,
Ножкам — супачынку.

На шалфею ваду грэю,
На руту не буду,—
Нагневаўся мой міленькі,
Прасіці не буду.

Нагневаўся ён на мяне,
Я на яго двойчы,—
Не садзіся каля мяне,
Бо плюну ў вочы.

## 335а. ДА ЛЯЦЕЛІ ГУСІ ЦЕРАЗ СІНЕ МОРА

Да ляцелі гусі цераз сіне мора,
Скалыхнулі дуба, ой, да зелянога.

Ой, бадай вы, гусі, з пер'ямі прапалі,
Як вы нашу пару, ой, да разагналі.

Ой, як мы любілісь чатыры гадочкі,
Як мы разышліся бадай у два часочкі.

А як мы любілісь, не знала і мамка,
Ой, мы разышліся, як цёмная хмарка.

Хмарачка находзіць, дожджыка не будзе,
А я пайду сяду ў вішнёвым садзе.

А я пайду сяду ў вішнёвым садзе,
Ой, да ці не прыдзе доля на параду.

Сонейка заходзіць, доля не прыходзіць,
Ой, божа мой, божа, а што мне рабіці.

Ой, божа мой, божа, а што мне рабіці,
Угнявіла долю, не магу ўпрасіці.

## 336. ОЙ, САДЫ МАЕ, САДОЧКІ

Ой, сады мае, садочкі,
Сады зялёныя.
Як па вас, мае садочкі,
Розныя цвяточкі.

Што адзін быў сінь-цвяточак —
І той пасыхаіць,
Што адзін быў міл дружочак —
І той пакідаіць.

У чужу дальню староначку
Ён жа ад'язджаіць.
Ці з чужых ён разгавораў?
Ці з сваёй галоўкі?

А што людзечкі гавораць —
Нас з табой разводзяць,
Што суседзі навучаюць —
З табой разлучаюць.

## 337. ОЙ, ЗАРЖЫ, ЗАРЖЫ, СІВЫ КОНІКУ *

Ой, заржы, заржы, сівы коніку,
Рана з поля йдучы. [1]

Ці не пачуе мая мілая,
Пасцельку сцелючы?

Яна пачула, цяжка ўздыхнула,
Сільна заплакала.

---
[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца тройчы.

Няма мілога, чарнабрывога,
Што верна кахала.

Ой, стаіць явар дый над вадою,
Кудравы да долу.

Ах, мой міленькі, з Украіненькі
Вярніся дадому.

Ой, стаіць явар дый над вадою,
Явар вада мые.

Ах, мой міленькі, з Украіненькі
Сэрца ж маё ные.

Ой, стаіць явар дый над вадою,
Каб не абярнуўся.

Ах, мой міленькі, з Украіненькі
Каб скора вярнуўся.

## 338. ВАРКАВАЎ, БРУКАВАЎ СІВЫ ГАЛУБОК*

Варкаваў, брукаваў сівы галубок
На чырвонай каліне.
Гараваў, тужыў малады казак
Ды па добрай дзяўчыне.

— Чаго ты тужыш, аб чым думаеш
Ды галоўку клапоціш?
Сама ведаю, людзі гавораць,
Што пакінуці хочаш.

Пахіліцеся, зялёны лозы,
Адкуль вецер павее,
Ой, дзівіцеся, сінія вочы,
Адкуль мілы прыедзе.

Пахіляліся зялёныя лозы,
А цяпер перасталі.
Ой, дзівіліся сінія вочы —
Цяпер плакаці сталі.

## 338а. ЗАБРУКУЙ, ЗАБРУКУЙ, СІЗЫ ГАЛУБОЧАК

Забрукуй, забрукуй, сізы галубочак,
На чырвонай каліне.
Затужыў, затужыў малады малойчык
Па харошай дзяўчыне.

—Да чаго ты ходзіш, да чаго ты нудзіш
Да галоўку хлапочаш?
— Я сама знаю, мне людзі гавораць.
Што пакінуці хочаш.

— Спакідаю ж цябе, мая міла,
Пры ядынаму богу,
Сам сяду, ад'язджаю
У вяліку дарогу.

— Да як будзеш, маё сярдэнька,
Цераз Дунай плысці.
Прысылай да мне, маё сярдэнька,
Прысылай хаця весці.

— Я пісаць буду, прысылаць буду,
Сам жа я не прыбуду.
— Так збудую я святлічаньку,
Да адна жыці буду.

Да хіліцеся, зялёны лозы,
Да адкуль вецер вее.
Да глядзіце, мае сіні вочы,
Адкуль мілы прыедзе.

Да хіліліся, зялёныя лозы,
Да і на зямлю палі,
Наглядзеліся мае сіні вочы
Да і плакаці сталі.

## 339. ЯК ЧУЎ ДА ПАЧУЎ СІЗЫ ГАЛУБОЧАК, СЕЎШЫ НА ТЫЧЫНЕ

Як чуў да пачуў сізы галубочак, сеўшы на тычыне,
Як заплача праўдалы казача па сваёй дзяўчыне.
Любіў казак дзяўчыну, не мог яе ўзяці,

За ліхімі за варагамі мусіў спакідаці.
— Спакідаю цябе, маё сэрданька, адзінаму богу,
А сам пайду на Дунай да на быструю воду.
Хіліціся, да ніцыя лозы, адкуль вецер вее,
Дзівіціся, кары вочы, адкуль мілы едзе.
Дажыдай мяне, сэрданька, дажыдайся ў госці,
Як парасце шаўковая трава ў стэпу на памосце.
Расла, расла шаўковая траўка, да й пахілілася,
Ждала, ждала я свайго мілога, да і зажурылася.
Хіліліся да ніцыя лозы, да ўжо і паўсталі,
Журылася дзяўчыначка, да ўжо і перастала.

## 340. ОЙ, СІВЫ КОНЬ БЯЖЫЦЬ *

Ой, сівы конь бяжыць,
На ім бела грыва,
Ой, спанаравілась,
Ой, спанаравілась
Мне тая дзяўчына.[1]

Не так та дзяўчына,
Як яе лічанька.
— Ой, падай, дзяўчына,
Ой, падай, дзяўчына,
На каня ручаньку.

Рукі не падала,
Тры словы сказала:
— Няхай бы я была,
Няхай бы я была,
Кахання не знала...

Бо тое каханне
З вечара да рання...
Як сонейка ўзыдзе,
Як сонейка ўзыдзе,
Каханне разыдзе.

---

[1] Апошнія тры радкі кожнай страфы паўтараюцца.

## 341. ОЙ, ГАЮ МОЙ, ГАЮ, ГАЮ ЗЕЛЯНЕНЬКІ

Ой, гаю мой, гаю, гаю зеляненькі,
Не плач, не журыся, казак маладзенькі.
— Не сам жа я плачу, плачуць кары вочы,
Не даюць спакою ні ў дзень і ні ў ночы;
Суседзі блізкія, варогі цяжкія,
Не вяляць хадзіці, дзяўчыны любіці.
Засватаў дзяўчыну, да й не даюць людзі,
Ой, памру, памру я, ты жыва будзеш.
Там мая магіла, у сіняга мора,
І там будзе ўся мая размова.
Прыдзеш і к магіле, не станавісь нагою,
Бо сама знаеш, як цяжка пад ёю,
Прыдзеш на магілу, не махай рукою,
А бы людзі скажуць, што я жыў з табою.

## 342. З-ПАД ЦЁМНАЙ ХМАРЫ

З-пад цёмнай хмары
Сонейка зыходзіць,
За ліхімі варагамі
Мой мілы не ходзіць.

Ждала я, ждала,
Сталы засцілала,
Сталы мае цясовыя,
Абрусы трайчасты.

Вочкі мае чорненькія,
Прапала я з вамі,
Не хочаце начаваці
Ні ночанькі самі.

Хоць хочаце не хочаце,
Трэба прывыкаці,
Ой, паехаў мой мілы
У стэпу гараці.

Ўчора гараў у стэпочку,
А цяпер ў садочку,
Выплакала чорны вочы
За чатыры ночкі.

А гэты чатыры ночы
Ды за восем сталі,
Бадай майго міленькага
Волікі прапалі.

Няхай валы жывы будуць,
Кружок паламаўся,
Каб мой мілы, чарнабрывы
З валамі прыгнаўся.

## 343. ПАСЕЯЛА КАНАПЕЛЬКІ, ЗЯМЛЁЙ НЕ ПРЫКРЫЛА

Пасеяла канапелькі,
Зямлёй не прыкрыла,
Па казаку дзяўчынанька
Громка галасіла.

Галасіла маладая,
Не знала пакою.
Вараненькі конь застаўся,
Залатая зброя.

Няма ж майго міленькага,
Няма ж майго пана,
Няма з кім мне гаварыці
З вечара да рана.

## 344. КАЦІЛАСЯ ЗАРАНАЧКА З НЕБА

Кацілася заранaчка з неба,
Яна ўпала на землю.
Журылася красная дзяўчоначка
Ды па свайму гору:
— А хто ж мяне, красную дзяўчыначку
Ды справадзіць дадому?
Адазваўся малады казачанька
Ды на вараным коні:
— Не плач, не плач, красная дзяўчыначка,

Я справаджу дадому.
Не павёў жа ён яе дадому,
А павёў у салому.
А салома не папона —
Белы ручанькі пакалола.

## 345. КАЦІЛАСЯ ДЫ ЯСНАЯ ЗОРАЧКА*

Каціласся ды ясная зорачка
Ды упала дадолу.[1]

Заплакала ды красна дзяўчоначка,
Ідучы дадому.

Наплачашся, мая красна дзеванька,
Ідучы да шлюбу.

Як павядуць маю красну дзеваньку,
Ды з нялюбым вянчацца.

## 346. КУПАЛАСЯ КАСЯ У МОРЫ

Купалася Кася ў моры,
Пасла конікі ў збожжы.
Ехаў Ясенька з Вяльбора,
Забраў конікі да двора.
Дала Кася Ясю два таляры,
Адзін таляр новы, другі — стары.
— Схавай ты таляры, Кася, к сабе,
Я прыеду ў госці, Касенька, к табе.
— Прыедзь, Ясенька, з вячора,
Адамкнёна будзе камора,
Бела пасцель расцялёна
І коўдарачка зялёна.
Памаленьку, Ясю, ты ступай,
Каб мамуня не ўслышала
І старому не сказала.
Як мамуня ўслышала,
Да старому павядала:
— Устань, душка, устань, душка,
Ёсць у Касі нехта ў ложку.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

## 347. КАБ І У САДЗЕ, У ВІНАГРАДЗЕ

Каб і ў садзе, ў вінаградзе
Калінка стаяла.[1]
Пад калінай, пад малінай
Дзявіца гуляла.
Прышоў к дзеўцы, прышоў к краснай
Казак маладзенькі:
— Пойдзем, дзеўка, пойдзем, красна,
З табой у маліну.
— Багдай, казак, не дачэкаў,
Каб пашла ў маліну.
Ужо твая маліна
Мяне падманіла.
— Прыйман дзеўка, прыйман красна,
Нічым не падманіш.
Пад калінкай, пад малінкай
Дзявіца гуляла:
Прышоў к дзеўцы, прышоў к краснай
Казак маладзенькі:
— Пойдзем, дзеўка, пойдзем красна
З табой у ягодкі.
— Ужо твае ягодкі
Здзелалі гаворкі.

## 348. ОЙ, БОРАМ, БОРАМ, УСЁ БАРЫНОЮ

Ой, борам, борам, усё барыною.
Там нехта едзе вечарыною.

Ой, едзе, едзе Іванка п'яны.
— Адчыні, Ганнулька, я твой каханы.

— Ой, не адчынюся, бо мамы баюся.
Перад табою лісцем сцялюся.

Ой, лісцем, лісцем усё й зеляненькім
Перад табою, дый маладзенькім.

---

[1] Другі радок паўтараецца.

## 349. ПЛЫВЕ ЧОВЕН ВАДЫ ПОВЕН

Плыве човен вады повен,
Кругом вада хлюп-хлюп-хлюп.
Ідзе казак к дзяўчыначцы
Да й ножкамі туп-туп-туп.

Плыве човен вады повен
Да й накрыўся лістам.
— Не хваліся, дзяўчыначка,
Чырвоным маністам.

Бо як выйдзеш на вуліцу —
Твой маніст парвецца.
Над табою, дзяўчыначка,
Казак насмяецца.

Плыве човен вады повен
Да й накрыўся лубам.
— Не хваліся, казачэнька,
Кучаравым чубам.

## 350. ЗАЦВІЛІ САДОЧКІ *

Зацвілі садочкі
Буйнымі цвятамі.[1]
Ды пакрылась роўнае поле
Коннымі вайскамі.

А на тым жа полі
Казакі гуляюць.
Адзін хлопец красную дзеўку
К сабе намаўляіць.

— Едзем, дзеўка, з намі,
З намі, казакамі:
Лепей табе, дзеўка, будзе,
Як у роднай мамы.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Едуць яны поле,
Едуць і другое,
На трэцяе толькі уз'язджаюць,
Сталі коні ля Дунаю.

— Вось цяпер, дзяўчына,
Прад табой дзве волі:
Калі хочаш, к мамцы вярніся
Ці ў Дунаі ўтапіся.

— Назад не вярнуся,
У Дунаі ўтаплюся:
Хай старэнька маці думае,
Што дачушка шчасце мае.

### 351. СІНЕ МОРА ЗАЦВІТАЕ

Сіне мора зацвітае,
Казак каня напасае,
З сабой дзеўча намаўляе.
— Едзем, едзем, дзеўча, з намі,
З маладымі казакамі.
Дзеўча таго паслухала,
Села і паехала.
Едзе поле і другое,
На трэцяе заязджае,
Чорны вочкі зарушала.
Села, лісток запісала,
Да радочку адаслала.
Няхай радочак не таскуе,
Мне пасагу нагатуе.
Я свой пасаг прагуляла,
Пад яварам начавала.
Пад яварам зеляненькім,
З казачэнькам маладзенькім.
Напілася я мядочку,
Выспалася ў халадочку.

## 352. ОЙ, КРУШЫНА, КРУШЫНА

Ой, крушына, крушына,
Ты мяне засушыла.

Ты вырасла ў полюшку
На маю нядолюшку.

Як ты распускалася,
Я з мілым спаткалася.

Як ты ягадзілася,
Я з мілым схадзілася.

Як ты асыпалася,
Я з мілым рассталася.

Праз твой зелен кусточак
Я згубіла вяночак.

## 353. ЛАМАЛА КАСЯ КАЛІНУ *

Ламала Кася каліну,[1]
Пусціла каня ў ярыну.

Ехаў Ясенька са Львова,
Заняў коніка да двора.

— На табе, Ясь, два таляры,
Адзін новы, другі стары,
Пускай коніка дадому.

— Ой, не хачу таляраў браць,
Толькі з Касяю ноч начаваць!
— Не едзь, Ясеньку, ізранку,—
Прыедзь, Ясеньку, звечара,
Як будзе пасцель гатова.

— Бывай, Касенька, здарова,
Я кавалер, а ты ўдова!

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Я кавалер да дзяўчыны,
А ты ўдова без прычыны!

У нядзельку на ранaчку
Ходзіць Кася па рыначку,
Купляе сабе вяночка.

Яся пад крамай стоячы
І да Касі гаворачы:

— Не купляй, Касю, вяночка,
А за тры рублі чапочка,
Бо ты цяпер не дзевачка.

— Доля ж мая нешчаслівa,
Якая ж я ўзычліва:

Адну ночку з Ясем была
Дый вяночка загубіла!

## 354. У РОЎНЫМ ПОЛІ КРЫНІЧАНЬКА *

У роўным полі крынічанька,[1]
Там сцюдзёна вадзічанька.

Там гусары коні поюць,
З дзяўчыначкай размаўляюць:

— Ой, дзяўчына-дурачына,
Калі хочаш, едзь із намі,

Калі хочаш, едзь із намі,
З маладымі гусарамі.

Едуць поле і другое,
На трэцяе — начаваці.

На трэцяе начаваці,
Гусар кажа пасцель слаці.

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Выйду на высоку горку,
Ой, гляну пад ясну зорку.

Там дзевачкі рвуць цвяточкі,
Самі сабе на вяночкі.

— Вы, дзевачкі, вы, сястрыцы,
Накажэце маёй мамцы,

Няхай па мне не бядуе,
Мне вяночка не гатуе,—

Я свой венчык утраціла,
Пад яварам зеляненькім,

Пад яварам зеляненькім,
З гусарыкам маладзенькім.

## 355. МЯНЕ МАМА ГАДАВАЛА

Мяне мама гадавала —
Хлеба з соллю не давала,

Каб вяліка не расла я,
Скора замуж не пашла я,

Каб з хлопцамі не гуляла
Ды вяночак не ўцірала.

Пацірала я вяночак
У адзін цёмны вечарочак

Пад яварам зеляненькім —
З салдацікам маладзенькім.

## 356. У НЯДЗЕЛЬКУ РАНА МАЦІ ДОНЬКУ БІЛА

У нядзельку рана маці доньку біла:
— Ой, нашто ты, шэльма, венчык утраціла?

— На Дунаю сінім белы хусты мыла,
Там я залаценькі венчык утраціла.

— Будзем, донька, будзем нядзелі чакаці,
Будзем, донька, будзем людзей сабіраці.

Будзем, донька, будзем людзей сабіраці,
Будзем тады, донька, праўданькі пытаці.

— Ой, нашто нам, маці, людзей сабіраці?
Лепей табе, маці, ўсю праўду сказаці:

На Дунаі сінім белы хусты мыла,
Там я залаценькі венчык утраціла,

Бо тудою ехаў хлопчык маладзенькі,
Зняў ён з мяне венчык, венчык залаценькі.

## 357. ОЙ, ЗА ГАЕМ, ЗА ДУНАЕМ

Ой, за гаем, за Дунаем,
Там Іванька з канём грае.
А з кармана платок мае.
— Іванюша, гарны хлопец,
Бадай жа ты марна прапаў,
Як ты майго вянка сцяраў.
— Не я ж твайго вянка сцяраў.
Сцяраў твой дурны розум,
Дзявоцкае дзяваванне,
Хлапецкае жартаванне.

## 358. КАЛІНА-МАЛІНА *

Каліна-маліна
Дзесятага года,
Страціла вяночак
Дзяўчына малода.[1]

Страціла, страціла,
Па воду ідучы,
Знайшоў яго хлопец,
З паходу едучы.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

— Аддай, аддай, хлопец,
Бо ты марна страціш,
Як маці дазнае,
Дорага заплаціш!

— Не аддам, не аддам,
Бо ты будзеш моя,—
Сядайма на коня,
Паедзем абое.

Паедзем, паедзем
Пад гай зеляненькі,
Мяне ты ўжо слухай,
Бо я твой міленькі.

Дзяўчына у лесе
Так крэпка заснула,
Як хлопец пакінуў,—
Дзяўчына не чула.

— Праедзеш ты, хлопча,
Усю доўгу граніцу,
То такі не знойдзеш
Над мяне дзявіцу.

Хоць ты сабе знойдзеш
З канём і валамі,
А такі не знойдзеш
З чорнымі брывамі.

Хоць ты сабе знойдзеш
На лічка краснейшу,
А такі не знойдзеш
Ад мяне вярнейшу.

## 359. КАСІЎ КАЗАК СЕНА

Касіў казак сена,
Як была пагода.
Ох, плакала дзеўка,
Як была малода.

— Ох, божа ж, мой божа,
Чаго ж яна плача,
Чаго ж яна плача,
Вяночка шкадуе.

— Не жаль мне вяночка,
А жаль тае рэчы,
Распусціла косы
На ўсе сваё плечы.

Ох, божа ж, мой божа,
Што ж мой мілы робіць,
Ён вечар у вечар
Па вячорках ходзіць.

Прыходзіць дадому,
Лажыцца ён спаці,
Лажыцца ён спаці,
На край каравaці.

Лажыцца ён спаці
На край каравaці,
На хатку вачыма,
Да мяне плячыма.

Адвярніся, мілы,
Цябе я разую,
Да ў белае лічка
Сем раз пацалую.

— Не гневайся. міла.
Былая каханка,
Ёсць у мяне міла.
Другая каханка.

— Ох, божа ж, мой божа,
Што я нарабіла,
Ёсць у казака жонка,
А я палюбіла.

## 360. ПАГНАЛА ВАЛЫ*

Пагнала валы
На сачавіцу, да гэй!
Памачылася
Па паясніцу.

Памачылася,
Бо раса была, да гэй!
Малойчык любіў,—
Хараша была.

Ён мяне любіў,—
Я не любіла, да гэй!
Сукенку купіў —
Я не насіла.

— Насі, дзеванька,
Штонядзеленькі, да гэй!
Спамінай мяне
Штогадзінанькі.

Як дзеўча клала,
То спамінала, да гэй!
Як іскідала,
То праклінала:

— Бадай казака
Трасца парвала, да гэй!
Як мне сукенка
Цесная стала.

## 360а. ВАЛЫ ПАГНАЛА Я Ў САДОЧАК

Валы пагнала я ў садочак
І зарасілася па паясочак.

І зарасілася, бо раса была,
Любілі хлопцы, бо хараша была.

Яны любілі — я не любіла,
Купілі сукню — я не насіла.

Ды аднаму слала я пасцеленьку,
Складала сукню штонядзеленьку.

Як складала, то ўспаміналa,
А як скідала, то праклінала.

## 361. ДЗЯЎЧЫНА ПА ГАЮ ХАДЗІЛА *

Дзяўчына па гаю хадзіла,
Малада ў гаю заблудзіла.[1]

Прыблудзіла к зялёнаму дубу.
— Ой, тут жа я начаваці буду.

Я думала, што дуб зеляненькі,
Ажно то быў хлопец маладзенькі.

— Дзяўчына, ўчыні сваю волю,
Выведу з гаю на дарогу!

— Лепш буду ўсю ночку блудзіці,
Чым хлопцу волю ўчыніці!

— Пастаўлю [redacted] гарнец гарэлкі,
Пагляджу, што за розум у дзеўкі.

— Хоць пастаў ты тры, чатыры,
Не абманеш мяне, кавалеру!

## 362. У ЦЁМНЫМ ЛЕСЕ ГРЫБЫ ЗАРАДЗІЛІ

У цёмным лесе грыбы зарадзілі,
Там дзяўчаты па грыбы хадзілі.

Адна дзеўка па грыбы хадзіла
Ды ў зялёным гаі заблудзіла.

Прыблудзіла к зялёнаму дубу
Ды сказала: «Начавацъ тут буду».

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Я думала, што дуб зеляненькі,
Ажно стаіць хлопец маладзенькі.

Узяў ён дзеўку за белую ручку,
Павёў дзеўку пад белу бярозу.

Павёў дзеўку пад белу бярозу,
Зманіў дзеўку не п'яну, цвярозу.

Каб даў божа — грыбы не радзілі,
Каб дзяўчаты па іх не хадзілі.

Няхай ходзяць маладзіцы-бабы,
Каторыя не баяцца здрады.

— Здрада, здрада, мой міленькі, здрада,
Чаму ў цябе не шчырая праўда?

Учора казаў: «Будзеш шлюбаваці».
Сам паехаў другое шукаці.

Хоць аб'едзеш ўсю нашу краіну —
Ды й не найдзеш над мяне дзяўчыну.

А хоць найдзеш з коньмі і валамі —
Ды й не найдзеш з чорнымі брывамі.

А хоць найдзеш з лічыкам бялейшым –
Ды й не найдзеш з сэрцайкам мілейшым.

## 362а. ОЙ, ТАМ, У ЛЕСЕ, ГРЫБЫ ЗАРАДЗІЛІ

Ой, там, у лесе, грыбы зарадзілі,
Там дзяўчаты па грыбы хадзілі.

Адна дзеўка ў лесе заблудзіла,
К зялёнаму дубу прыблудзіла.

Прыблудзіла к зялёнаму дубу
Ды й сказала: «Начаваці буду».

Ажно гэта — не дуб зеляненькі,
А казак, казача маладзенькі.

— Ой ты, казак, вялікі гультаю,
Выведзь мяне на дарожку з гаю.

— Ой, пастаўлю паўчварты гарэлкі,
Ці не ўзнаю, які розум у дзеўкі.

— Ой, стаўляй ты адну і другую,
Не абманеш мяне, маладую.

## 362б. ДЗЯЎЧЫНАЧКА ПА БАРУ ХАДЗІЛА

Дзяўчыначка па бару хадзіла,
Маладая ў бару заблудзіла.

Прыблудзіла к зялёнаму дубу;
— Вот я тут жа начаваць буду.

Я думала, што дуб зеляненькі,
Ажно ж гэта казак маладзенькі.

— Вот вазьму я гарэлкі паўкварты,
Запрабую ў дзяўчыначкі праўды.

— Вазьмі сабе кварціну, другую,
Не абманеш мяне, маладую.

Як узяў дзяўчыну за белую ручку,
Завёў дзяўчыну пад белу бярозу,

Завёў дзяўчыну пад белу бярозу,
Там абмануў не п'яну, цвярозу.

Паклянуся святому Яну,
Што ніколі на губкі не гляну.

## 363. ОЙ, ТАМ, КАЛЯ ГАЮ

Ой, там, каля гаю,
Ой, там, каля бору
Клікаў казак дзеўку
У нову камору.

— Не пайду, казачэ,
У нову камору,
Бо я, маладая,
Баюсь нагавору.

— Не бойся, дзяўчына,
Не бойся нікога,
Казак маладзенькі
Не зробіць благога.

Не спала ўсю ночку,
Не спала другую,
А на трэцю ночку
Ўзяла да заснула.

А на трэцю ночку
Ўзяла ды заснула,
Казак насмяяўся —
Дзяўчына не чула.

Дзяўчына лажылась,
Як з ружы цвяточак,
А назаўтра ўстала,
Як белы платочак.

Як белы платочак
Ды слёзкамі льецца,
Казак маладзенькі
Ляжыць і смяецца.

— На табе, дзяўчына,
Сто рублёў на мыла,
Сто рублёў на мыла,
А дзвесце на піва.

Мылам умывайся,
Півам напівайся,
Каб маці не знала,
Што са мной гуляла.

На трэцю нядзелю
Маці ўсё дазнала,
Што яе дачушка
З казаком гуляла.

— А ты ж цяпер, шэльма,
Ні дзеўка, ні жонка,
А ты ж цяпер, шэльма,
Чужа пагаворка!

## 364. КАЗАЧЭНЬКА УПІУСЯ, З ДАРОЖАНЬКІ ЗБІУСЯ, ГЭЙ!

Казачэнька ўпіўся, з дарожанькі збіўся, гэй!
Каню вараному на грыву схіліўся, гэй!

Ляці, ляці, коню, у чыстае поле, гэй!
Дзе мая дзяўчыначка пшанічаньку поле, гэй!

Поле яна, поле, кукуль выбірае, гэй!
Каню вараному на грыву кідае, гэй!

Кідай ты, дзяўчына, кукуль выбіраці, гэй!
Паедзем дадому бела ложа слаці, гэй!

Да што б не узнала а том твая маці, гэй!
Не спала ночачку, не спала другую, гэй!

На трэцюю ночку лягла ды й заснула, гэй!
Казак насмяяўся, дзяўчына не чула, гэй!

Ах, божа, мой божа, што я нарабіла, гэй!
На век я радзіну сваю засмуціла, гэй!

Засмуціла бацька, засмуціла маці, гэй!
Засмуціла таго, хто хацеў узяці, гэй!

## 365. ДЗЕ МЯТЛІЦА ПАЛЯГАЛА

Дзе мятліца палягала,
Там Таццяна жыта жала.

Там Таццяна жыта жала,
На дарожку паглядала.

На дарожку паглядала,
Дзе Іванюша паязджае.

Дзе Іванюша паязджае,
Пад Іванам сядло зззяе.

Ты рассукін сын Іваня,
Нашто мяне, млоду, зводзіш?

Не я цябе, млоду, зводжу,
Звяла цябе цёмна ночка.

Звяла цябе цёмна ночка,
Шчэ й горкая гарэлачка.

Шчэ й горкая гарэлачка,
Ужо Таццяна не дзевачка.

Ты рассукін сын Іваня
Насмяяўся нада мною,

Насмяяўся нада мною,
Над няшчаснай сіратою.

## 366. А У ПОЛІ ДУБ ЗЯЛЁНЫ *

А у полі дуб зялёны,
Ніхто ж яго не зламаў,
Пад тым дубам зеляненькім
Казак дзеўку абнімаў.[1]

Цалаваў ён, абнімаў ён,
Пакуль з розуму не звёў,-
Сеў на каня і паехаў,
А дзяўчыну пакінуў

— Аставайся, маладзенька,
Аставайся ты адна.
— Не адна я астаюся,
Як у полі каліна.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

## 367. ДОБРЫ ВЕЧАР, ДЗЕВАНЬКА, КУДЫ ІДЗЕШ?

— Добры вечар, дзеванька, куды ідзеш?
Скажы, скажы праўданьку, дзе жывеш?

— А я жыву ля рэчкі, ля вады,
Збудавала хатаньку з лебяды.

Яшчэ сабе сенечкі прыпляту
З дабёрнага дзерава, з асату.

Дабёрнае дзерава асацец,
Прыдзі, прыдзі, Ясенька маладзец!

— Добры вечар, дзеванька, адчыні,
Сама сабе крыўданькі не чыні.

— Ой, не адчыню, Ясеньку, не адчыню.
Сама сабе крыўданькі не ўчыню.

Ой, не буду, Ясеньку, адчыняць,
Бо ты будзеш ночаньку начаваць.

— Ой, не буду, дзеванька, не буду,
Зыйдзе, зыйдзе месячык — паеду.

Зышоў, зышоў месячык і зара,
— Заставайся, дзеванька, здарава!

Ой, зарасла рэчанька травою,
Засталася дзеванька ўдавою.

## 368. ДЫ УЖО ВЕЧАР ВЕЧАРЭЕ НА ДВАРЭ

Ды ўжо вечар вечарэе на дварэ.
— Куды ж едзеш, мой міленькі, ад мяне?

Чаму ж мяне за ручаньку не бярэш?
Чаму ж мяне ў сад вішнёвы не вядзеш?

А ў тым садзе стаіць ложа часова,
На той ложы — пасцель бела, пухова.

Я й пасцельку ручанькамі абняла:
Да чаго ж нас гэта любоў давяла!

Левай ручкай калысаньку калышу,
Правай ручкай я лісточак напішу.

Правай ручкай я лісточак напішу,
Здам на пошту, да мілога адашлю.

Будзе мілы той лісточак мой чытаць,
Ды па мне ён будзе цяжанька ўздыхаць.

## 369. ОЙ, ЗА РЭЧКАЮ ДЫ ЗА ДУНАЕМ

Ой, за рэчкаю ды за Дунаем
Там пісарык піша.
Ой, там дзеўка маладзенькая
Дзіцятка калыша:

— Да бадай, дзіця, да бадай, дзіця,
З калыбелечкі ўпала,
Як я, дзеўка маладзенькая,
З-за цябе да й прапала.

— Не кляні, дзеўка, не кляні, дзеўка,
Да дзіцяці малога,
А кляні, дзеўка, а кляні, дзеўка,
Пісара маладога:

— Да бадай, пісар, да бадай, пісар,
Да навек не разжыўся,
Як ты з мяне, маладзенькае,
Да й навек наглуміўся.

## 370. ПАСАДЖУ БЯДУ У ЗЯЛЁНЫМ САДУ

Пасаджу бяду ў зялёным саду,
Пад зялёнай вінаградкай,
А сама пайду на ўсю ночку гуляці.
А ў тым саду зялёненькім

Стаіць горніца новая,
А ў той новай горніцы ў цясовенькай
Пісар пісьма піша,
А за печкаю, за кафлянаю
Дзеўка дзіця калыша:
— Люлі, палюлі, ты дзіцятка малая,
За табою, маё дзіцятка,
Уся гульня мая прапала:
— На каго ты, дзеўка,
На каго сільна плачаш?
— На пісара маладога.
— Не плач, дзеўка, на пісара,
Скажы ты, дзеўка, на пісара палкавога.
Ён па свеце пайдзёць,
Усю нясдавачку знясёць.

## 371. А ПАД САСНОЮ, ПАД РАСКОШНАЮ

А пад сасною, пад раскошнаю
Бяда спаці кладзецца.
А як ляжа бяда, ды як ляжа бяда,
На ўсю ночаньку спаці,
А мяне пусці, маладзюсеньку,
У карчомку гуляці.
А ў карчомцы ды за дзверцамі
Ды два пісары пішуць,
А ў каморанцы за дзверцамі
Дзеўка сына калышаць.
І калышаць жа і жалобіць
І смяртэльна праклінаець:
— Ды бадай жа ты, дзіцятанька,
З калыбелля ўпала
Ды навекі прапала,
Як ты мне, маладзенькай,
Белы свет завязала.
— Не кляні, дзеўка, не кляні, дзеўка,
Да дзіцяткі й малога,
Ды кляні ж, дзеўка, ды кляні ж, дзеўка,
Пісара маладога.

## 372. ПАЙДУ Ж Я, ПАЙДУ

Пайду ж я, пайду
Па той сцежачцы,
Дзе я даўна хадзіла,
Ці не ўвіджу ж я,
Ці не ўбачу я,
Каго верна любіла.

Хоць і не яго,
Хоць не самаго,
Хоць таварыша яго.
Разгукаюся, распытаюся
Аб здаровейка ж яго.

А як ён жывець,
А як ён слывець,
А я, бедна, гарую,
А без дроў, без дроў,
Без лучыначкі
Цёмну ночку начую.

А за столікам
Ды за беленькім
Два пісары пішуць,
Ды за люлечкай,
За маленькаю
Дзеўка сына калышаць.

Ды калышучы,
Падбіваючы,
Смяртэльна праклінаець.
— Не кляні ж, дзеўка,
Не кляні ж, дзеўка,
Бо дзіця ж і малое.

Ды кляні ж, дзеўка,
Ды кляні, млода,
Пісара ж маладога.
Любіла ж дзеўка,
Любіла ж млода
З пісарам пагуляці.

Любіла ж дзеўка,
Любіла ж млода
З пісарам пагуляці.
Любі ж, дзеўка,
Любі, красная,
Дзіцянятка люляці.

## 373. ЗАЧЫМ, САЛАВЕЙКА, НЯГРОМКА СПЯВАЕШ

— Зачым, салавейка, нягромка спяваеш,
Ці ты, салавейка, голасу не маеш?

— Страціў я свой голас ў вішнёвым садочку,
У вішнёвым садочку, ў ліпавым кусточку.

— Чаму, кавалеру, ты долі не маеш?
— Страціў я долю праз сваю няволю.

Ў карчомцы бываю, дзевак намаўляю.
Дам табе, дзяўчына, сто рублёў грашыма.

Дам табе, дзяўчына, сто рублёў грашыма,
Каня варанога, сто рублёў другога.

На вараным коню будзеш паязджаці,
А за сто рублёў сына гадаваці.

— Валей жа мне, млодай, сто рублёў не знаць,
Сто рублёў не знаць і сына не гадаваць.

## 374. ОЙ ТЫ, ВАНЯ, ВАНЕЧКА *

Ой ты, Ваня, Ванечка, ты мая душа,
Я з табою, Ванечка, не нажылася.[1]

Як паехаў Ванечка за мора гуляць,
А мяне пакінуў гора гараваць.

Ён мяне пакінуў, мяне не адну,
Ён жа мне пакінуў дзяціну малу.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

## 375. Я КАЛІНУ-МАЛІНУ ЛАМІЛА *

Я каліну-маліну ламіла,[1]
Паціхеньку вячэру варыла.

Кіпі ж, мая вячэранька, сціха,
Буду ждаці я свайго жаніха.

Шчэ й вячэра мая не скіпае,
Як мой мілы на парог ступае.

— Сядзьма, міла, з табой на парозе,
Раскажу, што я чуў у дарозе.

Чуў я, міла, такую навіну,
Што ты маеш малую дзяціну.

— Раскажу табе, мілы, прычыну,
Чаму маю я гэту дзяціну.

Начавалі цыгане-мураўцы
Ды й пакінулі дзяціну на лаўцы.

Начавалі цыгане тры ночы
Ды й пакінулі чорныя вочы.

Давай, мілы, коніка сядлаці
Ды паедзем цыган даганяці.

— Нашто, мілая, каня запрагаці,
Давай будзем усю праўду казаці.

— Ой, выпаў сняжочак бяленькі,
Начаваў тут казак маладзенькі,

Начаваў той казачак тры ночы
Ды й пакінуў мне чорныя вочы.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 375а. Я КАЛІНУ-МАЛІНУ ЛАМІЛА

Я каліну-маліну ламіла,
На каліне вячэру варыла.

— Кіпі, кіпі, вячэрачка, ціха,
А я буду чакаці жаніха.

Ўжо вячэра мая закіпае,
А мой мілы на парог ступае.

— Сядзем, мілы, з табой на парозе,
Раскажы, што ты чуў у дарозе.

— Чуў я, міла, такую навіну,
Што ты маеш чужую дзяціну.

— Начавалі цыгане ў мураўцы
Ды пакінулі дзяціну на лаўцы.

— Давай, міла, каня запрагаці
Ды паедзем цыган даганяці.

— Нашто, мілы, коніка таміці?
Давай будзем праўду гаварыці:

А як выпаў сняжочак бяленькі,
Начаваў у нас казак маладзенькі.

Начаваў ён тры дні і тры ночы
Ды пакінуў мне карыя вочы.

## 376. З ГАРЫ РЭЧКА НЕ ЦЯЧЭ

З гары рэчка не цячэ
З даліны не льецца,
А за дзевіцай улан
Ходзіць і смяецца.

— Ох, уланы, малайцы,
Што у вас за коні?
Асядлайце мне каня,
Памчуся па волі.

— Калі б ты была мая,
Асядлаў бы жыва.
Садзіся  пракачу,
Дзеўка чарнабрыва.

Цераз год яна ідзе,
Галаву схіліла,
На руках яе ляжыць
Уланёнак мілы.

— Ох ты, мамачка мая,
Во табе навука,—
Калыхала ты мяне,
Калышы і ўнука.

— Ох ты, дочачка мая,
Слухаць не хацела.
А цяпер ідзі туды,
З кім савецік мела.

## 377. МАРУСЕНЬКА НЕЗАМОЖНА *

Марусенька незаможна,
Не любіся з казачэнькам,
Бо не можна, бо не можна.[1]

Той казача не прыходзіць,
Не адну ён Марусеньку
З вума зводзіць, з вума зводзіць.

Звёў адну ён, звёў другую,
Звядзе цябе, Марусенька,
Маладую, маладую.

А у лузе пры дубочку
Калыхала Марусенька
Два сыночкі, два сыночкі.

Ай, у лузе, у лужочку
Калыхала Марусенька
Шчэ і дочку, шчэ і дочку.

---

[1] Другі і трэці радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Калыхала і сказала:
— Праз каго я, маладая,
Запрапала, запрапала?

Ці праз людзей, ці праз бога,
Ці праз тога казачэньку
Маладога, маладога?

Не праз людзей, не праз бога,
А праз цябе, й казачэньку,
Маладога, маладога.

### 378. А У ЛЕСЕ НА ДУБОЧКУ *

А у лесе на дубочку (да)
Калыхала дзяўчыненька
Сына, дочку.[1]

Калыхала тай плакала (да):
— Я ж не знала, маладзенька,
З кім гуляла.

Я ж не знала, з кім гуляла (да):
Палюбіла двараніна
Тай прапала.

— Не плач, дзеўка, не плач, красна (да),
Гадуй дзетачак маленькіх —
Будзеш шчасна.

Будзе ветрык павяваці (да),
Тваіх дзетачак маленькіх
Калыхаці.

Будуць пташкі шчабятаці (да),
Тваіх дзетачак маленькіх
Забаўляці.

Стануць дзеткі падрастаці (да),
Будуць пана-ліхадзея
Праклінаці.

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

## 378a. ОЙ, У ЛЕСЕ НА ДУБОЧКУ

Ой, у лесе на дубочку
Калыхала дзяўчынанька сына й дочку.

Калыхала і плакала:
— Ой, чаго ж я, маладая, прычакала?

Ой ты, Ясю-баламуце,
Не пасі ты сваіх коней ў маёй руце.

Твае коні падкаваны,
Патапталі руту-мяту з каранямі.

— Я ж не пасу, я ж не мушу,
Затапіла дзяўчынанька сэрца й душу.

Ой, ці агнём, ці вадою,
Ці тваёю дзявочаю красою,

Ой, не агнём, не вадою,
А сваёю дзявочаю красою.

Ой, дзяўчына, чорны вочы,
Ой, чаго ж ты прыхадзіла да мяне ўночы?

Ці па агонь, ці лучыну,
Ой, чаго ж ты прыхадзіла без прычыны?

## 379. ТАМ, ЗА ЛЕСАМ, БУЙНЫ ВЕЦЕР ВЕЕ

Там, за лесам, буйны вецер вее,
Там Ясенька пшанічаньку сее.

Сее пшаніцу з канца і да канца,
Прыносіць дзяўчыначка яму хлопца.

— Ой, на табе карову рабую —
Гадуй сама дзяціну малую.

Ой, на табе каня варанога —
Скажы, скажы на каго другога.

Ой, на табе паўбаханкі хлеба —
Скажы, скажы на старога дзеда.

### 379а. ЗА ГАРОЮ БУЙНЫ ВЕЦЕР ВЕЕ

За гарою буйны вецер вее,
Там казачок пшанічаньку сее.
А ён сее карэц і паўкарца,
Ажно прыносіць дзяўчынанька хлопца.
— Прымі, прымі ты, казача, хлопца,
Як не прымеш, на зямлі пакіну.
— Ой, не кідай, дзеўка, хлопца маленькага,
Дам табе карову рабую,
Толькі гадуй дзяціну малую!
О дам табе і сем бохнаў хлеба,
Толькі скажы на старога дзеда.
О дам табе сем сівых авец,
Толькі скажы, што не я яго ацец.

### 380. ГЭЙ, У ЛЕСЕ НА ДУБОЧКУ *

Гэй, у лесе на дубочку
Калыхала дзяўчынонька
Сваю дочку.[1]

Калыхала і ўздыхала,
— Да чаго я, маладзенька,
Дачакала.

Лепей было маткі слухаць,
А не гэту калысачку
Цяпер рухаць.

### 381. ДЗЯУЧЫНА ПЫХА НАРАБІЛА ЛІХА

Дзяўчына пыха нарабіла ліха,
Пусціла ў камору жаўнера ціха.
А жаўнер, пабыўшы, прычыну зрабіўшы,
Асядлаўшы каня, ды на вайну паехаў.
— Ох ты, жаўнеру, слаўны кавалеру!

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Праз тваю прычыну радзіла я сына.
— Не плач, дзяўчына, гадуй майго сына,
Як я сувярнуся, з табой ажанюся.
— Ох ты, жаўнеру, слаўны кавалеру,
Ты [illegible] войска вернешся, з другой ажэнішся.
Люлі, люлі, люлі, жаўнераў сынку,
Учора з вячора на свет нараджоны,
Люлі, люлі, люлі, мая горка доля.

## 381а. НЕ ЗНАЛА ДЗЯЎЧЫНА *

Не знала дзяўчына,
Што ёй будзе ліха,
Пусціла жаўнера
Ў каморачку ціха.

Жаўнер, там пабыўшы,
Прычыну зрабіўшы,
Коніка сядлае,
З двара выязджае.

З двара выязджае,
Дзяўчына рыдае.
Дзяўчына астаецца,
Слязьмі абальецца.

Не плач ты, дзяўчына,
Гадуй майго сына.
Назад варачуся,
З табой ажанюся.

## 382. МАЛАДЫ ДУБОЧАК *

— Малады дубочак,
Чом не зелянееш?
Ці сушы баішся,
Ці лугоў жалееш?

— Сушы не баюся,
Луга не жалею,
На гарэ высокай
Ад вятроў марнею.

— Малады малойчык,
Чаго ты журышся?
Ці радні жалееш,
Ці вайны баішся?

— Я радні не маю,
Вайны не баюся:
Палюбіў дзяўчыну,
Цяпер расстаюся.

А дзяўчына тая
Долечкі не мае,
Па садочку ходзіць,
Ручанькі ламае.

Не гаруй, дзяўчына,
Гадуй майго сына:
Як з вайны вярнуся,
З табой ажанюся.

## 382а. ЗЯЛЁНЫ ДУБОЧАК, ЧАМУ НЕ ЗЕЛЯНЕЕШ

— Зялёны дубочак, чаму не зелянееш:
Ці сушы баішся, ці лугу жалееш?

— Лугу не жалею, сушы не баюся,
Дзе я пасаджоны, там не разаўюся.

— Малады малойчык, чаму смутны ходзіш:
Ці вайны баішся, ці айцоў жалееш?

— Вайны не баюся, айцоў не імею,
Маладой дзяўчыны пакідаць жалею.

Малада дзяўчына дурны розум мае —
Па ганачку ходзіць, ручанькі ламае.

— А божа мой, божа, як мне цяжка жыці:
Сем нядзель ляжала, ніхто не даў піці —

Ні айцец, ні маці, а не родны браце,
Праз цябе, малойчык, мушу паміраці.

— Не ўмірай, дзяўчына, гадуй майго сына:
Як з войска вярнуся, з табой ажанюся.

— А каб ты, малойчык, з войска не вярнуўся,
Як ты мяне, млоду, ужо наманўуся.

### 3826. ЗЯЛЕНЫ ДУБОЧАК, ЧОМ НЕ ЗЕЛЯНЕЕШ

Зялёны дубочак, чом не зелянееш,
Ці сушы баішся, ці лугу жалееш?
— Сушы не баюся, лугу не жалею,—
На гарэ высокай дый не зелянею.
— Малады, малойчык, чаго зажурыўся,
Ці айца жалееш, ці вайны баішся?
Айца не жалею, вайны не баюся,
Палюбіў дзяўчыну, цяпер расстаюся!
Дурная дзяўчына дурны розум мае,
Па садочку ходзіць, ручанькі ламае.
Па садочку ходзіць, ручанькі ламае,
Ручанькі ламае, хлопца праклінае:
— Бадай ты, малойцу, з войска не вярнуўся,
Як ты, маладую, мяне назвадзіўся.
Каб табе, малойцу, жоўценькі пясочак,
Як выракся мяне родненькі браточак!
Каб цябе, малойца, сырая зямліца,
Выраклася мяне родная сястрыца.
Каб цябе, малойца, ліхая гадзіна,
Выраклася мяне ўся мая радзіна.
Выракся і бацька, выраклася й маці,
Праз цябе, малойчык, мушу прападаці.
— Не гаруй, дзяўчына, гадуй майго сына,
Як з войска вярнуся, з табой ажанюся.
— Як з войска вярнуўся, са мной не жаніўся
А божа ж, мой божа, каб ты не разжыўся.
Каб цябе, малойца, куля ажаніла,
Праз цябе сваю я прыгажосць згубіла.

## 382в. ДУБОЧАК, ДУБОЧАК, ШТО НЕ ЗЕЛЯНЕЕШ *

— Дубочак, дубочак, што не зелянееш,
Ці сушы баішся, ці дажджу жалееш? [1]

— Сушы не баюся, дажджу не жалею,
Дзе я пасаджаны, там і зелянею.

— Малады малойчык, чаго смутны ходзіш,
Ці вайны баішся, ці матку жалееш?

— Вайны не баюся, матку не жалею:
Палюбіў дзяўчыну,— пакідаць жалею.

Дзяўчына, дзяўчына, гадуй майго сына,
Як з вайны вярнуся, з табой ажанюся.

## 383. ЧЫЯ ТАМ ПШАНІЦА

Чыя там пшаніца —
Доўгія загоны?
Ці не таго хлопца,
Што чорныя бровы?

Чорныя конікі
Па полі хадзілі.
Маладога хлопца
Тры дзеўкі любілі.

Першая любіла —
Хустачку рубіла,
Другая любіла —
Кашульку пашыла.

[Другая любіла —]
[Кашульку пашыла,]
Трэцяя любіла —
Ясеньку ўтапіла.

То табе, Ясенька,
За здраду заплата:
Тры дошкі сасновы
І цесная хата.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

## 384. ДЗЯЎЧЫНАНЬКА ЦІХА*

Дзяўчынанька ціха
Нарабіла ліха:
Пусціла казака
Да каморы сціха.[1]

Дзяўчынанька мала
Ўсю ночку не спала,
Ўсю ночку не спала,
Ўсё лісты пісала.

Пісала лістонькі
На белай паперы,
Слала да казака
Ў чэцвер па вячэры.

Казак, лісты ўзяўшы,
Да й перачытаўшы,
Успомніў аб каханні,
Сільна заплакаўшы.

Закладайце коня,
Коня варанога:
Паеду, паеду
Да кахання свога.

Еду пад вароты,
Радзіма вітае:
— Здароў, казак, здароў,—
Дзеўча сына мае.

З'ехаў казак на двор,
Конь капытцам брэшча,
За ім радзімонька,
Як сабакі, брэша.

Казак да каморы —
Дзяўчына хваруе;
Узяў за ручаньку,
Лічэйка цалуе.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

— Дзяўчынанька люба,
Гасподзь бог з табою.
Як паздаравееш,
Вазьму шлюб з табою.

— Бадай цябе ўзяла
Ліхая гадзіна,—
Адраклась ад мяне
Уся мая радзіма.

Адрокся і бацька,
Адракляся й маці,
А мне, маладзенькай,
Трэба прападаці.

## 385. ЦІХА, ДЗЕЎКА, ЦІХА

Ціха, дзеўка, ціха
Нарабіла ліха,
Заклікала ваячэнька
Да каморы сціха.

Ваячок пабыўшы,
Прычыну зрабіўшы,
На каня сядае,
З падвор'я з'язджае.

Стала дзеўка, падумала,
Тры лісты спісала,
Да таго Ясенька,
Што верна кахала.

А Ясенька, ўзяўшы,
Лісты прачытаўшы:
— Пусці мяне, пане,
З Русі на Валыня.

Пусці мяне, пане,
З Русі на Валыня,
Мае дзеўка сына
Праз маю прычыну.

— Сядлай, Касю, сядлай,
Каня варанога,
На табе, Ясеньку,
На помач другога.

Едзе Ясю, едзе,
Брамы памінае,
Там яго радзіма
Усенька спатыкае:

— Вітай, Ясю, вітай,
Клічуць прыяцелі,
Ўжо твая дзяўчына
На белай пасцелі.

Ходзіць Ясю, ходзіць,
Ходзіць машаруе,
Прыдзе да дзяўчыны,
Ў лічка пацалуе.

— Бадай табе, Ясю,
Ліхая гадзіна
Як мяне выраклася
Ўся мая радзіма.

Ой, выракся ойцец,
Радзімая маці,
Праз цябе, Ясеньку,
Трэба паміраці.

— Не ўмірай, дзяўчына,
Гадуй маго сына,
З Русі павярнуся,
З табой ажанюся.

— Бадай табе, Ясю,
Вайну зваяваці,
Павернешся з Русі,
То не будзеш браці.

За мой вяночак,
За мае таляры,
Каб цябе, Ясеньку,
Вынеслі на мары!

## 386. ОЙ, У ПОЛІ, У ПОЛІ СТАЯЛА БЯРОЗА

Ой, ў полі, ў полі стаяла бяроза,
Пад тою бярозай стаяў улан гожы.

Ды таго улана тры дзеўкі кахалі,
Першая кахана — шыла-вышывала.

Другая кахана — бела вымывала,
Трэцяя кахана — белу пасцель слала.

Трэцяя кахана — белу пасцель слала
Белу пасцель слала ды й зачаравала.

— Каб табе, улане, ліхая гадзіна,
Цураецца мяне ўся мая радзіна.

Цураецца ойцец, цураецца маці,
Праз тваю прычыну мушу паміраці.

— Не ўмірай, дзяўчына, не ўмірай, малода,
Як з вайны вярнуся, з табой ажанюся.

Грача воран, грача, цераз бор лятучы,
Плача улан, плача, у паход ідучы.

Не так жа улане, як млода дзяўчына,
Вышла за вароты да й загаласіла.

Вышла за вароты да й загаласіла,
Дзяржаўшы на ручках уланскага сына.

— Сыночак, сыночак, няма ў моры конца,
Няма, мой сыночак, родненькага ойца.

Сыночак, сыночак, няма ў моры плоду,
Няма, мой сыночак, ойцецкага роду.

## 387. ОЙ, ТАМ ЗА ГАРОЮ

Ой, там за гарою
Крамень краміною.
Ой, там расстаецца
Казак з дзеўчыною.

Казак ад'язджае,
Дзеўка горка плача:
— Скарай цябе божа
За мяне, казача.

Казак ад'язджае,
На двор не ўз'язджае.
З вялікага жалю
Дзеўка памірае.

— Ой, не плач дзяўчына,
Не плач, не журыся,
Ты замуж не выйшла,
А я не жаніўся.

— Ой, як мне не плакаць,
Ой, як не думаці,
Злякаецца бацька
І родная маці.

## 388. ОЙ, УЧОРА З ВЯЧОРА *

Ой, учора з вячора
Зышоў месяц, ясна зора,—
Там мая дзяўчына,
Сэрцайка адзіна,
Ў чыстым полі лён поле.

Ой, яна там лён поле,
Угару паглядае:
— Ой, дзе мой міленькі,
Галубок сівенькі
Із арламі лятае!

Ой, лятае, лятае,
Да бруку прыпадае:
— Ой ты, бруку, бруку,
Падай, міла, руку,
Ой, падай, міла, руку!

— Я не буду даваці
І з табою размаўляці —
Сядлай свайго коня,
З'язджай з майго двора,
Ты не мой, я не твая!

Яся коніка сядлае,
І да яго прамаўляе:
— Нясі мяне, конік,
Нясі, вараненькі,
Да быстрага Дунаю!

Ой, Дунаю, Дунаю,
Я на цябе паглядаю,
Ці мне тапіціся,
Ці мне жывіціся,—
Сам я, млоды, не знаю!

Бяры, божанька, душу,
А, рыбанька, бела цела,—
Праз цябе, дзяўчына,
Сэрцайка адзіна,
Сваё жыцце канчаю.

## 389. І АГОНЬ ГАРЫЦЬ, І ВАДА КІПІЦЬ

І агонь гарыць, і вада кіпіць,
Маладзенькае сэрданька баліць.

Ой, баліць, баліць, не знае, па кім:
Ці па ойчаньку, ці па матуленьцы?

Не па ойчаньку, не па матуленьцы,
А па той дзеўцы, па красавіцы.

Ой, пайду, пайду я ў канюшаньку,
Забяру каня неязджонага,

Забяру каня неязджонага,
Неязджонага, невучонага,

Сяду, паеду на магілачку,
Прывяжу каня за ляшчыначку,

Прывяжу каня за ляшчыначку,
А сам я пайду на магілачку.

Жоўценькі пясок, сырая зямля,
Тут пахавана мілая мая.

Жоўценькі пясок рассыпаецца,
Мілая мая адзываецца:

Цяпер я твая не таварачка,
Маладым хлапцам не падманачка.

## 390. ТЫ, МОЙ КАЗАЧА, ТЫ, МОЙ ЛЮБЕНЬКІ

— Ты, мой казача, ты, мой любенькі,
Калі мы будзем ад'язджаць?
— Тады мы будзем ад'язджаць,
Калі ўсе людзі лягуць спаць.

— Ты, мой казача, ты, мой любенькі,
А дзе ж мы будзем начаваць?
— Я пад вярбою і ты са мною,
Ты ж мая люба, дарага.

— Ты, мой казача, ты, мой любенькі,
А што мы будзем з табой слаць?
— Сцялі радзенца, ты ж маё сэрца,
Ты ж мая люба, дарага.

— Ты, мой казача, ты, мой любенькі,
А чым мы будзем накрывацца?
— Я чорнай хмарай, ты — людскай славай,
Ты ж мая люба, дарага.

— Ты, мой казача, ты, мой любенькі,
А чым мы будзем умывацца?
— Ой, я вадою, а ты — слязою,
Ты ж мая люба, дарага.

— Ты, мой казача, ты, мой міленькі,
А што мы будзем снедаці?
— Я — белы булкі, ты — думай думкі,
Ты ж мая люба, дарага.

## 391. КАЗАК АД'ЯЗДЖАЕ

Казак ад'язджае,
Дзяўчынанька плача.
— Куды едзеш, казача?

— Дзяўчынанька міла,
Еду-ад'язджаю
На Украіну далёку.

— Казача-саколе,
Вазьмі мяне з сабою
На Украіну далёку.

— Дзяўчынанька міла,
Што будзеш рабіці
На Украіне далёкай?

— Буду шыці, прасці,
Зялёнае жыта жаці,
Цябе верна кахаці.

— Дзяўчынанька міла,
Што будзеш ты есці
На Украіне далёкай?

— Сухары з вадою,
Толькі б, сэрца, з табою
На Украіне далёкай.

— Дзяўчынанька міла,
Дзе будзеш ты спаці
На Украіне далёкай?

— У стэпе пад вярбою,
Толькі б, сэрца, з табою
На Украіне далёкай.

— Дзяўчынанька міла,
Чым будзеш укрывацца
На Украіне далёкай?

— Цябе ўкрые чорна хмара,
Мяне ўкрые цёмна слава
На Украіне далёкай.

— Дзяўчынанька міла,
Чым будзеш умывацца
На Украіне далёкай?

— Ты умыешся расою,
А я ўмыюся слязою
На Украіне далёкай.

## 392. ОЙ, ПАЙДУ Ж БО Я, МАЛАДЗЕНЬКАЯ

Ой, паиду ж бо я, маладзенькая,
Ды й на крутую гару.
І сюды гляну, і туды гляну —
Аж пад ясную зару.

Ой, я думала, маладзенькая,
Ой, што сам конь лятае,
Аж мой міленькі, чарнабрывенькі
На сівым кані грае.

— Годзе, міленькі, да й чарнабрывенькі,
На сівым кані граці,
Сядай ты са мной, маладзенькаю,
Вячэру вячэраці.

— Мая міленькая, мая дарагая,
Ой, вячэрай ты сама,
Бо мне запісана, ўжо заказана
А да войска дарожанька.

— Ой, табе, міленькі, да войска дарога,
А мне гасцінец біты.
Ой, табе, міленькі, хустачка шаўкова,
А мне вяночак віты.

## 393. СМУТНЫ ВЕЧАР, ЦІХІ РАНАК

Смутны вечар, ціхі ранак,
Дзе ж паехаў мой каханы?

Ой, ён едзе, а я бачу,
Ён смяецца, а я плачу.

Ён паехаў да й не будзе,
А хто мяне любіць будзе?

Ён паехаў, паязжае,
З стрэмя ножак не ўнімае.

Як аб'ехаў ўсю краіну —
Пусціў каня ў даліну.

Пусціў каня ў даліну,
А сам лёг спаць на часіну.

Спіць часіну, спіць другую,
А трэцюю — шчаслівую.

Ідуць дзеўкі жыта жаці,
Сталі казака ўзбуджаці.

— Уставай, казак, годзе спаці:
Хочуць твайго каня ўзяці.

— Няхай бяруць — другі будзе,
Мяне заб'юць — жаль не будзе.

## 394. ДЗЯУЧЫНА ЖАУНЕРАНЬКУ ЛЮБІЛА

Дзяўчына жаўнераньку любіла,
Яна яго пад рукі вадзіла.
Ой, вадзіла, праваждала.
Віном, мёдам частавала.
— А цяпер жа я вадзіць не буду,
Віном, мёдам частаваці не буду.
Ой, [redacted] знаю, маладая,
Ой, я знаю, няшчасная,
Не мой будзеш.
Ты паедзеш, мой міленькі, за гару,
А я цябе вочанькамі правяду.
— Праводзь, міла, вочанькамі,
Не плач, міла, слёзанькамі,
Не дадавай сэрцу тугі.
— Ой, вярніся, мой міленькі, вярніся,
Хоць са мною віна, мёду напіся.
У чыстым полі крынічанька,
Там зімная вадзічанька.

## 395. А ЧЫЙ ГЭТА ГОЛАС *

А чый гэта голас
Раздаецца ў полі?
То мая падруга
Расстаецца з Колем.

Праваджала яго
Па чыстаму полю,
Гаварыла яму
Патайныя рэчы:

— Куды, мілы, едзеш?
Куды ад'язджаеш?
На каго, мой мілы,
Мяне пакідаеш?

— Пакідаю цябе
На людзей, на друга,
На людзей, на друга —
Нас на свеце многа.

На людзей, на друга —
Нас на свеце многа,
Нас на свеце многа —
Выбірай другога.

— Выбіраці буду,
Ды любіць не буду,
Пра цябе, мой мілы,
Павек не забуду.

## 396. ШУМЯЦЬ ВЕРБЫ КАЛЯ ГРЭБЛІ *

Шумяць вербы каля грэблі,
Што я пасадзіла;
Няма майго міленькага,
Што я палюбіла.[1]

Няма яго і не будзе,—
Паехаў далёка,
А мне кажа:
— Расці, дзеўка, да другое вясны.

Расла, расла, падрастала
Да другое вясны,
Гадок ждала, другі ждала
Да плакаці стала.

Не я яго узлюбіла,—
Узлюбіла маці;
— Праз цябе я, мая маці,
Буду гараваці.

## 396а. ШУМІЦЬ ЛІСЦЕ, ШУМЯЦЬ ВЕРБЫ *

Шуміць лісце, шумяць вербы,
Што я(й) насадзіла.
Няма ж майго міленькага,[1]
Што я(й) палюбіла.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Няма ж яго ды не будзе,
Паехаў ў Адэсу.
Сказаў — расці, расці, дзяўчыначка,
На трэцюю весну.

Расла, расла дзяўчыначка,
Расці перастала,
Ждала, ждала казачэньку
І плакаці стала.

Плачце, вочы, плачце, кары,
Така ваша доля.
Палюбіла казачэньку
Без таскі, без гора.

Не сама я палюбіла,
Палюбіла маці,
Заставіла сваю дочку
Увесь век гараваці.

### 3966. У КАНЦЫ ГРЭБЛІ ШУМЯЦЬ ВЕРБЫ

Ў канцы грэблі шумяць вербы,
Што я іх садзіла.
Няма таго казачэнькі,
Што я палюбіла.
Няма яго і не будзе
Паехаў ў Адэсу.
Расці, расці, дзяўчыначка,
На будучу весну.
Расла, расла дзяўчыначка,
Расці перастала.
Ждала, ждала казачэнька
Ды плакаці стала.
Плачце, вочы, плачце, кары,
Така ваша доля,
Палюбіла казачэнька
Тры годзікі ўчора.
Не я яго палюбіла,
Палюбіла маці,
Абяцала казачэньку

Тры хустачкі даці.
Адну дала, другу дала,
Трэцю затрымала,
Чацвёртаю бяленькаю
Ручанькі звязала.
Ў канцы грэблі шумяць вербы,
Што я іх садзіла,
Няма таго казачэнька,
Што я палюбіла.

## 396в. ШУМЯЦЬ ВЕРБЫ, ШУМІЦЬ ЛІСЦЕ

Шумяць вербы, шуміць лісце,
Што я насадзіла.
Няма таго міленькага,
Што я палюбіла.

Ой, няма яго ды й не будзе,
Паехаў ў Адэсу:
А мне сказаў: расці, дзеўча,
На другую весну.

Расла, расла дзяўчыненька,
Расці перастала.
Ждала, ждала казачэньку
Ды й плакаці стала.

— Не разлівай, маці, вады,
Што я нанасіла,
Не праклінай, маці, хлопца,
Што я й палюбіла.

— Буду ліці, разліваці
Ваду, што насіла,
А нялюбага мне зяця
Буду чараваці.

Ачарую ручкі, ножкі,
Шчэ чорныя бровы,
Шчасліва тая дзяўчына,
Што не знае любові.

## 397. ПАХАДЗІЛА ДЗЕВАЧКА ПА САДОЧКУ

Пахадзіла дзевачка па садочку,
Закалола ножачку на быльнёчку.

А мне тая ножачка дый не больна,
Любіў мяне міленькі, дый нядоўга.

Не доўга, не маленька — тры гадочкі,
А паехаў міленькі ў гарадочкі.

З усімі дзевачкамі папрашчаўся,
А са мною, моладай, пастыдаўся.

А я за ім, молада, не ганюся,
На другога, лепшага, спадзяюся.

Гоніцца душа яго ўсё за мною,
За маёю русаю за касою.

## 397а. ОЙ, ХАДЗІЛА МАШАНЬКА *

Ой, хадзіла Машанька,
Ой, па садочку,
Эй, закалола ножаньку
На вішнёчку.[1]

Баліць, баліць ножанька,
Ой, ды не больна,
Эй, любіў хлопец дзяўчоначку,
Ды не доўга.

Забіраюць парнішачку,
Ой, у салдаты,
Эй, забылася дзяўчоначка
Папытаці.

Забылася дзяўчоначка,
Ой, папытаці:
— Эй! Ці мне замуж выхадзіці,
Ці гуляці?

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

— Гуляй, гуляй, дзяўчоначка,
Ой, як гуляла.
Эй, тапчы, тапчы чаравічкі,
Як таптала.

Не сцялі ты пасцель белу,
Ой, як ты слала,
Ой, не кажы ты хлопцам праўду,
Як казала.

Яны тваю пасцель белу,
Ой, параскінуць,
Эй, яны цябе любіць будуць,
Ды пакінуць.

### 398. ОЙ, КРАСНА Ж Я*

Ой, красна ж я
Па саду гуляла,
Красна ж я
Крапівушку жала.

Ой, жала ж я —
Нямножка нажала,
Здайся ж, я
З нікім не стаяла.

Ой, здайся ж, я
З нікім не стаяла,
Толькі ж я
З мілым гаварыла:

— Мой міленькі,
Дружочак сардэчны,
Чула ж я
На цябе патугу,—

Ой, чула ж я
На цябе патугу,
Пойдзеш ты
У ваенную службу,

Ой, вазьмеш ты
Мяне за сабою,
Назавеш
Раднюю сястрою.

— А ў тым палку
Афіцэраў многа,
Усе знаюць
Мяне, маладога.

Ой, што ў мяне
Радной сястры няма,
Толькі ёсць
Жана маладая.

Ой, толькі ёсць
Жана маладая,
Ды тая
Глупы розум мае,

Ой, ды тая
Глупы розум мае,
Што мужа
Братам называе.

## 399. АЙ, У ПОЛІ БЯРОЗАЧКА СТАЯЛА

Ай, у полі бярозачка стаяла,[1]
З-пад яе крынічанька працякала.
Маладая малодачка ваду брала,
Ваду брала, брала, уздыхала,
У яе, белае бярозы, спапытала:
— Што, чаго ты, малодачка, уздыхаеш?
— А як жа мне, бярозачка, не ўздыхаці?
Заказалі майму міламу ў дарогу,
У вялікую дарогу, у салдаты.
З тае яму дарожанькі не звярнуцца.
Што забыла міленькаму прыказаці,
Што не пі-ка, мой міленькі, гарэлачкі,

[1] Кожны радок паўтараецца.

Не ўдавайсь, мой міленькі, у вялікі сон,
Не ўлюбляйсь, мой міленькі, ў чужых жонак.
Гарэлачка, мой міленькі, не здароўе,
Вялікі сон, мой міленькі, збязуміць,
Чужы жоны, харошыя, з розуму звядуць.

## 400. ОЙ, ТАМ НА ГАРЭ, ТАМ НА ВЫСОКАЙ *

Ой, там на гарэ, там на высокай,
Ой, там сівы конь да разгуляўся,
Малады хлопец, маладзюсенькі,
На вайну, вайну, ах, прыбіраўся.

Ах, прыбіраўся, да ўсім скланяўся:
Айцові, матулі, а сваёй мілай,
А сваёй мілай, а чарнабровай,
Ох, да найніжай ён скланяўся.

— Пакідаю це, мая мілая,
Пакідаю ў цёмненькім да лесе,
Гаруй, гаруй, як ластаўка ў стрэсе.

Цябе не знала, не гаравала,
Не гаравала, а цяпер мушу.
Высушыў мяне, маладзенькую,
Высушыў маю, ох, высушыў душу.

## 401. ДЗЯЎЧЫНАЧКА ПШАНІЧАНЬКУ ЖАЛА

Дзяўчыначка пшанічаньку жала,
Жала яна, жала — нямножка нажала.

Жала яна, жала,— нямножка нажала,
А здаецца ж: ні з кім не стаяла.

А здаецца ж: ні з кім не стаяла,
Толькі з сваім мілым гаварыла.

— Міленькі ты мой, любенькі ты мой,
Ты едзеш у войска — вазьмі мяне з сабой.

Ты едзеш у войска — вазьмі мяне з сабой,
Назаві мяне ты роднаю сястрой.

— Дзяўчына мая, дурны розум твой:
Мяне ў войску ўсе пісары знаюць.

Мяне ў войску ўсе пісары знаюць,
Што ў мяне роднай сястры няма,

Што ў мяне матулька старая,
Што ў мяне жана маладая.

## 402. ОЙ, У ЛУЗЕ КАЛІНА *

Ой, ў лузе каліна,[1]
Ой, ў лузе, сэрданька, каліна,
Там стаяла дзеўчына,
Там стаяла, сэрданька, дзеўчына,
Цвет-каліну ламала,
Цвет-каліну, сэрданька, ламала,
На улана кідала,
На улана, сэрданька, кідала,
Ой, улане, саболю,
Ой, улане, сэрданька, саболю,
Бяры мяне з сабою,
Бяры мяне, сэрданька, з сабою,
Буду табе жаною,
Буду табе, сэрданька, жаною.
Я й і коніка папасу,
Я й і коніка, сэрданька, папасу,
Я й і да стайні завяду,
Я й і да стайні, сэрданька, завяду,
Аўса, сена залажу,
Аўса, сена, сэрданька, залажу.
Пасцель белу пасцялю,
Пасцель белу, сэрданька, пасцялю.
Яшчэ ж таму спаць лягу,
Яшчэ ж таму, сэрданька, спаць лягу.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

## 403. ОЙ, У ПОЛІ, ПОЛІ НЕ ДЫМ, НЕ ТУМАН

Ой, у полі, полі не дым, не туман,
Да паехаў мой міленькі ў далёкі край,

А я, маладзенька, па ём журуся.
Краса мая, краса мая, дзе ты дзелася,

Ці я цябе, красную, ў воду ўпусціла,
Ці я цябе, красную, ў саду згубіла?

Да ты, дзяўча, ты дурное, неразумнае:
Да ты, маладзенька, нас двaіх любіла,

Да ты, маладзенька, нас двaіх любіла,
Да ты сваю красату між нас згубіла.

## 404. НАПІСАЛА Б ПІСЬМО

Напісала б пісьмо,
Да пісаць не ўмею,
Наняла б пісара,
Пісарам не веру;
Пісары зладзеі,
Абмануць нас захацелі.
Напішу я пісямечка
Сваімі думамі.
Напішу я пісямечка
Сваімі думамі,
Пашлю я пісямечка
Буйнымі вятрамі.
Буйныя вятры калышуць,
Мілому пісьмо прыносяць;
Мілы пісямцо чытае,
Слёзкамі аблівае.

## 405. ЗА ЛЮТЫМІ МАРОЗАМІ

За лютымі марозамі
Мая рута не ўсходзіць,
За людскімі языкамі
Мой мілы не ходзіць.

Узайдзі, узайдзі, мая рута,
Узайдзі, хоць пакажыся,
Прыдзі, прыдзі, мой міленькі,
Людзям паругніся.
На вуліцы на шырокай
Дзяўчына гуляець,
Рад бы я яе зачапіць,
Будзе маці лаяць.
Матуленька, сардуленька,
Не паглядай скрыва,
Няпраўданька твая будзе,
Штоб нас разлучыла.
Разлучыць нас зямля і вада
І смерць няшчасная.
Ты умры з вечара,
А я умру з ранку,
Ты схавай нас, матуленька,
Хоць у адну ямку.
Любіліся, кахаліся,
Нас маці не знала,
А цяпер нам расстаціся,
Як цёмная хмара.

## 406. ПА САДОЧКУ ПАХАДЖАЮ

Па садочку пахаджаю,
Сама сабе разважаю.

Сама сабе разважаю:
Каго люблю, ды не маю.

Каго люблю, ды не будзе,
Адлучылі яго людзі.

Адлучылі, адсудзілі,
Каб мы ў пары не хадзілі.

Каб мы ў пары не хадзілі,
Адзін другога не любілі.

Я, малада, пакарана:
У мяне пара не дабрана.

Пайду ў рэчку утаплюся
Ці аб камень разаб'юся.

Няхай усе людзі знаюць,
Што з кахання паміраюць.

— Ой, у садзе вішня расла,
Не плач, дзеўка, не плач, красна:

Будзеш меці з кім гуляці,
Галовачку хлапатаці.

## 407. ОЙ, ВІШАНЬКА-ЧАРЭМШАНЬКА

— Ой, вішанька-чарэмшанька,
Чаму ягад не родзіш?
Ой, чаму ты, дзяўчынанька,
Гуляць не выходзіш?

— Як мне ягады радзіці —
Корань высыхае.
Як мне гуляць выхадзіці —
Мілы пакідае.

— Ой, дзяўчына, дзяўчынанька,
Ці будзеш тужыці,
Як паеду я ў салдаты
На тры гады служыці?

— А я выйду на вуліцу
Ды й моцненька крыкну:
Ой, як жа я, мой міленькі,
Без цябе прывыкну?

— Ой, прывыкай, мая міла,
Так, як і за мною.
— Сэрца баліць, душа вяне,
Мілы, за табою.

Ой, вярніся, казачэнька,—
Маці умірае.
— Не вярнуся, бо спазнюся,—
Хай бог забірае.

— Ой, вярніся, казачэнька,—
Дзяўчына ўмірае.
— Буду ехаць, каня гнаці,
Каб жыву застаці.

Пад'язджае казачэнька
Пад сяло блізенька.
Ударылі па дзяўчыне
Звоны галасенька.

Пад'язджае казачэнька
Пад сяло Дубінку —
Сталярыкі-мулярыкі
Робяць дамавінку.

Сталярыкі-мулярыкі,
Нашто дамавінка?
— Цераз цябе, казачэнька,
Памёрла дзяўчынка.

— Ой, казала дзяўчыначка:
«Не буду тужыці».
А цяпер як затужыла –
Дык рукі зламжыла.

## 408. СІЗ ГАЛУБЧЫК, ДУША МОЙ

Сіз галубчык, душа мой,
Жаль расстацца нам з табой.
Эй! Нам з табой.

Жаль расстацца нам з табой,
Як рыбачцы су вадой.
Эй! Су вадой.

Як рыбачцы су вадой,
Як плотачцы з акуньцом.
Эй! З акуньцом.

Як плотачцы з акуньцом,
Так мне з табой, малайцом.
Эй! Малайцом.

## 409. ПА ДУБРОВЕ, ПА ЗЯЛЁНАЙ

Па дуброве, па зялёнай
Эй, хлопец дзеўку водзіць.

А ён водзіць і гаворыць,
Эй, дзеўку навучаець.

— Во табе, дзевачка, навука,
Эй, з малайцом разлука.

Салучаліся мы з табою,
Эй, ва ў новай каморы.

Разлучаліся мы з табою,
Эй, у зялёнай дуброве.

Салучаліся мы з табою,
Эй, нас людзі не зналі.

Разлучаліся мы з табою,
Нас людзі ўсе ўвазналі.

Усе людзі, усе людзі,
Эй, усе дробныя дзеці.

Салучаліся мы з табою,
Эй, гарэлачку пілі.

Разлучаліся мы з табою,
Эй, мы слёзачкі лілі.

## 410. ОЙ, ПАЙДУ Я КАЛЯ ЛУГА

Ой, пайду я каля луга,
Шукаючы свайго друга.

А ў том лузе нікагенька,
Толькі ціхі салавейка.

Салавейка на каліне,
Мой міленькі на Ўкраіне.

— Салавейка, лець да бору,
Мой міленькі, едзь дадому —

На цёплую вячэраньку,
На белую пасцеленьку:

Вячэранька мядовая,
Пасцель бела пуховая.

Салавейка не злятае,
Міленькі не прыязджае.

## 411. КАЛІНА-МАЛІНА

— Каліна-маліна,
Што не расцвітаеш?
Малада дзяўчына,
Што стаіш, думаеш?

— Я стаю, думаю
І думаці буду:
Мілы на Украіне —
Успамінаці буду.

Буду ўспамінаці,
Лісточкі пісаці,
Лісточкі пісаці,
На Украіну слаці.

Лісточкі пісала
Белымі рукамі
І передавала
Буйнымі вятрамі.

— Ляці, мой лісточак,
Ляці на Украіну,
І ўпадзі, лісточак,
Міламу ў пярыну.

Мілы як праснецца,
За лісток вазьмецца,
Лісток прачытае,
Мяне ўспамінае.

## 412. ПАЕХАЎ МОЙ МІЛЫ БЫСТРАЙ РАКОЮ

Паехаў мой мілы быстрай ракою,
Адламаў ветачку правай рукою.

А ў правай ручачцы ветачка звяла,
Я свайго мілага тры гады ждала.

Тры гады, тры гады, тры гадзіначкі,
Прыехаў мой мілы з Украіначкі.

— Чаму ж ты не ехаў, як я казала —
Я ж усю ночачку хвора ляжала.

Чаму ж ты не ехаў, як я вялела —
Праз усю ночачку свечка гарэла.

## 413. ЗА ЗЯЛЁНЫМ ДЗЯРЭВЕЙКАМ

За зялёным дзярэвейкам
Бяроза бялее,
За табою, дзяўчыначка,
Маё сэрца млее.

Ой, ідзі ж ты, дзяўчыначка,
Хоць каня паіці,
А я выйду, глядзець буду,
Як конь будзе піці.

Ой, ідзі ж ты, дзяўчыначка,
Хоць з вядром па воду,
А я выйду, глядзець буду,
На тваю паходу.

Голуб сівы, голуб сівы,
Галубка сівейша,
Бацька мілы, матка міла,
Дзяўчына мілейша.

З бацькам жыву, з маткай жыву
Ды не нажывуся,
А з табой, дзяўчыначка,
Не нагаваруся.

## 414. ОЙ, ГАЮ МОЙ, ГАЮ

Ой, гаю мой, гаю,
Я на цябе гляну.
Выпусціла малойчыка,
Да ўжо не спаймаю.

А хоць жа спаймаю,
Ды ўсё ж не такога,
Прыгарнула к свайму сэрцу
Дружка нелюбога.

На новы вароты
Сакол прылятае.
Верны дружок у дзяўчыны
Ўсю праўду пытае:

— Дзяўчына, дзяўчына,
Скажы верну праўду:
Ці ты мяне верна любіш,
Ці на яку здраду?

— Ох, я цябе люблю,
Сам бог гэта знае,
Бадай таму цяжка жыці,
Хто нас разлучае.

## 415. ПАД ДУБІНАЮ, ПАД ЗЯЛЁНАЮ

Пад дубінаю, пад зялёнаю
Там сядзеў галуб з галубінаю.[1]

Яны сядзелі, любаваліся,
Правым крыллейкам прыкрываліся.

Прыляцеў другі з другой стараны,
Забіў галуба, галубка — удава.

Прыляцеў другі з другой стараны,
Прыгнаў галубкоў сорак чатыры.

---

[1] Апошні радок кожнай страфы паўтараецца.

Сыплю пшаніцы, лею вадзіцы:
— Пі, еж, галубка, малада ўдава.

— Не хачу есці, не буду піці,
Няма галубка, няма з кім жыці.

— Ляці, галубка, з канца да канца,
Выбірай сабе свайго малайца.

— Ой, я лятала, пералятала,
Няма галубка, што я кахала.

У майго галубка сівыя крыльца,
Проціў сэрцайка залата пярынка.

## 415а. ОЙ, ТАМ, НА ГАРЭ, ОЙ, ТАМ, НА КРУТОЙ

Ой, там, на гарэ, ой, там, на крутой,
Ой, там гуляла пара галубоў.
Яны гулялі, сазываліся,
Шызымі крыламі абнімаліся.
Адкуль узяўся ахотнік-стралец,
Разбіў, разагнаў пару галубоў.
Галуба ўбіў, галубку злавіў,
Узяў пад палу, панёс дадому.
Насыпаў пшанца аж да каленца,
Наліў вадзіцы з чыстай крыніцы.
Галубка не есць, галубка не п'е,
А ўсё на ту гору, ўсё плакаць ідзе.
— Галубка мая шызакрылая,
Чаму ж ты такая гаратлівая?
— А як жа мне жыць ды не гараваць,
Была я у пáры, цяпер я адна.
— А ў нашым сяле, блізка ад мяне,
Блізка ад мяне ёсць сад для цябе.
А ў тым саду сем пар галубей —
Лятай, выбірай, каторы мілей.
— Я й там бывала, усіх відала —
Таго не найшла, каго ўцярала.
Не тое пярцо, не тое крылцо,
Не той галасок, не мілы дружок.

## 415б. ОЙ, ТАМ, НА ГАРЫ

Ой, там, на гары,
Ой, там, на крутой
Сядзела на ёй
Пара галубоў.

Сядзелі яны,
Любаваліся,
Сізымі крыламі
Абнімаліся.

Да ўзяўся стралец,
Добры маладзец,
Разбіў — разлучыў
Пару галубоў.

Голуба забіў,
Галубку падбіў —
Узяў пад палу,
Занёс дадому.

Насыпаў пшаніцы
Пад самыя крыльца,
Наліў вадзіцы
Аж пад каленца.

Галубка не п'е,
Не п'е, не клюе,
На крутую гару
Усё плакаць ідзе.

— Галубка мая
Сізакрылая,
Чаго ж ты такая
Журбатлівая?

— Не буду есці,
Не буду піці,
Забіў міленькага,
Няма з кім жыці.

— Ой, ёсць у мяне
Семсот галубей,
Лятай, выбірай,
Каторы мілей.

— Я й выбірала,
Усіх перабрала,
Няма такога,
Як я кахала.



25. Зак. 15

## 416. ОЙ, З-ПАД ЛЕСІКУ, ЛЕСУ ЦЁМНАГА

Ой, з-пад лесіку, лесу цёмнага,
Ой-лі, ой-люлі, лесу цёмнага.

Што з-пад гаіку, з-пад зялёнага,
Ой-лі, ой-люлі, з-пад зялёнага.

Тудой ішлі-прайшлі ўсё два малайцы,
Ой-лі, ой-люлі, ўсё два малайцы.

Усё два малайцы, абодва холасты,
Ой-лі, ой-люлі, абодва холасты.

Яны йшлі-прайшлі, станавіліся,
Ой-лі, ой-люлі, станавіліся.

За адну дзевачку пасварыліся,
Ой-лі, ой-люлі, пасварыліся.

— Вы ж не біцеся, не сварыцеся,
Ой-лі, ой-люлі, не сварыцеся.

Аднаму каму я застануся,
Ой-лі, ой-люлі, я застануся:

Ці то старшаму, ці то младшаму,
Ой-лі, ой-люлі, ці то младшаму.

Старшы моладзец ўзяў за ручаньку,
Ой-лі, ой-люлі, ўзяў за ручаньку

Да павёў яе ды к таварышам,
Ой-лі, ой-люлі, ды к таварышам.

— Ці пахваліце маю дзевачку,
Ой-лі, ой-люлі, маю дзевачку?

Хоць пахваліце, то не возьмеце,
Ой-лі, ой-люлі, то не возьмеце.

Хоць пагудзіце — не разлучыце,
Ой-лі, ой-люлі, не разлучыце.

## 417. НЯМА ЦВЕТУ СІЛЬНЕЙШАГА

Няма цвету сільнейшага,
Як сінь васілёчак,
Няма друга вярнейшага,
Як мілы дружочак,
Сядзіць сабе за столікам,
Як сінь галубочак.
На ём світа шоўкам шыта,
Боцікі казловы;
На ём боцікі казловы,
Жупанічак новы,
На ём шапачка баброва,
Галоўка кудрава.

## 418. ВОЙ, Я ХАДЖУ, ПАХАДЖАЮ *

Вой, я хаджу, пахаджаю
Па чыстаму полю,
Сею, сею, рассяваю
Сваю горку долю.

Ўзыйдзі, мая горка доля,
Густымі ўсхадамі,
Цвіці, мая горка доля,
Сінімі цвятамі!

Нішто, нішто так не сіне,
Як сінь васілёчак,
Ніхто, ніхто так не верны,
Як мой міл дружочак...

## 419. ДЗЕВАЧКА-СІРОТАЧКА

Дзевачка-сіротачка
За гарой жыта жала,

За гарой жыта жала,
Сама з сабой размаўляла:

— Ой, туга мая, туга,
Няма майго друга,

Каб жа мне к гэтай тузе
І мой міленькі ка мне.

Хоць я б ночку не даспала
Ды з міленькім размаўляла.

## 420. ПАСЕЮ ГУРОЧКІ *

Пасею гурочкі
Нізка над вадою,
Сама буду паліваці
Дробнаю слязою.[1]

Выраслі гурочкі
У чатыры радочкі,
Не бачыла міленькага
Чатыры гадочкі.

Толькі і спаткала,
Як этапам гналі,
Я ж хацела ручку даці,
Ды стража стаяла.

Я яму сказала,
А ён мне ні слова:
Махнуў беленькім платочкам —
Будзь, міла, здарова.

Я яму пісала
Беленькі лісточак —
Прыедзь, прыедзь, мой міленькі,
Хоць на адзін часочак.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.

## 421. ПАВЕНЬ, ПАВЕНЬ, БУЙНЫ ВЕТРУ *

— Павень, павень, буйны ветру,
З-за круценькае гары,
Прыедзь, прыедзь, мой міленькі,
Ды з чужоі стараны! [1]

— Як я маю павеяці,
Калі крутая гара?
Як я маю павярнуцца,
Калі чужа старана?

— Пакінь, пакінь ў чыстым полі
За гарою адзін жыць,
Прыбудзь, прыбудзь ты да мяне,
Хоць на дзень пагаварыць.

Пакінь, мілы, чарнабрывы,
На сівым каню лятаць:
Ідзі ка мне, маладоі,
Вячэраньку вячэраць.

Я думала, маладзенька,
Што адна спаці лягла,
А ж я свайго міленькага
Правай ручкай абняла.

## 422. ОЙ, Я ЖЫТА ДЫ НЕ СЕЯЛА *

Ой, я жыта ды не сеяла,
Само яно ўсходзіць.
Ой, я хлопцаў ды не любіла,
Самі яны ходзяць.[2]

Не хадзіце, мае хлопчыкі,
Каля майго саду.
І не думайце, малойчыкі,
Што я дам пасаду.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.
[2] Тое ж.

Не хадзіце, мае хлопчыкі,
Я не ваша буду.
Я й удала, я й харошая,
Без вас перабуду.

Не хадзіце, мае хлопчыкі,
Каля маёй хаты,
Не тапчыце вы, малойчыкі,
Мае руты-мяты.

Не для вас яе пасеяла,
Штодзень палівала,
Для таго яе пасеяла,
Каго я кахала.

## 423. УЗЫЙДЗІ, УЗЫЙДЗІ, ЯСЕН МЕСЯЧЫК

— Узыйдзі, узыйдзі, ясен месячык,
Як млыновае кола,
Выйдзі, дзяўчына, сэрца ядына,
Пагаворым з табою.

— Хоць я выйду, хоць я не выйду,
Я твая не буду,
Каго я люблю, верна кахаю,
З тым жыці буду.

Пусціла б я сем панядзелачкаў,
А восьмую нядзельку,
Прынясі ж, божа, майго мілага
На маю ды пасцельку.

Мая пасцелька тонка, бяленька,
Я сама маладзенька,
Як лягу я спаці, цяжка ўздыхаю,
Што не з кім размаўляці.

Як лягу спаці, цяжка ўздыхаю,
Што не з кім размаўляці.
Пасцелька бела, а сценка нема,
Да мяне не гавора.

## 424. РУБЛЮ, РУБЛЮ БЯРОЗАЧКУ

Рублю, рублю бярозачку —
Бярозачка гнецца,

Выйдзі, выйдзі, дзяўчыначка,
Выйдзі, маё сэрца.

— Ой, ці выйду, ці не выйду,
Я твая не буду,

А каму я руку дала,
Я таго і буду.

## 425. ДРОБНА ПТАШАЧКА, НЕВЯЛІЧКА

Дробна пташачка, невялічка
Па ляшчынцы скача.
Дурна дзевачка, неразумненька
Па малойчыку плача.
— Ды я не плачу, не думаю,
Самі слёзкі льюцца.
Ад міленькага пісямца няма,
Ад нямілага шлюцца.
Ці вы шліцеся, ці не шліцеся,
Ды я ваша не буду,
Катораму я руку падала,
То з тым век я жыць буду.

## 426. ОЙ, СТАЯЛА БЯРЭЗІНКА

Ой, стаяла бярэзінка
Голейкам да сонца.
Заплакала дзяўчыначка,
Гледзячы ў аконца.

— Чаго плачаш, чаго тужыш,
Малада дзяўчына?
Ці матуля цябе біла,
А ці так журыла?

— Ой, не біла, не журыла —
Слёзы самі льюцца,
Што да мяне, маладое,
Няўдалыя шлюцца.

Ой, шліцеся, не шліцеся —
Я вашай не буду,
Бо каму дам белу ручку,
З тым і жыці буду.

## 427. ТЫ, МОЙ МІЛЫ, ТЫ, МОЙ МІЛЕНЬКІ ДРУЖОЧАК

— Ты, мой мілы, ты, мой міленькі дружочак!
А куды ж ты паедзеш? Вазьмі мяне з сабою!
— Мая міла, дарагая, там палі далёкія!
— Ты, мой мілы, ты, мой міленькі дружок!
Я і гэтаму прыгадаю, я праз палі палячу сініцаю!
— Мая міла, дарагая, а там лясы вялікія!
— Я і гэтаму прыгадаю, я праз лясы пабягу лісіцаю!
— Мая міла, дарагая, а там рэкі глубокія!
— Я і гэтаму прыгадаю, я праз рэкі паплыву вуціцаю!
— Мая міла, дарагая, а ў мяне ёсць там другая!
— Я і гэтаму прыгадаю, я буду вернаю слугою,
Буду ножкі разуваць, буду мякку пасцельку слаць!

## 428. ЕХАЎ КАЗАК З УКРАІНЫ

Ехаў казак з Украіны,
Пусціў каня у даліну,
Пад зялёну сам яліну
Лёг на цэлую гадзіну.
Шчаслівая гадзіначка,
Прышла к яму дзяўчыначка:
— Устань, казак, абудзіся,
Едуць татарскія раці,
Хочуць тваго каня ўзяці,
Каня ўзяці варанога,
Цябе забіць маладога.
Каня возьмуць, другі будзе,

Цябе заб'юць, жаль мне будзе.
— Знаць ты, дзеўка, мяне любіш,
Што так рана мяне будзіш!
— Каб я цябе не любіла,
То бы цябе не будзіла.
Цябе, казак, шчыра люблю,
На край света з табой пайду.
— Ты дзявіца маладая,
Твая галава глупая!
Гдзе са мной табе хадзіці,
Па ўсяму свету брадзіці?
Будзеш дома праклінаці
І на мяне наракаці.

## 429. УСТАВАЙ, МІЛЫ, ГОДЗЕ СПАЦІ

Уставай, мілы, годзе спаці,
Прышлі туркі каня браці.

Каня возьмуць, другі будзе,
Цябе заб'юць, мне жаль будзе.

Ці ты мяне верна любіш,
Што так мяне рана будзіш?

А я цябе верна люблю,
За табою праз свет пайду.

## 430. ЗЛАМЛЮ, СКРЫШУ ЧЫРВАНУ КАЛІНУ

Зламлю, скрышу чырвану каліну
На зялёным лужочку,
Пасаджу чырвану калінку
У саду беражочкам:
— Расці, расці, чырвана калінка,
Расці, не хіліся,
Жыві, жыві, ты, мая міла,
З другім не займайся,

Прыдзе празнік, светлая нядзелька,
Мой мілы прыедзе.
Прывязе мой мілы, міленькі
Дарагі гасцінчык,
А на мае, на белыя ручкі
Залаты пярснёчак,
А на маю, на гэту галоўку
Шаўковы платочак,
А на мае, на гэтыя плечкі
Шаўковыя сукні,
А на мае, на гэтыя ножкі
Дарагія ярошкі.

## 431. ОЙ, ПЛЫЛІ ГУСЁЛКІ *

Ой, плылі гусёлкі
Ціхаю вадою.
— Ой, выйдзі, дзяўчына,
Размаўляй са мною.

— А ўжо я з табою
Не раз размаўляла,
Ой, такі я табе
Праўды не сказала.

Ой, тады я табе
Усю праўданьку скажу,
Як мае ручанькі
А з тваімі звяжуць.

Ой, сталі дзяўчыне
Ручанькі вязаці,
То стала дзяўчынка
Усю праўду казаці.

## 432. ОЙ, ГАЮ МОЙ, ГАЮ *

Ой, гаю мой, гаю,
Я на цябе гляну;
Выпусціла малойчыка,
Да ўжо не спаймаю.

А хоць жа спаймаю,
Ды ўсё ж не такога,—
Прыгарнула к сваймy сэрцу
Дружка нелюбога.

На новы вароты
Сакол прылятае;
Верны дружок у дзяўчыны
Ўсю праўду пытае:

— Дзяўчына, дзяўчына,
Скажы верну праўду,
Ці ты мяне верна любіш,
Ці на яку здраду?

— Ох, я цябе люблю,
Сам бог тое знае,
Бадай таму цяжка жыці,
Хто нас разлучае.

## 433. СЯГОННЯ Я З ВАМІ

— Сягоння я з вамі,
А заўтра паеду.
Будзеш, міла, прылягаці
Аж да майго следу.

— Не я прылягала,
Прылягаць не буду.
Жыла, міленькі, з табою,
І без цябе буду.

Ў агародзе ячмень,
А у полі жыта.
Прыйшлі звесці да мілае,
Што мілы забіты.

Забіты, забіты,
Пахаваны ў жыце.
Чырвонаю кітаечкай
Лічыка накрыта.

Прыляцела пава,
У галоўцы пала,
Як адкрыла кітаечку
І зашчабятала:

— Ці ты, мілы, ўпіўся,
Ці з каня зваліўся?
Ці ты па мне, маладзенькай,
Сільна затужыўся?

— А я не ўпіўся,
Не з каня зваліўся.
Я па табе, мая міла,
Сільна затужыўся.

## 434. БЫВАЙЦЕ ЗДАРОВЫ, ТУТЭЙШЫЯ ПАРОГІ *

Бывайце здаровы, тутэйшыя парогі,
Дзе мае хадзілі беленькія ногі.

Дзе яны хадзілі, не будуць хадзіці,
Каго я любіла, трудненька забыці.

Бывайце здаровы, блізкія суседзі,
Дзе я пахілюся, мяне не судзіце.

Мяне спамінайце добрымі славамі,
Маю работаньку, што рабіла з вамі.

Мяне спамінайце добрымі славамі,
А дзе млоды хлопец з чорнымі брывамі?

Ці ён дзе забіты, ці ў полі заняты?
Нідзе не відаці, ні ў будзень, ні ў святы.

## 435. ДА ЎСЕ ХМАРАЧКІ ДА ПА ПАРАЧКІ

Да ўсе хмарачкі да па парачкі,
Адна хмара розна.
Да сварыць мяне мая мамачка,
Што я хаджу позна.

О хоць ты сварысь,
О хоць не сварысь,
Ты мяне не навучыш,
Каго верна люблю,
Ты мяне не разлучыш.

## 436. НА КАПУСТУ ВОДУ НОШУ *

На капусту воду ношу,
На руту не буду.[1]

Прыйдзе восень — замуж пайду,
Шчыпаці не буду.

Прыйшла восень, замуж не йшла:
Маці не аддала.

Дзякуй табе, матулечка,
Што я пагуляла.

Не аддай мяне вясною
За таго другога,

З маім любым кавалерам
Расстацца не могу.

Не бі мяне, матуленька,
Бярозавым прутам,

Не разлучыш, дарагая,
З гэтым баламутам.

## 437. ВЕЦЕР ВЕЕ, СОНЦА ГРЭЕ *

Вецер вее, сонца грэе,
Жыта палавее,
Маладая дзяўчыначка
Работкі не ўмее.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца тройчы.

Ані шыці, ані прасці,
Ані кросны ткаці,
Як зайграюць музыканты,—
Першая гуляці.

На вуліцы белы камень
Сонца асвяціла,
Кліча маці вячэраці,
Вячэра не міла.

— Ой, вячэрай, мая маці,
Калі наварыла,—
Няма майго міленькага,
З кім я гаварыла.

А з усходу вецер вее,
Былінку калыша,
А мой мілы штось сярдзіты —
Лісточкаў не піша.

Пішы, міленькі, лісточкі
Ды не забывайся,
На чужыя харошыя
Ты не заглядайся.

Бо чужыя харошыя,
Яны сабе пышны,
А мы з табой, мой міленькі,
Як у садзе вішні.

## 438. ВЕЦЕР ВЕЕ, СОНЦА ГРЭЕ

Вецер вее, сонца грэе,
Былінку калыша,
А мой мілы, чарнабрывы
Штодзень лісты піша.
Піша лісты, піша лісты:
— Ў тугу не ўдавайся,
Да к другой жа нядзеленцы
Мяне спадзявайся

— Здаецца, я, мой міленькі,
У тугу не ўдаюся,
Як выйду я на вуліцу,
Ад ветру валюся.
Здаецца, мой міленькі,
Не тужу, не плачу,
Як выйду я за вароты,
Сцежанькі не бачу.

## 439. ОЙ, У ЛУЗЕ КАЛІНА СТАЯЛА

Ой, у лузе каліна стаяла,
На каліне зязюля кувала.

На каліне зязюля кувала,
Пад калінай дзяўчына гуляла.

Пад калінай дзяўчына гуляла,
Яна ўсіх казакоў чаравала.

Аднаму казачэньку не шкодзіць,
Да дзяўчыны штовечара ходзіць.

— Ой, дзяўчына мая, чорны бровы,
Пагуляй хоць ты ночку са мною.

— Я б і рада і тры пагуляці,
Ды баюся, казак каб не здрадзіў.

— Я не ўбіў нават пташкі маленькай,
Я не здраджу табе, маладзенькай.

## 440. ЗАЕЗДЖУ Я КАНЯ, ЗАЕЗДЖУ ВАРАНОГА

— Заезджу я каня, заезджу варанога,
Што то будзе, дзяўчына, і з тога.
Скажы, дзяўчына, праўду мне,
Ці пойдзеш, дзеўка, за мяне?
— Ці пайду я за цябе, ці не,
Возьмуць мяне людзі без цябе.
У мяне пасагу не будзе,

